## ЦАРКВА

Яе бурылі ачмурэла,
Пятлёй накідвалі трасы...
І я глядзеў, зніякавелы,
На гвалт з Вячыстае Красы.

Пятля ірвалася, і глухлі
Маторы дужых трактароў...
А разбурылі — і патухлі
Кляны над грудамі муроў.

Я зразумець ніяк, малеча,
Навалы пошаснай не мог.
Шаптала бабка па-старэчы:
«Ой, пакарае злыдняў Бог...»

Не ведаю, з якой прычыны,
Але заўчасна сапраўды
Вандалы — спітыя мужчыны —
Сышлі на сумныя клады...

Царкву ж нядаўна аднавілі,
І ажыла зямля наўкол,
І каля бабчынай магілы
Аж засвяціўся кветам дол.

## МАТУЛЯ
### Дыпціх

1

Самыя добрыя вочы — матчыны.
Самыя дбайныя рукі — матчыны.
Самае чуйнае сэрца — матчына.
Самая шчырая песня — матчына.
Самая светлая радасць — матчына.
Самая ціхая крыўда — матчына.
Самая цяжкая стома — матчына.
Самая вострая скруха — матчына.
Самыя горкія слёзы — матчыны.
Самы пакутлівы час —
Без Яе...

2

Самы салодкі сон,
Самы святочны настрой,
Самы святлісты ўспамін,
Самы празрысты сум —
Дома, у мамы.
Самы трывожны сон,
Самы тужлівы настрой,
Самы балючы ўспамін,
Самы гнятлівы сум —
Дома, без мамы...

* * *

Дагарае вогнішча на ўзлеску,
Дым віецца смуткам між галін.
Падары мне, сонейка, усмешку,
У задумным лесе я адзін.

Горасны, маркотны, мабыць, самы,
Я прыехаў загаіць душу,
Бо няма ўжо роднай, любай мамы,
І твайго цяпла таму прашу.

Тыдзень пад дажджамі я бядую,
Згадваю маленства, светлы край...
Не заменіш, ведаю, матулю,
Дык хаця б крыху паспачувай...

І раптоўна хмары расхінула,
Асвяціла сонца мой куток,
Быццам мама ласкава зірнула
І шапнула: «Не бядуй, сынок!..»

* * *

Як паратунак — мне работа,
Любоў — акрыленасць душы.
Нашчадак рэдкі Дон Кіхота,
Я сілы чэрпаю ў глушы,

Дзе перад шчырасцю нямею,
Дзе хараство не дам на здзек,
Дзе лёгка веру ў Дульцынею
І ў наш гандлярскі, здрадны век.

## УСПАМІНАЙ...

Успамінай зімой пад вечар
Мяне ў завею і ў мароз,
Я памяць гэтую расквечу
Пяшчотай сонечных мімоз.

Успамінай мяне вясною,
У светлы, чысты, ясны час,
Яго я радасцю тваёю
Агучу, дзіўная, штораз.

Успамінай мяне і летам,
Каля ракі, каля жытоў.
Цябе там музыкай і кветам
Атуліць шчырая любоў.

Няхай і яблычная восень,
Не нагадаўшы аб журбе,
Святлістасць звонкую прыносіць
Маіх пачуццяў да цябе.

Успамінай мяне — усюды,
Табе забыць мяне не дам,
Таму што светла помніць буду
Цябе я штохвіліны сам...

* * *

Вы паехалі...
Дождж без супынку.
І самотліва мора шуміць.
Ручаі затапілі сцяжынку,
Дзе было Вам спадобна хадзіць.

І на пляжы сляды Вашы змыты.
Як не мог гэты дождж адчуваць,
Што, пяшчотай і сумам разбіты,
Імі сэрца я мог ратаваць...

Кіпарысы гудуць, як арганы,
На душы ад тугі гарачэй.
Вашы вочы — лясныя паляны —
Мне б убачыць, убачыць хутчэй,

Вашу зграбнасць,
якой не забуду,
Вашу ўсмешку, якою жыву, —
І за гэта вялікае цуда
Перад Вамі схіліць галаву.

## ПЕРШАЯ ПРАТАЛІНА

Апоўдні ветла, гаспадарліва
Абмыла сонца край лясны.
На ўзлеску прэлая праталіна
Дыхнула радасцю вясны.

Жаўрук, зварот дамоў святкуючы,
На залатыя прамяні,
З прадвеснем весела жартуючы,
Нанізваў зоркі ў вышыні.

І пахла елкаю смалістаю,
Пашэрхлым лісцем і травой...
І ў хвілю гэтую ўрачыстую
Душа бруіла чысцінёй.

## БЛІСКАВІНКІ

Кубак каля крыніцы.
Стому прагнала
Нечай душы дабрыня.

* * *

У небе выблісную́ месяц,
І мільёны позіркаў
Зліліся ў адзін.

* * *

Увечары, як залаты вулей,
Свеціцца вокнамі-сотамі дом.
Але ці за ўсімі мёд?

* * *

Рыпіць калодзеж...
Іржавы ланцуг
Смагу палохае.

* * *

Начное вогнішча...
Як многа пачуццяў і думак
На языках полымя.

* * *

Пад Чарнобылем — спелыя
вішні...
Божа, як ашукалі
Шчодрасць і шчырасць Тваю.

* * *

Пялёсткі пад грушай...
Яшчэ адна вясна
У бездань мільганула.

* * *

У глушэчы лясной
Ападаюць суніцы,
Асалоды нікому не даўшы.

* * *

Вам цяжка гаварыць?
Не трэба лішніх слоў —
Маўчанне ўсё даскажа.

* * *

Развіталіся мы назаўсёды,
А мінулае ў нас —
Назаўжды...

* * *

Праўда бывае як гром...
Пасля навальніцы
Дыхаць заўсёды лягчэй.

* * *

Дуб спілаваны ля хаты —
Нібы абакралі ці здрадзілі
Блізкія людзі.



СЯРГЕЙ КАВАЛЁЎ

# ЧАТЫРЫ ГІСТОРЫІ САЛАМЕІ

**Рамантычная гісторыя з трагікамічнымі ўспамінамі ў 2-х дзеях**

*Чалавек чалавеку люстра.*
Турэцкая прыказка

**АСОБЫ:**

**Саламея Русецкая**, лекарка з Наваградчыны
**Айшэ**, маладая турчанка
**Недзім**, малады турак
**Якуб Гальпір**, лекар-немец
**Юзаф Пільштын**, аўстрыйскі харунжы
**Адоніс**, польскі шляхціц

**Дзеянне адбываецца ў Стамбуле ў 1760-м годзе ад нараджэння Хрыстова.**

***У п'есе выкарыстаны алюзіі з мемуараў Саламеі Русецкай «Авантуры майго жыцця» ў перакладзе М. Хаўстовіча, верш Махмеда Недзіма «Таемнай радасцю прыйдзі...» ў перакладзе Н. Русецкай, а таксама фрагменты беларускай песенна-інтымнай лірыкі XVII — XVIII стст.***

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

### З'ява першая

Стары, недагледжаны дом на ўскрайку Стамбула. У пакойчыку, які паўстае перад нашымі вачыма, мы бачым справа, за пісьмовым сталом, лекарку Саламею Русецкую, а злева, за карцёжным столікам, яе былых мужоў і каханка: Якуба Гальпіра, Юзафа Пільштына і Адоніса. Пасярэдзіне пакоя — куфар з яшчэ неразабраным адзеннем, на заднім плане — шафа з начыннямі для лекаў і нешматлікімі кнігамі. Цераз усю заднюю сцяну праходзіць вялізная расколіна.

Саламея старанна запісвае нешта ў нататніку, паны ляніва гуляюць у карты.

Саламея *(услых).* Року Божага 1760-га, пакінуўшы двор яснавяльможнага пасла польскага, я зняла сабе ў Стамбуле дом за мізэрную плату, бо ён быў стары і недагледжаны, і людзі, відаць, баяліся ў ім сяліцца. *(Азіраецца на расколіну ў сцяне.)* Але я не зважала на расколіны ў сценах, бо, збіраючыся здзейсніць падарожжа ў Святую Зямлю, мусіла ашчаджаць грошы. *(Пасля невялікага роздуму.)* Тут, пакінутая ўсімі, я зноў узялася за свае мемуары, каб паведаць свету пра свой дзіўны лёс: колькі разоў Фартуна мяне ўзбагачала і зноў даводзіла да галечы, колькі разоў я была ў небяспецы, але з ласкі Пана Бога выратоўвалася. *(Зноў падумаўшы.)* Пра свае прыгоды пры двары расійскай імператрыцы Ганны Іванаўны, аўстрыйскага імператара Карла, прускага караля Фрэдэрыка і ў seralі султана турэцкага Мустафы…

Пільштын *(адрываецца ад карт).* Уяўляеце, панове, колькі хлусні будзе ў гэтых мемуарах?

Гальпір. Здагадваюся, што яна пра нас напіша!

Адоніс *(аксамітным голасам).* Спадзяюся, любая, ты не назавеш майго сапраўднага імя?

Саламея *(працягвае).* А таксама пра сваіх няверных мужоў ды агіднага кавалера. З-за іх пакінула я Айчыну, з-за іх пазбавілася любові дзяцей, даверу прыяцеляў і вымушана жыць самотна тут, у чужым краі, каб толькі не зносіць крыўды і пагарду дома!

Пільштын *(да кампаньёнаў).* Я ж вам казаў, панове!

Саламея *(прыслухоўваецца).* Што за шум? *(Адкладвае пяро і вымае з шуфляды стала два пісталеты.)*

Чуваць нечыя ціхія крокі. Нечакана ў задняй сцяне адчыняецца таемны лаз і адтуль з'яўляецца Айшэ. На вачах у дзяўчыны — прыгожая цёмная павязка; нібыта гуляючы з кімсьці ў коткі-мышкі, госця асцярожна пасоўваецца ў цэнтр пакоя. Саламея са здзіўленнем назірае за маладой турчанкай, трымаючы ў руках пісталеты.

Айшэ *(упаўшы на куфар).* О, Алах, што гэта?

Саламея ціхенька кладзе пісталеты на стол, але дзяўчына імгненна рэагуе на ледзь чутны стук.

Айшэ *(спалохана).* Хто тут?

Саламея *(спакойна).* Гаспадыня. А ты што робіш у маім доме, шаноўная?

А й ш э *(разгублена).* У тваім доме? Прабач, незнаёмая пані, я не ведала, што тут нехта пасяліўся. *(Хоча вярнуцца туды, адкуль прыйшла.)*

С а л а м е я. Але пачакай, дзяўчына! Растлумач, адкуль ты ўзялася? Няўжо ў маё жытло можа ўвайсці кожны проста праз сцяну?

А й ш э. Не кожны. Толькі я адна ведаю пра таемны лаз.

С а л а м е я. Адкуль ведаеш?

А й ш э. Я жыву ў суседнім доме. Калісьці гэты дом таксама належаў нашай сям'і, і мой бацька, Гайваз-паша, баючыся гневу султана, хацеў мець таемнае выйсце на ўсялякі выпадак. Пасля смерці бацькі ў нашым доме пасяліўся ягоны брат Алі, а гэты дом пачалі здаваць розным людзям. Я не казала дзядзьку пра таемны лаз. Прашу цябе, пані, не выдавай маю таямніцу! Пасля таго, як ты ўцячэш з гэтага праклятага месца, я зноў змагу хадзіць сюды гуляць.

С а л а м е я. А чаму ты думаеш, што я адсюль уцяку?

А й ш э. Хіба ты не чула пра прывідаў, якія тут жывуць? Вядома, мой дзядзька не папярэдзіў цябе, чужаземку... Неяк ён здаў дом двум янычарам, якія аказаліся разбойнікамі. Яны заманьвалі сюды сваіх ахвяраў, забівалі, забіралі грошы і адзенне, а целы закопвалі ў двары.

С а л а м е я. Што за казкі ты распавядаеш?

А й ш э. Клянуся Алахам! Злачынцаў выкрылі і адсеклі ім галовы, але пасля гэтай гісторыі дом набыў дрэнную славу і жадаючых у ім жыць не знаходзілася. Кажуць, ноччу тут разгульваюць прывіды забітых янычарамі людзей.

С а л а м е я. Я не баюся чужых прывідаў. *(Сумна ўсміхаецца.)* Я ваджу з сабой сваіх.

Пры гэтых словах Саламеі паны, што гуляюць у карты, узнімаюцца з-за стала і важна раскланьваюцца.

А й ш э *(няўпэўнена).* Дом вельмі занядбаны, у кожную хвіліну можа абваліцца дах.

С а л а м е я *(іранічна).* Менавіта таму ты любіш тут гуляць?

А й ш э. Гэта адзінае месца, дзе я магу бываць без дазволу дзядзькі.

С а л а м е я *(узнімаецца з-за стала і падыходзіць да Айшэ).* Як цябе завуць?

А й ш э. Айшэ. А цябе, пані?

С а л а м е я. Саламея. Чаму ў цябе на вачах павязка, Айшэ? *(Дакранаецца рукой да павязкі на вачах дзяўчыны.)*

А й ш э. Не чапай, пані! *(Робіць некалькі крокаў убок і натыкаецца на шафу з лекамі.)*

С а л а м е я. Асцярожна! Там начынні з лекамі!

А й ш э *(спалохана).* Ты — лекарка?

С а л а м е я. Так. Што з тваімі вачыма?

А й ш э. У мяне ў вачах завяліся чарвякі.

С а л а м е я. Якое глупства! Пакажы. *(Робіць крок да Айшэ.)*

А й ш э. Нельга знімаць павязку! *(Адскоквае ўбок.)* Той, хто пабачыць чарвякоў, памрэ ад жаху.

Саламея. Хто табе такое сказаў?

Айшэ. Муфід-ханум, знахарка. Яна спрабавала вытравіць чарвякоў зеллем, але чарвякі з'елі зелле і зрабіліся яшчэ большымі. Неўзабаве яныператворацца ў змей, аднойчы ноччу выпаўзуць і мяне задушаць.

Гальпір *(адрываецца ад карт, пачуўшы словы Айшэ).* Чула, Саламея? *(З'едліва.)* Занатуй гэтую гісторыю ў сваіх нататках.

Саламея *(мякка).* Айшэ, твой дзядзька мусіць паказаць цябе сапраўднаму лекару. Хочаш, я зайду да вас заўтра?

Айшэ. Мой дзядзька не будзе дарэмна марнаваць грошы. Ён чакае жаніха, які б заплаціў за маё лячэнне.

Саламея. Бачу, не пашанцавала табе з дзядзькам, дзяўчына.

Айшэ. У нас пра такіх кажуць: у Ай-Сафіі ходзіць па міласці, а ў Султанахмед сам падае.

Саламея. Даўно ты захварэла?

Айшэ. Адразу пасля смерці бацькоў. *(Жадае змяніць тэму размовы.)* А ты жывеш адна?

Саламея. Так.

Айшэ *(здзіўлена).* А дзе твой муж, дзеці?

Саламея. Дзеці даўно выраслі і засталіся на Айчыне, а муж…

Карцёжнікі ўсхопліваюцца з-за стала і з нецярпеннем глядзяць на Саламею.

Саламея *(задумліва).* Адзін — ведаю, што памёр, другі — думаю, недзе загінуў, а трэці — магчыма, жыве.

Расчараваныя панове зноў сядаюць за стол.

Айшэ *(уражаная).* Саламея-ханум, у цябе былі тры мужы? З якога ты краю прыехала?

Саламея. З далёкага паўночнага краю, Айшэ. Дзе чалавек такі ж нешчаслівы, як і тут, у Турцыі.

Айшэ *(намацаўшы рукой край стала).* Раскажы мне пра сябе, Саламея. *(Намацвае рукой нататкі Саламеі.)* Я так любіла раней чытаць у кнігах розныя цікавыя гісторыі. *(Перагортвае старонкі нататніка.)*

Саламея. У кнізе, якую ты трымаеш у руках, запісана гісторыя майго жыцця.

Айшэ *(ацаніўшы таўшчыню кнігі).* У цябе было незвычайнае жыццё! *(Усаджваецца на стол.)* Распавядай хутчэй!

Саламея *(павагаўшыся).* Але пры адной умове.

Айшэ. Якой?

Саламея. Спачатку ты пакажаш мне свае вочы.

Айшэ. Не! *(Саскоквае са стала і закрывае твар рукамі.)*

Саламея. У такім разе — усяго добрага. Вяртайся да свайго дзядзькі. *(Адварочваецца ад Айшэ.)*

Айшэ *(пасля доўгай паўзы).* А ты не баішся?

Саламея. Я — лекарка.

Гальпір *(адрываецца ад карт).* Ха-ха-ха! Шарлатанка!

А й ш э *(уздыхнуўшы).* Я згодная.

С а л а м е я *(падышоўшы да дзяўчыны).* Я не зраблю табе балюча. Толькі пагляджу і завяжу павязку назад. А лячэнне пачнём заўтра, калі я прыгатую патрэбныя лекі. *(Здымае павязку і ўважліва разглядвае хворыя вочы Айшэ.)*

А й ш э. Ты іх бачыш?

С а л а м е я. Каго?

А й ш э. Чарвякоў.

С а л а м е я. Ніякіх чарвякоў у цябе няма. Ёсць толькі хвароба — не страшная, але, на жаль, вельмі запушчаная. Найперш давядзецца саскрэбці з вачэй гной. Будзе балюча.

А й ш э. Ай!

С а л а м е я. Потым я прыгатую мазь і буду мазаць табе вочы штовечар. *(Завязвае павязку на вочы дзяўчыны.)* Ты згодная?

А й ш э *(мужна).* Пры адной умове. Ты раскажаш мне пра сваё жыццё.

С а л а м е я *(задумліва).* У вас іншы край, іншыя звычаі. Шмат што падасца табе дзіўным і незразумелым.

А й ш э. Раскажы, як ты трапіла ў Стамбул і зрабілася лекаркай.

Айшэ ўзбіраецца на стол і сядае па-турэцку. Побач з сабой нечакана знаходзіць лекарскія вагі і нейкі час трымае іх у руках, выглядаючы як багіня Феміда. Паны кідаюць гульню ў карты і таксама збіраюцца слухаць аповяд Саламеі. Якуб Гальпір з нецярпеннем чакае свайго выхаду на сцэну.

С а л а м е я *(пасля працяглай паўзы).* У маладым веку выдалі мяне мае бацькі замуж з Літвы, ваяводства наваградскага, за старога лекаранемца Якуба Гальпіра. У бацькі майго, Яўхіма Русецкага, усё жыццё балелі вочы і, калі Гальпір шчасліва вылечыў яго, ён з радасцю расплаціўся адной з чатырох дачок замест грошай. У тым жа 1731 годзе мы з мужам прыехалі ў Стамбул, дзе Гальпір знайшоў багатую практыку...

Пакой пагружаецца ў цемру, і толькі Саламея застаецца ў пляме святла. Калі пакой зноў асвятляецца, у ім ужо няма ні Айшэ, ні амаратаў Саламеі.

С а л а м е я. Напэўна, Якуб ажаніўся са мной, каб мець у доме дармавога служку і вучня-памочніка. А ў мяне ўвогуле ніхто не пытаўся, ці хачу я за яго замуж. Але неўзабаве пасля прыезду ў Стамбул мой муж трапіў у вязніцу, і я мусіла яго ратаваць.

Уваходзіць Якуб Гальпір у жалезным ашыйніку з доўгім іржавым ланцугом.

С а л а м е я. Божа мой, Якуб, што здарылася? Чаму цябе кінулі ў вязніцу?

Г а л ь п і р. О, Meine Mädchen! Дзякуй, што прыйшла развітацца. Бачымся з табой, можа, у апошні раз.

С а л а м е я. Не кажы глупстваў, Якуб! У чым цябе абвінавачваюць?

Г а л ь п і р *(бездапаможна).* У смерці султанскага чаўша. Я лячыў яго два тыдні і ён пачаў было выздараўліваць, але ўчора выпіў эліксір, які я яму даў, і праз гадзіну памёр.

Саламея. Ты памыліўся? Даў яму замест эліксіра яд?

Гальпір. Не мог я так памыліцца!

Саламея. А, можа, эліксір сапсаваўся?

Гальпір. Не. Я думаю, чаўш памёр сам з прычыны хваробы. На маё няшчасце, смерць настала хутка пасля ўжывання лекаў.

Саламея. Ты думаеш ці ты ўпэўнены ў гэтым? А калі ты ўсё-ткі памыліўся і даў чаўшу яд?

Гальпір. Якая цяпер розніца! Усё роўна мяне задушыць заўтра кат як забойцу.

Саламея. Не! Я пайду да султанскага лекара і пераканаю яго, што ты не вінаваты ў смерці чаўша.

Гальпір. Не дапаможа, meine Seele. Сам візір Ізмаіл-паша загадаў кінуць мяне ў вязніцу.

Саламея. Я пайду да самога візіра.

Гальпір. Ты хіба не чула, які гэта страшны чалавек? Ды ён і туркаў, і хрысціян душыць, як кот мышэй! Што яму жыццё беднага нямецкага лекара? А ты ведаеш, што ён вырабляе з белагаловымі, якія просяць за сваіх няшчасных мужоў? Лепш не трапляць у ягоныя кіпцюры.

Саламея. Але я пайду да яго. Не ведаю як, але я вызвалю цябе, Якуб!

Гальпір. Не! Я табе забараняю! Лепш я памру найжахлівейшай смерцю, чым мая жонка страціць сваё сумленне.

Саламея. Не, лепш я страчу свой гонар, чым дазволю памерці свайму мужу.

Гальпір. Саламея, што ты кажаш? Апамятайся!

Саламея. Я твая жонка, Якуб. І зраблю ўсё, каб цябе выратаваць. *(Выходзіць з пакоя.)*

Гальпір *(крычыць услед).* Не хадзі да візіра, Саламея! Я не дазваляю! Я не дарую табе, Саламея! *(Закрывае галаву рукамі.)*

У пакой ціха ўваходзіць Саламея, трымаючы ў руцэ ключык ад ашыйніка.

Саламея *(сумна).* Мужчыне лягчэй знесці ўласную ганьбу, чым ганьбу сваёй жонкі. Уяўляю, якую жахлівую ноч перажыў Гальпір, якія брыдкія малюнкі паўставалі перад ягонымі вачыма. Нядзіўна, што, калі раніцай я ўвайшла ў вязніцу, муж сустрэў мяне непрыязна. *(Да Гальпіра.)* Якуб, цябе вызвалілі! Я прыйшла забраць цябе дадому! *(Кідаецца мужу на шыю.)*

Гальпір *(лаецца).* Dirre! Lump! *(Б'е жонку рукой па твары.)* Дзеўка! Самадайка!

Саламея *(перахапіўшы ўзнятую над ёй руку).* Не! Не! Не гнявіся на мяне, я не зрабіла нічога ганебнага! Я проста выпіла перад візірам і султанскім лекарам эліксір, які прымаў чаўш.

Гальпір. Што? Ты выпіла эліксір?

Саламея. Я папрасіла, каб жонка чаўша прынесла ў палац візіра эліксір, і на вачах прысутных дапіла ўсё, што заставалася ў бутэльцы. Я

не памерла, Ізмаіл-паша зразумеў, што ты не вінаваты, і загадаў цябе вызваліць. Усё проста.

Г а л ь п і р *(гнеўна).* Проста? А калі б у бутэльцы аказаўся яд?

С а л а м е я *(спакойна).* Тады б я памерла і цябе б не выпусцілі.

Г а л ь п і р *(узносіць рукі да неба).* О, mein Gott! Што за жонку ты мне даў! *(Абдымае Саламею.)* Любая мая, мая родная! Ты выратавала мяне, а я, я... Што я пра цябе падумаў, як цябе сустрэў... Даруй мне, Саламея, даруй. *(Плача.)*

С а л а м е я. Дай я зніму з цябе гэты жудасны ашыйнік і мы пойдзем дадому. *(Устаўляе ключык у замок ашыйніка, знімае ашыйнік і кідае на падлогу.)*

Г а л ь п і р. Так, так, mein Herz, пойдзем дадому. Як добра, калі ў сталым веку ў цябе ёсць дом, ёсць любая, верная жоначка. Што яшчэ трэба беднаму нямецкаму лекару?

Саламея і Якуб Гальпір выходзяць з пакоя. Саламея неўзабаве вяртаецца.

С а л а м е я (*перадражнівае мужа).* Як добра, калі на старасці гадоў у цябе ёсць дом, ёсць любая, верная жоначка. Што яшчэ трэба беднаму нямецкаму лекару? Цьфу! Стары слімак! Спачатку мы сапраўды жылі добра; у нас нарадзілася дачка Канстанцыя, я дапамагала мужу ў ягонай лекарскай працы. Шмат чаму ад яго навучыўшыся, я і сама пачала лячыць людзей, мела ўсё больш пацыентаў і няблага зарабляла на жыццё. І раптам мой любы муж уцёк ад мяне, забраўшы ўсе грошы і каштоўнасці, пакінуўшы мяне з маленькай дачкой на руках у чужой, далёкай краіне. Толькі праз некалькі гадоў даведалася я прычыну ягоных уцёкаў. У 1735-м годзе мы з Канстанцыяй пакінулі Стамбул і пасля шматлікіх і небяспечных прыгодаў апынуліся ў Сафіі, дзе я знайшла службу пры двары пашы Кюпру-улу і мела пацыентаў у горадзе. Не думала я, што давядзецца калі яшчэ сустрэцца са сваім мужам.

У пакой няўпэўнена ўваходзіць Я к у б Г а л ь п і р, якога цяжка пазнаць: ён у заношаным, падзёртым адзенні, з павязкамі на галаве, на руках і нагах.

Г а л ь п і р *(дрыготкім голасам).* Можна да пані лекаркі?

С а л а м е я *(не пазнаўшы).* Хто ўпусціў у мой дом гэтага жабрака? *(Да Гальпіра.)* Я не прымаю сёння пацыентаў, дзядуля!

Г а л ь п і р. Пабойся Бога, Саламея, ты не пазнаеш мяне? Зірні, гэта я, твой муж Якуб Гальпір.

С а л а м е я *(узіраецца).* Святая Панна Марыя! Якуб, што з табой сталася?

Г а л ь п і р. Фартуна адвярнулася ад мяне. Я страціў маёмасць, грошы і здароўе. Ты адзіная ў мяне засталася, meine Mädchen. Злітуйся нада мной, не гані са свайго дома.

С а л а м е я. Цябе нельга пазнаць!

Г а л ь п і р. Я цяжка хворы на кантрактуры і ніводзін лекар не бярэцца мне дапамагчы. Я чуў, што ты цяпер лепшы медык у Сафіі і нават

маеш службу пры двары пашы Кюпру-улу. Вылечы мяне, Саламея, альбо няхай я памру на тваіх руках.

С а л а м е я. Але чаму ты ўцёк ад мяне ў Стамбуле? Употайкі знасіў каштоўнасці і грошы з дому і, не сказаўшы ні слова, уцёк?

Г а л ь п і р *(укленчвае перад Саламеяй.)* Даруй мне, Саламея, даруй!

С а л а м е я. Але чаму, чаму?

Г а л ь п і р *(злосна).* Ты сама вінаватая. *(Устае з каленяў.)* Навошта ты ўзялася лячыць людзей?

С а л а м е я. Бо ты навучыў мяне.

Г а л ь п і р. Я навучыў цябе самаму простаму, каб ты магла мне дапамагаць. А ты пачала лячыць сама.

С а л а м е я. Туркі не хацелі дапускаць да сваіх хворых жонак лекараў-мужчын. Таму яны ахвотна звярталіся да мяне.

Г а л ь п і р. Але потым да цябе пачалі звяртацца і хворыя мужчыны. Нават мае пацыенты!

С а л а м е я. Вось яно што... Ты пачаў зайздросціць мне? Я закранула тваё мужчынскае самалюбства?

Г а л ь п і р. Не мужчынскае, лекарскае! Адзін Бог ведае, як ты лячыла людзей, не ведаючы медыцыны, не ведаючы нават лаціны!

С а л а м е я *(спакойна).* Проста я ставілася да сваіх хворых пачалавечы.

Г а л ь п і р. Ты не ўмела напісаць рэцэпт, а бралася лячыць безнадзейных пацыентаў, ад якіх адмаўляліся іншыя медыкі! Давала зусім не тыя мікстуры, якія трэба!

С а л а м е я. Як можна адмовіць чалавеку ў дапамозе? Нават безнадзейна хвораму?

Г а л ь п і р. І што самае жахлівае, твае няшчасныя пацыенты выздараўлівалі! Teufelei!

С а л а м е я. Да мяне іх розныя добрыя лекары лячылі, але Пан Бог не аб'явіў гадзіну, калі ім ачуняць, а я са сваімі кепскімі лекамі акурат на гэтую гадзіну трапляла.

Г а л ь п і р. Авантурыстка!

С а л а м е я. Фартуна спрыяла мне. Можа, таму, што яна таксама жанчына.

Г а л ь п і р. Такая ж зменлівая, як і ўсе жанчыны. О, я проста не стаў чакаць, пакуль яна ад цябе адвернецца, пакуль ты трапіш у вязніцу за шарлатанства, і я разам з табой!

С а л а м е я. Але фартуна адвярнулася ад цябе, Якуб.

Г а л ь п і р *(зноў укленчвае перад Саламеяй.)* Даруй мне, Саламея, даруй!

С а л а м е я. А, можа, гэта боскае пакаранне звалілася на тваю галаву?

Г а л ь п і р. Злітуйся, Саламея, вылечы мяне!

С а л а м е я. Любы мой муж! Я выбачаю табе і на цябе не крыўдую. Заставайся са мной, мой дом — твой дом, і ўсё, што я маю, — таксама тваё. Але як я вылечу цябе? Усё, што я ведаю з медыцыны, я ведаю ад

цябе. Калі ты сам не можаш справіцца з гэтай хваробай, калі перад ёй адступіліся іншыя, адукаваныя лекары, чым дапамагу я? Сам кажаш, што я шарлатанка, не ведаю ні медыцыны, ні лаціны...

Г а л ь п і р *(ные)*. Вылечы мяне, Саламея! Не разумею як, але ў цябе ўсё атрымліваецца. Мне пакруціла рукі і ногі, боль абручом сціскае галаву, уся скура ў больках. Ты — мая апошняя надзея, mein Gott.

С а л а м е я. А ты навучыш мяне пісаць на лаціне рэцэпты?

Г а л ь п і р *(абдымае Саламею за ногі)*. Усё, што заўгодна, любая. Усё, што заўгодна.

С а л а м е я *(усклаўшы рукі на галаву мужа)*. І вось я ўзялася лячыць свайго няшчаснага, хворага мужа. Ніколі раней я не сутыкалася з такой хваробай, як умела, людзям дапамагала, а тут solwacja Merkuriusz, гэта сур'ёзна.

Г а л ь п і р *(незадаволена)*. Merkuriusz solwacja .

С а л а м е я. Менавіта Merkuriusz solwacja — гэта я вучу лаціну... Засмучоная, што першая мая практыка будзе на маім мужу, памалілася я Святой Тройцы і пачала лячыць яго, як магла і чым магла. Спадзявалася адно на Божую дапамогу, а не на ўласныя сілы і ўмельства...

Г а л ь п і р *(ускочыўшы з каленяў)*. І вылечыла, самае дзіўнае — вылечыла.*(Абурана.)* Адукаваныя медыкі, немцы ды італьянцы адступіліся, а дзікунка-ліцвінка дала сабе рады! О, mein Gott! Я нічога не разумею ў медыцыне!

Раз'юшаны Гальпір выбягае з пакоя, зрываючы з сябе павязкі. Пакой пагружаецца ў цемру, толькі на Саламею падае святло.

С а л а м е я. Ты нічога не разумееш у жыцці, Якуб. Не немцы ды італьянцы, а дзікунка-ліцвінка была тваёй Mädchen, тваёй Seele, тваім Gott. Ачуняўшы і пажывіўшыся каля мяне ў Сафіі, мой здаровы муж зноў кінуў мяне і ўцёк у Боснію, а адтуль — у Стамбул. Я ўжо і не крыўдавала на яго, але Пан Бог яму, відаць, не даравў: у Стамбуле Якуб Гальпір заразіўся пошасцю і памёр.

Пакой асвятляецца, і мы бачым Айшэ, уражаную аповядам Саламеі.

А й ш э. Які няўдзячны чалавек! Ты рызыкавала дзеля яго жыццём, а ён падманваў цябе, абкрадаў. Як ты магла дараваць яму крыўды і абразы?.. Ты вельмі добрая, Саламея-ханум. Я прыйду да цябе заўтра лячыць вочы.

С а л а м е я. Буду рада зноў цябе пабачыць, Айшэ. *(Асцярожна.)* Цябе праводзіць?

А й ш э. Не трэба. Я так часта сюды прыходжу, што ведаю дарогу на памяць. Дабранач, Саламея-ханум.

С а л а м е я. Да заўтра, Айшэ.

Айшэ знікае за дзвярыма.

С а л а м е я. Кажуць, сляпыя заўважаюць у нас нават тое, што не дадзена разгледзець відушчым. Хацела б я ўбачыць сябе вачыма гэтай невідушчай дзяўчыны.

## З'ява другая

Праз некалькі дзён у пакоі Саламеі. Саламея са слоікам мазі ў руках варожыць над вачыма Айшэ, якая сядзіць спінай да гледачоў. Больш у пакоі нікога няма.

Саламея. Ты мужная дзяўчына, Айшэ. Ні разу не крыкнула, пакуль я прамывала табе вочы.

Айшэ. Я баялася, што пачуе дзядзька ці нехта з радні.

Саламея. Вялікая сям'я ў твайго дзядзькі?

Айшэ. Чатыры жонкі, два сыны і пяць дачок.

Саламея. Весела табе з імі.

Айшэ. На мяне ніхто не звяртае ўвагі. Хлопцы на жаночай палове зусім не бываюць, а цёткі ды сёстры вельмі занятыя: пераказваюць адна адной плёткі альбо разглядваюць праз шчыліны ў аканіцах прахожых. Наш другі паверх выступае над першым, і гэта дае магчымасць бачыць усю вуліцу: з канца ў канец. Удала прыдумана, праўда, Саламея-ханум?

Саламея. А мне такая асаблівасць турэцкіх дамоў здавалася спачатку вельмі недарэчнай. Цяпер разумею, што гэта дойліды паклапаціліся пра цікаўных жанчын. *(Заканчвае мазаць вочы Айшэ.)* Пасядзі хвілінку, пакуль мазь падсохне. *(Стаўляе мазь у шафу і вяртаецца да Айшэ.)* Але ж з акна ўсяго свету не ўбачыш.

Айшэ. Мае сёстры глядзяць на прыгожых мужчын і мараць, як хутчэй выйсці замуж. Дзве з іх ужо маюць нарачоных. Навошта ім увесь свет?

Саламея. Сапраўды, навошта? Вандраваць па свеце — цяжкі крыж для жанчыны. Такіх падарожніц не назавеш шчаслівымі. Не патрэбны ўвесь свет і табе, неўзабаве ты выйдзеш замуж і пакінеш нялюбы дом.

Айшэ. Я не выйду замуж: каму патрэбна невідушчая жонка?

Саламея. Не бядуй, мы цябе вылечым і жаніхоў будзе не адбіцца.

Айшэ раптам пачынае сціраць мазь з вачэй рукавом сукні.

Саламея. Што ты робіш, дурніца? *(Хапае Айшэ за рукі.)*

Айшэ *(крычыць)*. Не трэба мяне лячыць! Пусці, я пайду дадому.

Саламея. Супакойся, дзівачка. Што з табой?

Айшэ. Не хачу быць відушчай!

Саламея. Вось табе і маеш! Давай распавядай усё шчыра, як надоечы я табе.

Айшэ. Той, за каго я хачу замуж, ужо сватаўся да мяне, але мой дзядзька яму адмовіў.

Саламея. Чаму?

Айшэ. Дзядзька палічыў, што Недзім не мае дастаткова грошай, каб узяць мяне за жонку.

Саламея. Старая як свет гісторыя. А хто такі Недзім?

Айшэ. Настаўнік, які вучыў мяне турэцкаму і арабскаму пісьму.

Саламея *(недаверліва)*. Твой скнара-дзядзька плаціў за тваю навуку?

Айшэ. Не, гэта было яшчэ пры жыцці бацькі.

С а л а м е я. Звычайна туркі не запрашаюць да сваіх дачок лекараў і настаўнікаў мужчын. *(Убок.)* І, як бачым, правільна робяць. *(Завязвае дзяўчыне павязку на вочы.)*

А й ш э. Мой бацька, Гайваз-паша, не быў чалавекам звычайным. Ён цікавіўся паэзіяй, музыкай, заўсёды прывозіў з паходаў кнігі і карціны. Вельмі кахаў маю маці Лаціфу, і хоць акрамя мяне Алах не даў ім дзяцей, бацька не хацеў мець іншых жонак. Аднаго разу маці сама падаравала яму маладую нявольніцу, каб тая нарадзіла яму нашчадка, але ён прагнаў дзяўчыну служыць на кухню. Нядзіўна, што, калі маці памерла, і бацька нядоўга затрымаўся на гэтым свеце. *(Пачынае ўсхліпваць.)*

С а л а м е я *(паспешліва змяняе тэму).* А што Недзім?

А й ш э. Ах, Саламея-ханум, каб ты толькі яго бачыла! Як прыгожа ён чытаў вершы, спяваў і граў на бандуры!

С а л а м е я *(спалохана).* Божа літасцівы, толькі не гэта!

А й ш э. Што ты кажаш?

С а л а м е я. Ды не, я пра сваё. *(Убок.)* Ведала я аднаго такога, што прыгожа спяваў і граў на бандуры.

А й ш э *(летуценна).* Запомніўся мне адзін верш, які чытаў Недзім. Юнак запрашае дзяўчыну адправіцца з ім у шчаслівы горад-сад. Туды, дзе шмат празрыстых сажалак і ціхіх алей, дзе з пашчы цмока б'е фантанам жывая вада, дзе начуюць у залатым палацы вятры. Там збываюцца самыя патаемныя жаданні... Ты любіш вершы, Саламея?

С а л а м е я. Больш ахвотна я чытаю медыцынскія трактаты.

А й ш э *(прытуліўшыся да Саламеі).* А як ты думаеш, шчаслівы горад існуе насамрэч?

С а л а м е я. Магчыма, толькі я чамусці заўсёды абмінала яго ў сваіх падарожжах. А дзе цяпер твой Недзім?

А й ш э. Хадзілі чуткі, што адразу пасля няўдалага сватання ён з'ехаў у Егіпет.

С а л а м е я. Калі ён пасватаўся да цябе хворай, значыцца, пасапраўднаму кахаў. Шчаслівая ты, Айшэ. Я пражыла ўдвая больш за цябе, а не магу пахваліцца тым, што мяне шчыра кахаў хоць бы адзін мужчына.

А й ш э. Няўжо і другі муж цябе не кахаў? Саламея, раскажы, што сталася з табой пасля таго, як памёр Гальпір. Табе было цяжка?

С а л а м е я. Знешне нічога не змянілася. Я па-ранейшаму сама зарабляла сабе на жыццё. Толькі Сафію мы з дачкой пакінулі. Пачалася вайна. Сербы і балгары паўсталі супраць тваіх суайчыннікаў. Мы перабраліся ў Відынь, дзе было крыху спакайней, там я неўзабаве знайшла шмат пацыентаў. І хоць я была ўжо ўдавой, але ў свае 19 гадоў мне даводзілася нялёгка адной, бо калі маладая прыгожая жанчына жыве без мужа, усе глядзяць на яе як на магчымую распусніцу, даступную кожнаму. Таму кожная з нас хоча мець мужа, каб схавацца за яго, як за мур ад крыўд і плётак гэтага жорсткага свету. Але як часта, ахвяраваўшы свабо-

дай і незалежнасцю дзеля бяспекі і прыстойнасці, мы замест сховішча трапляем у вязніцу, замест абаронцы атрымліваем рабаўніка ва ўласным доме! У 1738 годзе я зусім нечакана для сябе ў другі раз выйшла замуж...

Святло ў пакоі знікае, а калі з'яўляецца зноў, мы бачым Саламею адну. Потым у пакой уваходзіць харунжы Юзаф Пільштын, непрыгожы саракагадовы мужчына ў аўстрыйскім вайсковым мундзіры.

Пільштын *(нядобразычліва)*. Пані пасылала па мяне?

Саламея. Так, пасылала, пан...

Пільштын. Харунжы аўстрыйскай імператарскай арміі Фартунат Ёжэф Капус фон Піхельштэйн!

Саламея. Дык вось, пан... Пільштын. Можна, я буду пана так называць?

Пільштын. Як пані жадае.

Саламея. Пан трапіў у турэцкі палон... Дзе?

Пільштын. Пад Краёвай, пані. Нефартунная бітва была там для нашай арміі. Тысячы салдат і афіцэраў трапілі ў палон.

Саламея.Так-так. Як пан ведае, я выкупіла ў палкоўніка Мехмет-агі чатырох афіцэраў за 800 чырвоных залатых, у тым ліку і пана.

Пільштын. Няхай Бог узнагародзіць пані за яе дабрыню.

Саламея. Спадзяюся, так станецца. Але ж я — бедная лекарка. Я не маю грошай на хрысціянскую дабрачыннасць. Кожны з вас меўся напісаць ліст да бацькоў з просьбай выслаць па 300 чырвоных залатых выкупу, а я бралася адправіць лісты з кур'ерам у Вену.

Пільштын. Так, пані, мы напісалі лісты.

Саламея. Сёння кур'ер вярнуўся назад і прывёз мне за маіх нявольнікаў 900 залатых выкупу.

Пільштын. Чаму 900? А яшчэ 300?

Саламея. О, у аўстрыйскай арміі пана навучылі добра лічыць! Вось і я падумала: чаму 900? Дзе яшчэ 300? Аказалася, што за аднаго афіцэра выкуп не прыслалі. Пан здагадаўся, за каго?

Пільштын *(падумаўшы)*. Мае бацькі жывуць далёка ад Вены. Пошта мусіць ісці праз Грац, Штаермарк, Ніжнюю Карніёлію, Лайбах да мястэчка Піхельштэйн. Бацька позна атрымаў ліст і не паспеў перадаць грошы.

Саламея. А, можа, не змог ці не захацеў?

Пільштын. Мой бацька — дваранін і заможны чалавек. Ён не пакіне сына ў няволі.

Саламея. І што мне з панам рабіць? Заўтра панскія сябры-афіцэры адпраўляюцца дадому. І я збіраюся ад'язджаць на радзіму, у Літву.

Пільштын. Дзе гэта — Літва?

Саламея. Паміж Польшчай і Масковіяй. Давядзецца мне вярнуць пана палкоўніку Мехмету-аге.

Пільштын *(спалохана)*. Пані, не аддавай мяне назад туркам! Вазьмі мяне з сабой у Літву!

С а л а м е я *(здзіўлена)*. Узяць пана з сабой? У якасці каго? У мяне на радзіме няма нявольнікаў.

П і л ь ш т ы н. У якасці служкі і ахоўніка.

С а л а м е я. Пан кажа сур'ёзна? Харунжы аўстрыйскай імператарскай арміі, пан... дэ...

П і л ь ш т ы н. Фартунат Ёжэф Капус фон Піхельштэйн, пані!

С а л а м е я. Пан фон будзе служкам і ахоўнікам вандроўнай лекаркі?

П і л ь ш т ы н. Пані ведае, як туркі абыходзяцца з палоннымі хрысціянамі?

С а л а м е я. Не ведаю. Няўжо горш, чым лекаркі з палоннымі афіцэрамі? *(Смяецца.)* Добра, пан Пільштын, я забяру цябе з Відыня. А там пабачым.

П і л ь ш т ы н. Дзякуй, пані. Бог узнагародзіць пані за дабрыню. *(Выходзіць з пакоя.)*

С а л а м е я *(наўздагон)*. Гэй-гэй, няхай пан напіша да бацькі, каб ён прыслаў мне выкуп у Літву! *(Памаўчаўшы.)* Ну што мне было рабіць з гэтым аўстрыйскім паўлінам? Давялося цягаць за сабой. Разам выехалі з Відыня, разам дабіраліся да Рушчыка, дзе сядзелі ў вязніцы па падазрэнню ў шпегаўстве, а вызваленыя з дапамогаю Пана Бога даехалі да межаў Рэчы Паспалітай. І хаця я крыху прывязалася за дарогу да свайго нявольніка, а асабліва мая маленькая дачка Канстанцыя, але далей везці яго не выпадала. Вырашыла я пакінуць яго ў Бары ў езуітаў, каб сядзеў у кляштары ды чакаў, пакуль не прышлюць за яго грошы. Але Пільштыну мой намер не спадабаўся.

Уваходзіць Юзаф Пільштын.

П і л ь ш т ы н *(занепакоена)*. Пані Саламея, гэта праўда? Пані хоча пакінуць мяне ў езуіцкім кляштары?

С а л а м е я. Праўда. А чым пан Пільштын не задаволены? Езуіты — не туркі, якіх пан так баіцца. У кляштары пану хрысціяніну будзе добра. А прышлюць бацькі грошы — пан будзе вольны і вернецца на радзіму.

П і л ь ш т ы н. Я напісаў ужо тры лісты — і не атрымаў адказу.

С а л а м е я. Шчыра спачуваю. Няхай пан напіша чацвёрты.

П і л ь ш т ы н. Пані не задаволена маёй службай?

С а л а м е я. Наадварот, вельмі задаволена. І панскай службай, і панскім таварыствам. Але нашыя шляхі разыходзяцца, пане Пільштын. Пан — мой нявольнік, яшчэ раз спачуваю. Але пан — дваранін, афіцэр і не можа быць служкам у лекаркі. Я згадзілася на гэты маскарад часова, каб выратаваць пана... ды свае грошы. Апрача 300 чырвоных залатых, нічога нас з панам не звязвае, усяго добрага пану!

П і л ь ш т ы н. Ах, як пані памыляецца! Калі б пані Саламея згадзілася...

С а л а м е я. Ну што яшчэ пану ад мяне трэба? Хіба мала я дзеля пана зрабіла?

Пільштын. Калі пані не хоча мецць мяне пры сабе за служку, а я не хачу заставацца ў езуітаў, ці не згадзілася б пані Саламея мецць мяне пры сабе за мужа?

Саламея. За мужа? Пан ашалеў? Няўжо езуіты такія страшныя?

Пільштын. Я так прывязаўся да пані. І да Канстанцыі таксама.

Саламея. Але ж з пана жартаўнік! І стрэліць жа такое ў галаву!

Пільштын. Пані Саламея, не смейся з маёй прапановы. *(Кідаецца перад Саламеяй на калені.)* Я кажу сур'ёзна! Пані, па волі Бога, удава, і я — кавалер, а што на сённяшні дзень палонны, дык я абяцаю таксама пані шанаваць і слухацца пасля шлюбу, як і цяпер, калі я куплены нявольнік. Дзе яшчэ пані лекарка знойдзе сабе такога вернага ды ціхмянага мужа?

Саламея. І слухаць не хачу! Няхай пан мяне пакіне!

Пільштын. Ах, так! Пані адмаўляе мне, пані не верыць у маё шчырае каханне? *(Усхопліваецца з падлогі.)* Але я дакажу пані! *(Падбягае да шафы з лекамі, хапае нейкую бутэльку з чырвонай вадкасцю і выпівае некалькі глыткоў.)*

Саламея. Спыніся, вар'ят! Што ты робіш? *(Падбягае да Пільштына.)*

Пільштын *(паказвае бутэльку Саламеі)*. Спадзяюся, гэта яд?

Саламея *(зірнуўшы на бутэльку, усплёсквае рукамі)*. Божа, навошта пан гэта піў? *(Адбірае бутэльку ў Пільштына і стаўляе назад у шафу.)*

Пільштын *(дрыготкім голасам)*. Скажы, пані, я выпіў яд?

Саламея *(пасля паўзы)*. Так. Навошта пан гэта зрабіў?

Пільштын *(з пафасам)*. Каб даказаць шчырасць свайго кахання!

Саламея *(расчулена)*. Божа, дык пан не жартуе?

Пільштын. Так, няхай я памру і пані пабачыць, да чаго прывялі яе жорсткасць і бессардэчнасць. Можа, пані пашкадуе!

Саламея. Мілы мой Фартунацік, ды я ўжо шкадую! Але што ж мне цяпер з табой рабіць? *(Закрывае твар рукамі.)*

Пільштын. Як? Няўжо ў бутэльцы насамрэч быў яд? *(Убок.)* Хіба яды трымаюць у такіх вялікіх бутэльках? *(Хапаецца за жывот.)* Мне баліць! У мяне пачынаюцца спазмы! Саламея, ратуй мяне, я не хачу паміраць! *(Прысядае і трывожна азіраецца навакол.)*

Саламея *(заходзіцца ад смеху)*. Не хочаш паміраць? А што ты зараз хочаш? Можа, на начны гаршчок? *(З пафасам.)* О, як велічна памірае аўстрыйскі харунжы Фартунат Ёжэф Капус фон Піхельштэйн, выпіўшы мікстуры ад запораў!

Пільштын. О, Саламея! *(Выбягае з пакоя, трымаючыся за жывот.)*

Саламея *(пасля паўзы)*. І што, мусіла я ўзяць яго сабе за мужа. Усё-ткі чалавек рызыкаваў дзеля мяне жыццём. *(Сумна.)* Але праўду людзі кажуць: як ажаніўся, дык і пераманіўся. Любоў да маленькай Канстанцыі — адзінае, што засталося добрага ў маім мужы Юзафу ад былога нявольніка Пільштына. Верная свайму шлюбнаму слову, я ўладкавала

мужа афіцэрам у войска гетмана літоўскага Міхала Радзівіла, экіпіравала, дурніца, за свае грошы: справіла вопратку, коней, збрую, пісталеты ды іншае, што патрэбна. Залезла ў даўгі. Каб расплаціцца за іх, вырашыла адправіцца ў Пецярбург, да імператрыцы Ганны Іванаўны, вызваляць цяпер ужо турэцкіх палонных ды лячыць расійскіх вяльмож. Юзафа і Канстанцыю пакінула ў Нясвіжы: яго ў войску — служыць, а яе — вучыцца пры кляштары бенедыктынак. А калі вярнулася з Пецярбурга, дзе мела шмат небяспечных прыгод, не застала свайго ціхмянага мужа ў Нясвіжы. За папойкі, бойкі ды распусту выслаў князь Радзівіл майго Пільштына са сваёй рэзідэнцыі ў глухую палескую вёску Лахву, дзе я знайшла яго ды сваю дачку.

У пакой увальваецца п'яны Юзаф Пільштын у неахайна апранутай форме войска літоўскага, заўважае Саламею.

Пільштын. Зірніце, хто да нас прыехаў! Мая любая жоначка пакінула пецярбургскія салоны і завітала да нас, у палескую глушэчу. *(Раскланьваецца.)* Вітаю, вітаю Вас, Саламаніда Яфімаўна, на роднай зямлі! *(Хоча пацалаваць жонцы ручку.)*

Саламея *(схаваўшы руку).* Фу, Юзаф, ты зусім п'яны, ледзь на нагах трымаешся!

Пільштын. Ну, п'яны. А што яшчэ мне рабіць? Ціяцэраў ды баляў тут няма, дарагая.

Саламея *(пагардліва).* А гэтыя жахлівыя кабеты, што сустрэлі мяне на парозе?

Пільштын. Выбачайце, выбачайце: не графіні ды не князёўны. Дзве звычайныя вясковыя бабы.

Саламея. Што яны робяць у тваім доме?

Пільштын. Удзень адна з іх гатуе ежу, другая — мые бялізну, ну а ўначы... уначы яны нічым не адрозніваюцца.

Саламея. Божа, Юзаф, як ты мог да такога апусціцца? Ты, дваранін, афіцэр!

Пільштын. А як я, дваранін і афіцэр, мог апусціцца да таго, што ажаніўся з бязроднаю лекаркаю, якая пакінула мужа аднаго, а сама бадзяецца невядома дзе і невядома з кім?

Саламея. Як ты можаш, Юзаф? Пасля ўсяго, што я для цябе зрабіла... Калі ты ўпрошваў мяне стаць тваёй жонкай, табе не замінала маё нешляхетнае паходжанне. Хто кляўся шанаваць мяне, быць верным і ўдзячным мужам?

Пільштын. Бо тады я быў тваім рабом і служкам, а цяпер я — твой пан. Ты мусіш быць мне паслухмянай і ўдзячнай за тое, што я з табой ажаніўся. Ну як, прывезла з Пецярбурга грошай, гандлярка нявольнікамі? Я меў вялікія выдаткі і залез у даўгі.

Саламея. Якія грошы, Юзаф? Палонных туркаў, падараваных мне імператрыцай, адабраў Радзівіл і без выкупу адправіў іх на радзіму. Сказаў, што ў нас з Турцыяй мір, мы не можам трымаць у сябе турэцкіх палонных і патрабаваць за іх грошы.

П і л ь ш т ы н. Усё роўна ў цябе ёсць грошы, я ведаю. Напэўна, адкрыла вочы на свет не аднаму вяльможнаму курвіну сыну і спрытна лячыла ад запораў іхніх тытулаваных шлюх!

С а л а м е я. У цябе яшчэ хапае нахабства патрабаваць ад мяне грошы? Ты прагуляў усю маёмасць, якую я на цябе пакінула, забраў з кляштара Канстанцыю і грошы ў сясцёр-бенедыктынак на яе ўтрыманне, прывёз няшчасную дзяўчынку сюды, каб яна штодня бачыла твае п'янства і распусту.

П і л ь ш т ы н. Не чапай Канстанцыю, я люблю дзяўчынку! Бедная сіротка ўжо забылася, як выглядае яе маці.

С а л а м е я. А ўспомні, колькі я заплаціла за тваю экіпіроўку? За вопратку, коней, збрую, пісталеты, за гадзіннікі ды табакеркі...

П і л ь ш т ы н. Згадай яшчэ насоўкі!

С а л а м е я *(крычыць)*. І за насоўкі таксама! І за пасцель! Усё, што ты маеш, на чым спіш, у чым ходзіш, купіла я. І ты яшчэ смееш папракаць мяне, што я — бязродная лекарка, а ты — афіцэр і дваранін? *(У адчаі.)* Божа, што мне рабіць?

П і л ь ш т ы н. Не ведаеш? Ты ж у нас лекарка. Купі сабе за тры грошы мыш'яку ды атруціся.

С а л а м е я *(бездапаможна)*. Ты... ты.... За ўсё, што я... Выкупіла цябе з турэцкай няволі... Кажаш мне: атруціся... *(Гнеўна.)* Ах ты, аўстрыйскі паўлін! Ах ты, капуцын нямецкі! Вярні мне мае 300 чырвоных залатых ды кацiся ў свой Лайбах, Пільштын чортаў!

П і л ь ш т ы н *(пагрозліва)*. Не Пільштын, а Фартунат Ёжэф Капус фон Піхельштэйн. *(Падыходзіць да жонкі і б'е яе рукой па шчацэ.)* Гэта табе за аўстрыйскага паўліна, курва! *(Б'е па другой шчацэ.)* Гэта за нямецкага каплуна. *(Падхоплівае Саламею на рукі.)* А зараз мы пойдзем з табой у ложак і пераканаемся, ці адрозніваецца чым лекарка ад кухаркі і прачкі.

Пільштын выносіць Саламею з пакоя. Праз нейкі час сумная Саламея вяртаецца, папраўляючы вопратку і прычоску.

С а л а м е я. Так я зрабілася нявольніцай свайго мужа, ягонай кухаркай, прачкай, а ноччу выляжанкай. Найгоршае было тое, што калі муж згвалціў мяне, я зацяжарала. Часам мне здавалася, што я сплю, што не магла я па ўласнай волі выбраць сабе такі лёс, самахоць усадзіць галаву ў пятлю і з гаспадыні ператварыцца ў рабыню. Але трэба было прачынацца і шукаць выйсця. Дапамаглі грашовыя клопаты. Афіцэрскага жалавання Пільштына не хапала на пражыццё, а яшчэ ціснулі даўгі, дык я прыдумала ехаць у Вену на заробкі, дзе і нарадзіла сына Францішка. Не адразу, але знайшла сабе добрых пацыентаў пры двары імператара Карла, абжылася і нікуды выязджаць не збіралася. Напісала да Пільштына, што хачу жыць з ім у сепарацыі, забраўшы да сябе дачку Канстанцыю. І праз нейкі час атрымала ад мужа слёзны ліст, у якім ён прасіў прабачэння за свае ганебныя паводзіны, абяцаў, што пераменіцца і ўжо нават перамяніўся,

кляўся ў любові і вернасці, і прасіў да яго вярнуцца з сынам, якога ён так прагне пабачыць... Што мне было рабіць? Мой розум падказваў адно, сэрца — іншае. Да таго з Пільштынам засталася мая дачка Канстанцыя, якую ён мне ні за што не хацеў аддаваць. Карацей, справіла я, дурніца, свайму мужу пару ўбораў, залатымі галунамі абшытых, накупіла іншых падарункаў і паляцела насустрач свайму гору. Пільштын сустрэў мяне адразу ля мяжы, паводзіў сябе гжэчна, радаваўся сыну і нават у ложку абыходзіўся са мной не як з кухаркай ці прачкай. Пасля прыезду дадому нас чакала святочная вячэра, а потым Юзаф прыйшоў да мяне ў спачывальню.

У пакой уваходзіць Пільштын са сподкам у руках. На сподку — бутэлька віна, два келіхі і садавіна.

П і л ь ш т ы н. Стамілася ў дарозе, дарагая? *(Стаўляе сподак проста на падлогу перад Саламеяй.)*

С а л а м е я. Скажы, Юзаф, ты шчыра рады, што я вярнулася?

П і л ь ш т ы н. Рады? Не тое слова, я шчаслівы. Клапатлівая жонка, прыгожая дачка, здаровы сын — чаго мне яшчэ жадаць? *(Сядае на падлогу побач з Саламеяй.)*

С а л а м е я. Калі ты паспеў наліць віна?

П і л ь ш т ы н. Я ўзяў са святочнага стала пачатую бутэльку. *(Падае келіх жонцы, узнімае свой.)* За тваё вяртанне, Саламея!

Саламея і Пільштын выпіваюць віно.

С а л а м е я. Не думала, што калі-небудзь яшчэ нам давядзецца сядзець з табой побач, Юзаф. Пасля тых жудасных месяцаў на Палессі... Бр, не хочацца ўспамінаць.

П і л ь ш т ы н. Як табе спадабалася віно, любая? Вядома, не такое, як п’е ў Вене наш імператар Карл, але не горшае, чым жлукціць тут ваш Радзівіл.

С а л а м е я. Дзякуй, віно добрае. І я рада, што ты п’еш яго не ў адзіноце, а разам са мной.

П і л ь ш т ы н. А як я рады, ты проста не ўяўляеш, дарагая.

С а л а м е я. А табе спадабаліся ўборы і падарункі, якія я прывезла?

П і л ь ш т ы н. Мае саслужыўцы памруць ад зайздрасці.

С а л а м е я *(нарэшце супакоіўшыся)*. Ах, як добра, што ты перамяніўся, што ты зноў — мой слаўны, добры Юзаф Пільштын, а не той жахлівы Фартунат Ёжэф Капус фон Піхельштэйн!

П і л ь ш т ы н. Хіба абодва яны — не той самы чалавек, не той самы я?

С а л а м е я. Не, яны зусім розныя. Фартунат мяне ненавідзеў, і ненавідзеў так моцна, што нават раіў мне купіць мыш’яку і атруціцца. А Юзаф...

П і л ь ш т ы н *(устаўшы з падлогі)*. А Юзаф цябе так любіць, што сам купіў мыш’яку і падсыпаў яго табе ў віно. З прыездам, мая жоначка, і бывай!

С а л а м е я *(не можа паверыць)*. Божа, Юзаф, што ты кажаш? Ты жартуеш, ты не мог такога ўчыніць! *(Спрабуе ўзняцца на ногі, але не мае сіл.)*

П і л ь ш т ы н. Бывай, легкаверная дурніца! Дзякуй, што прывезла грошы. Мне так абрыдлі ты, твае суайчыннікі і твая краіна, што я лепей вярнуся на радзіму.

С а л а м е я. За што, за што?! Я ж выкупіла цябе з няволі, я пабралася з табой шлюбам, нарадзіла ад цябе сына!

П і л ь ш т ы н. А ты хіба не ведала, што кожны раб ненавідзіць свайго гаспадара і жадае ягонае смерці?! Мне доўга давялося трываць цябе, быць тваім нявольнікам, служкам, мужам. Але я дачакаўся зручнай хвіліны і цяпер вольны, вольны! *(Спакойным голасам.)* Канстанцыю я забяру з сабою, а Францішак... Не ведаю, ад якога маскальскага шылахвоста панесла ты гэтага выблядка. Бывай, к а х а н а я!

Юзаф Пільштын выходзіць з пакоя.

С а л а м е я. Не забірай ад мяне дачку! Я не аддам яе табе, не дазволю! *(Апамятаўшыся, Саламея нюхае келіх з-пад віна, падпаўзае да шафы з лекамі, стогнучы ад болю, прыўзнімаецца на ногі, бярэ шклянку і перамешвае ў ёй нейкія парашкі і вадкасці.)* Не, мой даражэнькі Фартунацік, я так лёгка не здамся. Я не памру. Ты забыўся, што я лекарка? Не такі просты яд трэба было падсыпаць мне ў віно. *(Прыгатаваўшы супрацьяддзе, выпівае яго сутаргавымі глыткамі.)* Магчыма, каб не пагроза Пільштына забраць з сабой Канстанцыю, я не так заўзята змагалася б за жыццё. З Божай дапамогай я пазбегла смерці. А Пільштына злавілі радзівілаўскія жаўнеры і адвезлі пад арышт. Я даравала яму, і па маёй просьбе яго неўзабаве выпусцілі. Але ні жыць з ім, ні бачыць яго я не хацела. Пакінуўшы сваіх дзяцей пад апекай пані Патоцкай, кашталяніхі брацлаўскай, я адправілася ў Турцыю, каб знайсці сваіх нявольнікаў і атрымаць выкуп. Панна Марыя, у дарозе праклятты Пільштын яшчэ раз нагадаў пра сябе: я аказалася цяжарнай пасля той адзінай ночы на мяжы! Ужо ў Бухарэсце я нарадзіла сына Станіслава, з якім пражыла ў Турцыі некалькі спакойных гадоў…

Святло ў пакоі гасне, а калі зноў з'яўляецца, мы бачым побач з Саламеяй Айшэ.

А й ш э *(пасля доўгай паўзы).* Не пайду замуж. Усе мужчыны, пэўна, такія, як твой Пільштын.

С а л а м е я *(пераканана).* Не ўсе. Ёсць такія, як твой Недзім.

А й ш э. Ды Алах не захацеў, каб мы былі разам. Мяне чакае які-небудзь стары брыдкі зборшчык падаткаў з Адрыянопаля. Кішмет.

С а л а м е я *(не разумее).* Кішмет?

А й ш э. Гэта значыць: такі мне выпаў лёс.

С а л а м е я. Зусім не такі твой кішмет. Не Алах, а твой дзядзька Алі-ага не захацеў, каб вы былі разам. Не сумуй: чуе маё сэрца: усё ў вас будзе добра.

А й ш э *(сумняваецца).* Тваё сэрца не падказала табе, які небяспечны чалавек Пільштын.

С а л а м е я. Сэрца маё ніколі на адчувала ўласнай небяспекі, але заўсёды ратавала іншых людзей. Яно і табе дапаможа.

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### З'ява трэцяя

Праз некалькі дзён у пакоі Саламеі. Гаспадыня сядзіць за сталом і старанна водзіць пяром па паперы.

Саламея *(услых)*. Пра турэцкія звычаі і норавы... Турак ажаніцца не можа, пакуль не будзе мець у хаце пасцелі, кухоннага посуду, місак, меднага стала, свечак і іншых дробных рэчаў, якія неабходныя ў гаспадарцы. Калі мае маці альбо сястру ці проста сваячку, пасылае іх, каб яму паненку ці ўдаву высваталі, і якая спадабаецца тым белагаловым, ёю і мусіць задаволіцца кавалер.

Чуваць стук у дзверы.

Саламея. Хто там? Заходзьце. *(Працягвае пісаць.)* А калі ўжо вяселле адбываецца, уваходзіць жаніх у пакой нявесты разам з імамам і іншымі людзьмі, і імам, гэта значыць плябан, пытаецца: «А ці ёсць тут такая (напрыклад, Айшэ)?»

У пакой уваходзіць малады турак і сарамліва кашляе, каб звярнуць на сябе ўвагу гаспадыні.

Недзім. Няхай Алах дапамагае пані!

Саламея *(узнімае галаву і глядзіць на незнаёмага госця)*. Слухаю пана.

Недзім. Мне сказалі, што пані — лепшая акулістка ў Стамбуле. *(Замаўкае.)*

Саламея. Прыемна, што пан слухае мудрых людзей.

Недзім *(уздыхае)*. Без мудраца і лекара не пражывеш.

Саламея. У пана баляць вочы?

Недзім *(паспешліва)*. Не, я прыйшоў прасіць цябе, пані, каб ты вылечыла маю нявесту Айшэ. Яна жыве па суседству з пані. Праўду кажуць, што гняздо для пералётнай птушкі робіць Алах!

Саламея *(здзіўлена)*. Жаніх Айшэ?

Недзім *(працягвае Саламеі мяшэчак з грашыма)*. Вось грошы.

Саламея *(іранічна)*. Колькі тут?

Недзім *(з гонарам)*. Сто чырвоных залатых.

Саламея *(з усмешкай)*. Звычайна я бяру за лячэнне ўдвая больш.

Недзім *(разгублена)*. У мяне больш няма. Гэта ўсё, што мне ўдалося зарабіць. *(З надзеяй.)* Калі б пані згадзілася пачакаць... Я хадайнічаю пра месца ў султанскай бібліятэцы. Візір Рагыб-паша міласціва пагадзіўся прачытаць мае вершы. Калі вершы яму спадабаюцца...

Саламея. Пана завуць Недзім?

Недзім. Так. Адкуль пані ведае маё імя? *(Прастадушна.)* Пані чытала мае вершы?

Саламея *(з усмешкай)*. Здаецца, Рагыб-паша згадваў мне пра пана.

Н е д з і м. О, візір Рагыб-паша вельмі адукаваны чалавек, сам піша цудоўныя вершы і апякуе маладых паэтаў і музыкантаў…

С а л а м е я *(паспешна).* Даўно пан вярнуўся з Егіпта?

Н е д з і м *(разгублена).* Тры дні таму. *(Занепакоена.)* Пані возьмецца лячыць Айшэ?

С а л а м е я. Пан спецыяльна збіраў грошы на лячэнне Айшэ?

Н е д з і м. Не. Спачатку я збіраў іх на нашае вяселле. Але потым падумаў, што важней вярнуць ёй зрок.

С а л а м е я. А пан не падумаў, што пасля таго, як я вылечу за гэтыя грошы Айшэ, яе дзядзька знойдзе для яе іншага, больш заможнага жаніха?

Н е д з і м *(спалохана).* Пані так лічыць? *(Уздыхае.)* Дзе добры мёд, там шмат пакупнікоў. *(Задумваецца.)*

С а л а м е я *(пасля працяглай паўзы).* Што гэта за верш пра шчаслівы горад, якім пан зачараваў сэрца Айшэ?

Н е д з і м *(узнімае вочы).* Пані лекарка ведае? Верш напісаў сорак гадоў таму Махмед Недзім, прыдворны паэт султана Ахмеда.

С а л а м е я *(загадвае).* Няхай пан пачытае, я паслухаю.

Н е д з і м *(разгублена).* Калі пані жадае… *(Чытае верш):*

Таемнай радасцю прыйдзі ў мой сумны сэрца сад.
Хадзем, мой тонкі кіпарыс, у шчасны Садабад.
Ужо чакае лодка нас і кліча далягляд.
Хадзем, мой тонкі кіпарыс, у шчасны Садабад.

Там нашы мары ажывуць: пабачым дзіўны край.
Там з пашчы цмока б'е жыццё, чароўны вадаграй.
Хто пакаштуе той вады, душой спазнае рай.
Хадзем, мой тонкі кіпарыс, у шчасны Садабад.

Дзе бераг сажалкі, з табой мы пойдзем на шпацыр,
Палац убачым залаты, там ноччу спяць вятры…

С а л а м е я *(перапыняе).* Хопіць. Такі горад насамрэч існуе?

Н е д з і м. Існаваў. Садабад быў пабудаваны недалёка ад Стамбула па загадзе султана Ахмеда. Там было шмат прыгожых паркаў, доўгіх алей і маленькіх стаўкоў, на клумбах раслі сотні гатункаў туліпанаў. Падчас паўстання янычараў Садабад быў зруйнаваны, тады ж загінуў і Недзім.

С а л а м е я. Так я і думала. Ад горада шчасця засталіся толькі руіны. Недзім, забяры свае грошы і вазьмі ў дадатак вось гэта. *(Вымае з шуфляды стала мяшэчак з грашыма і падае разгубленаму Недзіму.)* Паспрабуй зноў пасватацца да Айшэ. Думаю, гэтым разам Алі-ага табе не адмовіць. А я займуся хворымі вачамі дзяўчыны. Толькі няхай гэта будзе між намі.

Н е д з і м *(усхвалявана).* Але як я аддзячу пані? Я не магу ўзяць гэтыя грошы!

С а л а м е я. Гэта мой падарунак вам на вяселле. А наконт падзякі… Ты добра памятаеш дарогу да Егіпта?

Н е д з і м. Так. Я нават рабіў запісы.

С а л а м е я. Раскажаш мне потым, як лепш дабрацца да Іерусаліма.

Н е д з і м. Саламея-ханум хоча здзейсніць хадж у Іерусалім? *(З павагай.)* Пані — святая жанчына.

С а л а м е я. А цяпер ідзі, Недзім. Паведаміш мне, чым скончыцца тваё сватаўство.

Н е д з і м. Алах узнагародзіць пані за дабрыню! *(Сыходзіць.)*

С а л а м е я. «Святая жанчына!» Толькі ад турка такое і пачуеш. *(Не вытрымлівае.)* Але як ён падобны на Адоніса! *(Пахмурнее.)* Не, зусім не падобны. *(Сядае за стол і схіляецца над сваімі запісамі.)* Значыцца, уваходзіць імам і пытаецца: «А ці ёсць тут такая (напрыклад, Айшэ)?» А сяброўка за яе адказвае: «Ёсць.» «А ці клянешся ты гэтаму (напрыклад, Недзіму) вераю, каханнем і сумленнем?» Тут ужо сама маладая адказвае: «Клянуся аж да таго часу, пакуль воля Пана Бога будзе.» А калі маладыя застаюцца адны, ён падымае з яе твару чырвоную накідку і ўпершыню яе бачыць і цалуе, а панна маладая кладзе ў люльку тытунь і падае свайму мужу ў знак паслухмянасці…

З патаемнага лаза ў сцяне з'яўляецца Айшэ, падыходзіць да Саламеі.

А й ш э *(сумным голасам).* Добры вечар, Саламея-ханум. Што ты робіш? Зноў пішаш пра сваё мінулае?

С а л а м е я. Не, гэтым разам — пра тваю будучыню. *(Закрывае нататкі і ўстае з-за стала, каб абняць Айшэ.)* Чаму ты такая невясёлая?

А й ш э. Бачыла дрэнны сон. Таго нягодніка, пра якога мінулы раз ты мне распавядала. *(Папраўляецца.)* Прабач, твайго мужа.

С а л а м е я. Чым бачыць дрэнныя сны, лепш убачыць цудоўную яву. Пакажы мне свае вочы, дзяўчына. *(Знімае павязку з вачэй Айшэ.)* Выдатна. Вочы амаль не гнаяцца. Будзем і далей мазаць іх маззю з фіялак, і неўзабаве ты зноў убачыш свет.

А й ш э. Саламея-ханум у гэта верыць?

С а л а м е я. Калі Бог нам дапаможа. Пачакай. *(Бярэ з шафы мазь і мажа вочы Айшэ.)*

А й ш э. А, можа, Алаху заўгодна, каб Айшэ заставалася невідушчай, і мы ідзём насуперак ягонай волі?

С а л а м е я. Не вярзі глупстваў. Хваробы — ад д'ябла.

А й ш э *(упарта).* А хто казаў, што няшчаснага Гальпіра, які заразіўся пошасцю, пакараў Бог?

С а л а м е я *(злуецца).* Гэта мяне пакарае Бог за тое, што я ўсё табе расказваю. *(Стаўляе мазь назад у шафу.)*

А й ш э *(надзьмуўшыся).* Ты забылася пра нашую дамову? Я дазваляю лячыць свае вочы, а ты расказваеш мне пра сваё жыццё.

С а л а м е я *(зрываецца).* Ого, якая паніся, можа, мне табе яшчэ і грошы за гэта плаціць?! *(Закрывае сабе рот рукой.)*

Айшэ спалохана ўціскае галаву ў плечы, потым завязвае на вочы павязку і моўчкі ідзе да патаемнага лаза.

С а л а м е я. Прабач мне, Айшэ! *(Даганяе Айшэ і сілай паварочвае да сябе тварам.)* Злыя словы самі сарваліся ў мяне з языка. Я зусім забылася, што ты яшчэ маленькая, крыўдлівая дзяўчынка. *(Абдымае Айшэ.)*

А й ш э *(туліцца да Саламеі)*. Гэта ты прабач мне, Саламея-ханум. Я адказваю няўдзячнасцю на тваю дабрыню.

С а л а м е я *(цалуе Айшэ)*. Ты цудоўная дзяўчынка, Айшэ.

А й ш э. Я хачу, каб ты ведала, Саламея-ханум… Я цябе вельмі люблю.

С а л а м е я. І я цябе, Айшэ. Сядай зручней, я дараскажу табе сёння гісторыю свайго жыцця. Баюся толькі, што мой аповяд не дадасць табе радасці. А мне так бы гэтага хацелася…

Айшэ ўладкоўваецца на стале. Саламея пачынае распавядаць.

С а л а м е я. Падчас майго другога знаходжання ў Турцыі я паспяхова займалася лячэннем, мела маёмасць, грошы і пашану шляхетных людзей. І трэба было дзякаваць Богу ды ў спакоі жыць, але на бяду сваю захацелася мне зноў на радзіму. *(Пакой знікае ў цемры.)* І ці то воля Божая, ці нядоля мая, а толькі я з Ясаў прыехала ў Камянец-Падольскі — зноў мне сустрэўся пэўны кавалер, імя і прозвішча якога я не хачу называць, і стаў спяваць мне пра сваё вялікае каханне. Спяваць і граць на бандуры.

Пакой асвятляецца, але Айшэ мы ўжо не бачым. Уваходзіць шляхціц па мянушцы Адоніс: малады, прыгожы, апрануты па апошняй правінцыяльнай модзе мужчына з бандурай у руках.

А д о н і с. Вітаю пані ў нашым слаўным горадзе!

С а л а м е я. Дзякую за гасціннасць, але не маю шчасця быць знаёмай з панам.

А д о н і с. Як жа! Мы бачыліся сёння з пані на гарадскім пляцы.

С а л а м е я *(здзіўлена)*. На пляцы? *(Успомніўшы.)* Ах, дык гэта пан стаяў у калюжыне з дзвюма прыяцелькамі на руках, калі мой вазок перасякаў пляц?

А д о н і с *(узрадавана)*. Ага, я! З ласкі пані мы былі аблітыя граззю з ног да галавы.

С а л а м е я. А я з ласкі пана была з ног да галавы аблітая бруднай лаянкай.

А д о н і с. А потым пані высунулася з вазка і пачала лаяцца ў адказ! Ад захаплення я ажно выпусціў сваіх прыяцелек у калюжыну. Дзе пані навучылася так лаяцца?

С а л а м е я. У пецярбургскіх салонах, пан Запытайла.

А д о н і с. Мяне завуць Адоніс.

С а л а м е я. А мяне — Афрадыта.

А д о н і с. Мяне ўсе ў горадзе завуць Адонісам. А пані, я ведаю, завуць Саламеяй.

С а л а м е я. І чаго пан тутэйшы Адоніс ад мяне хоча? Сатысфакцыі за выпацканае адзенне і абражаны гонар прыяцелек? У такім разе я выбіраю пісталеты.

А д о н і с. Пані лекарка жартуе.

С а л а м е я. Ах, пан паспеў даведацца, што я — лекарка? Можа, трымаючы дзвюх дам, пан кавалер падарваўся і прыйшоў да мяне лячыцца?

А д о н і с. Пані Саламея здзекуецца з мяне. А я, між іншым, калі пабачыў пані ў вазку, — адразу ў пані закахаўся. І прыйшоў запрасіць пані Саламею на баль у іх мосцяў адвакатаў.

С а л а м е я. Мяне — на баль? *(Заходзіцца ад смеху.)* Але ж і норавы ў вашым Камянцы! А ты ведаеш, пан Адоніс, што я — двойчы ўдава і тройчы маці?

А д о н і с. Пані зноў жартуе. *(З недаверам аглядвае Саламею з ног да галавы.)* А хоць бы і ўдава, што з таго? Пані пойдзе са мной на баль?

С а л а м е я. Не. Я не жартую і ні на які баль з панам не пайду. Я пачцівая белагаловая, стамілася з дарогі і не хачу скончыць сваё жыццё ў якой-небудзь камянецкай калюжыне.

А д о н і с *(нясмела)*. У такім разе, можа б пані Саламея дазволіла мне таксама не хадзіць на баль, а застацца і паспяваць для пані?

С а л а м е я *(разгублена)*. Паспяваць? *(Спрабуе жартаваць, хаця малады шляхціц відавочна заінтрыгаваў яе.)* Дык пан — не Адоніс, а Арфей?

А д о н і с. Я спяваю і граю на бандуры. Бацькі, праўда, кажуць, што гэта не вельмі шляхетны занятак. *(Грае на бандуры і спявае ціхім прыгожым голасам):*

Сэрца маё ручыць, хоця і час разлучыць,
Без жадного труду любіць цебе буду.
Буду ж я цебе так крэпко любіці,
Всім в перэсаду, покуль буду жыці.
Хоць ідзі за горы, хоць плыві за моры,
Цебе не покіну, за морэ поплыну.

Скончыўшы спяваць, малады шляхціц ціхенька грае сабе на бандуры. Уражаная Саламея выходзіць на сярэдзіну пакоя.

С а л а м е я. Ці можна верыць у каханне мужчыны, які стаяў у калюжыне з дзвюма дамамі на руках? Вядома, не. *(Безнадзейна.)* А вось я паверыла.

А д о н і с *(уздыхае)*. Колькі жыву, ніводнай дамы так не кахаў.

С а л а м е я. Я паверыла ў гэтую наіўную казку. Я, разумная, сталая жанчына, маці траіх дзяцей, дазволіла сабе закахацца ў чалавека з мянушкай замест імя! Чаму? Напэўна, таму, што, дажыўшы да трыццацігадовага ўзросту, таксама нікога яшчэ не кахала і ніхто яшчэ не кахаў мяне. І потым, ён так душэўна спяваў, так прыгожа граў на сваёй бандуры.

А д о н і с *(спявае):* Няволенька ж мая з вамі,
З харошанькімі вочанькамі,
Што мне спаці не даеце,
Тугу сэрцу задаеце!
Дзяўчынанька харошая,
Будзь да мяне ласкавая.
Любі, харошая дзяўчына,
Не будзь нуднасці прычына.

Саламея. Пажыўшы ў Камянцы, я хутка даведалася, што мой новы амарат карыстаецца славай жлукты, бабніка і гультая. Ды ён і сам гэтага перада мной не ўтойваў.

Адоніс. Саламея, каб ты толькі ведала, якое легкадумнае і марнатраўнае жыццё я вёў да сустрэчы з табой! Але каханне перамяніла мяне. Ты зрабіла з мяне чалавека.

Саламея. Шкада мне яго было і не выпадала дакараць за прыкрае мінулае. Стала я пра яго клапаціцца: купляць кунтушы, жупаны і добрыя паясы, даваць грошы. А потым пачала думаць, як сапраўды зрабіць з яго чалавека, каб ён не на маёй шыі сядзеў, а на сваіх нагах стаяў. *(Да Адоніса.)* Паслухай, мой каханы, трэба табе знайсці які занятак.

Адоніс. І я пра гэта ўвесь час думаю. Але які?

Саламея. Можна паступіць на службу ў войска.

Адоніс. А раптам пачнецца вайна з туркамі і мяне заб'юць?

Саламея. Можна купіць табе кавалак зямлі, валоў, кароў ды авечак, ты наймеш мужыкоў і пачнеш гаспадарыць.

Адоніс. А раптам тыя валы, каровы ды авечкі здохнуць? Ды й які з мяне земляроб?

Саламея. То займіся гандлем. Я дам табе грошы, ты паедзеш на кірмаш у Хоцін, накупляеш розных ласункаў, фінікаў, разынак, рысу, завязеш у Львоў і з выгадаю прадасі.

Адоніс. Што я, жыд які? Я польскі шляхціц!

Саламея. У такім разе, міленькі, бачу для цябе адзін занятак: сядзець у мяне на шыі і граць на бандуры!

Адоніс *(перастаўшы граць)*. Добра, Саламейка, не злуйся. Давай грошы, паеду ў Хоцін па фінікі.

Саламея падыходзіць да стала, вымае з шуфляды грошы і аддае Адонісу. Шляхціц, узважыўшы грошы ў руцэ, выходзіць з пакоя, напяваючы вясёлую песеньку. Потым нечакана вяртаецца.

Адоніс *(узяўшы бандуру)*. Не сумуй без мяне, любая. Я хутка вярнуся. (*Знікае за дзвярыма.)*

Саламея. Гэтае ягонае «хутка» зацягнулася не на адзін тыдзень. Ужо і кірмаш у Хоціне скончыўся, а мой мілы ўсё не вяртаўся. Толькі перадаваў з аказіяй лісты з салодкімі словамі пра каханне і пра сардэчныя пакуты. Самым цікавым аказаўся апошні ліст.

Чуваць стук у дзверы. Саламея выходзіць з пакоя і вяртаецца з лістом у руках.

Саламея. Прыйшоў нейкі п'яны шляхціц, назваўся Себасцьянам Завадскім і перадаў мне ліст ад Адоніса. У дом не зайшоў, сказаў, што мусіць перадаць некаму яшчэ адзін ліст і спешна ад'ехаць у Кіеў. Пачала я чытаць. *(Разгортвае ліст.)* «Любая мая Малуцька!» Хм. «Сонейка маё, хачу цябе ўзрадаваць. Я ўжо вяртаюся ў Камянец і адразу прылячу да цябе: з салодкімі слоўцамі, пяшчотнымі пацалункамі ды каштоўнымі падарункамі. Пабавімся з табой, душа мая, колькі шчаслівых

дзён, а сваёй лекарцы я скажу, што прыехаў пазней. Таму будзь дома, ластаўка, нікога не прымай і чакай мяне. Твой жартаўнік, Адоніс». Малуцька... Малуцька... *(Ходзіць уздоўж пакоя.)* Вядомая ўсяму гораду прастытутка. Дык вось на каго трацяцца мае грошы! *(Спыняецца і пачынае рагатаць.)* Саламея, Саламея, калі ўжо ты паразумнееш?..

У пакой нясмела ўваходзіць пан Адоніс з выглядам пабітага сабакі.

Саламея. Праз тыдзень з'явіўся і сам пан жартаўнік. *(Да Адоніса.)* Вітаю пана ў нашым слаўным горадзе!

Адоніс *(вымае з-за пазухі невялічкі пакуначак)*. Вось. *(Аддае Саламеі.)* Для цябе.

Саламея. Што гэта?

Адоніс. Фінікі.

Саламея. А дзе астатнія тры падводы?

Адоніс. Па дарозе з Хоціна на мяне напалі разбойнікі і ўсё адабралі. Аказваецца, гандляваць вельмі небяспечна. Лепш бы я пайшоў служыць у войска.

Саламея. Напалі разбойнікі, з'елі тры падводы фінікаў ды разынак, а пасля падрапалі твар гандляру кіпцямі? Так?

Адоніс *(закрывае далонню падрапаную шчаку)*. Білі.

Саламея. А атамана разбойнікаў звалі Малуцька?

Адоніс *(змрочна)*. Гэта жлукта Завадскі пераблытаў лісты. Ліст да Малуцькі аддаў табе, а ліст да цябе занёс Малуцьцы.

Саламея. І з гэтай нагоды шляхетная пані Малуцька падрапала табе морду?

Адоніс. Там было столькі пяшчотных слоў пра цябе, Саламейка. Вось яна і ўсхадзілася...

Саламея. Я — не Малуцька, морду табе біць не буду. Але забірай усе рэчы, якія я табе падаравала, і кацiся да д'ябла! Назад у сваю калюжыну! Каб вочы мае цябе больш не бачылі!

Адоніс *(укленчвае перад Саламеяй)*. Даруй мне, Саламея! Успомні, кім я быў да цябе, якое жыццё вёў! Цябе першую я пакахаў пасапраўднаму, шчыра! Але, думаеш, лёгка так адразу перамяніцца, адскрэбціся ад бруду? Можа, каб ты згадзілася стаць маёй жонкай, усё пайшло б хутчэй? Людзі паважаюць цябе, паважалі б і мяне, я сам бы сябе паважаў.

Саламея. Ніколі ў жыцці я не стану тваёй жонкай! Людзі і так ужо смяюцца з мяне, што я, разумная і пачцівая белагаловая, звязалася з такім шалапутам і гулякам! Ідзі прэч ад мяне са сваім фальшывым каханнем!

Адоніс. Саламея, пабойся Бога! Успомні, ён дараваў грэшнікам. Няўжо ты чысцей за яго? Баішся аб мяне запэцкацца? Без цябе я прападу. Дай мне апошні шанец! *(Усхліпвае.)*

Саламея *(уздыхае)*. Я не чысцей за Бога. Колькі разоў літасцівы Бог выбачаў мне мае грахі і правіны, дык ці маю я права не дараваць бліжняму? *(Да Адоніса.)* Добра, гора ты маё, дам табе яшчэ адзін шанец.

Адоніс *(узрадавана)*. Я зноў паеду ў Хоцін па фінікі?

Саламея. Не, паеду я. Паеду ў Львоў да сваёй дачкі Канстанцыі. Яна сабралася ісці ў кляштар, а я думаю — ёй настаў час ісці замуж. На цябе пакіну дом, маёмасць і малых сыноў. Будзеш апекаваць іх.

Адоніс. Саламея, ты жартуеш? У мяне ніколі і сотні залатых у руках не было. А тут — дом, маёмасць. Ды яшчэ і дзеці. Няўжо ты ўсё мне даверыш?

Саламея Дзецей будзе даглядаць пакаёўка Магда. А ты застанешся за гаспадара. І… пабачым, які з цябе гаспадар і чалавек. Бывай! *(Выходзіць з пакоя.)*

Адоніс *(крычыць наўздагон)*. Дзякуй, Саламея. Я дакажу! Вось пабачыш, я дакажу табе, Саламея! *(Бярэ ў рукі бандуру, грае і спявае бадзёрым голасам):*

— Ой, перастан, мой наймилши, до мене ходити,
А меня ж, молоденьку, з розуму сводити.
— Як я маю перастати, коли люблю тебя,
А ты, моя наймилшая, упусти до себя!

У пакой уваходзіць Саламея ў накінутым на плечы дарожным плашчы.

Саламея *(сумна)*. Мяне не было дома месяц. Як аказалася, Канстанцыя мая збіралася ісці ў кляштар з-за няшчаснага кахання. Але маімі намаганнямі тое няшчаснае каханне неўзабаве перамянілася ў шчаслівае, і зладзіла я дачцэ вяселле з маладым панам Астроўскім. Адоніс тым часам сядзеў у маім доме, папіваў віно, граў на бандуры ды назіраў, як пакаёўка Магда ўпраўляецца з дзецьмі. І хутка яны ўжо разам пілі віно ды спявалі, а потым — не толькі пілі і не толькі спявалі... Малодшы хлопчык, Станіслаў, ім не перашкаджаў у любошчах, бо нічога яшчэ не кеміў, а старэйшага, Францішка, яны прыдумалі замыкаць у склепе, каб нічога не бачыў і не расказаў потым маці. *(Дрыготкім голасам.)* І ён там, на голай зямлі лежачы, захварэў і памёр, мой няшчасны хлопчык. Напалоханая Магда адразу ўцякла з дому, стаў збірацца і Адоніс, зносячы ў вазок усе каштоўныя рэчы. Ад выпадковых людзей даведалася я пра смерць сына…

Адоніс *(грае на бандуры і спявае тужлівым голасам):*

Ды цяпер во я пры беднасці, пры вялікай тузе,
Астаўляю сваю міленькую, як каліну ў лузе.
Ды цяпер во я пры беднасці, пры вялікім смутку,
Астаўляю сваю міленькую, як галуб галубку.

Саламея набліжаецца да Адоніса.

Адоніс *(заўважыўшы Саламею)*. Саламейка! А я цябе чакаў толькі на наступным тыдні. Вось добра, што ты прыехала раней! *(Уздыхае.)* А ў нас няшчасце...

Саламея *(не слухаючы Адоніса)*. Бог — даруе, Бог усё даруе, памаўзлівы блазан! Але я — не дарую! Адпраўляйся да свайго літасцівага Бога, курвін сыне! *(Выхоплівае з-пад плашча пісталет і наводзіць на Адоніса.)*

А д о н і с. Саламея! Я не вінаваты! Не жартуй так, Саламея!

Саламея страляе, Адоніс падае. Саламея апускаецца на падлогу побач з целам амарата.

С а л а м е я. Вось і ўсё. Скончыліся ў маім жыцці прызнанні, каханні, расчараванні. І жыццё скончылася. Прабач мне, Панна Марыя.

Аглушаны Адоніс ажывае і на чацвярэньках выпаўзае з пакоя.

С а л а м е я *(заўважыўшы ўцёкі Адоніса)*. Жывы, сабака. *(Сумна ўсміхаецца.)* Значыцца, каханне забіць немагчыма. Не магла я з такой адлегласці прамахнуцца.

Пакой пагружаецца ў цемру, а калі з'яўляецца святло, мы бачым побач з Саламеяй Айшэ. Саламея маўчыць, нібыта яшчэ раз перажывае тую трагедыю, што некалі з ёй здарылася. Айшэ, не вытрымаўшы, пачынае плакаць.

А й ш э. Не пайду замуж!

Слёзы Айшэ вяртаюць Саламею ў рэальны свет.

С а л а м е я. Не плач, Айшэ. На жаль, шчырае каханне — небяспечная рэч.

А й ш э *(усхліпвае)*. Памятаеш, Саламея-ханум, я папярэджвала цябе, што гэты дом стары і вось-вось можа абваліцца? А ты запыталася: ці не таму я люблю сюды прыходзіць? Дык вось, гэта праўда.

С а л а м е я. Што — праўда?

А й ш э. Я прыходзіла сюды, сядала на падлогу і цярпліва чакала, калі ж дом абваліцца. Потым я пазнаёмілася з табой і перастала пра гэта думаць. Але цяпер... *(Горача.)* Давай чакаць разам, Саламея-ханум.

С а л а м е я *(гладзіць Айшэ па галаве)*. Давай. Але не таго, калі абваліцца дом. Будзем чакаць твайго вяселля з Недзімам.

А й ш э *(надзьмуўшыся)*. Недзім такі ж самы падманшчык, як і твой Адоніс. Добра, што ён з'ехаў у Егіпет. Я яго не кахаю!

С а л а м е я *(абыякавым голасам)*. Дарэчы, я чула, што ён вярнуўся.

А й ш э *(узрушана)*. Праўда?! Хто табе казаў? *(Трасе Саламею за руку.)* Дзе яго бачылі?

С а л а м е я. Ого, які імпэт! А кажаш: не кахаю, давай чакаць, пакуль дом абваліцца... Недзім зарабіў у Егіпце крыху грошай, напісаў процьму вершаў пра каханне да нейкай Айшэ і, аддаўшы іх візіру, хадайнічае пра месца ў султанскай бібліятэцы. *(Убок.)* Не ведаю ўжо, якія там вершы, але я якраз лячу ад мігрэні візіраву жонку, таму думаю, гэтае месца ён атрымае. *(Уголас.)* Так што неўзабаве чакай сватоў, Айшэ.

А й ш э. Ці пацячэ вада там, дзе цякла раней? Можа, Недзім мяне ўжо забыўся?

С а л а м е я. А вершы? Не, Айшэ, не сумнявайся! Дарэчы, я даведалася, што шчаслівы горад насамрэч існаваў: зусім недалёка ад Стамбула. *(Са шкадаваннем.)* Толькі ад яго засталіся адны руіны.

А й ш э. Я хацела б пабачыць хоць руіны...

С а л а м е я *(узрадавана).* Ну, калі ты ўжо нешта хочаш пабачыць, то хутка папраўішся.

А й ш э. Ах, Саламея-ханум, я такая шчаслівая! Дзякуй Алаху за тое, што я цябе сустрэла!

Абняўшыся, Саламея і Айшэ стаяць пасярэдзіне пакоя.

## З'ява чацвёртая

У пакоі Саламеі пуста. У шафах няма лекаў і медыцынскіх прылад, са стала зніклі кнігі, не відаць і самой гаспадыні. Толькі куфар з адзеннем стаіць на сваім звычайным месцы. Праз патаемныя дзверы ўваходзіць радасная Айшэ.

А й ш э. Я выходжу замуж, Саламея-ханум! *(Прыслухоўваецца да цішыні пустога пакоя.)* Нікога няма?.. *(Узлазіць на куфар.)* Сёння, як ніколі, мне хочацца ўбачыць цябе, Саламея, падзяліцца сваёй радасцю. А яшчэ мне хочацца ўбачыць неба, сонца, Недзіма. Я абавязкова павінна паправіцца. Інакш як я буду даглядаць свой дом, дзяцей, як змагу дагадзіць свайму каханаму мужу?.. *(Кладзецца на куфар і марыць, пакуль не засынае.)*

З'яўляецца Якуб Гальпір, трымаючы ў руках невялічкую ступку.

Г а л ь п і р. Айшэ, чаму ты не прыгатавала парашок ад запораў?

Спалоханая Айшэ ўсхопліваецца з куфра.

Г а л ь п і р. Mein Gott, што за жонку ты мне даў! Пацыент чакае мікстуру, а яна спіць! Бярыся за працу, гультайка!

Аддае Айшэ ступу. Уражаная Айшэ не можа вымавіць ні слова, пакорліва бярэ ступу і пачынае старанна таўчы парашок. Гальпір нервова ходзіць па пакоі. З'яўляецца босы Юзаф Пільштын, пачынае шукаць свае боты.

П і л ь ш т ы н. Айшэ, дзе мае боты? *(Знаходзіць боты за куфрам, скептычна іх разглядвае.)* Чаму брудныя? *(Пагрозліва.)* Чортава дзеўка, я цябе прымушу выконваць свае абавязкі!

Айшэ кідае на стол ступу і бяжыць да Пільштына. Чысціць боты рукавом сукні.

П і л ь ш т ы н. Каб блішчэлі! Не забывайся, што ў цябе муж — харунжы аўстрыйскай арміі!

З'яўляецца Адоніс з бандурай у руках. Сядае за ігральны столік, настройвае бандуру.

А д о н і с. Айшэ, налі мне віна! Хуценька! Паміраю ад смагі.

Айшэ кідае боты Пільштына і бяжыць наліваць віна Адонісу. Са страху яна забываецца, што не бачыць, і робіць усё як відушчая.

А д о н і с *(выпівае кубак віна і пачынае спяваць дурным голасам).*

Таемнай радасцю прыйдзі ў мой сумны сэрца сад.
Хадзем, мой тонкі кіпарыс, у шчасны Садабад.
Ужо чакае лодка нас і кліча далягляд.
Хадзем, мой тонкі кіпарыс, у шчасны Садабад.

П і л ь ш т ы н. Айшэ, боты! Доўга я буду чакаць? Халера ясная!

Айшэ хуценька вяртаецца чысціць боты.

П і л ь ш т ы н *(загадвае)*. Надзявай!

Айшэ з цяжкасцю нацягвае Пільштыну адзін бот.

Г а л ь п і р *(заўважае кінутую на стале ступу)*. Яшчэ не гатова?! Teufel! Ты ведаеш, для каго гэтая мікстура? Для самога султана! Яго вялікасць чацвёрты дзень не можа схадзіць на гаршчок!

Айшэ бяжыць да ступы, але тут адрываецца ад бандуры Адоніс.

А д о н і с. Айшэ, яшчэ віна!

Айшэ кідаецца да Адоніса і налівае яму ў кубак віна.

А д о н і с. Пацалуй мяне, ластаўка мая!

Айшэ паслухмяна цалуе Адоніса ў левую шчаку.

А д о н і с. За нашае каханне! *(Выпівае віно і падстаўляе правую шчаку.)* Яшчэ разок!

П і л ь ш т ы н *(крычыць)*. Як я пайду на вайну ў адным боце?!

Г а л ь п і р *(у адчаі)*. O, mein Gott, нам адсякуць галовы!

Знямоглая Айшэ не ведае, чый загад ёй выконваць, і нерухома стаіць каля Адоніса.

П і л ь ш т ы н *(абурана)*. Не можа справіцца з трыма мужамі!

Г а л ь п і р *(з'едліва)*. А чацвёртага збіраецца завесці!

А д о н і с *(ласкава)*. Не слухай іх. *(Устае з-за стала.)* Давай лепш кахацца. *(Пачынае няспешна распранаць Айшэ.)*

П і л ь ш т ы н. Хвіліначку, я патрабую сваёй долі! *(Скача ў адным боце да Айшэ з Адонісам.)*

Г а л ь п і р. Мне належыць першынство! *(Далучаецца да астатніх.)*

А й ш э *(прачынаецца)*. Не! Не! *(Зрывае з вачэй павязку і вырываецца з кола назойлівых прывідаў.)*

У пакой уваходзіць Саламея, з-за яе спіны нясмела выглядвае Недзім, пераапрануты ў вопратку фурмана. Прывіды хуценька сядаюць за стол і пачынаюць гуляць у косці, як быццам нічога не здарылася.

С а л а м е я. Што з табой, дзяўчынка мая? Чаму ты крычала?

А й ш э *(кідаецца да Саламеі)*. Яны ўсе... Стары лекар, аўстрыйскі харунжны і той, з бандурай... Нібыта я іхняя… О, Алах! Яны хацелі... Не, не… *(Плача і выцірае рукой вочы.)*

С а л а м е я. Айшэ, зірні на мяне.

А й ш э. Саламея-ханум!

С а л а м е я. Ты бачыш, Айшэ.

Айшэ толькі цяпер разумее, што сапраўды бачыць Саламею. Са здзіўленнем азіраецца вакол і заўважае Недзіма.

А й ш э *(яшчэ больш уражаная).* Хто гэта?

Недзім ад хвалявання не можа вымавіць ні слова.

С а л а м е я. Што ж ты стаіш, як слуп, хлапчына? Скажы што-небудзь.

Н е д з і м *(паспешна).* Я твой жаніх. *(Запінаецца.)* Твой будучы муж.

А й ш э. Недзім!

Н е д з і м *(усхвалявана).* О, мая радасць! Твае ясныя вочы зноў раскрыліся насустрач святлу! *(Да Саламеі.)* Пані Саламея, я паэт, але не знаходжу слоў, каб выказаць сваю… Няхай Алах узнагародзіць пані за дабрыню.

С а л а м е я *(расчулена).* Вашаму Алаху няма чаго больш рабіць, як толькі ўзнагароджваць чужаземак-хрысціянак.

А й ш э *(шэптам да Саламеі).* Саламея-ханум, чаму Недзім у такім уборы? Яму з-за мяне давялося працаваць фурманам?

С а л а м е я. Што ты, мая дарагая, ён цяпер у нас працуе ў султанскай бібліятэцы. Але сёння яму давядзецца пабыць маім фурманам. *(Ціха.)* А табе — маёй служкай. Пераапранайся. *(Падае Айшэ накідку.)*

А й ш э *(здзіўлена).* Навошта, Саламея-ханум?

С а л а м е я. На жаль, я не змагу пабываць у вас на вяселлі, дзеці мае. Заўтра я адплываю ў Святую Зямлю. Але сёння нас чакае падарожжа ў горад шчасця. *(Важна.)* Заможная чужаземка на калясцы з фурманам і ў суправаджэнні сваёй служкі выпраўляецца паглядзець руіны Садабада.

А й ш э. А мой дзядзька?

С а л а м е я. Я дамовілася з ім, што возьмуся цябе лячыць — нібыта за грошы Недзіма, — і таму мне неабходна паказаць цябе сваім калегам. Твой дзядзька ўзрадаваўся, што нарэшце збудзе хворую пляменніцу з рук. *(Дапамагае Айшэ апрануць накідку.)* Можна ехаць. *(Бярэ Айшэ пад руку і накіроўваецца да дзвярэй.)* Хадзем, мой тонкі кіпарыс, у шчасны Садабад. *(Усміхаецца.)*

Н е д з і м *(падхоплівае і дэкламуе далей).*

Дазволу ў маці папрасі на пятнічны намаз
Прыйсці. Ад лёсу мы ўцячэм у запаветны час.
Глухая сцежка прывядзе да прыстані якраз.
Хадзем, мой тонкі кіпарыс, у шчасны Садабад.

Нам будзе малады вясляр дарогаю спяваць.
Пакінуць згодны я сяброў і скарбы ўсе аддаць
За згоду шчырую тваю ўвесь век мяне кахаць.
Хадзем, мой тонкі кіпарыс, у шчасны Садабад.

Калі Недзім чытае верш, Адоніс пачынае падыгрываць яму на бандуры. Айшэ рэзка спыняецца і азіраецца ў бок прывідаў.

С а л а м е я. Чаму ты спынілася?

А й ш э. Згадала свой жахлівы сон... Як добра, што вы мяне разбудзілі. *(Выходзіць з пакоя, за ёю — Недзім.)*

С а л а м е я *(на самым парозе абарочваецца і звяртаецца да прывідаў)*. Ну, панове, гэта ўжо занадта! Бывайце назаўсёды!

Саламея рашуча выходзіць з пакоя. Разгубленыя амараты спыняюць гульню.

П і л ь ш т ы н. Я пратэстую! Мы афіцыйна не разведзеныя. Мусіш узяць мяне з сабой, Саламея.

Г а л ь п і р. Хто навучыў цябе медыцыне, meine Mädchen? Я не хачу заставацца ў гэтым жахлівым горадзе!

А д о н і с. Куды ты без мяне, Саламейка? Я ж тваё шчасце!

Чуваць нейкае рыпенне, потым паветра скаланае страшэнны грукат. Стары дом завальваецца, паглынаючы прывідаў...

Г о л а с С а л а м е і. Вярнуўшыся з прагулкі, мы ўбачылі, што стары дом zаваліўся. Я адвяла дадому Айшэ, развіталася з Недзімам і з лёгкім сэрцам адплыла на караблі ў Святы Горад. Больш я ніколі не сустракала ў сваім жыцці гэтую закаханую пару, але часта згадвала іх у малітвах да Пана Бога. Цікава, ці згадвалі яны ў малітвах да свайго Алаха вандроўную лекарку з далёкага паўночнага краю, якая паказала ім дарогу ў шчаслівы горад?..

***З а с л о н а***



## ТАЦЦЯНА БАРЫСЮК

***Таццяна Барысюк нарадзілася ў 1971 годзе ў Мінску. Скончыла Мінскае педвучылішча № 1, філфак БДУ, аспірантуру Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі, дзе працуе малодшым навуковым супрацоўнікам у аддзеле ўзаемасувязей літаратур. Друкавалася ў газеце «Літаратура і мастацтва», часопісах «Першацвет», «Маладосць», «Крыніца», «Беларуская думка». Аўтар кнігі вершаў «Аўтапартрэт» (2002).***

# КАХАННЕ РЭАЛЬНАЕ І ФАНТОМНАЕ

### 1

* * *

У найпакутнай экзальтацыі
асенніх мрояў — узгадаю,
як белай фарбай на асфальце
ты напісаў: «Цябе кахаю!»

Цябе мне ў думках цалаваць,
каб гэтай ноччу не заснуў,
каб верш цябе зачараваў
і да мяне вярнуў.

* * *

Vulnerant omnes, ultima necat.[1]

Адчайныя думкі пачне хістаць,
сусвет землятрусам быццам.
Як страшна нанова жыць пачынаць
у трыццаць!

Як сэрца пачвара чарговая зраніць, —
каб не паміраць,
вучуся тады я жахлівую памяць
навекі сціраць.

---

[1] Раняць усе, апошні забівае *(лац.)*.

## ПАЧАТАК КАСТРЫЧНІКА

Бывае восень — калі каханне,
калі душы палёт агністы,
тады наўздзіў цвітуць каштаны
і доўга зелянее лісце.

Бывае восень — калі самотна,
калі адчай так непазбежны,
тады слата або марозна,
а часам нават снежна.

* * *

Не прашу я, мой Божа, замнога:
мне, такой летуценнай — зямнога,
мне, такой імпульсіўнай — спакойнага,
на адкрытыя раны — загойнага.

І таго патрабуе свядомасць,
хто б трымаў рэчаіснасці ніць
і, калі буду страчваць прытомнасць,
каб паспеў ён мяне падхапіць.

* * *

Адвечны сум. І маразы заўчасна.
І памяць сэрца аб цнатлівым снезе...
Навекі страчанае шчасце
ўваскрэсне ў райскае кунезе.

І буду марыць аб адхланні
(хоць лёс расстанне нам прарочыць),
каб наша расцвіло каханне
і не змаглі яго сурочыць.

І Богу буду слаць маленні,
каб яркі імпульс стаўся вечным,
і ўрэчаісніў наша сненне —
сагрэцца полымем сардэчным.

* * *

Агонія апошняга кахання
цябе прыцягвае і старыць.
Насуперак душэўным прадчуванням,
расстаўся — каб званіць і марыць.

Узважваеш, якія маем шанцы.
Яна адна ці не, — варожыш.
Сніш прыцягненне цел у танцы.
Расстаўся — а забыць не можаш...

* * *

Нарэшце, каб жыць — прабачаю...
Ляці прэч, ты вольная птушка.
Тады ў зачараваным гаі
ты знойдзеш, з кім мроі пагушкаць.

А я — палячу да самоты.
Яна мне не здрадзіць ніколі.
За шчасця імгненнага дотык
не дам накананаванай волі.

## 2

* * *

Убачыш вобмільгам мяне,
спазнаеш яркае каханне.
Але, на жаль, усё міне.
Але, на радасць, зноў настане.

А я — сыду ў далёкі край,
дзе сонца, зоркі і аблокі,
і толькі ты не наракай,
што ад цябе зашмат далёка.

І будзеш толькі ты чакаць
мяне — у снах і ў летуценнях,
каб я змагла бліжэйшай стаць,
прыйшла калісьці бляклым ценем.

### ФАНТОМНАЕ КАХАННЕ

Калі жыццё бяскрыліць прозай,
тады прыходзіць, як адхланне,
звыш — па малітве, светлай просьбе
фантомнае каханне.

Прыходзіць з веснавым цяплом,
як подых ветрыку ласкавы,
і ахіне сваім крылом,
бо для яго не трэба явы.

Яно прыходзіць, як натхненне, —
душа лірычнаму адкрыта —
і спапяляе ўсе сумненні,
бо для яго не трэба быту.

Азорыць дні, апромніць ночы.
Далонь на лоб — не звар'яцела.
І дастаткова бачыць вочы,
бо для яго не трэба цела.

* * *

Ва ўладзе віртуальнай страсці,
каб розум свой зусім не страціць,
хоць не прызнаемся «люблю»,
давай вяртацца на зямлю.

Забудзем нашых мрояў цені.
З касмічных нашых летуценняў —
на жыццядайную раллю,
давай вяртацца на зямлю.

Для нас не лёс — нібы праклён.
Лірычнай памяці палон.
Хоць верш схаваю — не спалю,
давай вяртацца на зямлю...

* * *

Гэтай ноччу поўня расцвіла...
Валасы пафарбавала ў цемру.
І дарога мройная вяла
скрозь таемнасць сонных святлаценяў.

Вабіла начных нябёс прадонне,
фіялетавасць, бясконцасць.
Я падумала, што поўня —
абяспромненае сонца...

* * *

Сто гадоў без натхнення,
сто гадоў без кахання,
і мінулага цені
памяць скрушную раняць.

Мрой шацёр — ратаванне
ад вар'яцкага краю,
дзе душа ў занядбанні
з кожным днём памірае.



ЮРЫ СТАНКЕВІЧ

# АПЛАДНЕННЕ ЁЛУПА

*Аповесць*

**Бог пагражае нам ужо шмат стагоддзяў запар, але гэта нічога не змяняе.**

*Карлас КАСТАНЭДА. «Моц маўчання».*

## Частка I
## ПАПЯРЭДНІК

### 1. Дэпартацыя ахвяры

Якраз пад восень 193... года непадалёку ад цэнтра вялікага ўсходняга мегаполіса на тэрыторыю гіганцкай будаўнічай пляцоўкі, абнесенай трохметровым плотам, бесперашкодна ўехала крытая машына з чырвонымі крыжамі, выяўленымі па баках і ззаду, на дзверцах. Быў выхадны дзень, і будоўля амаль пуставала. Тым не менш крытая машына хіба што аддалена нагадвала машыну хуткай дапамогі — нешта было ў ёй не тое: афарбоўка, памеры, магутнасць рухавіка. Зрэшты, гэта не кідалася ў вочы. Машына пад'ехала да збітага з дошак часовага флігялька і спынілася побач. З кабіны, апроч вадзіцеля, — той застаўся сядзець — вылез мужчына ў шэрым паношаным касцюме, коратка стрыжаны пад бокс, з бяздумным тварам, а потым заднія дзверцы адчыніліся, і адтуль на абляпаную высахлым цэментавым растворам зямлю, усыпаную абломкамі арматуры, саскочылі яшчэ двое амаль такога ж выгляду, як і першы. Яны імкліва бразнулі дзвярыма флігялька і ўвайшлі ўсярэдзіну. Прыкладна праз дваццаць хвілін яны выйшлі (адзін з іх нёс набіты паперамі скураны гамец), але побач з імі крочыў чацвёрты. Гэта быў высокі, шыракаплечы мужчына гадоў трыццаці пяці, апрануты ў пакамечаны, з плямамі ад тушы, рабочы камбінезон будаўніка, русавалосы і круглагаловы, з шырокім, у зморшчынах ілбом і глыбока пасаджанымі, неспакойнымі, ярка-сінімі вачыма.

Вадзіцель, убачыўшы ў люстэрка, што яго спадарожнікі вяртаюцца, таропка выскачыў з кабіны і адкрыў заднія дзверцы. Мужчыне ў камбінезоне жэстам паказалі, што трэба залазіць у машыну. Але ён не спяшаўся,

марудзіў. Спыніўшыся на некалькі секунд, ён абвёў вачыма ўвесь абшар будоўлі, кіўнуў сам сабе, усміхнуўся і, калі падымаўся, абярнуўся і крыкнуў:

— Я — Марка Ласкоў! Паведаміце пра мяне!

Больш яго не бачылі.

* * *

Марка Ласкоў, а менавіта пра яго пойдзе гаворка, нарадзіўся ў беднай сям'і беларуса-чыгуначніка. Перадусім над тым краем імкліва пранесліся хмары той самай навалы, якая цяпер называецца братазабойствам, альбо каінізмам. Лепшых і разумнейшых знішчалі, як самых небяспечных: высылалі ў тайгу ці стэп, саджалі ў турмы і лагеры, проста адстрэльвалі, як жывёл. «Здай пяць разумных і можаш быць свабодным», — казалі оперы на допытах.

Але сям'я Ласковых, баронячы сябе, здолела неяк затаіцца і мімікрываць, амаль да яго паўналецця, калі аднойчы бацька ўсё-такі не вярнуўся з работы — на той час ён выконваў абавязкі інжынера-пуцейца. Назаўтра завіталі адзін, потым асобна другі, два яго сябры-супрацоўнікі і паведамілі з перасцярогай, што Ласкова-старэйшага забралі.

Гэта, вядома, быў відавочны крах. Наперадзе былі голад, холад, адзінота — ён прадчуваў паразу. І тады яму асцярожна параілі проста з'ехаць, згубіцца дзе-небудзь у вялікім горадзе, на якой шумнай і шматлюднай будоўлі, а калі пашчасціць атрымаць пашпарт, то ўладкавацца дзе ў інтэрнаце і чакаць. «Моцныя часта мусяць чакаць, задавольваючыся нязначнай і малапрывабнай дзейнасцю», — патлумачылі яму. «А ты павінен быць моцным»...

Так ён і чакаў, крок за крокам, у холадзе, часта галадаючы, адваёўваючы сабе чарговы шанц на жыццё — хіба ён не меў такога права? Ён паспяхова скончыў рабфак, потым архітэктурны інстытут, крадком наведваючы кроўных, папярэдзіўшы іх увогуле нікому нават не ўспамінаць пра яго, бо ўжо ведаў: тады ў яго адбяруць усё.

* * *

Праз нейкі час начальніку будоўлі даслалі службовую паперу, у якой паведамлялася, што інжынер-канструктар па металакаркасах Марк Ласкоў у сувязі з прагрэсіруючай хваробай накіраваны ў лякарню па месцы былога жыхарства і працы, гэта значыць у Беларусь. У паперы выказвалася спадзяванне, што яму знойдзецца хуткая і надзейная замена.

Паколькі разгорнутая ў пэўным аб'ёме праца неадкладна патрабавала такой замены, яна, замена, неўзабаве знайшлася. Гэта была маладая жанчына, выхаванка сталічнай маладзёжнай арганізацыі, таксама інжынер-канструктар, можа, і не такі таленавіты, смелы і арыгінальны ў рашэннях, якім быў на пачатку сваёй працы Марка Ласкоў, але дастаткова падрыхтаваная і, да таго ж, станоўча зарэкамендавала сябе на будоўлях і ў грамадскім жыцці.

Так зборны дашчаты флігялёк зноў быў заняты і абжыты сваім новым прабывальнікам. Жанчыне-канструктару, а яе звалі Лідзія Д., уручылі разлікі ўнутранага і другаснага каркасаў, якія зрабіў яе папярэднік, і загадалі ў кароткі час усё праверыць і прывесці да адной роўніцы.

Для яе пацягнуліся будні, напоўненыя нялёгкай працай, але яна спраўлялася, а вечарамі нават выходзіла са свайго жытла на кароткі шпацыр —

да надыходу цемры, пасля чаго спяшалася назад. Аніякіх мужчын у яе флігелі не прыкмячалі.

Аднойчы, у час прыбірання, а Лідзія Д. рабіла гэта сама, змахваючы швабрай павуцінне, яна зачапіла верхнюю стойку, тая ад'ехала ўніз, і за шпалерамі яна выявіла плоскі, арыгінальна змайстраваны тайнік, з якога выпаў да яе ног невялікі стос дробна спісаных папер. Праз некалькі хвілін яна ўжо зразумела, што ў яе руках не што іншае, як дзённік яе наўзбежніка.

* * *

Ужо седзячы ў аўтазаку, ён ведаў, што яго крык, скіраваны ва ўсё тую ж пустату, і яго адзінота застануцца пры ім. Дый што і каму мог нехта пра яго паведаміць? Хіба толькі жанчына, якая прыходзіла амаль штодня, але і ёй ён мала што расказваў, можа, якую дробязь, не больш.

Ён раптам задумаўся пра сваё жыццё і холадна канстатаваў, што яно таксама прасякнута пустатой, як амаль усё жыццё тых людзей, якіх ён сустракаў. Хіба што адзінота, якая вылучала яго сярод іх, мела нейкую асаблівую напаўняльную вартасць? Урэшце, ці была тут яго віна? Ён жа зрабіў выбар і цяпер адказвае за гэта. Нянавісць захлынула яго з нечаканай сілай, але ён ведаў — усё дарэмна. Як дарэмнымі былі высілкі па ажыўленні незлічоных ёлупаў навокал. Як прайшлі ўпустую яго мары і жаданні. Нічога не варта чаго-небудзь, і так было, і так будзе — вось у чым праўда. І жыццё, і ўсе веды, якія тлумачаць гэтае жыццё, — усё мана, а само яно зноў-такі ўпіраецца ў пустэчу, у бездань, і не мае аніякага сэнсу. «Чалавек — подлы», — меркаваў ён. — Так было і, магчыма, будзе заўсёды, і ніхто не пераканае яго ў адваротным, а ўсе міфы, якія распаўсюджваюць вакол яго, — пустата. Пустатой вее адусюль, усё ахутана ёй, ды яшчэ маной. А хто бацька маны і сам першы падманшчык, нам разгадаць пакуль не дадзена, бо гэта ўжо справа, далёкая ад шляхоў чалавека...

## 2. Стод

Неяк незаўважна паўсюдна надышоў ужо зусім варты жалю час — час баязліўцаў, зайздроснікаў, стукачоў і паклёпнікаў, і людзі навокал існавалі вартыя жалю: баязлівыя і драбезлівыя — можна было толькі са скрухай гадаць, якое патомства яны дадуць на будучыню, і чаго яна будзе вартая, тая будучыня, пасля засмечвання наваколля такімі вось прабывальнікамі.

Гэта быў таксама і час адзіноты. Была ў яго і яшчэ адна характэрная адзнака, што вызначае паўсюдную нізасць, нікчэмнасць і дурноту, — гэта быў час амярцвення людзей і адпаведнага станаўлення ёлупаў. Постаці ідалаў амаль аднолькавага выгляду, выкананыя ў граніце, мармуры, бронзе, гіпсе і розных іншых матэрыялах, пазаймалі лепшыя месцы на плошчах, у скверах, ля ўрадавых устаноў і дамоў адпачынку, ля школ, вучэльняў і проста на цэнтральных, найбольш ажыўленых вуліцах.

Сапраўдныя старажытныя ёлупы і каменныя бабы, між тым, гнілі і прэлі ў балотах, куды іх скінулі ў даўнія часы. Але паганства раз-пораз напамінала пра сябе. Ідалаў зрэдку, калі-нікалі знаходзілі праз усеагульную меліярацыю, асваенне ворных зямель і проста дзякуючы чалавечай усюдыіснай цікаўнасці.

Марку Ласкову давялося ў дзяцінстве назіраць аднаго з такіх ёлупаў. Тады ён яшчэ не ведаў, што жыццё сутыкне яго з распрацоўкай новага і непараўнальна большага ідала.

...Чуткі пра тое, што ў некалькіх кіламетрах ад пасёлка, калі ісці ў напрамку на поўдзень, у напаўасушаных балотах выявілі постаць каменнага ёлупа, з'явіліся адразу, але праз нейкі час ціха зніклі — прыхаваны голад, галеча і пачуццё пастаяннага прыніжэння змушалі да штодзённых высілкаў дзеля выжывання. Тым не менш нехта зацікавіў трактарыстаў, якія працавалі непадалёку, і ёлупа, аблепленага тванню, з дапамогай троса не толькі выцягнулі з балота, а і паставілі на ногі (у тым сэнсе, што ў вертыкальнае становішча, бо ног у яго не было) у яму ад выкарчаванай сасны. Па баках пясок лёгка ўтаптаўся, і ёлуп узвысіўся ў сваю натуральную велічыню — дзесьці каля трох метраў.

Адметнай дэталлю выяўленага статуя (магчыма, менавіта па гэтай прычыне яго і паставілі вертыкальна — з цынічнага, усмешлівага задавальнення і прыхаванага інстынкту да разбурэння) быў фалічны сімвал, высечаны далёкім ці далёкімі продкамі-разьбярамі, а прасцей — фалас у стане эрэкцыі. Нягледзячы на гэтую быццам фрывольную адмеціну, ідал тым не менш не страціў ваяўнічага і пагрозлівага выгляду, нават наадварот: дзікаватае спалучэнне, якое трымала старажытнага разьбяра ў момант стварэння стода на мяжы рызыкі, дало ўсё-такі патрэбны вынік — ад постаці веяла цёмнай брутальнай сілай прымата і лютасцю. Пра каменнага ідала збіраліся было тэлефанаваць у вобласць, нават паведаміць вучоным, але ніхто не наважыўся на такую ініцыятыву — усе жылі ў боязі і сумневе. Так усё і засталося. Між тым, як заўсёды, знайшліся свае дысідэнты, паганцы, якія патаемна пачалі прыходзіць і пакланяцца каменнаму ідалу спачатку з цікаўнасці, а потым з пэўнай мэтай, і нават прыносіць да яго разнастайныя ахвяраванні і даніну.

Пачатак далі жанчыны. Менавіта паміж імі прайшла пагалоска, што постаць ёлупа валодае незвычайнымі ўласцівасцямі, і што тым, хто пакланяецца і ахвяруе яму, адпаведна аддасца. У прыватнасці, панавалі чуткі, што жанчынам, якія мараць зацяжараць ці зацяжараць як мага хутчэй, варта ўвайсці ў асабісты кантакт з ідалам праз яго фалас і такім незвычайным чынам паскорыць сваё жаданне. Казалі яшчэ цішком, што, наадварот, ад непажаданай цяжарнасці можна пазбавіцца, з'імітаваўшы з ёлупам палавы акт, і яшчэ шмат чаго: у розных напаўфантастычных дэталях (адкуль толькі да іх гэта прыйшло?) распаўсюджваліся афарбаваныя прымітыўным народным містыцызмам прымхі і наўрад ці дасканалыя магічныя веды. Але ўсё гэта, быццам кволыя вуглі ў прысаку, тлела дзесьці на водшыбах ды ў падсвядомасці абывацеляў і сялян.

З цікаўнасці іншым разам прыходзілі і дзеці.

...Марку Ласкову неўзабаве споўнілася дванаццаць, калі ён упершыню пабачыў ёлупа. Хлопчык забрыў да таго месца ў хмарны восеньскі дзень адзін, зусім не маючы нейкага намеру. У той час панаваў голад, і лес часта карміў людзей. Вось і шукаў у ім хлопец якіх грыбоў ці позніх ягад. Ёлуп нечакана ўзнік і ўзвышаўся над Маркам трохметровай істотай (на імгненне падлетку падалося, што пад гранітнай абалонкай ідала цепліцца жыццё), загадкава і пагрозліва пазіраючы на яго цёмнымі пранізлівымі вачыма (нехта ўставіў у іх, заляпіўшы з бакоў граззю, асклепкі разбітай бутэлькі), навакол валяліся косткі, некалькі чарапоў дробных жывёл, а на галінах дрэў віселі высахлыя птушыныя галовы. І раптам падлетак Марка Ласкоў захістаўся, ногі яго падагнуліся, і ён, страчваючы прытомнасць, павольна апусціўся на пакрытую гліцай і мохам зямлю.

Частка II
# ПЕРЛЮСТРАЦЫЯ
*(дзённік Маркі Ласкова)*

Красавік, 10

## 1. Клаўдзія

«...У сваім флігяльку я працаваў за кульманам, робячы чарговыя разлікі. Раз-пораз да мяне заходзілі знаёмыя інжынеры з будоўлі то адзін, то другі — хто параіцца, а хто проста крыху «пацырыкаць», яны мне зайздросцілі, што ў мяне прама на аб'екце свая жылплошча, дзе я магу працаваць і адпачываць, не марнуючы часу на дарогу. Я звычайна на тое напамінаў ім, што быў адмыслова выпісаны на будоўлю з іншай рэспублікі, і не кім-небудзь, а ў якасці інжынера-канструктара металакаркаса. Я дадаваў, што з такой задачай, як тут, азнаёмлены ўпершыню, і раней з гэтым сутыкацца не даводзілася. І яшчэ я шчыра казаў, што не ведаю, чаму выпісалі здалёк менавіта мяне — я малады, усяго за трыццаць гадоў, вопыту малавата, і нічым асаблівым сябе не зарэкамендаваў, ну хіба што было некалькі арыгінальных вытворчых праектаў і рашэнняў там, на радзіме.

Той-сёй з іх моўчкі слухаў, я прапанаваў сагрэць гарбаты і, апярэджваючы пахмельныя пажаданні, казаў, што спіртнога не трымаю — з гэтым было строга, і, паразмаўляўшы пяць-дзесяць хвілін для прачысткі мазгоў, тактоўна выправоджваў субяседніка.

Я ведаю, што многія з маіх наведвальнікаў заходзяць да мяне нездарма. Урэшце, адлучаючыся на будоўлю, я прыдумаў пакідаць на сваіх паперах розныя сакрэтныя ахоўныя знакі-праверкі: там шматок паперчыны, непрыкметна ўстаўлены сярод лістоў, там волас, які таксама ўкладваўся на паперы (а я амаль бландзін) , і быў таксама непрыкметны, і калі вяртаўся, то правяраў: у большасці мае знакі-меткі былі ссунутыя ўбок альбо ўвогуле знікалі. Вось тады мне і прыйшла думка: калі я буду нешта запісваць для сябе, то варта прыдумаць сакрэтны тайнік, накшталт міні-сейфа, што я неўзабаве і зрабіў.

...Сёння я звыкла гнуўся над чарцяжамі, калі раптам адчуў за спінай чыюсьці прысутнасць. Я абярнуўся: без стуку да мяне зайшла Клаўдзія — работніца мясцовай перасоўнай сталовай, куды я іншым разам забягаў пабедаць ці купіць чаго з сабою. Калі больш дакладна, яна мела пасаду загадчыцы вытворчасці.

Я зірнуў на яе. Клаўдзія была вышэй сярэдняга росту, нават высокая, з рэзкімі рысамі твару, цёмнавалосая і коратка стрыжаная, з прыгожым ротам каханкі і амаль зялёнымі, драпежнымі вачыма. У руках яна трымала хатулёк, з якога выторкваліся вялікі тэрмас, талеркі і алюмініевы салдацкі кацялок.

— Што ты, Клаўдзія? — спытаў я.

Яна ўсміхнулася. Зубы ў яе былі белыя, вострыя і роўныя.

— Загадалі насіць вам абеды прама сюды, — адказала яна, не адводзячы ад маіх вачэй свайго крыху лянiва-ліпкага позірку.

Я ўзяў з яе рук хатулёк, прычым пальцы нашы сутыкнуліся, і змахнуў са стала паперы. Жаданне раптоўна ўзнікла ўва мне і расцяклося па целу. У роце стала суха.У мяне даўно не было жанчыны.

— Чаму, Клаўдзія?

Яна пацiснула плячыма. На ёй была кофта і лёгкая сукенка крыху ніжэй каленяў. Яна абвяла вачыма мой захламлены пакойчык, падышла да ложка і пачала засцілаць яго акуратна і па-свойму.

— Вы не ясце? — спытала яна, не абярнуўшыся.

— Не, — адказаў я, і дадаў: — Давай на «ты». Я ненамнога старэйшы за цябе.

Клаўдзія, не адказаўшы, раптам скінула туфлі і лягла на ложак, сагнуўшы калені і шырока рассунуўшы іх. Ногі яе агаліліся. Яна зірнула мне ў вочы і ўсміхнулася:

— Потым паясі.

Мне засталося павярнуць у дзвярах ключ і скінуць камбінезон. Хвіліны праз тры я, здрыгаючыся, бурна выліўся ў яе.

Так я нечакана вырашыў сваю сексуальную праблему. Клаўдзія аказалася вопытнай каханкай. Яна давяла мне, што як толькі мы пабачыліся на будоўлі, то я ёй адразу спадабаўся, і не за што-небудзь там асаблівае, а за вочы: яны, сказала Клаўдзія, у мяне сінія, а гэта яна ўвогуле ўбачыла ўпершыню, бо сярод тутэйшых мужчын такога не назіраецца. Жанчыны на будоўлі, якіх яна ведае, гаварыла Клаўдзія, нават паспрачаліся паміж сабой, каму з іх я дастануся, але яна вырашыла, што толькі ёй, і нікому больш.

Я слухаў гэтую звычайную жаночую балбатню, але не надта верыў ёй. Мяне на нейкі момант зацікавіла яе сямейнае становішча: напрыклад, замужам яна ці не? Аднак я не задаў аніводнага пытання — навошта? Калі захоча, то скажа сама, але, думаў я, наўрад ці яна што шчыра раскажа, нешта тут было не тое.

Мы ляжалі голыя на ложку, прама на коўдры. Завушніцы ў вушах маёй нечаканай каханкі таксама былі, на мой погляд, занадта дарагімі нават для загадчыцы вытворчасці ў сталовай. Але я нічога не сказаў ёй пра гэта. Праз хвіліну Клаўдзія закінула на мяне сваю доўгую нагу, потым села, ашчаперыўшы мае сцёгны і сціснуўшы зубамі вялікі палец маёй левай рукі, які пачала смактаць, і на гэты раз усё было вельмі працягла ў часе, нехта грукаў у дзверы, мы не звярталі ўвагі, урэшце яна ўся затрымцела, ловячы аргазм, вочы яе злёгку прыжмурыліся і заслаліся пажадлівай паволокай, я неўзабаве зноў выліўся ў яе, і мы задрамалі на якую хвіліну. У дзверы ў чарговы раз нехта пагрукаў, але хутка сышоў, я апрануўся і сеў за стол. Боршч у тэрмасе быў зусім гарачы, яшчэ цёплыя былі і катлеты з макаронай. Клаўдзія есці адмовілася, толькі прагна выпіла мой кампот і, счакаўшы, пакуль я ўсё хутка праглынуў, сабрала хатулёк і моўчкі выйшла за дзверы. Я зноў сеў за працу.

* * *

Дарэчы, пра яе, гэтую працу, больш падрабязна. Мне падпіскай забаранілі гаварыць пра тое, над чым я працую, нават вызначаць, дзе — усё было, так бы мовіць, зарэтушыравана вэлюмам сакрэтнасці, хаця ў час кароткіх вылазак-вандровак за тэрыторыю будоўлі я ў чэргах ля піўных бочак чуў, што зрэдку асцярожна прамаўлялі адзін аднаму абачлівыя абывацелі: за трохметровым парканам заліваецца фундамент гіганцкага Палаца, які, як меркавалася, будзе адным з самых вялікіх і высокіх у свеце.

Урэшце, гэта ў агульных рысах так і было, але яны не маглі ведаць дэталяў: у іх то і быў найбольш сенсацыйны фактар. Сам Палац павінен будзе ўяўляць сабой гіганцкі комплекс у некалькі сотняў метраў з дзвюма

вялікімі заламі — на 25 тысяч чалавек кожная, і малой — на 5 тысяч. Па габарытах Палац павінен стаць звышвялікім і высокім (каля 600 метраў) будынкам у свеце, але і гэта не ўсё. Цяпер я паведамляю тое, чым непасрэдна займаюся сам, і што за важнае і сакрэтнае даручэнне меў. На версе вышыннага шпіля-п'едэстала запланавана ўстанавіць статую Правадыра, якая павінна быць і будзе нашмат цяжэйшай, больш аб'ёмнай і вышэйшай за знакамітую статую Свабоды. Вось параметры. Рост — 120 метраў, даўжыня правай рукі — 45 метраў, указальнага пальца — 6 метраў, аб'ём біцэпса — 12 метраў. Акружнасць грудзей — 70 метраў, даўжыня спіны — 50 метраў. У левай руцэ Правадыр будзе трымаць кепку, даўжыня якой — 13 метраў. У правай павінна быць размешчана аглядальная пляцоўка — на вышыні прыкладна каля 600 метраў.

Гэта агульныя дэталі грандыёзнейшага праекта, які мае быць ажыццёўлены ў бліжэйшы год-два — урэшце кіраўніцтва будоўлі ціснулі зверху, і тэрміны вызначаліся аптымальна сціслыя.

Магчыма, у сувязі з гэтымі абставінамі, а можа, у нашай вялікай супольнай краіне было так заўсёды прынята, любая будоўля звычайна поўнілася «ліхімі» людзьмі: блатнымі, люмпенамі ўсіх масцей, сінімі ад адмысловых татуіровак былымі зэкамі-крымінальнікамі, проста прыблатнёнымі — і мая радзіма, як я ведаў, заўсёды прагна цягнулася да блатнаты і непадробна, па-халопску трымцела перад іншародцамі, якія трапна і ўмела скарыстоўвалі гэта. І цяпер на будоўлю Палаца набіралі амаль усіх жадаючых, тых, хто трапляў пад руку, не надта разбіраючыся ў іх асабістых справах, дакументах і біяграфіях. Зверху, між тым, жорстка пагражалі адсідкай і іншымі карамі, усутыч да вышэйшай меры, і не толькі за невыкананне плана.

Начальнік будоўлі пакуль рэдка выклікаў мяне — абмяжоўваўся заўвагамі і загадамі на штодзённых ранішніх планёрках, але днямі прыняў асабіста і тэт-а-тэт гаварыў са мной роўна пятнаццаць хвілін — я засёк час. Для яго гэта нават нязвыкла многа. У яго абліччы выдзяляліся стомленыя чорныя вочы на квадратным масіўным твары, якія часам адсвечвалі крыважэрным і ліхаманкавым бляскам: асабліва, калі ён злаваў ці спрачаўся з кім-небудзь. Зараз ён быў амаль што ў гуморы і сказаў мне, запрасіўшы сесці, наступнае:

— Калі ў тваіх разліках па ўнутраным каркасе будзе самая дробязная памылка, а такія памылкі на вышыні пасля ўстаноўкі выяўяцца амаль адразу, — ты будзеш спачатку закатаваны, а потым, калі яшчэ жыццё цябе не пакіне, расстраляны. Тое ж, што я патрабую ад цябе, растлумач у адвольнай форме, памятаючы пра сакрэтнасць, сваёй камандзе: памочнікам, тэхнікам, слесарам і іншым, уключна да прыбіральшчыцы. Ніхто з вас не павінен зрабіць нават самай маленькай памылкі. Ты зразумеў?

— Так, — адказаў я.

Ён расшпіліў каўнер фрэнча і спыніў на мне свой цяжкі позірк.

— Ты чытаў Правадыра? — зусім нечакана спытаў ён.

— У ходзе падрыхтоўкі і здачы экзаменаў у інстытуце, — адказаў я, не падаючы выгляду, што здзіўлены.

— А колькі разоў ты наведваў Маўзалей?

Я сумеўся, але, унутрана махнуўшы на ўсё рукой, зноў сказаў праўду:

— Ніводнага разу.

— Чаму?

— Не было часу, і да таго ж я дрэнна ўспрымаю нябожчыкаў.

Але ён, здаецца, быў вельмі задаволены маім адказам.

— Там у вас, на Беларусі, сустракаюцца надзвычай праўдзівыя і шчырыя людзі, — адзначыў ён. — Можа, і ты з такіх? Га?

Я паціснуў плячыма.

— Добра, што не круціш чэлясам і не маніш мне, — працягваў начальнік будоўлі. — Але слухай уважліва: табе трэба ўжыцца ў вобраз, разумееш? Адчуць усю веліч думак Правадыра і веліч таго, што мы намераны стварыць. Яго кнігі табе прынясуць, а каб наведаць Маўзалей — выбераш бліжэйшы выхадны. Постаць Правадыра, — дадаў яшчэ ён, — трэба зрабіць жывой, нібы апладнёнай, і гэта павінна быць асноўнай тваёй мэтай.

Ён яшчэ у двух-трох фразах абмовіўся пра нашу вялікую адказнасць за ўвесь праект, і за адказнасць перад усім светам — няўдачы проста не павінна здарыцца, гаварыў ён, інакш жыццё кожнага з нас не будзе вартым і пляўка, і пасля гэтага кіўком даў мне зразумець, што размова закончана.

Я ўскочыў з крэсла і, не задаўшы аніякіх пытанняў, выйшаў.

На другі дзень пасыльны прынёс да мяне ў флігялёк першыя дзесяць тамоў з твораў Правадыра. Я распісаўся ў атрыманні, як гэта ў нас было заведзена.

Клаўдзія прыходзіць да мяне раз на дзень, у абедзенны перапынак, акрамя выхаднога дня, які належыць нам, будаўнікам, адзін на тыдзень. Урэшце, калі на будоўлі падціскала з планам, а такі план мусіў выконвацца бясспрэчна, працавалі і ў выхадныя. Але дзень быў скарочаны, да абеду, і ў сталоўцы ў такі дзень, як звычайна, не кармілі.

Клаўдзія — хоць і невялікі, але начальнік у сваёй сталовай. Яна заўсёды спяшаецца, апраўдваючыся тым, што яе чакаюць на месцы працы, і мне даводзіцца есці абед ужо без яе і адносіць потым посуд у сталовую: Клаўдзія настаяла, каб я гэта рабіў і не пакідаў ёй назаўтра брудныя талеркі.

Неяк яна пацікавілася, жанаты я ці не, і я адказаў, што не. Але як толькі я раскрыў рот, каб, у сваю чаргу, спытаць тое ж у яе, Клаўдзія, гледзячы мне ў вочы і ўсміхнуўшыся, адмоўна пахітала галавой — яна яшчэ раней патрабавала ў мяне, каб я не задаваў ёй аніякіх асабістых пытанняў. Пакуль ёй усё гэта, таямнічае і незнаёмае, пэўна, толькі прысалоджвае секс. У нас прыкладна гадзіна з нечым, і яна выкарыстоўвае яе, кожны раз разнастайваючы ў ложку ўсё, што ведае ў гэтым, так бы мовіць, накірунку, а ведае яна нямала. Нават у свае «крытычныя» дні яна з задавальненнем ужывае аральны кантакт, пасля чаго, выпіўшы мой кампот, спехам ідзе на працу. Лёгкая ў хадзе, толькі веснавы вецер трэпле вакол яе стройных ног сукенку.

Днём мне не хапае часу, але позна ўвечары я часта ўспамінаю яе, з кожным разам забіваючы голаў усё большаю колькасцю сумневу: хто ты, на самай справе, Клаўдзія?»...

Красавік, 15

## 2. Цела

«...Аднойчы я спытаў Клаўдзію, ці не хоча яна пабыць са мной у выхадны дзень і пагуляць крыху па горадзе, які я, дарэчы, пакуль дрэнна ведаю, вось толькі з раніцы планую зрабіць шпацыр да аднаго цікавага для мяне месца, а потым мы вольныя рабіць што хочам.

— Якога месца? — спытала яна, распранаючыся і бессаромна разглядваючы па чарзе свае ўзнятыя ўгару доўгія ногі.

— Маўзалей.

Яна засмяялася.

— Ты, пэўна, жартуеш, дызайнер?

— Не.

Я па магчымасці коратка расказаў ёй пра гутарку з Галоўным і яго прапанову, неасцярожна дадаўшы, што асабіста лічу ўсё гэта дурнотай, якая апанавала цэлы народ.

— Тады чаму ты на яе працуеш? На дурноту.

— Мяне забралі амаль гвалтам і, не пытаючы, хачу гэтага ці не, прывезлі сюды, — патлумачыў я, ужо надта не стрымліваючыся. — Больш за ўсё я хацеў бы дамоў!

— Проста ўсе вы баязліўцы, — прамармытала Клаўдзія. — Ты б адмовіўся і кропка. Але, — дадала яна, усміхаючыся, — тады б мы не сустрэліся ніколі.

Я хацеў расказаць ёй пра бацьку, але прамаўчаў.

— Ну, што ты чакаеш? — спытала Клаўдзія. Яна ляжала голая, у сваёй позе нумар адзін — сагнуўшы ногі у каленях і рассунуўшы іх.

Але я раззлаваўся. Нешта ўва мне супраціўлялася яе словам.

— Я не баязлівец, — сказаў я. — Гэта зусім не так.

— Пакрыўдзіўся?

І тут мяне нібы прарвала. Я закрычаў на яе, каб легла нармальна, і пачаў расказваць ёй пра бацьку, пра тое, што чакаю ўвесь час наступстваў з іх боку, а можа яны якраз усё і ведаюць і прывезлі мяне сюды з разлікам, што я буду высільвацца над іх ср..м праектам і — баяцца іх, буду заўсёды пад каўпаком, а калі зраблю крок убок, то адразу буду знішчаны, нават калі стану тут вар'ятам, і хіба не гаворыць сама за сябе штодзённая адсочка за мной? І не выключана, што я ніколі не траплю дамоў!

Клаўдзія слухала моўчкі, толькі пагладжвала мяне па твары, быццам была нашмат старэйшая, і я таксама хутка замаўчаў. Неспадзяваная мая тырада толькі засмуціла мяне. Час ішоў. Рука Клаўдзіі слізнула па маім жываце і ніжэй, дыханне яе пачасцілася, а вочы затуманіліся жаданнем і асалодай. Смочкі яе невялікіх, шырока расстаўленых грудзей былі цвёрдыя і халаднейшыя за скуру на шыі і плячах. Я па чарзе злёгку пакусваў іх, запусціўшы пальцы між яе вузкіх бёдраў, ад чаго яна ўскрыкнула і застагнала. Ногі яе рассунуліся, я перамясціўся паміж іх і ўвайшоў у яе. Праз некалькі хвілін яна сутаргава затрымцела ў маіх абдымках, а пасля мы змянілі позу, Клаўдзія зноў запалілася, але тут нехта заторгаў дзверы, а потым пачаў грукаць у іх, і яна адразу сцішылася, прыслухоўваючыся. Я зірнуў на ходзікі на сцяне: час абеду даўно прайшоў, у дзверы зноў пагрукалі — мы таропка і неахвотна пачалі апранацца. Потым я зірнуў у акенца, каб упэўніцца, што непажаданы наведвальнік сышоў, і выпусціў Клаўдзію, пасля чаго сеў за стол і з'еў прынесены ёю абед.

* * *

Назаўтра быў выхадны, і я паехаў на Цэнтральную плошчу. Як мне там растлумачылі, чаргу, каб хутка, надта не чакаючы, трапіць у Маўзалей, трэба было займаць аж а пятай гадзіне раніцы. Я ж апынуўся тут каля дзесяці.

Чарга з аднастайна і безгустоўна апранутых людзей цягнулася цераз усю плошчу, і кантралявалі яе міліцыянеры ў форме. Я стаў у канцы за стрыжанай пад хлопца дзяўчынай і дзядзькам перад ёй у саламяным капе-

люшы і пачаў марудна рухацца разам з усімі ў напрамку да склепа з вартавымі. А паколькі чарга ў некалькіх месцах мела спіралепадобную структуру, чакаць мне трэба было дастаткова доўга, у думках я вылічыў яе даўжыню — дзесьці каля паўтара кіламетра. Там-сям у чарзе ўспыхвалі непрацяглыя размовы, людзі размаўлялі чамусьці ціха, да іх звычайна, быццам прагульваючыся, падыходзіў стрыжаны пад бокс малады чалавек і паслухаўшы, пра што гавораць, зноў вяртаўся на сваё месца. Я беспамылкова вылічыў у ім службоўца з органаў бяспекі — іх тут, пэўна,было некалькі: можа, дзесяць, а можа, і больш, каб прыглядваць увесь час за натоўпам і слухаць, пра што гавораць людзі.

Я, дарэчы, з цяжкасцю ўспрымаю натоўпы. Калі людзей шмат і да таго ж цесна, я заўсёды імкнуся як мага хутчэй змяніць сітуацыю і выбрацца на большую прастору. Ліфты і малааб'ёмныя памяшканні таксама не спрыяюць майму адчуванню камфорту і самаспакою. Магчыма гэта клаўстрафобія ў зародкавым стане, а можа, што іншае. Я апантана не люблю чэргі, але тут вакол была адносна вольная плошча, і я мог у любую хвіліну пакінуць сваё месца, і таму працягваў цярпліва чакаць, па сантыметрах рухаючыся наперад. Потым я ўсё-ткі вырашыў сысці, але дзяўчыну наперадзе раптам хіснула — нехта ўкліньваўся ў чаргу, і яна на кароткае імгненне прыхілілася да мяне ўсім сваім маладым, гнуткім целам. Мая ўвага адразу пераключылася на яе, я разгледзеў яе больш пільна: яна была стройная, вузкая ў клубах, з шырокімі плячыма, пэўна, якая спартсменка, можа плыўчыха, вырашыў я. Чымсьці няўлоўным яна напомніла мне Клаўдзію, я аддаўся ўспамінам пра нашу мінулую сустрэчу, ад чаго неўзабаве выявіў, што знаходжуся ў стане эрэкцыі.

Ад бяздзеяння — я нават не захапіў з сабой якой газеты , каб пачытаць і тым самым неяк скараціць бег часу — я паволі, як кінастужку, прагнаў у памяці ўсё, што мы рабілі з Клаўдзіяй у мяне ў ложку, потым уявіў, як я зрабіў бы гэта са стрыжанай пад хлопца дзяўчынай-спартсменкай, і так паволі рухаўся далей, засяроджаны на сваіх рызыкоўна раскаваных думках.

Прайшло даволі шмат часу. Урэшце я аказаўся ў зоне, так бы мовіць, павышанай увагі і засяроджанасці. Некалькі вайскоўцаў змянілі ўжо міліцыянтаў і кіравалі чаргой. Натоўп і я разам з ім паволі зацёк у памяшканне і пакрысе трапляў у залу, дзе і месцілася шкляная труна з целам Правадыра.

Да гэтага часу я ўжо моцна стаміўся, мне нічога больш не хацелася, нават есці, хаця нічога не еў з раніцы. Я раптам убачыў пад шкляным каўпаком падобнага на ляльку Правадыра. У нябожчыка, а ён быў у цёмным касцюме, быў даволі ружовы ці жаўтлявы, а мо мне так здалося, ненатуральны твар, знізу парослы бародкай, вочы заплюснуты, рукі ляжалі не як звычайна, на грудзях, а ніжэй, прыхінаючыся адна да адной. Людзі, утаропіўшыся ў той бок, рушылі далей, дзе пасля выходзілі ўздоўж сцяны і зноў траплялі на плошчу.

Я, нягледзячы на тое, што было ніякавата, памкнуўся больш уважліва разгледзець усё: труну, самога нябожчыка ў ёй, і таму неяк незаўважна для сябе зрабіў у той бок крок, а потым другі, да мяне ўжо моўчкі пасунуліся двое ў цывільным, але я паспеў зрабіць яшчэ адзін крок, і ўжо значна бліжэй зноў убачыў ружова-шэры, ільсняны, невялікіх памераў твар, шэрыя ж кісці рук, — невытлумачальнае пачуццё ахапіла мяне, быццам у далёкім дзяцінстве, калі я аказаўся адзін у лесе перад цёмным ідалам. Мне

ўжо зблажыла, не хапала паветра, я адчуў цвёрды дотык рук тых, дваіх, якія, адзін загарадзіўшы ад натоўпа спінай, другі — ненадакучліва, але досыць настойліва, упіхнулі мяне ў бакавую нішу, пакойчык, дзе я і плюхнуўся на лаўку.

— Хто вы такі? Дакументы!

Яны бесцырымонна праверылі кішэні, абмацалі мой касцюм і плашч. Я аддаў ім пасведчанне з месца працы за подпісам начальніка будоўлі і патлумачыў, што дрэнна ўспрымаю недахоп свежага паветра. Здаецца, іх гэта цалкам задаволіла. Мяне вывелі асобна, правёўшы праз іншыя дзверы ўздоўж сцяны, пасля чаго я зноў апынуўся на плошчы...»

Красавік, 21

### 3. Суботнік

«... На будоўлі аб'яўлены чарговы суботнік з нагоды дня нараджэння Правадыра. «Са святам!» — вітаюць усе адзін аднаго. Некаторыя пры гэтым прыціскаюць рукі да сэрца, нагінаюцца з робленай усмешкай ледзь не да зямлі, а то і ўвогуле ненатуральна звіваюцца ўсім целам. Пагарда спее ўва мне, мяжуючы з цягам на ваніты. Праз некалькі гадзін, як я ведаю, усе яны нап'юцца і разбрыдуцца па сваіх засмечаных тараканамі і мухамі бараках, а некаторыя будуць піць да цемры.

Клаўдзіі на суботніку не было — яна раней папярэдзіла мяне, што паедзе на склады па прадукты.

Што яшчэ нядобра здзівіла на «святе працы», дык гэта знешне прыхаванае адсочванне адзін аднаго: хто як працуе — ці выкладваецца поўнасцю, ці толькі робіць выгляд, што заняты працай. Пры гэтым цалкам не выключаныя наступствы ў выглядзе заўтрашніх даносаў, разборак на сходзе, пазбаўлення грашовых прэмій, а то і самага горшага, што можа здарыцца тут з любым чалавекам, — пільнай цікавасці карных органаў. Таму гэтыя відазмененыя рабы, няйнакш, падганяючы адзін аднаго і калі-нікалі выкрыкваючы псеўдапатрыятычныя лозунгі, злосліва пасвяць сябе самі, не дазваляючы нават перакуру ці звычайнага адпачынку. Урэшце, думаў я з горыччу, і на маёй радзіме тое ж самае. Раптам мне ўспомніўся дом, дзе я нарадзіўся, бацькі, рэчка і паплавы за ёй, над якімі летам з крыкамі лёталі кнігаўкі. Туга ахапіла мяне. Калі іншыя народы ў часе заваявальных паходаў, сутычак і войнаў прыводзілі з сабой палонных, каб прымусіць потым працаваць на сябе, гэта значыць рабоў, то ў гэтым краі ўмудрыліся загнаць у прыгон істотную большасць сваіх жа Івашак і Палашак, меркаваў я. Адсюль дзікунскія ўспышкі халопскай нянавісці да класа гаспадароў, якія ў рэшце рэшт выліліся ў так званую вялікую кастрычніцкую рэвалюцыю. А што ў ёй было вялікага? Голад, кроў, галеча. Хіба што постаць ідала, якога зрабілі месіяй, а сапраўднага месію зноў з асалодай распялі і выкінулі з храмаў. Цяпер гэтая постаць павінна ўзвысіцца над усім жывым і здаровым, і з вышыні сотняў метраў (нашмат вышэй за статую Свабоды ў далёкай і клятай Амерыцы) махаць усім рукой і ківаць галавой... Так я думаў, корпаючыся ў абломках і смецці, цягаючы насілкі з растворам і цэглай і амаль штохвілінна адказваючы на прывітанні і віншаванні супрацоўнікаў лабараторыі, адміністрацыйнага аддзела, начальнікаў і сваіх нешматлікіх падначаленых — урэшце мне гэта надакучыла яшчэ больш, чым бессэнсоўная праца, і я толькі ківаў у адказ, а потым перастаў рабіць і гэта...

* * *

Значна вальней, у адрозненне ад нас, ітээраўцаў, адчувалі сябе на гэтым, так званым, святе працы люмпены і прыблатнёныя. І хаця тут не было падканвойных — усё-такі амаль цэнтр сталіцы, адкіды грамадства, якіх, тым не менш, аб'явілі «сацыяльна блізкімі» і «рэвалюцыйным элементам», раз-пораз траплялісь перад вачыма то паасобку, то цэлымі купкамі. Па будоўлі паўзлі чуткі пра зарэзаных, зацэментаваныя трупы, прайграных у карты, пра нейкую секту, члены якой, нібы вампіры, пілі кроў з жывых ахвяр, а потым тапілі тых у катлаванах.

Небяспечнымі, на мой погляд, тут з'яўляюцца і так званыя «хімікі» — тыя, хто ўжо «адцягнуў» большасць асноўнага тэрміну і атрымаў адносную волю на будоўлях. Сярод іх я назіраю асобін (назваць іх людзьмі не паварочваецца язык), чыя спадчынная дэгенерацыя зайшла занадта далёка, а паняцця маральнасці не існуе ўвогуле. Як ні дзіўна, улады адносяцца да іх ледзь не памяркоўна, тым самым вызначаючы тоеснасць паміж імі і сабой.

У многіх з іх я бачыў шматлікія тататэмічныя адзнакі прыналежнасці да пэўнага крымінальнага рангу: абавязковую фіксу з жоўтага металу на пярэдніх зубах (звычайна металічныя каронкі ставіліся імі на здаровыя зубы), татуіроўкі на самых розных частках цела (тут вызначаліся рукі, плечы і спіны) і характэрную вопратку ў адрозненне ад так званых «рабацяг», апранутых у брудныя і падраныя куфайкі, паласатыя цельнікі, якія, дарэчы, лічыліся сярод іх надзвычай каштоўнымі, кепкі-васьміклінкі, курткі фасону «лыжніца», а на нагах — хромавыя боты ці чаравікі пад нагавіцамі «клёш», у падруб якіх зашываўся шрот — для асаблівага форсу.

Яны размаўляюць паміж сабой на дзіўнай сумесі, ці, як кажуць на маёй радзіме, — трасянцы з «фені» і невялікага запасу слоў дамінуючай мовы. Вядома, прэваліруе «феня». Як я ведаю ад юрыстаў, блатны жаргон налічвае ў сваім лексіконе сотні тысяч слоў, выразаў і фразеалагем, з якіх можна скласці некалькі (каля сямі) тамоў. Ніводны народ (і мой таксама) не можа вызначыцца такім своеасаблівым моўным феноменам. Лексіку «фені» часта скарыстоўвае і тэхнічная эліта: на планёрках, падчас работ, калі даводзіцца непасрэдна кантактаваць з так званым пралетарыятам.

Зрэшты, як я іншым разам мяркую, і мы ўсе на нашай адноснай свабодзе (у параўнанні, напрыклад, з турмой ці лагерам) таксама выспавядаем прынцып «зоны». «Пахан» — ён жа «генсек», «аўтарытэты» — яго сілавыя ўрадоўцы, «шаманы» — палітрукі, «смотрящие» — фінансісты, эканамісты, «шасцёркі» — абслуга, памагатыя, «рабацягі» — пралетарыят і сяляне. «Хіба не жыве ўся краіна па гэтым прынцыпе?» — думаў я, кідаючы рыдлёўкай раствор і цягаючы яго потым насілкамі. Думка гэта настолькі авалодала мной, што я страціў усялякую пільнасць.

Непадалёку гулялі ў карты прыблатнёныя, якія, пэўна, даўно ўжо не працавалі. Сонца прыгрэла, і некаторыя з іх скінулі куфайкі, падстаўляючы пад цёплыя, веснавыя промні «распісаныя» спіны і грудзі. На адным з іх я ўбачыў не зусім якасную выяву Карла Маркса і Правадыра.

Як ты думаеш? — спытаў я напарніка (ітээраўца, чыё прозвішча не магу нават успомніць), які цягаў разам са мной насілкі, і кіўнуў на блатара: — Калі да гэтых двух выяў у яго на спіне далучыцца трэцяя?

Мы якраз спыніліся, каб адпачыць. Мой напарнік сціснуў сківіцы, як скамянелы, і замаўчаў. Я таксама больш не ўсчынаў з ім размовы.

Я часта думаю пра цяперашняга Правадыра. Калі тое, што я тут напішу, стане вядома, мяне закатуюць у сутарэннях, але я ўсё-такі мушу даверыць паперы тое, што ні пры якіх абставінах не скажу ўголас.

Па-мойму, цяперашні Правадыр таксама, а, можа, яшчэ ў большай ступені ўвасабленне д'ябла. Калі ён пражыве хаця б дзесяць год і больш, краіну чакае пагібель, і, тым не менш, народ абагаўляе яго. Паэт казаў: «Люди холопского звания сущие псы иногда: чем тяжелей наказание — тем им милей господа...»

Але ж узнікае, між тым, пытанне: чаму цяперашні Правадыр з такім нечалавечым імпэтам услаўляе і ўшаноўвае памяць свайго папярэдніка, цела якога старанна даглядаецца ў Маўзалеі? Яму больш лагічна было б зняславіць таго праз сродкі інфармацыі і тым узвялічыць самога сябе. Але гэтага не здараецца, што, на першы погляд, нават дзіўна. Ды толькі на першы погляд. Мяркую, справа ў тым, што абое, так бы мовіць, рабое. Магчыма, наша Зямля падпарадкоўваецца не боскаму наканаванню (Бог жа пакуль маўчыць), а сатанінскай сіле, якая мэтанакіравана ўсяляецца ў асобна абраных людзей, а далей ужо ідзе адзін і той жа сцэнар: гэтыя актыўныя псіхапаты становяцца праваднікамі лакальнай, а то і глабальнай метафізічнай мутацыі, якая вядзе звычайна да страты цэлага этнасу. Д'ябал схільны да самазнішчэння — хіба не так? Дык вось, каб не застацца адыёзнай постаццю, цалкам верагодна, што цяперашняму Правадыру мэтазгодна прыкрыцца сваім папярэднікам і працягваць агульную, д'ябальскую справу. Пэўна, адсюль і фантастычны праект больш як стометровай постаці наўзбежніка, якая, магчыма, будзе стагоддзямі вісець над гэтым мегаполісам, над краінай і над народам, які абагаўляе сваіх катаў. «Чалавек — подлы» — вось у чым прычына...

У адно з маіх таемных наведванняў роднага дома маці расказала мне, што бацька, які не хадзіў у царкву, каб не наклікаць бяды (калі храм наведваў хто маладзейшы за сямідзесяцігадовага, за ім пачыналі сачыць), аднойчы ўсё-такі пайшоў да святара на споведзь. Праз некалькі дзён пасля таго яго забралі. Маці, па наіўнасці, зусім не звязала паміж сабой гэтыя дзве падзеі, але я адразу супаставіў і зрабіў выснову: святар меў сувязь са служкамі д'ябла.

Цяпер надзеі няма нідзе. Я пішу гэтыя радкі ў безгалосым дзённіку, бо нават падзяліцца думкамі — смяротна небяспечна. «Здай пяць мыслячых і можаш быць вольны». І зусім не трэба нішчыць усіх, увесь народ (гвалту не абярэшся) — гэта яны зразумелі і пралічылі. Варта знішчыць большую частку яго эліты, і ён ужо не падымецца ніколі. З ім тады можна будзе рабіць усё: апускаць, марыць голадам і нечалавечай працай, выкарыстоўваць замест гарматнага мяса, разбэшчваць маральна да поўнага аскаціньвання і скіравана, раз-пораз, падчышчаць фізічна».

Красавік, 26

## 4. Фактар двайніка

«...Вечарам я разгарнуў адзін з прынесеных мне тамоў Правадыра і пачаў чытаць. Як я ні імкнуўся сканцэнтраваць увагу на прачытаным, сэнс яго ўпарта выскокваў у мяне з галавы. Пачуццё невытлумачальнай тугі раптоўна ахапіла мяне. Калі адкрыццё становіцца даступным і вочы раскрываюцца, мяне заўсёды апаноўвае сум. Артыкул (гэта была цэлая філасофская праца Правадыра) насіў назву «Матэрыялізм і эмпірыякрыты-

цызм». Урэшце з пачуццём узмацнелай тугі я адкінуў гэтую квазізначную слоўную эквілібрыстыку ў кут. Перагартаўшы дзесятак тамоў, я задумаўся. Пустата! Я знайшоў слова, якое вызначыла ўвесь шлях чалавека, у якім я падазраваў інкуба. Як казалі ў мяне на радзіме — Талалай! Але, Талалай апантаны сатанінскімі сіламі. Так, пустата і больш нічога! Ніводнай яркай, шляхетнай і праўдзівай думкі, за якую можна зачапіцца. Мана! І гэтую ману прадстаўляюць як самае мудрае і самае чалавечнае? Значыць, меркаваў я, шукай за гэтым самае подлае і бесчалавечнае. Раптам нібы заслона ўпала з маіх вачэй: чым я ўвогуле тут займаюся? Над якім праектам працую? Мая праца дасць што-небудзь карыснае маёй няшчаснай радзіме, таму ж чалавецтву? Мне, урэшце?

Ноччу мне сасніўся бацька. Раней я ніколі не бачыў яго ў сне. Мы быццам селі за стол, каб паесці, ён хутка з'еў сваё — усё, што было на талерцы, і, гледзячы мне ў вочы, забраў мой хлеб і моўчкі, прагна з'еў і яго.

Я чамусьці расказаў свой сон Клаўдзіі. Гэта было ўдзень, па абедзе. Спустошаныя, мы проста ляжалі, лянiва аддаючыся кожны сваім думкам. Я парушыў гэтую паўзу проста так, каб урэшце нешта сказаць.

— А дзе твой бацька зараз, ён жывы? — спытала Клаўдзія.

— Не ведаю, — неабдумана, у напаўдрымоце адказаў я.

— Дзіўна, — не адставала Клаўдзія. — Як гэта не ведаеш?

— Так. Я даўно не быў на радзіме.

Я замаўчаў. Клаўдзія яшчэ разы два спытала нешта па інерцыі, але я перавёў гутарку на іншую тэму. А потым у дзверы пагрукалі. Час абеду скончыўся, трэба было працаваць.

* * *

...Я папярэджаны, што калі нават звар'яцею, то мяне ў сувязі з незавяршэннем працы таксама расстраляюць, і я запісваю свае думкі, якія наўрад ці хто прачытае пры маім жыцці. Вядома, мяне могуць аб'явіць вар'ятам, але, тым не менш, я мушу патлумачыць сваю тэорыю.

Тычыцца яна непасрэдна маёй працы, а больш дакладна, постаці Правадыра, над металакаркасам якой я мушу праводзіць усебаковыя доследы.

Пачну здалёк. Неяк, заканчваючы дыпломны праект, я завітаў у цэнтральную бібліятэку, а менавіта ў спецзахоўванне, маючы допуск па пратэкцыі майго кіраўніка толькі да адной кнігі. Не памятаю ўжо, як яна дакладна называлася, дый гэта наўрад ці будзе каму цікава, а больш цікава тое, што калі я прагледзеў тую кнігу і хацеў пакласці яе на месца і сысці, то ўбачыў, што бібліятэкарка адлучылася. Тут я заўважыў на паліцы, а меў і маю добры зрок, адну з рэдкіх ранніх прац Цыялкоўскага. Не стрымаўшыся, я зайшоў за бар'ер, узяў кнігу і зноў сеў на сваё ранейшае месца і пачаў чытаць. Недарэмна шматлікія цэнзары на службе ўладаў забаранялі такія кнігі, хавалі іх у спецзахах, а высоўвалі толькі самыя простыя і, магчыма, не істотныя ідэі празорцы. Але па сутнасці. Яшчэ Кант заўважыў: «я вельмі схільны да сцвярджэння існавання ў свеце нематэрыяльных істот»... Так, па-германску прама, дакладна і геніяльна! Не ведаю, ці быў знаёмы Канстанцін Цыялкоўскі з выказваннямі вялікага філосафа і іншых шматлікіх папярэднікаў ад Парацэльса, Месмера, Бэкана і аж да нашых дзён, але выказваўся ён даволі відавочна і акрэслена. «...На пачатку Сусвету ўзніклі, магчыма, існасці, пабудаваныя не так, як мы, ва ўсякім разе з непараўнальна больш разрэджанай матэрыі». За мільярды гадоў гэтыя

існасці, лічыў вучоны, маглі стаць «вянцом дасканаласці». «Ці захоўваюцца яны да цяперашняга часу, і ці жывуць сярод нас, з'яўляючыся невідзімкамі?» — ставіў пытанні па-кантаўску прама рускі вучоны.

Полімарфізм такіх існасцяў можа быць бясспрэчным. Дык вось, у шэрагу іх, а можа, зусім інакшых, больш ніжэйшага рангу сустракаюцца і прыжыццёвыя прывіды-двайнікі. Двайнікі гэтыя могуць мець абсалютна сканіраванае матэрыяльнае аблічча, дзейнічаць і нават фізіялагічна функцыянаваць, як іх аўтэнтыкі.

Увага, цяпер я падыходжу да асноўнага. Яшчэ вывучаючы ў вольны час творы Правадыра (бо свабодна, з асалодай, як таго ж Канта, Гегеля, не кажучы ўжо пра Ніцшэ, чытаць іх, па-мойму, немагчыма), я звярнуў увагу на безумоўна нечалавечы сэнс амаль усіх тэкстаў — быццам пісаў іх не чалавек, а нейкі экспанат, зачаты ад інкуба, ці яшчэ хто, нашмат горшы. Я доўга думаў і ўрэшце здагадаўся, і здагадка мая была простая: сачыняў тэксты двайнік. А ў такой асобы, як Правадыр, проста не магло яго не быць, у сувязі з яго прыналежнасцю да паранармальнага. І я не казаў бы гэта так упэўнена, каб не ведаў яшчэ адну, так бы мовіць, дэталь, адну характэрную гісторыю.

Але, каб гэта «дэталь» не выглядала адыёзнай, раскажу наступнае. У Мінску я быў знаёмы з адным пачынаючым вучоным, назаву яго З., які цікавіўся ўфалогіяй і ўвогуле эзатэрычнымі ведамі. Я некалькі разоў меў з ім кароткія гутаркі, а потым страціў з поля зроку — казалі, што ён некуды з'ехаў. Зараз я здагадваюся, які гэта быў ад'езд і куды.

Дык вось. З. упершыню расказаў мне пра двайнікоў і паведаміў, што яны з'яўляюцца і ў наш час. Ён прывёў мне ў прыклад, тым не менш, як класічны, даўні выпадак з рускім паэтам, князем Пятром Вяземскім. «Аднойчы, — апісаў гэтую падзею сам князь, — я вяртаўся ў свой дом на Неўскім позна ноччу. Яшчэ на падыходзе я ўбачыў у вокнах свайго кабінета святло. «Хто там?» — спытаў я служку. «Там нікога няма», — адказаў той і аддаў мне ключ ад пакоя. Я адчыніў і ўбачыў, што спінай да мяне за маім сталом сядзіць чалавек і піша. Я ціха падышоў, прачытаў з-за пляча, што ён піша, і — паваліўся без прытомнасці. Гэты чалавек быў... я сам. Калі ж я ачуняў, то ў кабінеце было пуста, а напісанае я схаваў і нікому ніколі не пакажу...»

З., паведаміўшы пра гэты выпадак з вядомым паэтам, расказаў пад вялікім сакрэтам пра асноўнае, што, на яго погляд, тычылася не каго-небудзь, а... Правадыра. Апошні бязвыезна знаходзіўся ў Горках. Але аднойчы з'явіўся ў Крамлі адзін, без аховы, што было амаль неверагодным. Калі ж дзяжурны чэкіст тэлефанаваў у Горкі, яму паведамілі, што Правадыр дома, ляжыць у ложку і нікуды не выязджаў. У функцыянераў Крамля ўзнікла вялікая праблема — як зразумець адначасовую матэрыялізацыю Правадыра адразу ў двух месцах? Так узнікла афіцыйная версія, што Правадыр сапраўды нечакана, нікому не паведаміўшы (!), прыехаў на сваё месца працы. Неўзабаве пасля гэтага Правадыр нумар адзін памёр. Дарэчы, апісанае вышэй наступства, смерць аўтэнтыкаў, амаль заўсёды азнамяноўвае папярэдняе з'яўленне фантомаў-двайнікоў.

У рэшце рэшт стыль і самавыражэнне, якіх, па сутнасці, не было ў тэкстах, гаварылі самі за сябе. Можна толькі гадаць, хто ўвесь час хаваўся за той пустатой і хто кіраваў асобай Правадыра, яго, так бы мовіць, біяабалонкай.

Гэтыя небяспечныя і мяжуючыя з вар'яцкімі думкі і гіпотэзы (пра ад-

ну з іх ніжэй) то прыходзілі да мяне, то знікалі пад уплывам будзённых спраў, але ж, пэўна, вада, прабіўшы ў адным месцы гаць, будзе толькі мацнець і пашырацца, пакуль не ператворыцца ў плынь — гэтак і мае таемныя думкі, што раз-пораз сціскалі мне голаў.

Таму што я, па-мойму, калі-нікалі даволі дасціпны, то іншым разам пачынаў рызыкоўна жартаваць на тэму правадырызму, спачатку, вядома, з Клаўдзіяй.

— Як ты думаеш? — спытаў я яе аднойчы ў ложку. — Ці займаўся Правадыр калі-небудзь сексам? Можа, яны разам з жонкай толькі фейербахаў і чыталі?..

Клаўдзія захіхікала.

— Табе-то што з таго?

— Мне ж таксама, як і скульптару, трэба ўваходзіць у яго аблічча, — вяла рэзюміраваў я.

— Не з жонкай, а хутчэй з каханкай, — пачала разважаць Клаўдзія. — Ну, з той, сам ведаеш... Інесай.

— А калі з таварышам па партыі? — панесла мяне. — Жылі ж яны ўдваіх цэлы месяц у шалашы?

Клаўдзія раптам падхапілася да тэлефона, каб выключыць.

— Выключаю ўсё сам, асабліва па абедзе, — супакоіў я яе, — і рэпрадуктар таксама, на ўсялякі выпадак. Каб нас ніхто не слухаў.

— Я нічога не чула, але могуць пачуць іншыя. Ты не павінен даць ім падставу, інакш прападзеш. Хіба ты не ведаеш, што ў сценах поўна вушэй?

Сапраўды, я мог сарвацца ў любы момант. У лабараторыі, дзе мы, у адрозненне ад майго флігеля, часта пакрысе ўжывалі казённы спірт, на планёрцы, проста на вуліцы, альбо ў трамваі. Здзіўляла мяне тое, што блатным і прыблатнёным, напрыклад, часам многае сыходзіла з рук: нібы нейкая нябачная абалонка абараняла іх ад усюдыісных службаў. «Здай пяць мыслячых і можаш быць вольны», — успомнілася мне. Мыслячыя — вось хто ім быў небяспечны і патрэбны, ці, інакш кажучы, апошнія былі не патрэбныя сістэме.

— Дзіўна, — казаў я Клаўдзіі, — калі мы робім нешта супрацьлеглае статуі Свабоды, то значыць постаць Правадыра будзе сімвалізаваць Несвабоду, а гэта значыць — рабства?

— Плюнь, — гаварыла Клаўдзія, — давай лепш зоймемся сексам — у нас мала часу.

Гіпотэза мая нумар два, якая, па сутнасці, вынікала з асноўнай, складалася з таго, што фантом-двайнік мог проста знішчыць свой арыгінал, пасля чаго працягваць жыццё пад выглядам аўтэнтыка.

Зрэшты, часам на поўным сур'ёзе меркаваў я, менавіта такі акт павінен быць самай заманлівай ідэяй любога фантома-двайніка, пасля чаго, атрымаўшы бескантрольную ўладу, ён мог беспакарана выконваць сваю місію. «А што калі ў Маўзалеі ляжыць менавіта двайнік?» — думаў я. Хіба народжанага простай жанчынай трымалі б з такой упартасцю ледзь не ў стане анабіёзу ў цэнтры гіганцкага мегаполіса і не менш неабсяжнай краіны, якая з апантанасцю імкнецца ў бездань, паядаючы, нібы міфічны Крон, сваіх лепшых, разумных, таленавітых, прыгажэйшых? Тут няйнакш здзяйсняецца іншая воля, якая на сучасным этапе непераможная.»

Травень, 6

## 5. Адсочка

«...На выхадны, а гэта была нядзеля, я пакінуў будоўлю, каб зрабіць невялікі шпацыр па горадзе і тое-сёе набыць. Было ўжо адчувальна горача, жанчыны апранулі лёгкія сукенкі, некаторыя з іх не былі пазбаўлены прыгажосці. Я зайшоў у краму, каб купіць нейкую дробязь: кавалак мыла, пачак лёзаў галіцца, ваксу для абутку. Усё гэта я склаў у сумку, а калі пайшоў назад, да дзвярэй, то ўбачыў невысокага мацака ў спартыўнай тэнісцы і белых парусінавых макасінах. Ён павярнуўся да мяне спінай і нешта разглядваў у вітрыне: я зірнуў таксама, але нічога цікавага там не выявіў, акрамя піянерскага горна, бубна, ды жаночых панчох, нацягнутых на муляж.

Раптам я зразумеў — як заўсёды нечакана, рэфлекторна і амаль падсвядома: за мной сочаць, і гэты мацак, які прытвараецца, што яго прывабіў нейкі бубен ці горн, хутчэй за ўсё агент, і па спіне ў мяне прабег халадок трывогі. Я выйшаў з крамы і павольна сунуўся па вуліцы, між тым як у галаве ў мяне ўзнікалі і абганялі адна адну думкі: што, калі я проста памыляюся, і як мне без асаблівага клопату і панікі прасвятліць сітуацыю? Урэшце, я прыдумаў сам сабе наступную тэзу: магчыма, тое, што я выявіў, аніякая не адсочка, а проста спосаб абараніць мяне як каштоўнага і патрэбнага ўладзе дызайнера ад нейкіх непажаданых наступстваў, прыкладам блатняцкай фінкі, калецтва, абрабавання на гоп-стоп ці яшчэ чаго іншага.

— Мне гэта вельмі не падабаецца, — сказала на мой аповед Клаўдзія. — Ты ўжо не бачыш небяспекі, цябе заспакоілі мае супы з катлетамі. А ты ведаеш, што ў хахлоў па вёсках мор, дзяцей крадуць ды ядуць? Кажуць, абапал чыгункі, якая вядзе ў сталіцу, валяюцца трупы галодных, і ў тваёй Беларусі цяпер ненамнога лепш. Ці, можа, ты чакаеш, што пра гэта напішуць у газетах?

Паколькі прыкметы маёй актыўнай адсочкі не перапыняліся, я прыдумаў своеасаблівую гульню (пазней я зразумеў, што толькі зрабіў горш): пачаў выяўляць з сябе артадокса і актыўнага аматара ідэй Правадыра. Так я раскрываў на чарговых старонках прынесеныя мне кнігі і ўстаўляў туды ўкладкі з паперы, на якіх коратка запісваў свае ўяўныя ўражанні. Звычайна гэта тычылася мудрасці Правадыра, звышкаштоўнасці яго ідэй і думак — з часам я зусім асмялеў і пачаў алоўкам падкрэсліваць прама на старонках самыя яго пустыя і нікчэмныя месцы, асобныя фразы, дадаючы ў рэмарках, што гэта геніяльна, потым увогуле пачаў ужываць суцэльную гіпербалізацыю ў такіх тэрмінах-вызначэннях, як звышмудра, супердобра, неверагодна цудоўна і г.д. Часам гэта выглядала даволі дзіка і смешна. Але, меркаваў я, наўрад ці хто стане сур'ёзна ўнікаць і рэцэнзаваць мае запісы і кароткія нататкі, параўноўваючы з арыгіналам — у іх жа таксама, пэўна, не хапала часу.

Вечарам наступнага дня Клаўдзія прыйшла да мяне і пасля працы. Яна патлумачыла, што зараз мае пару гадзін вольнага часу, які вырашыла правесці тут, у мяне. Я адразу кінуў у бок разлікі, замкнуў дзверы і, можа, упершыню за ўвесь час прапанаваў ёй выпіць са мной віна. Дзве бутэлькі яго даўно былі закуплены ў гарадской краме і знаходзіліся, так бы мовіць, у баявым стане ў шуфлядзе. Я разліў віно ў шклянкі, паклаў на стол плітку шакаладу і тое-сёе з закускі, а потым, падумаўшы, прапанаваў падсмажыць яечню (у мяне былі электраплітка і патэльня, але патэльня аказалася нямытая, а Клаўдзія не выявіла жадання гатаваць ежу.)

— Не люблю, — толькі і сказала яна.

Мы выпілі віна і праз некалькі хвілін ап'янелі абое. Клаўдзія, нягледзячы на тое, што ў абед мы, як звычайна, пабывалі ў ложку, зноў сцягнула з мяне камбінезон і распранулася сама.

Мы доўга лашчылі адзін аднаго. Пад уздзеяннем алкаголю Клаўдзія нечакана стала больш пяшчотнай, не спяшалася дасягнуць аргазму, але ўрэшце рэшт павярнулася спінай і падкурчыла калені да жывата, і я ўвайшоў у яе вільготную гарачыню. Нейкі час мы ляжалі ў такой позе, я злёгку пакусваў ёй плечы, Клаўдзія ціха стагнала, потым яе цела запатрабавала руху, і праз некалькі хвілін яна ўскрыкнула і затрымцела — гэта доўжылася даволі працягла, а потым заціхла, пасмоктваючы пальцы на маёй руцэ. Пэўна, ад выпітага віна, я ніяк не мог спыніцца, у той час як стрэлкі ходзікаў на сцяне, якія мы бачылі ў агуслых прыцемках, няўмольна паўзлі па цыферблаце. Клаўдзія запалілася зноў, яе пацягнула на розныя вострыя моманты, яна часта мяняла позы, і ўрэшце спынілася на аральным варыянце — я так і выліўся ў яе. Яна падхапілася да стала, выпіла віна і прынесла мне ў шклянцы, потым зноў лягла побач.

— Хіба ты не спяшаешся дадому? — спытаў я. Спаць мне чамусьці не хацелася.

— Напляваць. Мне добра, і няхай.

— Заставайся да раніцы.

Яна адмоўна пахітала галавой.

— Не. Будзем спяшацца на працу, нервавацца, урэшце мне трэба з'явіцца дома.

— Цябе хто-небудзь чакае? — асцярожна пацікавіўся я.

Клаўдзія не адказала, і я, каб не працягваць паўзу, пачаў расказваць ёй пра знойдзенага ў балоце ёлупа. Сам не ведаю, чаму я ўспомніў пра гэта. Я расказаў, як яго знайшлі, пра жартаўнікоў-трактарыстаў і пра тое, як з жарту ўсё ператварылася ў жорсткі і непахісны суклон.

Клаўдзію нечакана зацікавіла гісторыя пра каменнага ідала, асабліва яе заінтрыгавала нярэдкае паломніцтва да стода жанчын і іх інтымныя маніпуляцыі з ёлупам, скіраваныя, пэўна, на тое, каб неяк злітасцівіць апошняга на іх карысць і просьбы. Яна, усміхаючыся, выпытвала ў мяне падрабязнасці і дэталі, потым паднялася з ложка і пачала апранацца. За акном ужо апусцілася цемра.

Якраз у гэты момант рэзка звягнуў і зазваніў тэлефон. Я зняў слухаўку, назваўшы сябе:

— Марка Ласкоў.

Тэлефанаваў памочнік начальніка будоўлі. Ён суха павітаўся і ў форме загаду прапанаваў мне быць на пазачарговай вечаровай планёрцы праз паўгадзіны.

— А калі б мяне не аказалася дома? — раптам не да месца пацікавіўся я.

— Ну, далёка ад яго вы не адыходзіце, — загадкава сказаў памочнік, — і, калі нам трэба, то мы заўсёды вас знойдзем.

Нейкі момант я ацэньваў сітуацыю, потым адказаў, што хутка прыйду.

Клаўдзія ўжо апранулася і глядзела, як я залажу ў камбінезон.

— Я правяду цябе, — паабяцаў я.

— Не. Ты можаш спазніцца. Не будзі ліха.

Мы таропка выйшлі з флігеля, я нават не стаў замыкаць дзверы. На будоўлі сям-там гарэлі ліхтары, успыхвалі агеньчыкі зварачных апаратаў — тут працавалі ў дзве, а часам, як я ведаў, і ў тры змены. Я знарок не спяшаўся, але Клаўдзія прыспешвала мяне, каб я не спазніўся.

— Толькі да цэнтральнай брамы, — паставіла яна ўмову. — Далей я сама — там недалёка трамвайны прыпынак.

— Няхай так, — згадзіўся я.

Далей мы ішлі моўчкі, з асцярогай у цёмных месцах, каб не зваліцца ў якую яму ці, наадварот, не залезці ў кучу яшчэ сырога раствору. Урэшце мы выйшлі да брамы, Клаўдзія цмокнула мяне ў шчаку і падпіхнула назад:

— Бягом.

На планёрку, якія ў апошні час праводзіліся і ўвечары, я тым не менш з'явіўся апошнім. Ад мяне пахла віном і жаночым адэкалонам. Начальнік будоўлі змрочна зірнуў на мяне, нічога не сказаў, я адшукаў вачыма свабоднае крэсла і сеў. Не буду падрабязна пераказваць тут, што гаварылі, коратка ж — пра план, пра яго выкананне, пра забеспячэнне, дастаўку і дэфіцыт тэхнікі ды матэрыялаў.

Назаўтра я па-ранейшаму зрабіў кантрольныя праверкі. Лепш за ўсё для гэтага падыходзілі валасы. На такой ці іншай старонцы сваіх запісаў і працоўных выкладак (я запамінаў нумары старонак) акуратна ўкладваў па адной валасіне, каб потым праверыць. Калі хто заглядваў у мае паперы, дык валасінкі знікалі, а зазіралі туды даволі часта, нават рэгулярна, пэўна, у іх быў дадатковы ключ ад майго флігялька. Дарэчы, выдалі мне іх два, і адзін з іх я аддаў Клаўдзіі.

Клаўдзія? «Не, толькі не яна», — думаў я. На перыяд маіх адлучак у доследную лабараторыю любы зацікаўлены мог пранікнуць у маё жытло і ўсё там праверыць і агледзець. Усё-такі не Клаўдзія, не. У падсвядомасці я зразумеў, што яе праверка, і калі яна (праверка) пацвердзіць адсочку з боку Клаўдзіі, то гэта адразу адрыне мяне ў мацнейшую дэпрэсію і адзіноту. А найгоршае пекла — гэта пекла адзіноты. Дарэчы, хто гэта сказаў? Я не хацеў ісці па такім шляху, бо вытрымаць яшчэ гэта ўжо станавілася не па маіх сілах...»

Травень, 8

## 6. Катлаван

«...Клаўдзія не прыходзіць да мяне ўжо другі дзень. Па абедзе я зайшоў у сталовую, дзе знарок стаў у чаргу з надзеяй яе ўбачыць. Але не давялося. Я з'еў свой абед у кампаніі двух люмпенаў і блатнаватай дзяўчыны ў брызентавай робе — магчыма, кранаўшчыцы. Я хацеў спытаць, дзе працоўнае месца Клаўдзіі і адшукаць яго, пэўна, які цесны кабінецік з фанернымі сценамі-перагародкамі, але вырашыў зрабіць гэта заўтра: можа, да заўтра яна неяк аб'явіцца, ну, патэлефануе хаця б.

Ля дзвярэй флігеля, між тым, мяне чакаў мажны мужчына ў гадох, у плашчы колеру ляжалай травы і кепцы. У яго быў стомлены твар з чырвонымі пражылкамі аматара алкаголю і нечакана цупкі позірк.

— Гэта вы Ласкоў? — спытаў ён.

— Так.

Ён выцягнуў пасведчанне супрацоўніка крымінальнага аддзела і паказаў мне.

— Чым магу? — пацікавіўся я, адначасова запрашаючы яго зайсці. Я затрывожыўся, хаця не падаваў выгляду. Калі гэты непажаданы наведвальнік не са спецслужбаў, то ўжо не так кепска, думаў я, адчыняючы дзверы.

— Дарэчы, — сказаў агент, назіраючы за маімі дзеяннямі, — ваш ключ мае дублікат?

— Так, — пасля непрацяглага роздуму кіўнуў я.

— І дзе ён зараз?

Я вытрымаў паўзу. Мы зайшлі ў мой захламлены пакойчык.

— У загадчыцы вытворчасцю сталовай Колесавай, — я ўрэшце назваў услых прозвішча Клаўдзіі.

— Яна была ў вас заўчора? — спытаў агент, аглядваючы памяшканне.

— А ў чым справа? — пацікавіўся я з трывогай.

— Адказвайце, калі ласка, на пытанне.

— Яна амаль штодня прыносіла мне абеды. Заўчора — таксама.

Агент прысеў у крэсла і пакасіўся на бутэлькі на стале. Адна з іх, якую мы з Клаўдзіяй не дапілі, была ўжо поўная мух.

— Што здарылася? — спытаў я.

— Яе цела знайшлі ўчора ў адным з катлаванаў на тэрыторыі будоўлі. Яна была згвалтавана і жорстка забіта. Вельмі жорстка...

Агент яшчэ нейкі час дапытваў мяне, я нешта адказваў, дакладна не памятаю што. Калі ён пайшоў, я выпіў бутэльку віна прама з рыльца, потым знайшоў пляшку этылавага спірту і працягваў піць да ночы, пакуль не зваліўся і не заснуў.

* * *

...Назаўтра пасля абеду я паехаў на пахаванне. Перадусім давялося праглынуць пару таблетак пірамідону, каб сцішыць галаўны боль і апрануць касцюм, хаця больш за ўсё мне хацелася зноў напіцца.

Клаўдзія аказалася замужняй, у яе была дачка каля пяці гадоў. Здалёк я ўбачыў яе мужа: гэта быў даволі высокі малады чалавек у форме вайскоўца са скуластым смуглявым тварам і чорнымі, гладка зачэсанымі валасамі над пакатым ілбом. Як я пачуў, ён, нягледзячы на сваю маладосць, быў ужо ў чыне генерал-маёра і параўнальна нядаўна прызначаны камандаваць пяхотнай дывізіяй, якая дыслакавалася ў прыгарадзе сталіцы. Па абрыўках размоў вакол мяне я даведаўся, што блатныя пераймалі Клаўдзію непадалёку ад прыпынку, нехта нават чуў, як яна клікала дапамогу...»

Чэрвень, 5

## 7. Рашэнне

«...Перада мной як інжынерам-канструктарам металакаркаса доўгі час стаяла вельмі складаная задача. Скульптура ў сто дваццаць метраў вышынёй, якую я ў думках называў ёлупам, стаяла на адной апорнай назе, другая (левая) была адстаўлена назад (характэрная асаблівасць амаль усіх выяў Правадыра) і абапіралася толькі на насок, што ўжо пагражала небяспекай. Патрэбна было ўтрымаць усю постаць, увесь звышцяжар на правай назе, а ў пятцы працягнуць каля пяці ліфтаў — найскладаная праблема. Пасля таго як унутраны каркас мусіў быць разлічаны, трэба было вылічыць нагрузку на другасны, да якога пасля замацоўвалася б абшыўка. Па макету скульптара ў метр вышынёй мы вызначалі ў аэрадынамічнай трубе ветравыя і сонечныя нагрузкі, ды тэмпературныя хістанні на працягу апошняга стагоддзя.

У маю задуму ўваходзіла таксама праца ў лабараторыі (яна знаходзілася ў акадэмічным цэнтры непадалёку) і стварэнне абмерных чарцяжоў, каб зрабіць мадэль у два з паловай метра. Потым яна павінна была павялічыц-

ца спачатку ў дзесяць разоў, а пасля распілаваную на кавалкі мы зноў мусілі б нарошчваць іх, каб стварыць стадваццаціметровую, асноўную.

На сваім метровым макеце я рабіў гарызантальныя сячэнні праз кожны сантыметр і па іх каля ста чарцяжоў. Трэба было праверыць больш як дзесяць тысяч абмерных кропак. Абмеры я рабіў у спецыяльным станку з дапамогай стальных спіц: на кожную гарызанталь іх патрабавалася каля ста адзінак.

Я ведаў, што на адным з уральскіх заводаў ужо распрацавалі спецыяльны гатунак сталі для каркаса, які я мусіў дарабіць. Нават марку прыдумалі — «ПП». Расшыфроўвалася абрэвіятура проста — Палац ПраваДыра. Калі я разлічыў колькасць неабходнай сталі, то мне стала на нейкі момант вусцішна: патрабавалася яе чатырыста дваццаць тысяч тон.

Частка металакаркаса мусіла быць рухомай. Так, гэта не агаворка: ПраваДыр наверсе пад уздзеяннем ветру і сонца павольна махаў бы рукой і ківаў галавой. Працуючы над чарцяжом і абдумваючы ўвесь гэты непраўдагодны і пачварна фантастычны праект, а фундамент Палаца пакрысе ўжо закладвалі, я задумаўся над некалькімі, вельмі важнымі для мяне праблемамі. Яны тычыліся не маёй працы, а, скажам, маральнасці ўсяго, што я мусіў рабіць. Я сфармуляваў пытанні. Вось яны:

1. Ці не нясе ўвесь план-праект элемент звычайнага сатанізму?

2. Калі сатанінскія сілы могуць апанаваць аднаго чалавека, то ці змогуць яны зрабіць тое ж з цэлым народам і дзяржавай?

3. Магу я асабіста стаць праваднікам пачварнай квазііДэі, і якая мая ступень адказнасці за гэта перад вечнасцю?

На ўсе гэтыя пытанні пасля нязначных унутраных ваганняў, я адказаў станоўча. Так я саспеў для асноўнай ідэі майго жыцця, бо ведаў, што іншага жыцця і іншых жыватворных ідэй у мяне ўжо ніколі не будзе. Так ці інакш гэты вар'яцкі праект павінен быў знішчыць мяне ці духоўна, ці ўвогуле фізічна. Альбо я яго. Пытанне ставілася рубам: дазволю я ўкараніцца сатанінскім сімвалам, якія сканцэнтраваліся ў выглядзе гіганцкага пачварнага ідала, ці не?

Не, адказаў я сам сабе. Не дазволю. Я знішчу яго сам. І ў памяць пра Клаўдзію таксама, якая, я адчуваў гэта душой, верыла ў мяне, а, магчыма, і пакахала».

Чэрвень, 10

## 8. Сабатаж

«... Я пачаў выконваць свой план. Па-першае, зрабіў «зачыстку» сваіх папярэдніх разлікаў па металакаркасу. Паколькі самым безабаронным, на мой погляд, месцам постаці з'яўлялася левая нага — там , дзе яна адстаўлена назад і абапіралася на насок, была спакуса зрабіць знарок слабым звяном асноўную апору — правую нагу, але я не пайшоў па гэтым спрошчаным шляху. Я ўнёс нязначныя змены ва ўсе сто чарцяжоў — толькі вельмі «прасунуты» спецыяліст заўважыў бы памылкі. Пасля ўстаноўкі ўсёй гэтай неверагоднай па сваіх памерах махіны яна нейкі час прастаяла б нерухома, пакуль не пачаўся б сезон вятроў. Як толькі вецер набярэ неабходную сілу, улічваючы хістальныя ўзмахі постаці рукой і галавой, а адпаведная моц паветранага патоку здаралася адзін-два разы на год, ідал абрынецца ўніз, ламаючы і разбураючы сцены і надбудовы.

Адзінота, сум па Клаўдзіі і пачуццё асуджанасці прыгняталі мяне, але,

з іншага боку, надавалі моцы. Што ж, калі я абраны на гэта дзеянне, то няхай так і будзе, наўрад ці я застануся жывым — сачэнне за мной працягваецца і апошнім часам узмацнілася. Пасля заканчэння работ, вядома, можна ўсё-ткі падмануць іх і знікнуць, але куды падзецца — вось пытанне? Не ў Амерыку ж — межы закрытыя наглуха, дый што мне тая далёкая Амерыка, калі ў мяне адна радзіма, няшчасны край, які разрываюць увесь час на кавалкі?

Я не так ужо часта і думаю пра сябе: як, у прыватнасці, са мной абыдуцца пасля заканчэння работ — мне збольшага ўсё роўна, але ўспамінаю тых, хто быў мне дарагі, — сваіх родных і Клаўдзію. Апошняя так і застанецца для мяне назаўсёды неразгаданай, і ёй я буду ўвесь свой астатні век удзячны за яе самаадданую шчырасць і тую «лёгкасць дыхання», з якой яна крочыла па маім нярадасным, нават убогім жыцці. Следства, пэўна, дзякуючы патрабаванням яе мужа ўсё яшчэ вядзецца, мяне зноў запыталі, але ў іх нічога не атрымліваецца — будоўля дый уся краіна кішаць злачынцамі і «ліхімі» людзьмі — такая жорсткая рэальнасць, і яна, магчыма, застанецца да таго часу, пакуль будуць стаяць на гэтай адрынутай Богам зямлі тысячы ідалаў, а ў цэнтры яе — як сімвал злавеснай прысутнасці — мёртвая істота ці то інкуба, ці то яго фантома — двайніка».

## Частка ІІІ.
## НАСТУПНІЦА

### 1. Паправа

Лідзія Д. сядзела ў крэсле за сталом, на якім гарэла электрычная лямпа пад абажурам, ляжалі скатаныя рулоны чарцяжоў і на ачышчаным ад іх месцы, невялікім пятачку, пакрытым старымі і акуратна зацёртымі плямамі ад пралітай вадкасці і гарачай патэльні (адразу прыгадвалася, што тут жыў мужчына), перад ёй ляжалі старонкі дзённіка яе наўзбежніка. Быў позні вечар, хаця работы на будоўлі не перапыняліся і ў гэты час. Мухі раз-пораз прыляталі на святло лямпы, але яна рэзкім узмахам рукі адганяла іх, і яны з тонкім істэрычным зумканнем разляталіся па цёмных кутках.

Ужо не першы раз яна пасля сваёй асноўнай працы тут, над чарцяжамі і разлікамі, эксперыментамі ў доследнай лабараторыі, садзілася і ўважліва чытала спісаныя неахайным, таропкім почыркам старонкі, раздумваючы над іх яўным ці прыхаваным сэнсам. Гэты дзённік, знойдзены ёй па шчаслівай выпадковасці, а такой магло і не здарыцца, яна лічыла падарункам лёсу, знакам, не інакш, нейкіх будучых, спрыяльных для яе падзей. Каб не лёс, яна магла прапусціць тыя знарок зробленыя папярэднікам пралікі, якія б непазбежна прывялі да катастрофы, а цяпер яна знойдзе іх усе, яна ўжо знайшла большасць, ёй, безумоўна, пашанцавала. Яна зараз пастараецца як належыць зрабіць канструкцыю асноўнага металакаркаса наймацнейшай, каб людзі стагоддзямі дзівіліся са здзейсненага ёй і яе саўдзельнікамі.

Дзённік яна не пакажа нікому, нават тым, усюдыісным, якія кантралююць усё і ўсіх. Прачытаўшы чарговую старонку (чытала ў другі ці трэці раз), яна кідала яе на старанна вымытую патэльню і спальвала. Хопіць. Так будзе лепш, думала яна, спяшацца не трэба, ёй нават падабалася зноў перачытваць таго, амаль невядомага ёй Марку Ласкова, які мог бы стаць, на

яе думку, значнай велічынёй, а скончыў, як звычайны няўдачнік. Яна хавала астатнія паперкі ў тайнік — дачытае потым, задавальненне трэба зацягваць у часе, піла чай, а то і з паўшклянкі віна, закусваючы парай бутэрбродаў з чорнай ікрой, а то і з чырвонай, і марудна распраналася. Выгляд свайго аголенага цела звычайна ўзбуджаў яе. Яна правярала, ці замкнёныя дзверы, старанна папраўляла фіранку на акне і разглядвала сябе ў люстэрку і так (люстэрка было малое): у яе былі моцныя клубы, парослыя ледзь прыкметным пушком стройныя ногі, налітыя невялікія грудзі і даволі прыгожы, азіяцкіх абрысаў скуласты твар з маленькім пажадлівым ротам.

Лежачы ў ложку, яна часта ўяўляла, як спаў тут яе папярэднік — малады мужчына з сінімі вачыма, то адзін, то з той жанчынай, на месцы якой магла быць і яна, каб так распарадзіўся лёс.

Будоўля ліхаманкава пашыралася. Нават ноччу працавалі краны, раўлі бульдозеры, чуліся галасы і крыкі рабочых. Праз некалькі гадзін ім на замену прыходзілі новыя, адпачыўшыя, і зноў узнімаліся ў кабіны кранаў і браліся за рычагі кіравання трактароў. Цэлая армія з рыдлёўкамі і насілкамі ў руках корпалася ля катлаванаў і кар'ераў.

## 2. Храм

Палац Правадыра павінен быў стаць архітэктурнай дамінантай мегаполіса, на яго арыентаваліся ўсе праектанты і будаўнікі: планавалі знос і зносілі бліжэйшыя вуліцы, засыпалі зямлёй адселеныя нізіны, разбуралі дамы і іншыя будынкі, якія не ўпісваліся ў асноўны праект.

Раніцай, але не ў поўнай цемры, каб здолелі здымаць кінааператары, узрывалі Храм. Навокал, на адлегласці каля кіламетра, стаяў засцерагальны ланцуг з вайскоўцаў і міліцыянтаў на конях. Нягледзячы на ўтойванне самой падзеі да самага апошняга дня, пра тое, што Храм будуць знішчаць, уведалі ледзь не ўсе. Народ ужо тоўпіўся ля старых блакіровачных грузавікоў, у кузавах якіх ляжалі снайперы, і працягваў прыбываць, хаця ў гэты раён з сярэдзіны дня не хадзілі ні трамваі, ні аўтобусы. У выпадку прарыву натоўпам ачаплення снайперам быў дадзены загад страляць на паражэнне спачатку імпэтных актывістаў, якія заўважаны ў лідэрстве, а потым усіх, хто прарвецца праз ланцуг з агароды.

Інжынер-канструктар Лідзія Д. назірала за дзеяннямі ўзрыўнікоў праз акно аўтамабіля, на якім прывезлі сюды асноўных праектантаў на чале з начальнікам будоўлі. Наперадзе завіхаліся толькі кінааператары, ды бегалі вайскоўцы, размотваючы з катушак дрот.

Галоўны вылез з кабіны, яму адразу прынеслі аднекуль крэсла, за ім усе астатнія. Паступова сутонела. Лідзія Д. стаяла крыху ўбаку. Халодны вецер варушыў яе цёмнакаштанавыя валасы, абляпляючы на сцёгнах сукенку. Яна моўчкі ўзіралася ў шматвяковую і быццам непрыступную грамадзіну Храма, якому, нягледзячы ні на што, было наканавана праз некалькі хвілін стаць грудай абломкаў з цэглы і думала пра тое, што ўсе ўяўныя каштоўнасці могуць мець нейкую цану хіба што ў вачах простага люду — усіх гэтых разявак і абывацеляў, што сабраліся на ўзвышэннях і дарожных пад'ездах, пазалазілі нават на рэдкія тут дрэвы, якія засталіся яшчэ некранутымі, — хіба адважацца яны на нешта, каб адстаяць свой Храм, хіба здольныя яны на ўчынак? Вузкія, чорныя, крыху раскосыя яе вочы занатоўвалі ў памяці неабдымную веліч Храма, застылага ў нямым чаканні, на высокіх скулах жанчыны гарэў амаль нябачны пад загарам румянец.

Хіба мэтазгодна, думала яна, супрацьпаставіць сябе ўсеагульнаму, усёзнішчальнаму руху наперад, да новай, іншай будучыні, як імкнуўся зрабіць гэта яе папярэднік, наўмысныя памылкі якога ў праекце канструкцыі яна знайшла і выправіла, і гэта цалкам яе заслуга, дый хто цяпер будзе пра тое ведаць: дзённік няздары спалены, сам ён знік, і хутчэй за ўсё ніколі не вернецца ў свой Паўночна-Заходні край. А калі і вернецца, то праз многа-многа гадоў, старым, нямоглым і няздольным да супраціву. Гэта ўсё лішнія людзі, слабыя і рэфлексуючыя, думала яна, хіба здолеюць яны стаць на шляху ідэі, якая непераможная? Яна давершыць справу таго няўдачніка, абцяжаранага старымі комплексамі, хаця, яна дапускае думку, і здольнага ў каханні. Але што такое каханне? Не больш, як інстынкт, які дастаўся нам ад малпаў. Яна спраектуе свой, так, менавіта свой металакаркас, які ўвасобіць у сабе ўсю веліч Правадыра і яго здзяйсненняў. Усё астатняе для яе — неістотна. Постаць Правадыра ўзнімецца над горадам, над усёй неабсяжнай краінай, над усім светам, і гэта постаць будзе стаяць у стагоддзях, вышэйшая за ўсе іншыя постаці, якія яшчэ маюць нейкі ўплыў на людзей.

Раптам зямля пад яе нагамі ўздрыгнула і хіснулася. Храм, вялізны, змрочны і маўклівы, крыху прыўзняўшыся, пасунуўся ўніз, ахутаны хмарай з пылу і дыму. Грукат ад выбуху дасягнуў вушэй натоўпу, з якога ў адказ пачуліся ўзбуджаныя і няўцямныя крыкі радасці.

Пабудова Храма ажыццяўлялася на працягу сарака чатырох год і закранала часы чатырох імператараў. Будаваўся ён на стагоддзі. Шырыня цагляных сценаў складала тры метры дваццаць сантыметраў і запатрабавала каля сарака мільёнаў цаглін. Звонку Храм быў аздоблены мармуровымі плітамі, а месцы стыкоўкі пліт з цэглай залівалі свінцом. Тынкоўку пад роспіс рабілі надзвычай працаёмкім спосабам: у сотнях квадратных метраў сценаў, калон, скляпенняў і купалоў свідраваліся ў шахматным парадку адтуліны, у іх забіваліся луджаныя стальныя кастылі, потым усё гэта густа перапляталася луджаным дротам, а пасля яшчэ і пянькой. На гэтую сетку клалі цэмент.

Рэгулярныя богаслужэнні вяліся ў Храме з 1883 года. Там праходзілі ўрачыстасці: з нагоды 500-годдзя з дня смерці Сергія Раданежскага, 100-годдзя вайны 1812 года, 300-годдзя Дома Раманавых.

Летам 193... года на пасяджэнні кіраўніцтва краіны было прынята рашэнне аб зносе Храма і будаўніцтве побач Палаца Правадыра.

Знішчэнне асноўнага Храма, а таксама тысяч іншых храмаў, цэркваў і манастыроў з'явілася вышэйшай ступенню ўніжэння славянскага народа і пачаткам канца жабрацкай краіны.

## Замест эпілога

...Этап прыбыў суткі таму і адразу быў скіраваны на работы. У бараку засталіся Марка Ласкоў, купка блатных і, з этапа, былы лейтэнант — малады, крыклівы і яшчэ поўны сіл. Ноччу ў яго скралі боты, і ён скарыстаў гэта, каб не ісці разам з усімі.

Марка Ласкоў ужо не падымаўся і ведаў, што памрэ дзесьці вечарам ці пад раніцу. Ногі ў яго распухлі, а твар пачарнеў ад перанесенага напярэдадні інфаркту. Цела ўжо не слухалася. Але адно пытанне яшчэ цікавіла яго ў гэтым жыцці: былы лейтэнант аказаўся са сталіцы, і ў перапынках паміж яго крыкамі Марка Ласкоў ціха спытаў таго, ці пабудаваны там, у

сталіцы, Палац Праўдадыра? Ён жа павінен ведаць? Былы лейтэнант падумаў і адказаў, што чуў пра тое, быццам будаўніцтва спынілі, а ўвесь метал з яго пайшоў на супрацьтанкавыя «яжы». Сталіца ўжо была ў аблозе.

Пасля гэтага незадаволены, што яго адцягнулі ад асноўнага, былы лейтэнант зноў пачаў крычаць.

— Тут усе ворагі народа! Я не хачу быць з імі, адвядзіце мяне да начальніка! — крычаў ён. — Мяне забралі памылкова! Так, гэта памылка! Адпраўце мяне на фронт!

Блатныя, якія гулялі ў карты, урэшце кінулі свой занятак і прыслухаліся, але былы лейтэнант працягваў сваё.

Пахан, які адзін займаў лепшыя падвоеныя нары, паклікаў аднаго са сваіх і роблена запытаў:

— Чаго ён крычыць? Не ведае, што ў свеце і так зашмат шуму? Хіба ў яго няма сэрца?

«Шасцёрка» на суседніх нарах вышчарыў зубы:

— Зараз праверым.

Ён выцягнуў маленькі саматробны складанчык, потым драўляную лыжку і акуратна завастрыў яе ў вузкай частцы. З двума блатарамі ён падышоў да былога лейтэнанта. Двое схапілі таго за рукі і заламалі іх назад. «Шасцёрка» нагнуў галаву да грудзей лейтэнанта і паслухаў.

— У яго ёсць сэрца, — сказаў ён.

Пахан кіўнуў.

Са сваіх нараў наверсе Марка Ласкоў убачыў, як лыжка лёгка ўвайшла былому лейтэнанту ў грудзі, ён ускрыкнуў, таргануўся некалькі разоў і заціх. Блатары падцягнулі яго да парашы і кінулі на падлогу.

Марка Ласкоў перавёў позірк на вузкія вакенцы барака, у якіх убачыў кавалак шэрага неба і месіва хмар, якія плылі і плылі з поўначы адна за адной.

Ён пакрысе рыхтаваўся да смерці — самага важнага, як ён лічыў, моманту ў жыцці кожнага чалавека.

***Красавік 2003 г.***



# У ВЯНОК СЛАВЯНСТВУ

***Прадстаўляючы гэтую нізку, хочацца звярнуць увагу вось на што: складалася яна не раптам; адпаведна, зададзенай структуры, як і канцэпцыі, у строгім сэнсе, не мае; а разам з тым у ёй, натуральна ж, выяўляецца тое, што перакладчыка цікавіць і хвалюе.***

***У сувязі з апошнім галоўнае — наколькі мы, як беларусы і славяне, усведамляем свой культурна-гістарычны тып, сваю гістарычную місію, сваю духоўную адметнасць і мастацка-творчую самабытнасць у параўнанні з іншымі, бліжнімі і дальнімі, народамі.***

***Асабліва цяжка думаць пра гэта ў апошні час, калі навідавоку — масавае ачмурэнне ідэалагічным стэрэатыпам «еўрапейскасці».***

***Выходзіць, трэба забыцца на тое, што сэнс імені «славяне» тлумачыцца «Словам» і «Славай»?***

***Не, трэба ўсвядоміць, што мы значым, і рабіць усё дзеля таго, каб квітнець у адзінстве пры Богам дадзенай разнастайнасці.***

ПАТРЫЯРХ ДАНІІЛ III (канец XIV ст.)

## КНЯЗЬ ЛАЗАР — КОСАЎСКІ ВЕЛІКАМУЧАНІК

Для мяне лепей смерць годная,
чым жыццё з ганьбаю.

Няхай і на целе раны,
і над галавой ятаганы,
я за справу святую стаяў,
мужна веру абараняючы,
на мучанікаў раўняўся.

Сачыў я за бітвай жорсткай,
памятаючы пра свет горні
і яго законы.

Сачыў, як лютуюць мячы,
і думаў пра тыя вянцы,
якія ў вышынях.

Чакаў, што загіну,
і ў бессмяротнасць верыў.
Прыняў усё мне адмеранае,
якім павінен быць, быў,
і суцешаны тым.

*З сербскай*

## ДЭСАНКА МАКСІМАВІЧ

### ЦУД У ЦАРКВЕ

У старажытнай царкве мураванай,
дзе моляцца рыбакі і сяляне,
абат на чужой мове чытае:
«Ave Maria, ave…
Pater noster…»,
а пад каменнымі зводамі
водгулле разносіцца:
«Маці Божая... Ойча наш, Ойча...»
Другі раз абат малітву пачынае
словамі, як нажы, вострымі:
«Pater noster, Pater noster…»,
ды ізноў па храме адгукаецца:
«Уладару, Божа, наш ласкавы Ойча...»
Штодня збіраюцца людзі,
каб стаць сведкамі цуду:
на прамоўленыя словы чужыя
адзываюцца зверху тыя,
што ў святыні адвеку
гучалі тутэйшаму чалавеку.
І трэці раз, гэткі цуд не прымаючы,
«Pater… Pater…» абат паўтарае,
а скляпенні царквы ўсё роўна
вяртаюць словы, люду родныя.

*З сербскай*

## ДЖОРДЖА НІКАЛІЧ

### ТАЯМНІЦА ЧАСУ

Якая гадзіна там
На вялікім гадзінніку Божым?

Схавана ад нас гэтая
Часу таямніца вялікая

Існуе бадай такі над-гадзіннік
Па якім звяраецца час наогул
Час пачатку і канца
Альбо хоць час вялікага пачатку
Які вылучаецца з плыні часоў
Мінулых і будучых
Гэтак як Біблія вылучаецца
З кніг
Пра-кніга ўсіх кніг і ўсяго пісьменства
Гэтак як Бог вылучыўся з людзей

Як храмы вылучаюцца
Сярод усіх збудаванняў
Як могілкі вылучаюцца
Сярод іншых прытулкаў

Існуе бадай такі гадзіннік
Па якім падганяюцца стрэлкі сусвету
Па якім планеты выстройваюцца ў свой парадак

Калі сонца Божая званіца
Дзе стаіць яна ад пачатку пачаткаў
Колькі часу цяпер паводле сусвету
Як выглядае дзень у календары Бога
Ці ёсць там да поўдня і апоўдні
Што за працягласць у Божай мінуты
А ці і там час вымяраецца
Гэтаксама як і ў нас
І аднойчы ўсё роўна скончыцца

*З сербскай*

## ДУШАН ЧОЛАВІЧ

### КІРЫЛАЎ ЗВАРОТ

Ці чуеш, браце,
Покліч птахаў славянскіх?
Кінь погляд на нашу зямлю,
Узрушаную, растрывожаную,
На якой грудок кожны ўздрыгвае
І крыніцы існасці нашай абуджае.

Рушым туды, дзе лясы
Нам пакінулі словы,
Дзе грамоўніка моваю
Выпісваецца гнеў і дараванне.

*З сербскай*

## ЛЮБІША ДЖЫДЗІЧ

### У ХАТЫНСКІХ ЗВАНАХ КРЫВАЯ РАКА

Я ніяк не мог зразумець
у якім напрамку рухаўся Млечны Шлях
гэтай ночы з Капаоніка
над Сербіяй рассыпаны

Калі апошнія зоркі яго
праз Еўропу
ўпалі ў калодзежы вёскі Хатынь
тады адсюль з Крывой Ракі
з адной малой спаленай царкоўкі
звоняць
зорныя званы
і гучанне іх смерцезарна прыгожае

Даруй Сербія
браце
хоць пра боль ты добра ведаеш
але і не падазраеш
якое ў цябе ў Крывой Рацэ
чыстае і высокае неба
— вой як

*Мінск, Капаонік, 1986*

*З сербскай*

## ІРЫНА ЖЫЛЕНКА

### ВОСЕНЬ. СКРЫПКА

Рука хапае, як ратунак, скрыпку,
А скрыпка загалосіць хрыпка.
Смык задрыжыць, — і я тым часам
У такт тапчу свой плач абцасам.

Мне хочацца на міг да лета ў госці,
Ды лета ўжо схавалася за восень...
І чую, як насмешліва зіма
Нашэптвае: цяпла табе няма.

*З украінскай*

## ІВАН ПЯТРОЎЦЫЙ

### ВЕЧАР

Упарта, гола і аб'ёмна,
Вяснова, весела і зло,
Смаглівa, горача і цёмна
Спускаўся вечар на сяло.

Святлом, расою, снамі, дымам,
Акном, калыскаю, вяслом,
Хлябамі, грэчкаю і кмінам
Спускаўся вечар на сяло.

Гарэў, трымцеў, спяваў, мяняўся,
Крычаў, кахаўся, біўся, роў,
Ільсціўся, плакаў і смяяўся
Той майскі вечар з вечароў.

*З украінскай*

## МІКОЛА МАТОЛА

### НАЦЮРМОРТ З КАЛАСКАМІ І ГАРЛАЧЫКАМ

**Па матывах карціны Кацярыны Белакур**

Заходзь у хату і сядай,
Дамо табе крынічнае вадзіцы,
У хаце нашай радасць ці бяда,
Квітнеюць краскі, жыта каласіцца.
Заходзь у нашу хату і сядай.
На цёмным тле запалымнелі ружы.
А ў закуточку чараўнік-звяздар,
Па іх чытае, як па зорах, душы.
Лунае казка нашага сяла —
Яе на небасхіле пішуць зоры,
Яна і ў нашай хаце расцвіла,
Яе ж у каласочках дорыць
Нам родная зямля...
І гэта ўсё, спазнанае ў натхненні —
Душы народнай чуты спеў і гнеў,
Праклёны, енкі і благаславенні —
Перадаецца тут, на палатне...
Заходзь у нашу хату і сядай,
Дамо табе крынічнае вадзіцы,
Змест нашай казкі іншым перадай —
Пра кветкі, каласкі, крыніцу.

*З украінскай*

## НАДЗЕЯ ПАНЧУК

* * *

Страшная тая самота,
ад якой
хаваюцца ў натоўп.
Найстрашнейшая ж тая,
якую
не заўважае ніхто.
Ды бывае
самота такая,
што прасторaю
поўніць сэрца —
а ў ёй ціхім громам,
дажджом ураджайным
роднае ўсё
да мяне
данясецца.

*З украінскай*

## СРБА ІВАНОЎСКІ

Я замкнуў цябе ў камень,
Як у скарбонку,
На дно каменя,
Як у «Пакой» Ван Гєга,
Замкнуў цябе ў маўчанне, у сваё маўчанне,
Ды вось ізноў ты тут,
Нібы сцюдзёная крыніца,
Нібы асвежаная купальшчыца ў траве.

Я кінуў цябе ў агонь.
О, ці згадваеце гэтае прыемнае злачынства?
Яго здзяйсняе толькі той,
Хто пераносіць полымя з песні ў песню.

У меч я цябе ўкаваў,
У зіхоткі меч з каляным лязом.
Ты цяпер, мабыць, той прыемны боль,
Што дых пераймае, калі ўсміхнуся.

*З македонскай*

## РАДАВАН ПАЎЛОЎСКІ

### САВА

Месца жыць табе — на гары
каб аплакваць вяршыні
Што ж табе ў горадзе трэба
Птушка цёмная і фасфарычная з ніадкуль
ты ляціш марудна быццам стагоддзе
якое шукае каралі згубленыя небам
Сухімі крыламі сваімі ўсё ты высушыла
пачуцці растраціла і няздольна ўжо
ляцець куды кліча твой голас
Калі ж я са сцяблінкай травы
ў горад вяртаюся каб не быць у самоце
сустракаеш мяне з хорам начных соў
Нічога не застаецца нам акрамя як
днём убачанае ўначы аплакваць.

*З македонскай*

## МІХАІЛ РЭНДЖАЎ

### СТВАРЭННЕ ЧАЛАВЕКА

Толькі цемра аддзеліцца
ад святла —
З зіхацення з'явіцца дрэва.

Залатое дрэва, залатое.

Толькі дрэва зазелянее —
На яго прыляціць птушка.

Залатая птушка, залатая.

*З македонскай*

## ГРЭГАР СТРНІША

### УБРАНАЯ Ў ЦЯЖКІ ШОЎК ДЗЯВОЦТВА СВАЙГО

Убраная ў цяжкі шоўк дзявоцтва свайго,
што і пры найменшым руху шалясціць,
глядзіш на сябе ў люстэрка, дзе выява твая
ў нязнаным прытулку мары чужой існуе.

Люстэрка чароўнае ўвесь час мяняе
постаць тваю, валасы і цалкам аблічча.
Як герб горада мараў ты, выява дзевы
з вачыма змяі, з абліччам сняжынкі.

Іней святла цябе неўпрыкмет пакрывае.
Цямней і цямней робіцца наўкола,
нібыта святло ўсё зцілося за люстраное дно,
з-за якога ў мутным ззянні з'явіцца адзінарог.

*З славенскай*

## КАЭТАН КОВІЧ

### АШАЛЕЛЫ САБАКА

Узбунтаваўся ён супраць доўга і старанна
школенай памяркоўнасці сярэдняга сабакі.
Стаў заўважаць, што косці, якія яму кідалі,
раней былі мясам пакрыты.
Узбунтаваўся ад голай іх бессаромнасці.
Узненавідзеў місу, прывязаную да ланцуга
і адчуў,
што смага ў яго іншая ды большая.

Унюхаў ён вялікую сучку свабоды.

Чулі, як ён ланцуг парваў.
Потым бачылі, як бегаў
з апушчанай галавою
па вялікіх плошчах і занядбаных прадмесцях,
бачылі, як стаяў на гары і піў ваду з крыніцы,
аж пакуль па нейкіх цёмных завулках
не забег ён у іхнія сны.
Прачыналіся з тварамі гіцляў.

А ён, які раней уцякаў
ад міласці іхняй,
ужо гневу іхняга перастаў баяцца.
Ведаў адно перад сабою дарогу,
стамляльны, але прыемны, рух ног

і адчуваў тое, чаго
сабакі ніколі не адчуваюць.
Ды неяк заўважыў, што вуліцу загарадзілі.
Гэта ж ланцуг, — падумаў,
але не надаў значэння, хвост не зацiснуў між ног.
Па гэты бок — жыццё, па той — смерць.
Выбраў свабоду.

Забілі яго як шалёнага сабаку.

*З славенскай*

## МІХАЛ КОВАЧ

### Я ДУБ ЧАРВЯТОЧНЫ

Я дуб чарвяточны,
які невядома хто
і невядома калі
на гэтай гары глухой
пасадзіў,
каб я на жвіры сох,
у хмар вады прасіў,
ветру супрацьстаяў
колькі маю сіл...

Я дуб чарвяточны,
і невядома калі
з пянька свайго
часам зубатым
звалены,
на грудзі маткі-зямлі
галаву неразумную
і цела безжыццёвае
схіліў...

Я не ведаю, хто сукі сухія
з камля майго
абрубваць будзе
і якая карысць
ад ствала таго
чарвяточнага
можа быць людзям...

Але ведаю,
што высілкі мае
за шмат гадоў
могуць стаць агнём,
ад якога ў пару халадоў
можна грэцца
замерзлым рукам,
а то і сэрцам.

*З русінскай*

## УЛАДЗІМІР ГАРАНСКІ

### НАПАЛЕОН

разжалаваны напалеон прыходзіць
з голага вострава
без рук і без ног
не можа нікога абняць
ні жонку сабе ўзяць

ды пакольки хочацца жыць
і дзяцей напладзіць
ён жонку не выбірае
і нічога людскага не мае

разжалаваны напалеон прыходзіць з пекла
не маючы смеласці галоўнага чорта забіць
дык на алтар чорны сына кладзе
і не знаходзіцца ангела
які б стрымаў руку гэтага ваякі

для разжалаванага напалеоны ўсе роўныя
лебедзь і чарвяк
высакалётны птах і смоўж
і такія адрозненні не растлумачаць яму
ні песня
ні асабістыя пакуты
бо ваяку ж рыхтавалі служыць
і слухаць загады
а не парады прыроды

*З русінскай*

***Уступнае слова і пераклады Івана ЧАРОТЫ.***



**МІХАСЬ КУЛЕШ**

# СЫН

Алесь Пятровіч прачнуўся а шостай гадзіне раніцы, пацiху, каб не пабудзіць суседа па палаце і не трывожыць спіну, якая раніцай звычайна балела мацней, чым удзень, ссунуўся з ложка, накінуў халат і падышоў да акна.

Санаторый для ветэранаў вайны месціўся за горадам у старым сасновым бары. Перад акном двухмеснай палаты сосны расступаліся, адкрывалі маляўнічы краявід: палі са стагамі саломы, палеткі з зелянеючай рунню, вёска з могілкамі на далягладзе і вузкая змейка дарогі, якая звязвала санаторый з навакольным светам.

Пачуўшы звон будзільніка, Алесь Пятровіч склаў на грудзях рукі і з усмешкай пачаў назіраць, як прачынаецца ягоны сусед Вінцэнт Альгердавіч, каржакаваты і рухавы вясковы дзядок, жартаўнік і душа санаторнай кампаніі. Лежачы на спіне, той навобмацак адшукаў на століку будзільнік і сунуў сабе пад падушку. Вясёлы звон ператварыўся ў непрыемны камарыны зуд.

Алесь Пятровіч зірнуў на спакаваную сумку суседа і засумаваў, згадаўшы, што той учора атрымаў дакументы на выпіску з санаторыя і сёння па яго павінна прыехаць жонка.

* * *

Яна прыехала яшчэ да снедання. Стоячы каля акна, Алесь Пятровіч з усмешкай назіраў, як Вінцэнт з жонкай Магдай, аб нечым спрачаючыся, уладкоўваюцца ў прыпаркаваны на невялікай пляцоўцы каля санаторыя «Масквіч». Праз якую хвіліну аўтамабіль ужо нагадваў сабой маленькую кузурку, якая паўзе па ссохлай сцяблінцы

«Шчаслівы чалавек, — падумаў пра Вінцэнта Алесь Пятровіч, праводзячы позіркам «Масквіч», — хоць ёсць чалавеку з кім параіцца... А тут чакаеш тыдзень сына. І добра, калі яшчэ з нявесткай прыедзе, з ёй можна пра нешта пагаманіць...» Ягоная жонка Аліна, якая чакала Алеся ўсю вайну, выхадзіла яго пасля шпіталя, памерла сем гадоў таму, і з таго часу ён пачуваў сябе кінутым і нікому не патрэбным. З цягам часу гэтае пачуццё прытупілася, але кожны раз, калі ён успамінаў жонку, у яго затуманьваўся позірк і да горла падступаў камяк. Ён ужо хацеў адысці ад акна, калі прыкмеціў, як ад вёскі ў напрамку санаторыя рухаецца нейкі аўтамабіль.

«Няўжо гэта мне суседа вязуць?» — падумаў Алесь Пятровіч. Ён дачакаўся, калі на пляцоўцы прыпыніўся цёмна-зялёны «Мерседэс». З машыны спярша выйшаў вадзіцель, салідна апрануты чарнявы мужчына гадоў шасцідзесяці. Ён няспешна адчыніў дзверцы і дапамог выйсці хударляваму старому з кіёчкам у правай руцэ.

«Змена вартавых, — усміхнуўся былы артылерыст, спрабуючы зразумець, кім адзін аднаму даводзяцца прыезджыя. — Сын з бацькам — не, не вельмі падобныя, зяць з цесцем — малаверагодна, занадта далікатна вадзіцель каля пасажыра завіхаецца, здаецца, калі б не важкая сумка, то на руках бы панёс... Ну, нічога, скора ўсё стане вядома», — успомніўшы пра снеданне, заспяшаўся Кравец.

Пасля снедання, ідучы па калідоры, ён убачыў вадзіцеля «Мерседэса», які ўпаўголаса аб нечым размаўляў каля акна з галоўным урачом санаторыя. Алесь Пятровіч увайшоў у пакой і павітаўся з нянечкай, якая засцілала свежую бялізну на Вінцэнтавым ложку. Каля ложка сядзеў стары, які гадзіну таму прыехаў у санаторый.

— Будзем знаёмыя! Мяне завуць Алесь Пятровіч, — ён падаў руку незнаёмцу.

— Прабачце, што не падымаюся, цяжка ўставаць, — госць паціснуў Алесеву далонь, — Сцяпан Мікалаевіч.

— Не сумуйце, Сцяпан Мікалаевіч, я таксама сюды з кіёчкам прыехаў, а тыдзень таму паклаў яго пад ложак. Ведаеце, палепшала, — паведаміў Кравец, — можа, і вам усе гэтыя працэдуры дапамогуць.

— Дай жа Бог, — усміхнуўся госць.

Пазнаёміўшыся, мужчыны разгаманіліся, знайшлі агульную тэму для размовы. Неўзабаве ў пакой зазірнуў вадзіцель:

— Ну як, уладкаваўся?

— Дзякуй, усё выдатна. Вось пазнаёмся, гэта мой сусед, Алесь Пятровіч, а гэта мой сын Іосіф.

Вітаючыся, Кравец спрабаваў убачыць хоць нейкае падабенства паміж бацькам і сынам, але не знайшоў.

З гэтага дня жыццё ў палаце палепшылася. Кожную раніцу прыязджаў Іосіф, галіў старога, пасля душа памагаў пераапрануцца ў чыстае, падоўгу размаўляў са старшай сястрой і нянечкай. Праз дзень ім пачалі мяняць бялізну на ложках, на століках з'явіліся садавіна, сокі, нянечка прынесла і паставіла на акно вазу з жывымі кветкамі.

Алесь Пятровіч зразумеў, што гэта Іосіф змог заахвоціць дактароў, і з таго адбыліся ўсе гэтыя змены. Неяк раніцай, перад снеданнем, стоячы каля акна, ён жартам падзяліўся сваімі меркаваннямі з суседам.

— Гэта Іосіф, — уздыхнуў Сцяпан Мікалаевіч і ўсміхнуўся, — я ж яму казаў: «Ну, нашто гэта ўсё, залішняе...» А ён кажа: «Тата ў мяне адзіны, і ён ні ў чым не павінен мець патрэбы». Ён у фірме нейкім начальнікам працуе, грошы ёсць і ён іх не шкадуе.

— Паслухай, Мікалаевіч, ты прабач мне, але гляджу я на вас з сынам і думаю, чаму вы такія не падобныя адзін да аднаго. Напэўна, сын у жонку ўдаўся?

— Не, мы з жонкай былі з адной вёскі, — у Сцяпанавым голасе чулася туга. Ён крыху памаўчаў, потым прамовіў: — Іосіф нам не родны сын.

* * *

Нясцерпная спёка сушыла лясы, пажоўклыя палеткі, даймала людзей, што ішлі па дарозе. Яны паміралі ад голаду, смагі і хвароб. Паміралі на дарозе і на начных прыпынках, у калгасных свіронках і ў разрабаваных цэрквах, якія заваёўнікіператварылі ў начлежкі. Іх мог застрэліць фашыстканваір, калі вязень страчваў прытомнасць і падаў на дарогу. І, здавалася, сама смерць моўчкі крочыць разам з імі, углядаючыся ў твары няшчасных і выбіраючы таго, над кім праз хвіліну трэба будзе ўзняць вышчарбленую акрываўленую касу.

«Juden» — гэтае слова нявольнікі колькі разоў чулі ў вочы і за спінай, яно вісела як праклён над гэтымі людзьмі, і было той галоўнай прычынай, з-за якой яны ўсе павінны былі загінуць.

Калона, аточаная разамлелымі ад спякоты ахоўнікамі, стомленым шэрым вужом узнялася на прыгорак, за якім людзі ўбачылі вёску. У вязняў засвяцілася ў вачах надзея, і яны ледзь прыкметна прыспешылі хаду. Канваіры, заўважыўшы гэта, пачалі папраўляць аўтаматы, рыхтуючы да стральбы нагрэтую сонцам зброю. Хваляваццa не было прычын. Колькі такіх вёсак і хутароў яны прайшлі за пяць дзён, і нідзе не было аніякіх нечаканасцей. Спагадлівыя жыхары перадавалі вязням ежу і пітво, а потым пацiху разыходзіліся па сваіх дварах.

Соня перасадзіла з анямелай правай рукі на левую гадавалага сына, які, паглядзеўшы навокал асалавелым позіркам, паварушыў засмяглымі вуснамі і, заплюшчыўшы вачаняты, прытуліўся да матчынай шыі.

— Можа, хоць вады можна будзе здабыць для дзіцяці, — з надзеяй шапнула мужу жанчына. Саламон, які моўчкі крочыў побач, паправіў на плячах лямкі меха, у якім былі ўсе іхнія пажыткі, і ціха прамовіў:

— Калі зойдзем у вёску, аддай каму-небудзь з сялян сына, толькі так мы яго ўратуем.

— А канваіры? — яшчэ не разумеючы таго, што павінна адбыцца, спытала Соня.

— Я неяк займу іхнюю ўвагу.

Жонка хацела яшчэ нешта сказаць, але муж ужо ступіў крок убок і пачаў пацiху, непрыкметна для аховы, пераходзіць на правы бок калоны.

Жанчына зразумела, што ўжо нічога нельга перайначыць, яна павінна зрабіць тое, што загадаў муж. Хвіліну яе сэрца разрывалася ад шкадавання і любові да мужа і сына, потым яна пацалавала ў шчаку соннае дзіця і, нібы ў сне, перабралася на левы край калоны.

...Люба падбегла да краю дарогі і ў трох кроках перад сабой убачыла хлопчыка, які спаў, паклаўшы чарнявую галоўку на матчына плячо. Жаль, спачуванне працялі жаночае сэрца. Яна паглядзела на маці, якая, здавалася, некага шукае сярод Любіных аднавяскоўцаў. Жанчына, якая нарадзіла дзіця, і тая, якой было наканавана выратаваць яго ад смерці, сустрэліся позіркамі.

Саламон, які да гэтай хвіліны не зводзіў з Соні вачэй, нейкім шостым пачуццём зразумеў, што адбылося. Нечакана для канваіраў ён скінуў мех на зямлю і бягом кінуўся да прагону паміж хлявамі. Вяскоўцы расступіліся, даючы вязню ўцячы, і той ужо амаль што дабег да завулка, але ў гэты момант яго дагнала аўтаматная чарга.

Жанчыны стаялі адна перад адной.

— Хлопчыка завуць Іосіф, — шапнула Соня Любе, якая падала ёй бохан хлеба.

Люба асцярожна і надзвычай беражліва ўзяла на рукі соннае дзіця, якое даверліва прытулілася да новай маці, апусціла галаву і пабегла дахаты. Канваір, які прыкмеціў тое, што адбылося, апусціў аўтамат і моўчкі глядзеў у спіну жанчыне з дзіцем на руках.

Соня, стрымліваючы слёзы, прыціснула да грудзей хлеб, ледзь жывая ад перажытага перайшла на другі бок калоны і, заліваючыся слязамі, развіталася позіркам з мужам, які ляжаў на спіне, шырока раскінуўшы рукі.

* * *

— Я тады партызаніў, мяне паранілі. Трапіў у палон. Уцёк. У родную вёску толькі ўзімку даклэпаў. Увечары цішком падышоў да хаты, гляджу, а ў акне святло. Зайшоў у хату, а там нікога няма. Любаша якраз да суседкі па малако хадзіла. Я сеў за стол, чакаю, а тут з-за заслоны хлопчык выйшаў. Чарнявенькі, сур'ёзны такі. Доўга на мяне глядзеў. Я зніякавеў ад нечаканасці, а ён кінуўся да мяне і за шыю ашчапіў ручкамі. «Тата мой», — кажа. Гэта, аказваецца, жонка яму мае фотаздымкі паказвала, і ён мяне пазнаў. Так ён з Любашай усю вайну і пражыў. Мы яму потым усё расказалі, думалі, мо пасля вайны за ім хто вернецца. Так ніхто і не прыйшоў. Сваіх дзяцей нам Бог не даў, таму мы Іосіфа сваім родным сынам усё жыццё лічылі. А цяпер мы ўдвух з ім засталіся. Памерла нашая матуля два гады таму такой парой... Я пасля пахавання раніцай прачнуўся, а сына ў хаце няма. Я адразу зразумеў, дзе ён. Пайшоў на могілкі, бачу, каля магілы на каленях стаіць і нешта гаворыць на нейкай незразумелай мове. Заўважыўшы маю цікавасць, ён сказаў: «Я прасіў Госпада, каб мама не пакутавала на тым свеце». Маўляў, кожны чалавек на сваёй роднай мове павінен да Бога звяртацца. «Хто і калі яго навучыў яўрэйскай мове, не ведаю», — Сцяпан Мікалаевіч скончыў свой аповяд, падышоў да акна і доўга глядзеў на восеньскі пейзаж.

— Ты вось кажаш, родным сынам лічыш. А што тыя родныя, — усміхнуўся Алесь, — мой сын прыедзе раз у тыдзень, прывязе тое-сёе, а сам сядзіць і на гадзіннік неўпрыкмет паглядае...

— Не судзі так строга, — уздыхнуў Сцяпан, — твой і жыве далей, а цяпер жа ўвесь свет такі, усе некуды спяшаюцца.

На пляцоўку падкаціў «Мерседэс». З адчыненых дзверцаў выглянуў Іосіф і, прыкмеціўшы старых у акне, з усмешкай памахаў рукой.

Праз некалькі хвілін у палаце пачаліся звычайныя ў такіх выпадках частаванні і размовы, але мужчыны прыкмецілі нейкую разгубленасць у паводзінах Іосіфа.

— Што здарылася, сыне? — пацікавіўся Сцяпан, уладкоўваючыся ў крэсле перад люстэркам.

— Ведаеш, тата, тут са мной учора нешта незразумелае адбылося, — адказаў Іосіф, паклаў на стол брытву, якую перад тым доўга і задумліва правіў на скураным рэмені, узяў у рукі памазок, але так і застаўся сядзець нерухома, гледзячы ў адну кропку, — учора да нас з Нямеччыны бізнесмены прыехалі на перамовы. Сядзім у пакоі, размаўляем, перакладчык стараецца, усе людзі як людзі, анічога страшнага няма. А як пачынае нямецкая мова гучаць, мяне такое пачуццё агортвае, што схавацца куды-небудзь хочацца, нават рукі дрыжаць пачынаюць, быццам ад страху. Няўжо гэта я так гэтых немцаў узненавідзеў, што...

— Не хвалюйся, Іосіф. Я, напэўна, ведаю, ад чаго гэта, — разважліва прамовіў Сцяпан, — мне Любаша неяк пра адзін выпадак расказала. Яна цябе ад немцаў ды ад паліцаяў хавала, каб не згледзелі, а потым ты ўжо сам хаваўся. Аднаго разу ў вёску немцы на матацыклах прыехалі і на тую бяду чацвёра ў нашу хату зайшлі, а ты на кухні гуляў, убачыў іх і схаваўся ў падпечак. Яны за стол: «Матка, давай яйко, млеко». Сядзелі, абедалі, гергеталі там па-свойму гадзіны мо са дзве. Потым паехалі. Любаша кажа: «Я туды-сюды, няма анідзе хлапца! Быў жа ў хаце...» Знайшла цябе ў падпечку соннага.

— Нешта, здаецца, прыпамінаю... — Іосіф задумліва глядзеў перад сабой, потым сцепануў плячыма, быццам адганяючы непрыемныя ўспаміны, паклаў на столік памазок і падняўся з месца. — Тата, ды даруй, я, напэўна, цябе галіць сёння не буду, паеду.

— Не хвалюйся, Іосіф, усё нармальна, — Сцяпан Мікалаевіч улёгся на ложак і паспрабаваў уцешыць сына, — я ўсё разумею, баішся старога парэзаць. Нічога, заўтра ўсё зробім. Ты едзь на працу. Дамаўляйся там з імі, з немцамі.

Іосіф развітаўся са старымі і выйшаў з палаты.

# ДАРОГА

Для Зміцера і Аксаны гэтая навагодняя ноч была асаблівай. Неяк так атрымлівалася, што ўсе пяць гадоў сумеснага жыцця Новы год яны сустракалі паасобку. Быць у гэтую ноч разам перашкаджала Зміцерава работа. Ён працаваў вадзіцелем-дальнабойнікам і заўсёды перад святам, як незнарок, менавіта яму выпадаў нейкі тэрміновы рэйс. Выходзіла так, што гадзіннік на прыборнай дошцы якраз «збіваўся» на чатыры нулі, або на трасе, калі з домам Зміцера раздзялялі дзесяткі кіламетраў, або ў чарзе на якім-небудзь мытным пераходзе, наогул за сотні вёрст ад Аксаны.

Макар, ягоны напарнік, з гэтай нагоды неяк пажартаваў: калі купляеш загадзя шампанскае да Новага года, дык трэба адразу несці бутэльку ў кабіну, — не прападзе.

Зрэшты, што ўсё так складвалася, мабыць, вінаваты быў сам Зміцер. А тры гады таму яны з Макарам выкупілі цягач з «фурай». Потым да іх далучыліся сябры, і яны набылі яшчэ адзін аўтамабіль, які ў калоне меліся спісваць. Рамантавалі яго ледзьве не паўгода. Потым Макар сеў за руль, маўляў, не магу без дарогі, і з жонкай менш сварак. Зміцеру ж выпала роля кіраўніка. Ён павінен быў мазгаваць, як і дзе атрымаць заказы на лепшыя рэйсы, клапаціцца пра рамонт, днямі сядзець за сталом і капацца ў паперах альбо хадзіць з папкамі па кабінетах, дбаючы пра справы іхняй фірмы.

І справы пайшлі няблага. У трыццацігадовага «дылехтара», як называў Зміцера Макар, з'явіліся грошы і вольны час. Неўзабаве сябры купілі патрыманы, але яшчэ не благі з выгляду джып, каб Зміцер быў не горшы за астатніх кіраўнікоў-фірмачоў такога ж рангу. Гэта дапамагло новаспечанаму дырэктару не толькі эканоміць час, але і ўпэўнена адчуваць сябе ў новым «бізнесовым жыцці». Ён неўпрыкмет перамяніўся, паспакайнеў, нават паважнеў. «Нарэшце пачаў жыць», — зрабіла выснову жонка, пасля таго як Зміцер набыў у невялічкай прыгараднай вёсачцы хату і за сем месяцаў ператварыў яе ва ўтульнае лецішча з садам і гародам.

Напрыканцы тыдня яны разам з дачкой ехалі ў вёску. Лес, рэчка, сонца, п'янлівае свежае паветра прымушалі забыцца на гарадскі тлум і таўкатнечу. Не было, напэўна, ва ўсім свеце жанчыны шчаслівейшай за Аксану, калі яна назірала, як Зміцер з пяцігадовай Насцяй, радасныя, на квяцістым лузе запускаюць у неба вялікага папяровага змея. Яна ўсё не магла паверыць у тое, што нарэшце ўжо не перажывае, як раней, за мужа, што скончыліся бясконцыя чаканні яго з рэйсаў. Нарэшце ў яе з'явілася адчуванне сям'і: што ўсё добра, ладам. Яна таксама заўважыла, што ў характары Зміцера зніклі набытыя за гады шафёрства непрыхаваная жорсткаць і ўладнасць. Адно толькі, седзячы за рулём джыпа, Зміцер ніколі не саступаў і злаваў, калі жонка спрачалася з ім ці павучала. У рэшце рэшт яна зразумела, што ў пэўных сітуацыях лепей змаўчаць.

Напярэдадні, увечары, перад тым як класціся спаць, Аксана паведаміла мужу, што тэлефанавала яе маці і прасіла, каб яны прывезлі на Новы год да бабулі з дзядулем іхнюю ўнучку.

Насця, даведаўшыся, што там ёлка, Дзед Мароз, падарункі ўсялякія, за дзень галаву адурыла: «Ну мамачка, ну, адвязіце мяне да бабулі!»

— Як скажаш, — усміхнуўся распранаючыся Зміцер. — Толькі ведай, што і я хачу запрасіць цябе ў рамантычнае падарожжа! Магу я ў рэшце рэшт сустрэць Новы год як належыць з каханай жонкай?

— Вядома, можаш. Але... Што ты надумаў?

— Заўтра даведаешся. Добрай ночы.

Раніцай, пакуль жонка з дачкой спалі, ён паціху апрануўся, выйшаў з кватэры, сеў у джып і памчаўся на лецішча. Прыехаўшы, расчысціў ад снегу сцежкі, прапаліў у печы, апусціў у калодзеж электрапомпу і напоўніў воданагравальнік. Уключыў халадзільнік і пачаў прыбіраць пакой: падмёў падлогу, выцер пыл, па-святочнаму заслаў ложак. Доўга валтузіўся з ёлкай, якую ссек, едучы праз лес. Начапляў цацак, аздобіў дожджыкам і гірляндамі.

У задуменні пастаяўшы каля стала, паставіў талеркі, бутэльку шампанскага, уладкаваў у вазачку тры чырвоныя ружы. Нарэшце прыпыніўся каля дзвярэй і па-гаспадарску агледзеў зробленае: «Трэба было больш кветак купіць». Уключыў гірлянды, якія пачалі мільгацець лямпачкамі, і выйшаў з хаты.

На дварэ было ўжо цёмна. Ідучы да машыны, ён яшчэ раз азірнуўся на хату, убачыў агеньчыкі, што высвечваліся праз акно, і ўсцешана ўсміхнуўся сваёй задуме.

У бацькоў яны доўга не затрымаліся, пасядзелі крыху за святочным сталом, на развітанне расцалавалі дачку, і неўзабаве Зміцер ужо сядзеў у джыпе і праграваў рухавік.

— Ну, даражэнькая, давай хутчэй, менш чым гадзіна да Новага года засталася...

— Можна не спяшацца, да вёскі адсюль паўгадзіны ехаць, — Аксана зірнула на гадзіннік, потым выцягнула з сумачкі касету і ўключыла магнітафон, — гэта нічога, калі я тут у вашым аўтамабілі музычку паслухаю?

— Слухай, дазваляю.

Сур'ёзны выгляд Зміцера, рытмічная музыка, святочнае ўбранне горада і прадчуванне чагосьці прыемнага настроілі жанчыну на вясёлы іранічны лад.

«Але як ён мяняецца, калі садзіцца за руль! — думала жонка, разглядваючы асветлены лямпачкамі прыборнай дошкі мужаў твар, — аніякі ён не бізнесмен. Як быў шафёрам, так ім і застаўся».

Неўзабаве джып вырулiў на гасцінец і памчаўся ў асветленую фарамі бясконцую аўтамабільную плынь, якая не прыпынялася ні ўдзень ні ўночы.

Дарога жыла. І жыла яна па сваіх правілах, дазваляла адным своечасова прыехаць у пункт прызначэння, другім давала сродкі для жыцця і адбірала тое жыццё ў тых, хто не жадаў выконваць яе непахісныя законы ці проста засынаў за рулём. Зміцер выдатна разумеў, што зараз на трасе самы небяспечны час і таму быў надзвычай уважлівы за рулём. Многія, спяшаючыся дадому, не зважалі на правілы руху, некаторыя, стомленыя і спакутаваныя цяжкай напружанай працай, проста «цягнулі» да стаянкі. Зміцер чамусьці прыпомніў выпадак, які адбыўся многа гадоў таму. Вадзіцель, з якім яны працавалі ў адной калоне, у навагоднюю ноч спяшаўся на сваім грузавіку ў вёску да бацькоў. Жадаючы скараціць шлях, звярнуў у лес на няезджаную заснежаную дарогу. Да вёскі заставалася якіх паўкіламетра, калі ягоны «ЗІЛ» забуксаваў у сумёце. Вадзіцель пачаў разграбаць рыдлёўкай снег, дамкраціць заднія калёсы і падкідваць пад іх сушняк. Нечакана аўтамабіль сазлізгнуў з дамкрата і колам прыціснуў да дарогі ягоную далонь. Чалавек крычаў ад болю, зваў на дапамогу. Гадзіны праз дзве зразумеў, што да раніцы проста замерзне, дацягнуўся свабоднай рукой да рыдлёўкі, адсек анямелую далонь, перацягнуў жгутом абрубак і, перамагаючы боль, прыйшоў у вёску.

— А карацейшай дарогі няма? — пацікавілася Аксана, калі яны пад'ехалі да павароту.

— На шчасце няма.

— Чаму, на шчасце?

— Ну куды ўжо карацей? Восем кіламетраў праз лужок, праз лясок — і мы дома!

Зміцер выехаў на заснежаны прасёлак, уключыў дальняе святло і прытапіў педаль газу, кіруючы да лесу, які чарнеў на даляглядзе. Раскідваючы па баках іскрысты снег, джып пабег па ледзь прыкметным прасёлку, які мо на метр узвышаўся над бязмежным белым покрывам.

— Нішто сабе лужок! — прамовіла жонка. — Нават не верыцца, што ўлетку тут каровы пасвіліся!

«І сапраўды, дзіўная паездка, — думала Аксана, гледзячы на дарогу, на халодны зорны небасхіл з сярпом месяца, на Зміцера, які ўпэўнена кіраваў аўтамабілем, — а цікава, што там на дачы робіцца? Не муж, а нейкі тайны агент, слова з яго не выцягнеш...»

Велічныя карабельныя хвоі з белымі пухнатымі шапкамі на разлапістых галінах, снег, утыканы слядамі і слядочкамі лясных жыхароў, непраглядная цемра абапал дарогі нібыта папярэджвалі падарожнікаў, што яны тут няпрошаныя госці. Аксане чамусьці стала няўтульна і неспакойна на душы. Зміцер скінуў хуткасць і пачаў уважліва ўглядацца ў скрыжаванне, за якім на дарозе былі выразна бачныя сляды палазоў і конскіх капытоў. Неўзабаве за паваротам яны ўбачылі каня, запрэжанага ў сані, у якіх нехта сядзеў. Сані нерухома стаялі на дарозе.

Абмінуўшы іх, Зміцер прытармазіў, уключыў заднюю перадачу:

— Нешта тут не тое...

— Што не тое? — Аксана выключыла магнітафон, каб лепей пачуць і разгледзець, што адбылося.

Зміцер падышоў да асветленых фарамі саней. У доўгім, зашпіленым кажусе, валёнках і лісіным трывусе, схіліўшы галаву на грудзі, спаў малады мужчына. Перад тым, як заснуць, ён, напэўна, пацягнуў лейцы, і жарабец прыпыніўся, цярпліва чакаючы, калі чалавек загадае ехаць далей.

— Гэй, прачніся! — Зміцер страсянуў яго за грудзі і паляпаў па шчоках.

Мужчына расплюшчыў затуманеныя вочы, паглядзеў на яго і выдыхнуў:

— Адчапіся...

Адчуўшы густы пах перагару, Зміцер усё зразумеў. Ён схапіў з сумёта жменю снегу і пачаў расціраць ім твар няўдалага ездака. — Прачніся! Не спі! Замерзнеш, дурань...

Нешта мармычучы, той паспрабаваў ухапіць загрудкі крыўдзіцеля і валіўся з саней на дарогу.

Зміцер падняў незнаёмца на ногі, тыцнуў тварам у сумёт.

Насілу ўтрымліваючы раўнавагу і выціраючы з твару снег, той пачаў аглядацца па баках і спрабаваў уцяміць, што адбываецца.

— Дзе я? Што...

— Дзе ты жывеш? — спытаў Зміцер. Ён выдатна разумеў, што той можа зноўку сесці ў сані, заснуць і больш ужо ніколі не прачнуцца.

— У Рыжкавічах.

— Як завуць?

— Фёдар.

— Паехалі...

Зміцер падвёў да джыпа новага знаёмага, адчыніў заднія дзверцы і зірнуў на жонку:

— Дапамажы!

Удваіх яны ўсцягнулі на задняе сядзенне вазака, які тут жа і заснуў. У салоне запахла тытунём і гарэлкай. Аксана не ведала, што ёй рабіць: абурацца ці смяяцца, усміхнулася, паглядзела на пасажыра, потым на мужа, які ўжо крочыў да каня.

Зміцер паслабіў лейцы, закруціў іх за рог сядзення і ўдарыў па крыжы каня.

— Но! Пайшоў!

Падкідваючы падковамі снег, буланы шпарка пабег па зімніку.

«Ну, цырк! — думала Аксана, гледзячы, як за акном аўтамабіля пралятаюць заснежаныя дрэвы і кустоўе, — нішто сабе рамантычнае падарожжа — п'янтосаў па хатах развозіць!»

Яны выехалі з лесу і ўбачылі ўказальнік пры дарозе: «Рыжкавічы 1 км». Зміцер павярнуў направа, і праз хвіліну аўтамабіль ужо каціў па вузкай заснежанай вулачцы.

— Фёдар! Дзе ты жывеш? — вадзіцель патузаў пасажыра за плячо. Той расплюшчыў вочы, пакруціў галавой і паказаў рукой хату з левага боку:

— Во тут.

Ледзьве не зачапіўшы бамперам плот, джып развярнуўся і прыпыніўся каля аздобленых яловымі галінкамі веснічак.

— Сам дойдзеш ці дапамагчы? — даволі лагодна запытаў Зміцер.

— Дайду, канешне. Што я зусім ужо?..

Фёдар выйшаў з аўтамабіля, паслізнуўся, зрабіў тры хуткія крокі, ухапіўся за штыкетнік.

Затрашчаў плот, і гаспадар, не выпускаючы з рук адарваную штыкеціну, паваліўся спінай на снег.

Смеючыся і жартуючы, Зміцер з Аксанай паднялі небараку на ногі і павялі ў хату.

У асветленым акне каля ганка ўзнік твар жанчыны, якая, прыкладваючы рукі да шыбы, спрабавала разгледзець тое, што адбывалася на двары, потым расчыніліся дзвёры.

— Вам тут падарунак ад Дзеда Мароза, — пажартаваў Зміцер, дапамагаючы гаспадару ўвайсці ў хату.

— Фёдар, дзе ты быў? — апранутая ў прыгожы вячэрні строй жанчына падхапіла пад руку мужа, павяла ў хату і пасадзіла ў крэсла: — Дзеці, дапамажыце тату распрануцца!

Дзяўчынка Насцінага ўзросту і меншы хлопчык, якія да таго разгублена стаялі каля прыбранай ёлкі, тут жа падбеглі да бацькі.

Хлопчык сцягнуў з бацькі валёнкі, дзяўчынка расшпіліла і дапамагла зняць аблеплены снегам кажух.

— Дзе ты быў? — разгубілася гаспадыня.

— Спаў на дарозе, — адказаў за гаспадара Зміцер, разглядваючы прасторны пакой з сучаснай мэбляй, святочны стол, ёлку. Алена стаяла побач і з усмешкай пазірала, як дзеці мітусяцца каля бацькі.

— Трэба каня распрэгчы, — Фёдар паспрабаваў устаць, але жанчына прыпыніла ягоны намер. Націснула рукамі яму на плечы і, гледзячы ў вочы, прамовіла:

— Сама ўсё зраблю. Лепш раскажы, дзе ты так нарэзаўся?

— Ну, з кумам крыху ўзялі, што тут такога? — муж вінавата апусціў вочы, пасадзіў на калені сына і пачаў уважліва слухаць тое, што хлопчык шаптаў яму на вуха.

— Тата, не вер, гэта няпраўда! — абурылася дзяўчынка, напэўна, пачуўшы, пра што ідзе гаворка.

Аксана ўспомніла дачку, падазваўшы дзяўчынку, дастала з кішэняў цукеркі. Дзяўчынка падбегла, узяла цукеркі, падзякавала і, вярнуўшыся, аддала адну брату. Хлопчык адразу ж пачаў яе раскручваць, але прыпыніўся, пачуўшы настойлівы шэпт сястры:

— Потым, як сядзем за стол.

Аксана толькі цяпер зразумела, што адбылося. Яе муж выратаваў чалавеку жыццё. Калі б Зміцер там, у лесе, не прыпыніў аўтамабіль, Фёдар мог бы замерзнуць, і дзеці ніколі не дачакаліся б свайго бацькі, а жонка мужа.

— Ой, што гэта вы стаіце, распранайцеся, сядайце за стол, — апамяталася гаспадыня.

— Дзякуй, трэба ехаць, — Зміцер з Аксанай развіталіся і выйшлі з пакоя, — прабачце, вельмі спяшаемся.

— Вы толькі не падумайце, ён не алкаш які-небудзь, — усхвалявана мовіла жанчына, праводзячы іх да дзвярэй, — п'е толькі па святах... Шчаслівай дарогі! З надыходзячым вас!

— Са святам! — Зміцер і Аксана памахалі на развітанне гаспадыні, якая стаяла ў дзвярах, селі ў машыну.

Джып выехаў з вёскі, і яны ўбачылі, як насустрач ім, выпраменьваючы воблачкі пары, бяжыць запрэжаны конь.

— Вось гэта тэхніка! — засмяяўся Зміцер, — сама ў гараж едзе!

Ён выруліў на дарогу, разагнаў аўтамабіль, уключыў радыё.

— ...З Новым годам! З новым шчасцем! — данеслася з дынамікаў.

— О, не! — пакутліва выдыхнуў Зміцер. — Ну чаму яно ўсё так? Кожны год адно і тое ж!

Ён зірнуў на Аксану, якая ўсмешліва глядзела на дарогу і весела прамовіў:

— Любая мая, у цябе самы дрэнны муж на ўсім белым свеце.

— Ён у мяне самы лепшы, — жанчына прыціснулася да мужа, аберуч абняла ягоную правую руку, якая ляжала на кулісе пераключэння перадач, і заплюшчыла вочы.

Зміцер панізіў голас і затармазіў аўтамабіль.

— Што? — не зразумела Аксана і зараз жа адчула на сваіх вуснах пяшчотны ласкавы пацалунак.

Ад нечаканасці ў яе зайшлося сэрца, разамлелі рукі і ногі.

— Вар'ят, — толькі і змагла вымавіць яна, калі муж усеўся на крэсла, уключыў перадачу, і аўтамабіль ірвануў наперад у зорную марозную ноч.

— А ты жонка вар'ята.

— Так мне і трэба, — жанчына паглядзела на дарогу, якая імкліва бегла пад колы аўтамабіля, на мужа. Нарэшце супакоілася і падумала: «І сапраўды, ён самы лепшы. Адзіны. Каханы».



**МІКАЛАЙ БАНДАРЭНКА**

# СКАЛЬПЕЛЬ І ВІНТОЎКА

Пры словах «партызанскі рух» у кожнага, мабыць, найперш узнікаюць вобразы народных мсціўцаў, якія ўзрывалі чыгунку, пускаючы пад адхон варожыя эшалоны, смела нападалі на нямецкія гарнізоны, знішчалі карнікаў і г.д. Але такія дзеянні наўрад ці былі б магчымыя, калі б не было каму лячыць параненых партызан.

З узнікненнем партызанскага руху на Беларусі на шлях барацьбы з акупантамі сталі і медыцынскія работнікі. Ужо ў верасні — кастрычніку 1941 года ў партызанскіх атрадах Палескай вобласці былі ўрачы і сярэдні медыцынскі персанал. Першымі медыцынскімі работнікамі, якія прымкнулі да партызанскіх атрадаў Мінскай вобласці, былі ўрачы І. Крук, А. Дудзінская, С. Швец, Л. Зубчонак, якая акрамя медыцынскай работы выконвала ролю сувязной паміж групамі, распаўсюджвала лістоўкі, медсёстры М. Касцюкевіч, М. Вежнавец, фельчар Дубовік і іншыя. Наяўнасць невялікіх партызанскіх груп, адсутнасць пастаянных, строга вызначаных зон, асабліва ў першы год вайны, стваралі надзвычай цяжкія ўмовы для арганізацыі медыцынскай дапамогі хворым і параненым.

Былы начальнік санслужбы злучэння партызанскіх атрадаў Мінскай вобласці С. Швец, які ўвесь перыяд фашысцкай акупацыі Беларусі правёў у радах народных мсціўцаў (у студзені 1942 года быў уключаны ў атрад А. Далідовіча), успамінаў: «Умовы работы партызанскіх урачоў былі вельмі цяжкімі, асабліва ў момант акружэння партызан карнымі экспедыцыямі ворага».

Цяжкахворых прыходзілася хаваць на балоце на маленькіх астраўках. Пры іх пакідалі толькі адну санітарку і харчаванне. Так, напрыклад, партызан П. Казак з атрада М. Розава з агнястрэльным раненнем (пераломам) бядра быў схаваны там да таго часу, пакуль партызаны не знішчылі карнікаў.

Востры недахоп адчуваўся ў медыкаментах. Ратавалі людзей як маглі. Каросту лячылі 60-працэнтным растворам толу на малацэ, сумессю дзёгцю з салам. З крышталічнага ёду рыхтавалі на самагонцы ёдавую настойку. На самагонцы настойвалі таксама корань валяр'яну, кветкі ландыша і выкарыстоўвалі як лекі пры сардэчных захворваннях. Самагонка замяняла спірт пры апрацоўцы ран, прымянялася як снатворны і абязбольваючы сродак пры аперацыях. У першыя месяцы вайны не было таксама перавязачнага матэрыялу. Часам удавалася захапіць яго пры разгроме фашысцкіх гарнізонаў. Але гэтага было мала. Даводзілася рыхтаваць перавязачныя сродкі з рознага матэрыялу, які даставалі ў жыхароў вёсак. Часта сяляне самі прыносілі партызанам марлевыя фіранкі з вокнаў, кавалкі палатна. Гэты матэрыял стэрылізаваўся кіпячэннем.

У мэтах эканоміі перавязачнага матэрыялу марлевыя сурвэткі клалі на рану, а зверху бінтавалі звычайным сялянскім палатном. Часта ў якасці перавязачных сродкаў выкарыстоўвалі парашутны матэрыял. Вату дасталі з падушак-амартызатараў, якія скідвалі нам з самалётаў, што дастаўлялі з Вялікай зямлі зброю партызанам.

Вялікія цяжкасці адчувалі партызанскія ўрачы ў набыцці медыцынскіх інструментаў. Для правядзення аперацый іх даводзілася рабіць саматужным спосабам. Так, напрыклад, для выдалення зубоў прымяняліся звычайныя пласкагубцы, для ампутацыі канечнасцей — звычайная садовая пілка, якую перад гэтым кіпяцілі ў вадзе. Для зашывання ран прымяняліся ніткі з парашутных строп, а часам звычайныя суравыя ніткі, змочаныя ў самагонцы. Часта аперацыі рабілі у зямлянках пры святле лучыны».

Народныя ўмельцы ў вясковых кузнях, збройных майстэрнях выраблялі медыцынскія інструменты.

Былая медыцынская сястра партызанскага атрада імя М.В. Фрунзе брыгады імя С.М. Кірава Мінскай вобласці В.Я. Галадок успамінала такі эпізод: «У атрадзе амаль увесь узвод захварэў на каросту. Яна так дакучала байцам, што тыя не здольныя былі хадзіць на баявыя заданні. І вось неяк партызаны прынеслі мазь, якой змазвалі калёсы. Паставілі на агонь, дабавілі на 10 кг мазі 2 кг тлушчу, 200 г сухой цёртай серы, 100 г часнаку, усё гэта зварылі. Павялі байцоў у лазню і тры дні запар мазалі гэтай сумессю. Тры гадзіны сядзелі ў такім выглядзе, потым мыліся шчолачнай вадой з бярозавым попелам. Хвароба хутка праходзіла. Многае даводзілася лячыць народнымі сродкамі. Байцоў, якіх прысылалі з-за лініі фронту, дужа трэсла малярыя. Дык мы хадзілі па лугах, збіралі лекавыя травы, варылі іх і давалі піць хворым. Гэта дапамагала».

У пачатковы перыяд (другая палова 1941 года — першая палова 1942 года) многія партызанскія атрады наогул не мелі медыцынскага персаналу. У гэтых умовах асаблівае значэнне набывала дзейнасць медыцынскіх работнікаў-патрыётаў, якія працягвалі выконваць свае абавязкі ў лячэбна-прафілактычных установах на акупіраванай тэрыторыі. У бальніцах раненыя і хворыя партызаны атрымлівалі медыцынскую дапамогу, іх часам шпіталізавалі і лячылі да выздараўлення пад выглядам мірнага насельніцтва. Многія медыцынскія работнікі ў далейшым працягвалі сваю прафесійную дзейнасць у партызанскіх фарміраваннях. Уступаючы ў рады партызан, медыцынскія работнікі, як правіла, прыносілі з сабой медыкаменты, перавязачны матэрыял, хірургічныя інструменты, здабытыя рознымі шляхамі ў нямецкіх гарнізонах.

Нямала партызан, параненых у сутычках з гітлераўцамі, было ўратавана ў Барысаўскім падпольным шпіталі, які працаваў у будынку гарадской бальніцы ў час акупацыі нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Тут лячыліся байцы і камандзіры Чырвонай Арміі (60 чалавек), народныя мсціўцы. Падпольны шпіталь П. Усціна легальна называлі гарадской бальніцай. Аднойчы сюды прывезлі параненага партызана Андрэя Валюкжаніна. Урачы Я. Старжынскі і П. Усцін зрабілі ўсё, каб вярнуць народнага мсціўца ў строй. Медыцынскія работнікі афармілі на яго дакументы як на мясцовага жыхара і, пакуль не вылечылі, трымалі ў бальніцы. Крыху пазней гестапаўцы прывезлі сюды збітую да непрытомнасці і пакалечаную Лізу Драздову. Урачы бальніцы падлячылі яе, а потым вывезлі ў партызанскі атрад. Дакументы ж афармілі як на нябожчыцу. Супрацоўнікі шпіталя мелі сувязь з урачамі мясцовага канцлагера № 382 для ваеннапалонных. Была нават дамоўленасць з адміністрацыяй канцлагера аб тым, што некаторых хворых ваеннапалонных будуць накіроўваць у гарадскую бальніцу. Траплялі ж у гэтыя групы звычайна людзі, якіх тэрмінова трэба было ратаваць ад расправы. Некаторых ваеннапалонных удалося вырваць з рук гітлераўцаў і змясціць у шпіталь. Восенню 1942 года да партызан было перапраўлена 40 вылечаных воінаў. У партызанскія брыгады «Дзядзькі Колі» і імя П. Панамарэнкі са шпіталя дастаўлялі медыкаменты,

медыцынскія інструменты, перавязачны матэрыял. Восенню 1943 года доктар П. Усцін з групай медработнікаў «цывільнай» бальніцы (амаль увесь персанал шпіталя) пайшоў у партызанскую брыгаду «Дзядзькі Колі». Там яны працавалі ў медыцынскім шпіталі, начальнікам якога была Вольга Ціханаўна Бакун.

У Барысаўскім канцлагеры № 382 для ваеннапалонных групу ўрачоў-патрыётаў узначаліў хірург Аляксандр Ніканоравіч Мацяшын. Лазарэт лагера быў надзейным домам для ўсіх, каму пагражала расправа гітлераўцаў. Пад выглядам хворых тут клалі на «лячэнне» зусім здаровых. А тыя, хто «памёр», аказваліся жывымі.

Лазарэт меў сувязь з барысаўскімі падпольшчыкамі. Праз іх удалося пераправіць частку ваеннапалонных, урачоў і фельчараў у партызанскія брыгады. Пасля В. Дробат узначаліў санслужбу партызанскай брыгады імя С.М. Кірава Мінскай вобласці, В. Галанка стаў хірургам, а В. Трубнікаў — фельчарам і разведчыкам гэтай жа брыгады.

Фашыстам удалося дазнацца і аб падпольнай дзейнасці ў лагеры А. Мацяшына, якога пасля арышту адправілі ў Германію. Па дарозе А. Мацяшын уцёк, выламаўшы падлогу ў вагоне. Шмат дзён ён блукаў па лесе, пакуль не сустрэўся з партызанскім злучэннем М.П. Пакроўскага.

Актыўную дзейнасць па забеспячэнні партызан рознымі медыкаментамі, хірургічнымі інструментамі і перавязачным матэрыялам праводзілі ўрачы, медсёстры, фармацэўты Мінска: М. Уладысік, В. Грудзень, В. Гурыновіч, В. Гаўрыленка-Сядова, Я. Клумаў, Н. Мельнікаў, В. Паўловіч, М. Піліпушка, А. Плавінская, С. Прылуцкі, В. Рубец, А. Сідаровіч, Г. Фалевіч, В. Шыкаўка і інш. Напрыклад, 24 мая 1943 года кіраўнік групы В. Шацько і падпольшчыца-фармацэўт Л. Густарнік-Ларына даставілі з Мінска партызанам усе медыкаменты з аптэкі, размешчанай па вуліцы Мопраўскай, 70. На ўскраіне горада гітлераўскі патруль уважліва прагледзеў пропуск, які падрыхтаваў ва ўправе Захар Гало. Потым падышлі да павозак і праткнулі некалькі разоў штыком, шукаючы зброю. Але, не знайшоўшы нічога падазронага, адпусцілі. Медыкаменты, хірургічны інструментарый рэгулярна перадаваў партызанам В. Клімук, які працаваў у Мінскай інфекцыйнай бальніцы па вуліцы Крапоткіна. У вялікай колькасці медыкаменты і перавязачны матэрыял партызаны атрымлівалі ад падпольшчыкаў Мінскага хімфармзавода. Фармацэўты, аператары, фасоўшчыкі з гэтага завода, што ўваходзілі ў падпольныя групы А. Вяржбіцкай і П. Асядоўскага, забяспечвалі медыкаментамі і перавязачнымі матэрыяламі шпіталі 10 партызанскіх брыгад. Пры актыўным удзеле мінскіх падпольшчыкаў у партызанскім атрадзе М. Нікіціна быў абсталяваны палявы шпіталь, які знаходзіўся ва ўрочышчы Доўгі Востраў, недалёка ад вёскі Аляксандрава Уздзенскага раёна. Вялікую дапамогу ў яго стварэнні аказаў прафесар Я. Клумаў. Ён здабываў медыкаменты, марлю, бінты, якія праз падпольшчыцу А. Навіцкую перапраўляліся ў атрады. У адным з данясенняў мінскіх падпольшчыкаў, складзеным у верасні 1943 года, гаворыцца, што «Самарын» (падпольная клічка Я. Клумава. — **М.Б.**) вельмі многа медыкаментаў перадаў у распараджэнне народных мсціўцаў, абсталяваў два палявыя шпіталі, праз яго можна было дастаць самыя дэфіцытныя медыкаменты.

Адзін з кіраўнікоў партызанскага руху ў Беларусі Герой Савецкага Саюза І. Цімчук успамінаў пра тую неацэнную дапамогу, якую аказвала падпольная група медыцынскіх работнікаў на чале з Я. Клумавым у аснашчэнні і стварэнні партызанскіх шпіталяў: «Без актыўнай дапамогі калектыву мінскай бальніцы з вуліцы Леніна арганізацыя партызанскіх шпіталяў у брыгадах «Народныя мсціўцы» і «Штурмавая» была б проста немагчыма. З Мінска паступалі медыкаменты, перавязачныя сродкі, ішоў кваліфікаваны персанал. І колькі чалавечых жыццяў было выратавана дзякуючы гэтай падтрымцы, колькі людзей зноў увайшло ў баявы строй!»

Асістэнт Мінскага медінстытута Д. Рыдлеўскі, не паспеўшы эвакуіравац-

ца, пачаў працаваць у чыгуначнай бальніцы. Звязаўшыся з падпольнай арганізацыяй, ён уключыўся ў актыўную барацьбу з акупантамі. Па заданні арганізацыі праз сувязных адпраўляў медыкаменты ў партызанскія атрады, аказваў дапамогу раненым партызанам. У жніўні 1942 года ён ужо ў партызанскай брыгадзе «Штурмавая», дзе арганізаваў шпіталь, кіраваў ім і ўсёй медыка-санітарнай службай брыгады. У газеце «Мы адпомсцім» за 28 жніўня 1943 года паведамлялася, што ён многа зрабіў для лячэння мірнага насельніцтва, у якога карыстаўся вялікай павагай як спецыяліст. Прыбыўшы ў 4-ю Беларускую партызанскую брыгаду з гарадскога пасёлка Дрыса, урач М. Гурленя прывёз хірургічныя інструменты і за дзевяць месяцаў (10.1943 — 06.1944 г.г.) правёў 37 самых разнастайных аперацый!».

Камплектаваліся партызанскія атрады і брыгады медыцынскімі кадрамі з ліку мясцовых медыцынскіх работнікаў, а таксама ваенных медыкаў, што трапілі ў акружэнне ці ўцяклі з лагераў ваеннапалонных. Многа ўрачоў прыбыло з савецкага тылу.

З ростам колькасці партызан і актывізацыяй іх баявой дзейнасці ўзнікла неабходнасць стварыць партызанскія медыка-санітарныя часці і шпіталі. Першыя медпункты ў партызанскіх фарміраваннях узніклі ў сакавіку — красавіку 1942 года. У пачатку 1942 года ў партызанскіх фарміраваннях былі створаны першыя санітарныя часці і шпіталі. У пачатку 1943 года Цэнтральны штаб партызанскага руху загадам абавязаў кіраўніцтва ўсіх партызанскіх атрадаў, брыгад і злучэнняў стварыць медыцынскую службу на чале з урачамі. У сакавіку 1943 года быў арганізаваны санітарны аддзел Беларускага штаба партызанскага руху (начальнік І. Інсараў), створана самастойная база медыцынскай маёмасці з філіяламі пры аператыўных групах Беларускага штаба. Санітарны аддзел падтрымліваў кантакты з начальнікамі медыцынскай службы злучэнняў пры дапамозе радыё і паштовай сувязі.

Для стацыянарнага лячэння ствараліся шпіталі, якія найчасцей складаліся з хірургічнага, тэрапеўтычнага і інфекцыйнага аддзяленняў. Размяшчаліся яны ў сялянскіх хатах партызанскіх зон, недаступных для ворага лясах, дзе былі пабудаваны дамы, зямлянкі, шалашы, тайнікі. Стацыянары атрадаў мелі 5—7 ложкаў, брыгад — 12—20, злучэнняў — каля 100. Ва ўмовах баявых дзеянняў існавалі рухомыя шпіталі, калі хворых везлі на калёсах ці санях. У многіх шпіталях працавалі вопытныя ўрачы, якія рабілі складаныя аперацыі, аказвалі кваліфікаваную дапамогу ў баявой абстаноўцы.

У залежнасці ад абставін шпіталі разгортваліся ў сялянскіх хатах ці ў шалашах, зямлянках або ў спецыяльных будынках недалёка ад штаба атрада, брыгады ці злучэння. У кастрычніку 1943 года шпіталь Брэсцкага злучэння, напрыклад, мог прыняць 80 чалавек раненых і хворых. Санітарная служба гэтага злучэння налічвала ў 1943 годзе 3 штабныя, 8 брыгадных і 24 атрадныя шпіталі, іх абслугоўвалі 27 урачоў, 19 фельчараў, 2 акушэркі, стаматолаг, зубны тэхнік, 2 фармацэўты, 18 медсясцёр, 8 санінструктараў, санітары.

Асноўнае патрабаванне, якое прад'яўлялася да работы медыцынскіх партызанскіх устаноў,— іх вялікая мабільнасць. У летні час у некаторых брыгадах раненыя і хворыя ўтрымліваліся на павозках. У ліпені 1942 года ў Вялешынскім лесе Капыльскага раёна быў арганізаваны рухомы «павозачны» шпіталь брыгады імя К. Я. Варашылава Слуцкай зоны. Хірургічныя аперацыі рабіліся на імправізаваным аперацыйным стале на лясной паляне. Ложкам служыла павозка з шатром над ёю. У шпіталі працавалі 2 урачы і 9 медыцынскіх сясцёр. Колькасць такіх павозак у шпіталі даходзіла часам да 50—80, зімой 1942—1943 года раненыя размяшчаліся ў сялянскіх хатах.

Хірургічная дапамога аказвалася на месцы. Пры адсутнасці ўрача ў атрадзе параненыя накіроўваліся ў шпіталь брыгады ці злучэння, адтуль, у залежнасці ад медыцынскіх паказанняў і эвакуацыйных сродкаў, — у савецкі тыл. У кожным партызанскім злучэнні быў разгорнуты эвакуацыйны пункт.

Многія атрады і брыгады размяшчаліся далёка ад аэрадромных пляцовак (за 150—180 кіламетраў), і таму эвакуацыя была звязана з вялікімі цяжкасцямі. З прычыны таго, што на шляху знаходзіліся гарнізоны праціўніка, параненых заўсёды суправаджала ўзброеная група партызан. З імі ж ішоў і медыцынскі работнік. Часам даводзілася доўга чакаць у эвакапункце прыбыцця самалёта.

Да кастрычніка 1942 года эвакуацыя раненых праводзілася праз так званыя «Суражскія вароты», наяўнасць якіх адыграла вялікую ролю ў развіцці партызанскага руху. Гэта быў не заняты праціўнікам участак даўжынёй 50—60 кіламетраў з поўначы на поўдзень ва ўсходняй частцы Віцебскай вобласці.

Раненыя з усіх атрадаў накіроўваліся ў партызанскі шпіталь вёскі Пудоць Суражскага раёна (цяпер — Лёзненскі раён) Віцебскай вобласці. Гэта быў першы партызанскі шпіталь у гады Вялікай Айчыннай вайны. Шпіталь на 50—60 ложкаў размяшчаўся ў былой участковай бальніцы. Працавалі ў ім 3 вопытныя ўрачы, вялікая колькасць сярэдняга медыцынскага персаналу. Начальнікам гэтага шпіталя быў урач Сяргей Яўсеевіч Штэмпель. Адсюль параненыя накіроўваліся ў медыка-санітарныя ўстановы 4-й ударнай арміі Калінінскага фронту. У канцы 1942 года немцы занялі дарогу Усвяты—Сураж, і лінія фронту замкнулася. З гэтага часу эвакуацыя параненых і хворых партызан у савецкі тыл праводзілася толькі самалётамі. Для кіраўніцтва пагрузкай, устанаўлення чарговасці адпраўкі выдзяляўся дзяжурны ўрач. Раненых заўсёды было больш, чым можна было эвакуіраваць у пэўны дзень. Прынцып адбору на адпраўку — цяжкасць ранення. У першую чаргу эвакуіравалі параненых у галаву, грудзі, поласць жывата, з пашкоджаннем ніжніх канечнасцей. Пагрузку ў самалёты праводзіў медперсанал, які асвоіў тэхніку загрузкі транспартных кабінных насілак. Лёгкапараненыя карысталіся сядзячымі месцамі. Не вывезеныя за ноч заставаліся на аэрадромным пункце са сваім медыцынскім персаналам у чаканні наступнага самалёта, калі іх бяспецы нішто не пагражала. Былі і выпадкі гібелі партызан, якія знаходзіліся ў шпіталі, калі іх захоплівалі фашысты. Самалёты таксама не заўсёды прылятаді ў час. Гэтаму перашкаджалі частыя экспедыцыі карнікаў.

Буйны міжбрыгадны шпіталь быў арганізаваны ў вёсцы Мілавіды Расонскага раёна. Ён прызначаўся для лячэння партызан, якія дзейнічалі ў Дрысенскім, часткова ў Расонскім і Асвейскім раёнах, і для мясцовага насельніцтва. У гэтым шпіталі працавалі ўрачы-партызаны К. Шадурскі, А. Вераб'ёў, Р. Цэмахаў і іншыя. Вельмі шмат зрабіў для партызан і насельніцтва Рыгор Цэмахаў. Уважлівы і чулы партызанскі ўрач, ён аперыраваў і лячыў хворых, часта ездзіў па вёсках і аказваў медыцынскую дапамогу насельніцтву, кіраваў работай медыка-санітарных часцей у атрадах. У асобных дамах размяшчаліся эвакапрыёмны пункт, перавязачная, аперацыйная, хірургічнае, тэрапеўтычнае і інфекцыйнае аддзяленні. У выпадку налёту варожай авіяцыі была распрацавана сістэма эвакуацыі параненых і хворых у бяспечныя месцы. На выпадак манеўраных баёў і дзеянняў партызан у складанай прыфрантавой паласе былі пабудаваны тайнікі, дзе можна было размясціць некалькі параненых партызан. Акрамя таго, у зоне дзейнасці партызанскага атрада будаваліся зямлянкі на 10—12 чалавек.

У зімовых лагерах, як правіла, адводзілася спецыяльнае месца медсанчасці. Так, у атрадзе імя М.І. Калініна 2-й Дрысенскай брыгады медсанчасць складалася з зямлянак для медыцынскага персаналу, прыёму хворых і параненых, шпіталізацыі 20—30 чалавек. Ствараўся запас прадуктаў харчавання, вады, медыкаментаў, перавязачнага матэрыялу. Акрамя такіх медчасцей у кожным атрадзе былі пабудаваны 2-3 зямлянкі для схову параненых на выпадак карных экспедыцый. Зямлянкі будаваліся ў найбольш бяспечных месцах, старанна маскіраваліся, мелі скрытыя ўваходы і выхады. Вялікую ролю яны адыгралі ў перыяд з восені 1943 года да 12 ліпеня 1944 года, калі брыгада дзейнічала ў прыфрантавым раёне.

Асаблівыя цяжкасці ў медыцынскім абслугоўванні партызан былі ў час рэйдаў у глыбокі тыл праціўніка. Прывяду такі прыклад. Беластоцкае партызанскае злучэнне, створанае ў Капыльскім раёне Мінскай вобласці ў канцы жніўня 1943 года на базе атрадаў і груп, выдзеленых партызанскім злучэннем Слуцкай зоны, у складзе 744 чалавек 3 верасня пачало рэйд. Давялося пераходзіць чыгункі Баранавічы—Лунінец, Баранавічы—Брэст, Баранавічы—Ваўкавыск, Ваўкавыск—Ліда і тры разы пераадольваць водныя перашкоды — рэкі Шчару і Нёман. За перыяд з 3 верасня па 19 лістапада партызаны правялі рэйд з Капыльскага раёна ў раён гродзенскіх лясоў і вярнуліся ў Ліпічанскую пушчу, прайшоўшы 976 кіламетраў. Да гэтага часу атрад вырас да 4 тысяч чалавек.

У першыя ж дні рэйду з'явіліся параненыя. Іх неслі на насілках, везлі на павозках.

Раку Шчару фарсіравалі ўброд. Параненых размяшчалі на драўляных шчытках, пакладзеных на павозкі. Пры фарсіраванні Нёмана ў лістападзе 1943 года ляжачых параненых перапраўлялі ў лодках, сядзячых — верхам на кані ўплаў.

У раёне Рускай пушчы быў арганізаваны шпіталь спачатку ў буданах, а потым — у зямлянках. Было пакінута 18 цяжкапараненых з медыцынскім персаналам, узводам аховы і прадуктамі харчавання.

19 лістапада фарсіравалі раку Нёман і неўзабаве ўступілі ў Ліпічанскую пушчу. Тут быў арганізаваны шпіталь злучэння. 18 чалавек, пакінутыя ў шпіталі ў Рускай пушчы, праз 4—6 тыдняў паправіліся і былі адпраўлены ў злучэнне.

Паступова пераадольваліся цяжкасці, якія перажывалі народныя мсціўцы і насельніцтва ў сувязі з недахопам кадраў. Калі ў 1941 годзе ў атрадах было ўсяго 6 урачоў, то ў канцы 1942 года медыцынскую службу ў атрадах забяспечвалі 166, у канцы 1943 года — 538, на час злучэння з часцямі Чырвонай Арміі — 570 урачоў. Паводле звестак санітарнага аддзела БШПР, сярод урачоў-партызан было 33,5 працэнта спецыялістаў агульнага профілю, 30,4 працэнта хірургаў, 24,6 працэнта тэрапеўтаў. У шпіталях праводзілася перакваліфікацыя ўрачоў іншых профіляў на хірургаў і тэрапеўтаў, патрэба ў якіх была больш вострай. Для абмену вопытам і абмеркавання актуальных пытанняў начальнікі медслужбаў і ўрачы збіраліся на канферэнцыі. Першая канферэнцыя ўрачоў-партызан Мінскага злучэння адбылася ў жніўні 1943 года ў лесе каля вёскі Рэпін Акцябрскага раёна. На ёй прысутнічалі 18 чалавек. Галоўны ўрач злучэння С. Швец інфармаваў аб рабоце брыгадных урачоў. У брыгадзе імя М.В. Фрунзе Вілейскай вобласці з лютага па снежань 1943 года зрабілі звыш 200 аперацый. За гэты час праз шпіталь прайшло больш чым 2 тысячы хворых і параненых партызан, многа цывільнага насельніцтва. Дзесяткі і сотні параненых і хворых выратавалі ўрачы І. Друян, Н. Жукоўская, І. Кардаш, М. Кніга, В. Лапцейка, С. Штэмпель і многія іншыя.

Урач М. Варановіч, умела спалучаючы пасаду начальніка санслужбы Пінскага партызанскага злучэння з майстэрствам хірурга, асабістым прыкладам паказваў усяму медыцынскаму персаналу вобласці, як трэба працаваць.

Самааддана працаваў і сярэдні медыцынскі персанал — фельчары і сёстры (у партызанскіх атрадах іх было 2095). Колькі цяжкасцей давялося ім вытрымаць за гады мінулай вайны! Вось толькі адзін прыклад. 20-гадовы фельчар атрада імя газеты «Правда» Мінскай вобласці Аляксандр Корань за кароткі час вярнуў у строй 37 байцоў, з іх 8 цяжкапараненых, аказаў медыцынскую дапамогу 150 партызанам. Гэта было ў 1943 годзе.

Вернымі памочнікамі ўрачоў былі медыцынскія сёстры. У атрады іх накіроўваў санітарны аддзел Беларускага штаба партызанскага руху. Рыхтавалі медсясцёр таксама ў партызанскіх атрадах і брыгадах. Вялася падрыхтоўка сярэдняга і малодшага медыцынскага персаналу сярод насельніцтва.

Так, у брыгадзе «Смерць фашызму» Мінскай вобласці падрыхтавалі 11 санінструктараў, у 101-й імя Аляксандра Неўскага — 19, у 61-й імя В.П. Чкалава — 30, у атрадзе імя А.В. Суворава брыгады «Разгром» — 10. Пад кіраўніцтвам заслужанага ўрача БССР В. Лапцейка былі арганізаваны курсы медсясцёр у 125-й партызанскай брыгадзе. Камсамольцы брыгады імя В. Молатава Пінскага злучэння арганізавалі курсы медыцынскіх сясцёр у населеных пунктах партызанскай зоны. Да пачатку 1944 года іх закончылі 134 чалавекі. Урач С. Швец у пачатку 1943 года арганізаваў школу медсясцёр у вёсцы Малыя Гарадзяцічы Любанскага раёна. У школу набралі мясцовых дзяўчат. Пасля трохмесячнага навучання яны ўліліся ў партызанскія атрады. Падрыхтоўка медсясцёр праводзілася і ў іншых брыгадах. Пасля вайны многія з гэтых медсясцёр закончылі медыцынскі інстытут і сталі ўрачамі.

Любая баявая аперацыя забяспечвалася медыцынскім работнікам, які быў дастаткова падрыхтаваным для аказання даўрачэбнай дапамогі ў баі.

Медсёстры разам з партызанамі хадзілі ў засады, удзельнічалі ў налётах на варожыя гарнізоны, мініравалі шашу і чыгунку. Акрамя таго, дні і ночы дзяжурылі каля ложкаў цяжкапараненых і хворых. Асабліва цяжка было медсёстрам у час карных экспедыцый. Тады не заўсёды ўдавалася браць з сабой хворых і параненых. Іншы раз даводзілася хаваць іх у тайніках, лясных зямлянках. Але разам з параненымі заставаліся медсёстры, якія рабілі ўсё, каб іх выратаваць.

Былы начальнік штаба 2-й Дрысенскай партызанскай брыгады А. Касач успамінаў: «Былі выпадкі, калі фашысты прачэсвалі лес, праходзілі па месцах размяшчэння тайнікоў і зямлянак. Заціхаў бой, медыцынскія сёстры выходзілі з укрыццяў і рабілі абходы сваіх хворых і параненых. Успамінаецца выпадак, калі ў час карнай экспедыцыі нямецкія войскі занялі вышыню паміж вёскамі Казакова і Ваўкі і спыніліся там на некалькі дзён. А на схіле гэтай вышыні знаходзіўся наш шпіталь-тайнік, у якім было 14 параненых і хворых партызан. Чатырнаццаць дзён і начэй медыцынская сястра Юзэфа Лысенка вяла барацьбу за іх жыццё. У тайніку было душна, сыра і холадна. Не хапала паветра, канчаліся запасы прадуктаў і вады. Наверсе чуліся размовы нямецкіх салдат, брэх аўчарак. Справа ўскладнялася яшчэ і тым, што ў зямлянцы было некалькі цяжкапараненых і хворых, якія, трызнячы, стагналі і крычалі. Сама зямлянка і падыходы да яе былі замініраваны. У руках медсястры быў напагатове шнур. Але на гэты раз усё абышлося, шнур не спатрэбіўся».

Складанай праблемай па-ранейшаму было набыццё медыкаментаў і інструментаў. У 1941—1942 гадах дапамогу ў гэтым аказвалі падпольшчыкі, асабліва ўрачы і фармацэўты, якія здабывалі іх у лячэбных установах акупантаў і перадавалі партызанам праз сувязных. Па заданні падпольшчыкаў у Азарыцкую бальніцу ўладкаваўся ўрач Уладзімір Нічыпаравіч Капусцянскі, каб дапамагаць партызанам медыкаментамі. Але тых, хто спрабаваў прабрацца ў Азарычы і навакольныя пункты, гітлераўцы правяралі. Тады фельчар Піліп Пятровіч Захаранка, які за два кавалкі сала, паўсотню яек і самагон-пяршак купіў у даманавіцкага каменданта Ляхмана «аўсвайс» і дазвол на прыватную медыцынскую практыку ў навакольных вёсках, схітрыў. Ён адправіўся да азарыцкага каменданта. Маўляў, мае вялікую сям'ю, пракарміць яе цяжка, і ён хоча сумясціць работу медыка з камерцыяй: гандляваць гаршкамі, якія выпальваюць на цагельным заводзе «Барок». Паднесеныя каменданту падарункі зноў падзейнічалі. Захаранка неадкладна адправіўся ў «Барок», нагрузіў фурманку гаршкамі.

Першая «экспедыцыя» была для блізіру. Ва ўсіх гарнізонах карнікі перакапалі фурманку, праверылі дакументы, выдадзеныя камендантам. Частку прадукцыі Захаранка наўмысна не рэалізаваў і прывёз назад. Сустрэўся з Капусцянскім, запоўніў частку гаршкоў медыкаментамі, схаваў іх унізе, а пустыя загрузіў зверху і рушыў зноў у дарогу. Акупанты, бачачы знаёмага доктара-гаршэчніка, збольшага праглядвалі яго тавар і прапускалі без затрымкі.

Але аднойчы ледзь не здарылася бяда. Паліцай, корпаючыся ў гаршках, знайшоў у адным з іх ёд, рываноль, бінты, спірт. Тады Захаранка рашуча заявіў: «Выклікай начальніка! Я ж не толькі гаршэчнік, але і доктар. Таму ў мяне і лякарствы. Сумкі вось, праўда, няма, а медыкаменты не будзеш у саломе трымаць». На гэты раз пашанцавала. Але праз нейкі час усё ж давялося застацца ў партызанскім атрадзе і да вызвалення роднай Гомельшчыны быць нязменным партызанскім доктарам.

Партызанскія аптэкі папаўняліся і ў час разгрому варожых гарнізонаў. Насельніцтва таксама перадавала партызанам медыкаменты, захаваныя з мірнага часу, сабраныя ў перыяд адступлення нашых войск. Так, ляснік І. Легеза захаваў і перадаў партызанскаму атраду «Перамога» Баранавіцкай вобласці 4 скрынкі медмаёмасці, у тым ліку лякарствы і два наборы хірургічных інструментаў. Мясцовыя жыхары збіралі грошы для партызанскіх медыцынскіх служб на набыццё медыкаментаў. Гэта было характэрна, напрыклад, для 1-й Баранавіцкай брыгады, брыгад імя А. Неўскага Беластоцкай вобласці, імя У.І. Леніна Пінскай вобласці, № 20 імя В.С. Грызадубавай Баранавіцкай вобласці і інш.

Патрыёты набывалі медыкаменты і інструменты ў грамадскіх аптэках, бальніцах, даставалі ў шпіталях ворага. Часам падпольшчыкам па фіктыўных накладных удавалася атрымаць каштоўныя медыкаменты і іншую маёмасць на нямецкіх складах. Так, напрыклад, пры дапамозе жыхароў вёсак Хацінава і Нежараўкі Слуцкага раёна з фашысцкіх складаў гарадскога пасёлка Урэчча было вывезена 1200 кг солі, 600 кг круп, 1400 кг мукі, многа медыкаментаў. Усё гэта было перададзена ў атрады. У жніўні 1943 года сяляне вёсак Вялікая Сліва і Ісерна дапамагалі партызанам раздабыць у горадзе Слуцку 100 кг солі і звыш 100 кг паперы.

Шырока выкарыстоўваўся вопыт народнай медыцыны. Мясцовыя знахары вадзілі медыкаў у запаведныя месцы, паказвалі гаючыя травы, плады, карані і вучылі, як вырабіць з іх лякарствы, як іх прымяняць. Аб правілах збору лекавых раслін былі інфармаваны і настаўнікі сямейных лагераў. Былі падрыхтаваны альбомы з самымі распаўсюджанымі лекавымі раслінамі.

Становішча значна палепшылася, калі БШПР арганізаваў дастаўку партызанам медыкаментаў, інструментаў і перавязачных матэрыялаў на самалётах. Санітарны аддзел БШПР меў сваю базу медыцынскай маёмасці з філіяламі пры аператыўных групах франтоў, радыёсувязь з начальнікамі медыцынскай службы партызанскіх злучэнняў і некаторых брыгад. Паводле даных на чэрвень 1943 года з Вялікай зямлі на акупіраваную тэрыторыю Беларусі было накіравана больш за 5 тысяч аптэчак, каля 50 тысяч індывідуальных пакетаў і бінтоў, каля 2 тысяч пачак марлевых сурвэтак, звыш 1500 метраў белай марлі, каля 300 кілаграмаў сульфініну, 15 кілаграмаў стрэптацыду, каля 1700 грамаў хініну. Акрамя таго, накіравалі хірургічныя і перавязачныя наборы, эфір для наркозу, хлараформ, навакаін, болесуцяшальныя, наркатычныя, антысептычныя і іншыя сродкі. За 1943 год было адпраўлена партызанам каля 2600 кілаграмаў медыцынскіх грузаў, а з восені 1943 года да 20 чэрвеня 1944 года — за 44 тоны. У 1943—1944 гадах большасць партызанаў была забяспечана індывідуальнымі перавязачнымі пакетамі. У 1943 годзе санітарны аддзел БШПР выдаваў усім, хто накіроўваўся ў тыл ворага, індывідуальныя пакеты. З кастрычніка 1943 да лютага 1944 года санітарны аддзел БШПР пераправіў у партызанскія фарміраванні 181 тысячу сыпнатыфознай вакцыны, што дапамагло зрабіць прышчэпкі партызанам Брэсцкага, Мінскага, Пінскага партызанскіх злучэнняў і большасці брыгад Віцебскай вобласці. За 1943—1944 гады партызанам было дастаўлена 195 літраў розных вакцын.

Дапамагала шпіталям і насельніцтва партызанскіх зон. Яно брала шэфства над імі, выконвала розныя гаспадарчыя работы: нарыхтоўвала дровы,

мыла бялізну і перавязачны матэрыял, выпякала хлеб і г.д. Сяляне прапаноўвалі партызанам свае дамы. Жыхары вёсак Арэхава і Заазер'е апекаваліся над шпіталем 2-й Ушацкай брыгады імя П.К. Панамарэнкі, выконвалі гаспадарчыя работы. Мужчыны і жанчыны вёскі Волатаўкі Віцебскай вобласці ўзялі шэфства над шпіталем брыгады «За Савецкую Беларусь» (камандзір — П. Раманаў). Яны збіралі яйкі, масла і іншыя прадукты харчавання, выдзелілі сваіх прадстаўнікоў для сувязі са шпіталем. Да байцоў гэтай брыгады звярнуліся з пісьмом жыхары вёскі Заручэнне Бешанковіцкага раёна. Яны паслалі падарункі для параненых, якія знаходзіліся ў шпіталі.

Урач 600-га партызанскага атрада Магілёўскай вобласці А. Макараў успамінаў: «Заўсёды звязаныя з цывільным насельніцтвам партызанскіх зон, мы наглядалі, з якой любоўю і сардэчнай цеплынёй ставілася да нашых партызан насельніцтва. Яно ў лясах і балотах збірала для іх ягады, дзялілася мёдам, яйкамі, прыносіла ручнікі, бялізну і інш.».

Мелі месца выпадкі, калі ўся вёска ператваралася ў партызанскі шпіталь, калі ўсе жыхары ўдзельнічалі ў доглядзе, абслугоўванні, лячэнні параненых і хворых партызан. Так, на працягу двух месяцаў (з сярэдзіны лютага да сярэдзіны красавіка 1944 года) у вёсцы Рог Старадарожскага раёна размяшчаўся шпіталь 125-га атрада 130-й Петрыкаўскай брыгады Палескай вобласці. Каля 140 хворых на сыпны тыф партызан прайшлі лячэнне ў шпіталі ў вёсцы Рог. Дзякуючы дапамозе насельніцтва, карпатліваму догляду ўсе хворыя вярнуліся ў строй.

У некаторых сельскіх дамах знаходзілася па некалькі параненых партызан. Лячэбную дапамогу ім аказвалі мясцовыя медработнікі. Так, напрыклад, у доме жыхаркі вёскі Холмеч Рэчыцкага раёна Надзеі Чуваеўскай мясцовы ўрач А. Кот лячыла групу партызан.

У аказанні дапамогі партызанам прымалі пасільны ўдзел асобы ўсіх сацыяльных слаёў і ўзроставых катэгорый. Усе яны рызыкавалі жыццём, праяўлялі мужнасць, адвагу, смеласць, самаадданасць.

Вясной 1943 года быў цяжка паранены Я. Філіпскіх, камандзір брыгады «Полымя» Мінскай вобласці. У лесе ў зямлянцы яго даглядаў адзінаццацігадовы хлопчык з вёскі Бабы Жэня Баешка. Ён прыносіў з вёскі медыкаменты, прадукты харчавання, начамі дзяжурыў каля хворага. За дапамогу партызанам, у тым ліку ў лячэнні камандзіра Я Філіпскіх, Ж. Баешка ўзнагароджаны медалём «За баявыя заслугі».

Подзвіг Івана Сусаніна паўтарыў 68-гадовы селянін Іосіф Філідовіч, які пражываў у вёсцы Пушча Ліпічанская Дзятлаўскага раёна. У снежні 1942 года І. Філідовіч завёў карнікаў у непраходную багну, далей ад міжбрыгаднага шпіталя. Гітлераўцы, зразумеўшы, што трапілі ў пастку, забілі праваднікa.

Партызанскія медработнікі абслугоўвалі таксама і жыхароў вызваленых ад ворага зон. Паводле даных санітарнага аддзела БШПР, 15—20 працэнтаў амбулаторных наведванняў прыпадала на цывільнае насельніцтва. У многіх зонах ствараліся спецыяльныя амбулаторыі для цывільных асоб. Яны былі ў Лепельскім і Ветрынскім раёнах Віцебскай вобласці, у Антопальскім раёне Брэсцкай вобласці, у зоне дзеяння брыгады «Жалязняк» Мінскай вобласці. Наладзіла медабслугоўванне ў вёсках і брыгада «Народныя мсціўцы» Мінскай вобласці, дзе кожны ўрач меў свой участак. На працягу года яны аказалі дапамогу 2000 хворым. Урачы рабілі сістэматычныя аб'езды вёсак, выязджалі па выкліках. У ліпені—жніўні 1943 года ўрачы злучэння Брэсцкай вобласці прынялі, паводле няпоўных звестак, 2100 хворых — мясцовых жыхароў, зрабілі 3 хірургічныя аперацыі, ліквідавалі эпідэмію сыпнога тыфу і дыфтэрыі. Медыцынскія работнікі Ельскага партызанскага атрада Палескай вобласці аказвалі меддапамогу насельніцтву 8 сельскіх саветаў з 12, якія былі ў раёне. У месцы размяшчэння атрадаў жыхары прыводзілі хворых, якія атрымлівалі кваліфікаваную дапамогу.

У Расонскім раёне ўрачы брыгады імя І.В. Сталіна два разы на тыдні спецыяльна выязджалі ў населеныя пункты для прыёму хворых. У асобых выпадках людзей накіроўвалі ў брыгадны шпіталь і лячылі там нараўне з партызанамі. Былы начальнік санслужбы брыгады № 64 імя В.П. Чкалава Мінскай вобласці І. Крук успамінаў такі выпадак, калі пасля бамбёжкі вёскі Ляскавічы Акцябрскага раёна вясной 1942 года ў ліку параненых аказалася трохгадовая Ларыса Радкевіч. Ёй патрэбна была ампутацыя пальцаў левай кісці. Але ўрач І. Крук не стаў ампутаваць перабітыя пальцы, а прышыў іх і, правёўшы далейшае лячэнне, захаваў іх як у анатамічных, так і ў функцыянальных адносінах.

У вёсцы Ляскавічы Акцябрскага раёна і пасёлку Пудоць Суражскага раёна працавалі бальніцы. Абсугоўвалі мясцовае насельніцтва медпункты, адкрытыя ў Мікалаеўскім сельсавеце Віцебскага, Межанскім — Мехаўскага, шэрагу вёсак Ветрынскага раёнаў.

Паводле звестак БШПР, з 15 тысяч параненых партызанскія медыкі вярнулі ў строй 78,4 працэнта, эвакуіравалі ў савецкі тыл 15,8 працэнта (інвалідамі сталі 2,4 працэнта, памерлі 3,4 працэнта).

Аказваючы медыцынскую дапамогу партызанам і насельніцтву, яны заставаліся байцамі, са зброяй у руках удзельнічалі ў баявых аперацыях. Узорам самаадданага служэння Радзіме, вернасці абавязку з'яўляліся ўрачы М. Варановіч, А. Вераб'ёў, М. Герасіменка, І. Друян, Н. Жукоўская, І. Кардаш, М. Кніга, І. Крук, Н. Лагуцін, В. Лапцейка, М. Паўлавец, Р. Сырнікаў, Дз. Тарнаповіч, Р. Цэмахаў, К. Шадурскі, С. Швец, С. Штэмпель, А. Шуба і інш.

10 ліпеня 1943 года ў артыкуле «Медыцынскія работнікі ў партызанскіх атрадах» у газеце «Савецкая Беларусь» народны камісар аховы здароўя БССР М. Кавалёнак пісаў: «Плячо ў плячо з байцамі-партызанамі савецкія медыцынскія работнікі ваююць у варожым тыле, грамяць нямецкія гарнізоны, узрываюць масты і чыгункі, пускаюць пад адхон воінскія эшалоны. Побач з гэтым яны выконваюць і прамы свой абавязак — выратоўваць жыццё параненых і хворых партызан, вяртаць іх у строй, аказваюць медыцынскую дапамогу савецкаму насельніцтву». Завяршае ён артыкул словамі: «Гарачыя патрыёты сваёй Радзімы, верныя сыны і дочкі беларускага народа, медыкі-партызаны з гонарам выконваюць свой абавязак перад Радзімай. Яны бязлітасна помсцяць ворагу за разбураную Беларусь, за пакуты савецкіх людзей і будуць змагацца да канчатковага разгрому нямецкіх акупантаў».

Прыкладаў гераізму партызанскіх медыкаў не злічыць. Вось некаторыя з іх.

Удзельнічаючы ў 23 баях супраць гітлераўцаў, Лідзія Крэпак вынесла з-пад варожых куль 50 партызан атрада «Буравеснік» Мінскай вобласці. Мужная партызанка знішчыла 12 фашыстаў. У 1943 годзе яна загінула ў баі.

Медыцынская сястра партызанскай брыгады імя С.М. Кірава Мінскай вобласці А. Шаўчэнка вынесла з поля бою 139 партызан. Яна адзначана ордэнам Леніна і вышэйшай узнагародай Міжнароднага камітэта Чырвонага Крыжа.

Сапраўдны гераізм праявілі медыцынскія работнікі-партызаны В. Кузняцоў — урач 1-й Беларускай партызанскай брыгады і фельчар А. Фамічэнка ў час сакавіцкай блакады 1943 года. Знаходзячыся ў акружэнні, да апошняга моманту аказвалі дапамогу параненым. Па-геройску загінуў урач партызанскага атрада № 113 Сімакоў у чэрвені 1942 года. Па дарозе ў адну з вёсак з групай партызан (атрад дзейнічаў у Бялыніцкім раёне) ён нарваўся на варожую засаду. Замяніўшы загінуўшага кулямётчыка, знішчыў 16 гітлераўцаў.

У барацьбе з акупантамі загінулі каля 350 медыкаў-партызан Беларусі. Сярод іх урачы А. Чарнецкі, З. Лісоўская, В. Кузняцоў, Н. Фадзеева, Д. Мазрук; медыцынскія сёстры В Цмыгун, Г. Магілеўчык і многія іншыя.

За мужнасць і гераізм шмат медыцынскіх работнікаў адзначаны баявымі ўзнагародамі.

21 верасня 1944 года начальнік аддзела санітарнай службы БШПР І. Інсараў у вывадах сваёй справаздачы «Медыка-санітарнае абслугоўванне партызанскіх злучэнняў Беларускай ССР» запісаў: «Медыцынскія ўрачы, фельчары, сёстры, санітары і санітаркі правялі вялікую работу ў шэрагах народных мсціўцаў-партызан і партызанак Беларусі. У цяжкіх умовах партызанскай вайны ім удалося вярнуць у строй 86 працэнтаў раненых партызан і выратаваць жыццё 97,7 працэнта. Іх акружала любоў партызан... Штабам (маецца на ўвазе БШПР. — **М.Б.**) прымаліся ўсе меры для аблягчэння цяжкіх умоў працы: адпраўка вялікай колькасці медмаёмасці, хірургічнага інструментарыя, медыцынскай літаратуры, вакцыны; эвакуацыя цяжкапараненых і хворых на лячэнне ў савецкі тыл, накіраванне партызан ў дамы адпачынку і санаторыі. Усё гэта дазваляла партызанам Беларусі наносіць яшчэ больш вялікія ўдары па ворагу».[1]

Медыцынскае абслугоўванне параненых і хворых партызан было адным з важных фактараў поспеху ўсенароднай барацьбы ў тыле ворага. Клопат аб параненых і хворых быў законам, які свята выконваўся ўсімі партызанамі.

---

[1] Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (НАРБ), фонд 3500, вопіс 2, справа 1027, аркуш 79.

*НАРЫС*

ІВАН КАПЫЛОВІЧ

# СОРАК ЦУМАЎСКІХ ПРЫСТУПАК...

## ІНЖЫНЕРЫ ГАНДЛЮ

— Калі я першы раз пераступіла парог ЦУМа «Мінск», — гаворыць Ніна Канстанцінаўна Красоўская, — то й разгубілася: трэба думаць, як выконваць план па тавараабароце, а тут яшчэ завіхаюцца будаўнікі, дарабляюць тое, што не паспелі, вакол пылота, смецце, шум...

Яе гаворка няспешная, бо з таго часу, калі яе, уральскую дзяўчыну, накіравалі на працу ў Беларусь, у беларускі гандаль, мінула больш за паўвека, адбылося, вядома, шмат розных падзей, а ёй хочацца згадаць самыя важныя, значныя, якія пакінулі след у душы.

Нарадзілася яна ў Барнаульскай вобласці ў вёсцы Усць-Парозіха. У час вайны знаходзілася ў Нова-Алтайску, дзе на эвакуіраваным з Днепрадзяржынска заводзе выпускала снарады да 122-міліметровых гаўбіц.

— У цэху, дзе выпускалі ваенную прадукцыю, мы працавалі па дванаццаць гадзін, — удакладняе Ніна Канстанцінаўна, — там жа, у заводскай сталоўцы, харчаваліся, харчаванне было няважнае, але мы разумелі, што цяпер не да прысмакаў — вайна... Пасля работы, хоць і стамляліся да ўпаду, але ж усё адно маладая кроў іграла, і мы пад гармонік пускаліся ў скокі. Потым адпачывалі на драўляных, як на цяперашніх гарадскіх пляжах, тапчанах.

У 1945 годзе скончыла Новасібірскі тэхнікум савецкага гандлю і атрымала накіраванне на працу ў Беларусь, на базу «Саюзоптпрамгандаль».

— У мае абавязкі ўваходзіла своечасова падаваць заявы (у неабходнай колькасці і ў разгорнутым выглядзе) па назвах і групах асартыменту ў гарадское ўпраўленне і Міністэрства гандлю, а таксама на прадпрыемствы, што выпускалі тавары народнага ўжытку. Тады, адразу пасля вайны, нам, гандлярам, жылося кепска: не хапала тавараў, дый людзі хіба жылі багата? Кожнаму патрэбны былі і абутак, і адзенне, тканіны, а грошай кот наплакаў... Пакрысе, паціху ды памалу і краіна, і людзі станавіліся на ногі, пакупніцкая здольнасць насельніцтва расла з года ў год, і мы, таваразнаўцы, не вылазілі з камандзіровак. Спытайце ў мяне, дзе я ў той час не была? Мабыць, не знайсці таго куточка-краёчка на карце былога СССР, дзе б я ні бавілася ў камандзіроўцы днямі, тыднямі, месяцамі. Што я там рабіла, што шукала? А ўсё адно і тое ж самае: абутак, адзенне, парфуму, галантарэю, тканіны... Гэта сёння пакупнік надта далікатны, калі ўжо выбірае сабе адзенне ці абутак, то каб і па фасону самы мадняцкі, і каб якасць адпавядала цяперашняму часу. А тады простых

гумовікаў не хапала. Што вы кажаце! Гумовікі! Яны, асабліва для вяскоўцаў, незаменныя былі ва ўсе поры года. Добрых дарог не было, і калі задажджыла, то пасёлкі — адно суцэльнае месіва, тое ж самае на калгасных фермах, ля дома, у хлявах — без гумовікаў нікуды ні кроку, хоць прападзі...

Гэта, мабыць, здаецца работа гандляроў спакойнай таму, хто яе не ведае. Калі, бывала, зрываўся план тавараабароту, то нам спуску не давалі. План гэты, дарэчы, ніколі не змяншаўся, наадварот, з года ў год, з дзесяцігоддзя ў дзесяцігоддзе толькі рос, павялічваўся. Вядома, мы імкнуліся выканаць даведзеныя лічбы, бо ад гэтага залежалі і наша зарплата, і прэміі, а значыць, сямейны дабрабыт. Але як, якім чынам удавалася нам гэта, ведаем толькі мы самі. Няма хадавога тавару, то і наш гандаль стаіць, каса пустая. От і не вылазілі мы з камандзіровак таму, каб дзесьці што-небудзь выпараць, даставіць на нашы цумаўскія склады, а потым выкінуць на прылавак. Звычайна ў канцы месяца, года заўсёды аўралы. Гандлявалі ад рання і да змяркання, да глыбокай ночы. Асабліва гэта датычыць навагодніх начэй. Да канца года заўсёды падбівалі бабкі і калі не хапала трохі да плана, дык гандлявалі ўсю перадна-вагоднюю і навагоднюю ночы.

Расказваючы, Ніна Канстанцінаўна перажывае, нібы зноў вяртаецца ў тое, што з'яўлялася сутнасцю і сэнсам яе жыцця.

— Як я трапіла на работу ў ЦУМ? Я яшчэ працавала ў «Саюзоптпрамгандлі», на маіх вачах забудоўвалі праспект імя Сталіна, на пачатку шасцідзесятых, памятаю, адчыніліся філармонія, Дом фізкультуры, куды я вадзіла сына ў плавальны басейн. Заўсёды, праходзячы з сынам па галоўным праспекце сталіцы, назірала за тым, як паступова рос, падымаўся гмах новага універмага, і нават не ўяўляла, што як толькі ён уступіць у строй, я пачну тут працаваць. А выйшла менавіта так. Аднойчы я чамусьці заглянула ў гэты універмаг, у якім будаўнічыя работы завяршаліся, пачалася расстаноўка тэхналагічнага гандлёвага абсталявання. Там і сустрэлася з І. І. Каленнікавым. Я яго ведала, бо мы, таваразнаўцы, ведалі ў твар кожнага кіраўніка таго або іншага гандлёвага прадпрыемства.

— Іван Іванавіч, а вы тут што робіце? — пацікавілася я. — Глядзіце, што гэты новы універмаг намнога большы і куды як раскошны ў параўнанні з вашым? Каленнікаў у той час з'яўляўся дырэктарам універмага, што насупраць цяперашняга Нацыянальнага банка Беларусі, і мне, вядома, было няўцям, што ён рабіў у гэтым новым, дзе поўным ходам, заўважыла я, вялася падрыхтоўка да яго адкрыцця.

— Адстала ты ад жыцця, Ніна Канстанцінаўна, — пачула я ў адказ. — Я ўжо не там, дзе быў раней, а тут, у гэтым вось новым, кіраўнік. Не хацеў я пераходзіць адтуль сюды, але ж я камуніст — загадалі ў абкоме партыі, і мусіў падпарадкавацца. Канечне, гэты болей раскошны, сучасны, але тут сама бачыш — усё трэба пачынаць з нуля.

Я паверыла Івану Іванавічу, бо ўбачыла на ягоным твары глыбокую заклапочанасць. Вакол адна неразбярыха, а тут, напэўна, ужо ледзь не даводзілі план тавараабароту. У душы я паспачувала яму, але казаць нічога не стала, павярнулася — і на выхад.

— Пачакай, Ніна Канстанцінаўна, — затрымаў мяне Каленнікаў. — Можа, ты згодзішся перайсці да мяне на работу? — ашаламаніў мяне ён нечаканым пытаннем. — Вядома, на старым, абжытым, аблюбаваным месцы табе прывычна, утульна, а тут на першым часе давядзецца не соладка, затое потым... Ды я не клічу цябе ў радавыя гандляры, а прызначу загадчыкам аддзела. Ты на сваёй базе, здаецца, займалася галантарэяй, дык у мяне будзеш загадчыкам галантарэйнага аддзела. Згодна?

Яго прапанова была нечаканай, але заваблівай, бо я ў опце напрацавалася, даўно хацела паспрабаваць сябе ў рознічным гандлі, а тут такая вось прапанова... Іван Іванавіч нібы прачытаў мае думкі. Падумаю, адказала я.

Не адмовілася, адным словам, я ад прапановы Івана Іванавіча. І колькі аб гэтым не шкадавала і не шкадую, бо праца ў такім вялікім магазіне прэстыжная, цікавая, дый з матэрыяльнага боку... Заробкі ў нас ужо ў той, савецкі час, былі дужа нядрэнныя: я, загадчыца аддзела, у сярэднім мела трыста восемдзесят рублёў у месяц. Многа гэта ці мала? Савецкія грошы цаніліся, мелі добрую вагу: за адну сотню можна было і харчавацца нядрэнна, і тое-сёе прыдбаць з адзення-абутку. А за маю зарплату я жыла дзякуй Богу.

Яна не забыла, што на першым часе востра паўстала кадравае пытанне.

— Па праекце планавалася пабудаваць універмаг на 200—250 рабочых месцаў, а на самай справе ўзвялі яго на ўсе шэсцьсот.

Здаецца, з сотню чалавек Іван Іванавіч прывёў з сабою з ранейшай сваёй работы, а астатніх звалі адкуль толькі маглі.

Амаль сорак гадоў мінула з таго часу, і я дзіўлюся, што яе памяць захавала пра першыя крокі, першыя дні працы шмат драбніц, да самых, здавалася б, нязначных дэталяў.

— Да таго часу я ўжо была не зялёнай дзеўчынёхай, праца на базе «Саюзоптпрамгандаль» шмат чаму навучыла мяне, адкрыла на многае вочы. Я перш за ўсё зразумела галоўнае: у нашай рабоце без вартых тавараазнаўцаў надта не разгонішся. Яны, таваразнаўцы, усё адно як інжынеры гандлю, бо менавіта ад таго, як яны разумеюць кан'юнктуру рынку, ці ўважліва сочаць за попытам пакупнікоў, своечасова заўважаюць, што тыя або іншыя тэндэнцыі ў гандлі сёння актуальныя, а заўтра ўжо не, залежала ой як шмат. Працу таваразнаўцаў я ведала як ніхто ў ЦУМе: а што ж вы хацелі — больш за дзесятак гадоў адрабіла гэтым самым таваразнаўцам на аптовай базе. У галантарэйным аддзеле пры мне не было выпадку, каб не выконвалі план тавараабароту, каб не даставала тавараў, што карысталіся шырокім попытам. Чаму? Адказ вельмі просты: я сама асабіста падбірала таваразнаўцаў і не спускала з іх вачэй, кантралявала іх работу пастаянна. Я не давала, каб таваразнаўцы заседжваліся ў аддзеле — выпраўляла на штогадовыя кірмашы, на аптовыя ўсесаюзныя рынкі... Інакш нельга было, бо ў тыя часы, асабліва ўжо ў сямідзесятыя гады, грошай у людзей хапала, а ў магазінах часам, як і ў ЦУМе «Мінск» таксама, асабліва на пачатку месяца, на прылаўках хоць шаром пакаці.

— Слухаючы вас, Ніна Канстанцінаўна, можна зразумець, што ў вас гандляроў, не жыццё, а рай: вас хіба што толькі адно турбавала — недахоп патрэбных тавараў, — пад самы канец нашай размовы ўстаўляю я сваё слова. — А вось я ведаю іншае...

У вёсцы, гэта на Палессі, дзе я нарадзіўся, здаецца, аж да семідзесятых гадоў была невялічкая, цесная, няўтульная крама, у якой мясцовыя тубыльцы набывалі запалкі, газу, мануфактуру, соль, печаны хлеб, муку... Гандляром, колькі помню сябе, увесь час быў адзін і той жа чалавек, ён з мясцовых, даволі магутнага складу, высокі, плячысты, як асілак, хітры і загадкавы, які не толькі ўмела вёў гандаль, а і рабіў скрыпкі, пэўна, скрыпкі ягонага вырабу славіліся, бо па іх прыязджалі розныя скрыпуны адкуль толькі хочаш, але часцей за ўсё з Масквы, Мінска, Ленінграда... Двор каля хаты крамніка даволі шырокі, доўгі, з зялёненькім, затравелым лужком, дык наязджалыя скрыпуны, прыклаўшы дэку да шчакі, стаялі пасярод гэтага двара, вадзілі смыком па струнах, і такую журботную, такую часам сумную музыку выводзілі, што я, праходзячы міма, міжволі спыняўся, музыка мяне зачароўвала, у маёй душы абуджалася штосьці ўзнёслае, трывожна-шчымлівае, я не заўважаў, што на вочы самі сабой нагортваліся слёзы, і я ледзь не плакаў... У тыя хвіліны я думаў, што крамнік — чалавек добры, сумленны, таленавіты — гэта ж трэба так умець: са звычайнага дрэва, якое расло ў нашым лесе, рабіць вунь якія чароўныя скрыпкі, і па іх прыязджаюць знакамітыя артысты, выканаўцы з усяго белага свету...

— Пры чым тут адно да другога? — не вытрымала Ніна Канстанцінаўна. — Скрыпкі, крама, крамнік...

— Пачакайце, не спяшайцеся. Я й сам не разумею, як гэта магчыма, каб у адным чалавеку ўжываліся дабрыня, талент, які, вядома, толькі ад Бога, і штосьці іншае.

Наш вясковы крамнік жыў багата, заможна. Магчыма, ён нешта зарабляў на тым, што прадаваў свае скрыпкі. Але ж я й сам і ўсе вяскоўцы ведалі і іншае: каля мяхоў з соллю і цукрам у ягонай сельпоўскай краме заўсёды стаяла вядро з вадой. Ён, вядома, тое вядро хаваў, закрываў яго розным рыззём, каб надта не кідалася ў вочы... Але каго ён хацеў абдурыць, абмішурыць? Ёсць жа гэтакае выслоўе: няма нічога тайнага, што б не стала яўным. Так і тут. Адным словам, людзі між сабой шапталіся, што крамнікава заможнае жыццё поўнасцю за кошт таго, што ён абдурваў сваіх пакупнікоў. Нават калі ён адпускаў якую-небудзь мануфактуру, то нацягваў яе на метр так, што яна аж трашчала. У той час вяскоўцы бялілі сценкі хаты знутры белаю глінаю, якую таксама набывалі ў сельпоўскай краме. Адпускаў гліну крамнік літроваю бляшанкаю на тонкім дроце-вочапцы. Дык і тут ён не мог, каб не мухляваць... Гэта ж трэба даўмецца да такога: у дне бляшанкі папрабіваў цвіком дзірачкі, і гліна сеялася праз тыя дзірачкі, нібы мука.

Ніна Канстанцінаўна дабрадушна рассмяялася, спытала:

— Няўжо такое магчыма?

— Так, як бывае ў жыцці, цяжка самому выдумаць. Урэшце, яшчэ жывыя людзі, іх шмат, якія ўсё гэта не забылі.

Яна пасур'ёзнела, на твар набег халодны цень.

— Вы хочаце сказаць...

— Ніна Канстанцінаўна, я не хачу нічога дабаўляць ці прыбаўляць да таго, што было. А было, як вам добра вядома, усялякае... Я праглядваў у Нацыянальным дзяржаўным архіве ў Мінскім абласным пратаколе пасяджэнняў партбюро ЦУМа «Мінск» за розныя гады, рашэнні па «Белунівермазе», рознага кшталту запіскі, лісты Саўміна БССР, ЦК КПБ, упраўлення гандлю Мінгарвыканкама... Я чытаў, што на пасяджэннях партбюро, на агульных сходах работнікаў ЦУМа «Мінск» разглядаліся персанальныя справы за розныя нядобрасумленныя ўчынкі супрацоўнікаў універмага... Былі і буйныя справы. Хіба ж вы не ведаеце, што на пачатку 80-х гадоў мінулага стагоддзя камерцыйнага дырэктара ЦУМа «Мінск» нават пасадзілі за краты? Тады, здаецца, ледзь не ўсё кіраўніцтва універмага было звольнена за буйныя пралікі?

Хоць яна даўно, з пачатку тых жа васьмідзесях гадоў на пенсіі, і яе гэта ўжо ніяк не можа датычыцца, але ёй усё адно згадваць пра тое дужа нярадасна, непрыемна. Яно й вядома: блізіцца своеасаблівы саракагадовы юбілей з дня адкрыцця ЦУМа «Мінск», а тут вось надакучаюць зусім не юбілейнымі пытаннямі.

— Вы яшчэ згадайце біблейскіх мянялаў, якіх вытурылі са святога храма вядома за што... Мянялы — двурушнікі сусветнага маштабу, для іх гандаль — сродак нажывы дый годзе, але яны не нашай — чужой веры, а мы — людзі праваслаўныя, для нас Хрыстовы запаведзі — закон жыцця.

— Камуністы, здаецца, не прызнавалі рэлігіі, з'яўляліся атэістамі, ці ж не так? Тым больш кіраўніцтва любога рангу...

— Усё гэта вядома так, але ж праўда і тое, што мы з'яўляліся нашчадкамі, пераемнікамі традыцый і звычаяў нашых бацькоў, а яны былі праваслаўнымі, ад гэтага нікуды не падзецца. А ў праваслаўных Вялікдзень — час, калі Хрыстос уваскрэс, самае значнае свята. Для камуністаў, дарэчы, як і для веруючых хрысціян, якія самыя галоўныя правілы жыцця? Не забі, не ўкрадзь... Між камуністамі і сапраўднымі хрысціянамі, здаецца мне, розніцы прынцыповай няма. Усе, з кім мне давялося супрацоўнічаць у гандлі, у ЦУМе «Мінск» таксама, людзі шчырыя, сумленныя ў сваёй большасці, але ў сям'і, нездарма ж ёсць такое выслоўе, не без вырадка... Трапляліся нячыстыя на руку, хіба гэта я адмаўляю? Але мы ад іх пазбаўляліся, як пазбаўляюцца ад каросты ці яшчэ якой-небудзь заразнай хваробы.

## ДЗЕЦІ РЫНКАВАЙ СТЫХІІ

Сёння тых, хто пастуліў на работу ў ЦУМ з дня ягонага адкрыцця і не выправіўся пакуль на заслужаны адпачынак, можна пералічыць на пальцах. Адна з іх — Ларыса Уладзіміраўна Ходырава. У цяперашні час яна — загадчыца аддзела знешняга гандлю.

Трапіўшы ў Нацыянальны дзяржаўны архіў кінафотафонадакументаў, што ў Дзяржынску, я выпадкова выявіў адзін здымак, на якім Ларыса Ходырава, яшчэ зусім маладая, камсамольскага ўзросту, сфатаграфавана сярод раскрытых парасонаў. Уяўленне такое, нібы сапраўды ідзе дробны дожджык, яна гарэзліва пераскоквае цераз лужыны на мокрым асфальце, на душы ў яе светла і хараша, і яна напявае нейкую вясёлую песеньку...

— Памятаю, што гэты здымак зроблены ў 1967 годзе, — тлумачыць Ларыса Уладзіміраўна, — здаецца, якраз ў ЦУМе «Мінск» адкрылася выстаўка парасонаў, і я дэманстравала іх пакупнікам. Столькі часу мінула, а мне здаецца, што гэта было нядаўна, ледзь не ўчора.

— Сорак гадоў ЦУМу «Мінск», без малога сорак, усё, што адбывалася ў ім за гэты час, вы бачылі, вы з'яўляецеся жывым сведкам ягонай гісторыі. Прайшлі доўгі шлях ад радавога гандляра да загадчыка аддзела. Не надакучыла вам усё жыццё займацца адным і тым жа? Няўжо гандаль — гэта так цікава?

Яна паглядзела на мяне з непаразуменнем, у яе вачах нямое пытанне: аб чым размова?

— У гандлі я аказалася не выпадкова: мая маці таксама займалася ім, і, мабыць, я ўжо ад маці пераняла прафесію. Не ведаю, чым гандаль прывабіў мяне, але ж нечым прывабіў, бо пасля заканчэння сярэдняй школы я падала дакументы ў гандлёвае вучылішча ў Гродна. Сама я родам з Мінска, а вось жа чамусьці захацелася вучыцца ў Гродне, сёння я ўжо і не магу растлумачыць, чаму менавіта выбрала гэты горад для вучобы, але вучылася я там з ахвотай і жаданнем, у маёй залікоўцы былі адны «пяцёркі», мо таму, што я з'яўлялася выдатніцай, мяне і абралі сакратаром камсамольскай арганізацыі вучылішча.

З яе слоў становіцца вядомым, што пасля заканчэння Гродзенскага гандлёвага вучылішча яна вяртаецца ў Мінск, уладкоўваецца на працу ў Аўтазаводскі універмаг.

— Здаецца, якраз ішоў 1958 год, калі я пачала працаваць у Аўтазаводскім універмагу. У тым жа годзе паступіла ў інстытут народнай гаспадаркі імя Куйбышава на факультэт тавараразнаўства, — улакладняе яна.

Прайшло шэсць гадоў. Ларыса Ходырава да таго часу паспела скончыць інстытут, стала дыпламаваным спецыялістам-тавараразнаўцам. Магчыма, і далей заставалася б на старым, звыклым ужо месцы работы, але тут якраз надышло лета 1964 года.

— Я не строіла ніякіх планаў, бо была задаволена працай, — згадвае Ларыса Уладзіміраўна, — але да мяне дайшлі чуткі, што на галоўным праспекце беларускай сталіцы вось-вось уступіць у строй новы, буйны універмаг, і туды ўжо набіраюць людзей, то я доўга не раздумвала, напісала заяву — і на Ленінскі праспект, у аддзел кадраў новага ЦУМа, якому якраз да гэтае пары Мінгарвыканкам даў імя «Мінск».

Мы сустрэліся на першым паверсе ЦУМа, вакол нас блукаюць, пэўна ж, што ў пошуках патрэбнай для гаспадаркі рэчы людзі, але яны нам не замінаюць, бо размова нас захапіла, я хачу даведацца болей з падзей, якія адбываліся вось у гэтым памяшканні на працягу таго часу, калі яно ўзводзілася, потым дабудоўвалася, перабудоўвалася...

— Вам хочацца болей канкрэтыкі, але хіба ўсё запомніш? — нібыта скардзіцца Ларыса Уладзіміраўна.

Яна, вядома, разумее, што ад мяне так проста не адбаярышся, і таму паціху ды памалу выкладвае тое, што яшчэ не зусім забылася і аб чым ёй даводзіцца гаварыць апошнім часам, выступаючы перад моладдзю універмага.

— Па-першае, чаму я ўсё ж перайшла з Аўтазаводскага універмага ў гэты новы? Вядома ж, што на старым, звыклым месцы спакайней, не трэба надта напружвацца. Але калі я ўбачыла, што ЦУМ ні ў якое параўнанне не йдзе з Аўтазаводскім па сваіх памерах, архітэктуры, знешнім і ўнутраным выглядзе, то мяне нібыта магнітам пацягнула туды. Таго лета 1964 года ў ім яшчэ столькі недаробак я ўбачыла, але не спалохалася, не пашкадавала, што прыняла рашэнне, бо па настроі будаўнікоў, людзей, якія прыйшлі са мною разам, зразумела: калі ёсць такая ўстаноўка, што трэба яго здаць у строй да пачатку лістапада, то іначай не будзе. Тады лозунгамі і словамі так проста не раскідваліся: сказалі, што універмаг павінен адчыніцца да 47-й гадавіны Вялікага Кастрычніка, то і рабілі ўсё магчымае, каб яно так і было. Працавалі днём і ноччу, праяўляючы і прымяняючы творчую фантазію, уменне арганізаваць шэфскія сувязі, нават воінскія падраздзяленні і тыя дапамагалі.

Потым наступілі дні штодзённага клопату, бо пакупнікоў у новым універмагу хапала ў любы час. Мала таго, што Ларыса Ходырава з'яўлялася намеснікам загадчыка секцыі «Тэкстыльна-басоннай галантарэі», дык за ёй замацавалі яшчэ і грамадскі абавязак — камсамольская арганізацыя толькі стваралася, станавілася на ногі, і трэба было, каб моладзь без усялякай раскачкі ўключылася ў работу, якой было непачаты край.

У сямідзесятыя гады на імя дырэктара ЦУМа «Мінск» ішлі лісты з розных куткоў Савецкага Саюза: з Ташкента, Уладзівастока, Кіева, Свярдлоўска... У гэтых лістах дырэктары цэнтральных універмагаў розных гарадоў краіны прасілі падрабязна расказаць, што гэта такое — сістэма бездэфектнай працы. Менавіта гэтакая форма ўліку працы ўзнікла ў ЦУМе «Мінск». Яе сутнасць заключалася ў тым, што з яе ўводам у дзеянне заканчвалася так званая абязлічка.

— Раней, да ўводу ў дзеянне бездэфектнай сістэмы як было? — Тлумачыць Ларыса Уладзіміраўна. — Адзін працаваў ад усёй душы, прымяняючы творчую фантазію, выдумку, можа, нават рацыяналізатарскую ідэю прапаноўваў, якая давала немалы эфект, а другі, як дакладна кажуць у народзе, да сваіх абавязкаў ставіўся па прынцыпу цяп-ляп, але зарплату, прэміяльныя атрымлівалі ўсе аднолькавыя. Хіба гэта было справядліва? А новая бездэфектная сістэма ўлічвала літаральна ўсё: і тое, як кожны штодзень выконвае свае абавязкі, ці задумваецца ён над тым, каб удасканаліць старыя, што аджылі сваё, формы і метады... У кожнага радавога гандляра, загадчыка секцыі, аддзела, кіраўніка ці спецыяліста самага рознага рангу быў свой асабісты ліст уліку працы, у якім занатоўвалася літаральна ўсё, з дня ў дзень: як і наколькі выконваўся план тавараабароту, ці ўдзельнічае той або іншы ў грамадскім жыцці калектыву, ці ёсць у наяўнасці належны асартымент тавараў, ці няма заўваг і скаргаў пакупнікоў... У канцы месяца падбіваліся бабкі, і ў таго, хто набраў большы каэфіцыент за сваю працу, была большая зарплата, адпаведна і прэміяльныя. Тады ўсе ўбачылі, што ставіцца да сваіх абавязкаў абыякава — сабе даражэй, падганяць тут нікога не трэба было, само жыццё падганяла, прымушала задумвацца. Адным словам, ужо тады ў ЦУМе «Мінск», без усялякіх перабольшанняў і нацяжак кажу пра гэта, пачынаў дзейнічаць рынак, ягоныя правілы і ўмовы ўжо ў той час давалі немалы эфект, выводзілі калектыў на перадавыя пазіцыі.

Да таго, як пачуў ад Ларысы Уладзіміраўны гэтыя словы, я гартаў і чытаў старыя падшыўкі газеты «Советская торговля», бываў неаднаразова ў музеі ЦУМа «Мінск», дзе ў альбомах таксама нямала выразак з беларускай усесаюзнай перыёдыкі сямідзесятых гадоў, у якіх вялася размова аб тым самым, што зараз гаворыць цяперашняя загадчыца аддзела знешняга гандлю ЦУМа «Мінск». Пазнаёміўшыся з архіўнымі матэрыяламі, я пераканаўся, што цэнтральны універмаг беларускай сталіцы ва ўсе часы з'яўляўся флагманам беларускага гандлю. Таму мяне нікольki і не здзівіла, што адны ягоныя кіраўнікі,

як І. І. Каленнікаў, Р. Р. Краўчанка, на працягу доўгага часу з'яўляліся потым намеснікамі міністра гандлю Беларусі, М. А. Макаед, папрацаваўшы пэўны час дырэктарам ЦУМа, узначальваў тое ж самае міністэрства з 1981 па 1987 гады, а затым з'яўляўся намеснікам Старшыні Савета Міністраў БССР да 1990 года. Што і казаць: школа ЦУМа «Мінск» — вядомай, вышэйшай якасці!

Я слухаю яе і лаўлю сябе на думцы, што, аказваецца, я сам, дый не толькі, мабыць, я ведаем гандаль аднабакова: хіба мы калі-небудзь па-сапраўднаму задумваемся, якое яно, жыццё, там, па той бок прылаўка, адкуль і як бяруцца тавары, па якія мы даволі часта заварочваем у той ці іншы магазін? Урэшце, што хвалюе, чым і як жывуць людзі, хто нас абслугоўвае ў гэтых самых магазінах?

— Калі б добра ведалі, што такое праца гандляра... — быццам падслухаўшы мае думкі-развагі, цяжка ўздыхае Ларыса Уладзіміраўна, — то, напэўна, па-іншаму ставіліся б да нас. Што мы часцей за ўсё чуем ад пакупнікоў? Падзякі, удзячнасці за тое, што цэлымі тыднямі як раней, так і цяпер прападаем дзе-небудзь у далёкіх камандзіроўках у пошуках чаго-небудзь хадавога? Прайдзіцеся па паверхах нашага універмага, па секцыях і аддзелах, і вы ўбачыце: чаго ў нас толькі сягоння няма. Птушынае малако і тое, здаецца, ёсць. Як гэта і адкуль узялося хіба надта каго хвалюе?

У яе словах добрая доля праўды, і таму я маўкліва згаджаюся з ёю, бо ведаю, як даволі часта бегаў па магазінах у пошуках той або іншай неабходнай рэчы і калі не знаходзіў яе, то адно злаваўся на гандляроў, думаў, якія ж яны непаваротлівыя.

— У мяне ёсць знаёмыя, якія не так даўно з'яўляліся супрацоўнікамі навукова-даследчых інстытутаў, адны з іх мелі ўжо вучоную ступень, другія былі на падыходзе да гэтага, але цяпер яны — чаўнакі, — раптам ні з таго ні з сяго, падалося мне, яна паварочвае размову быццам зусім у іншы бок, — адным словам, сталі гандлярамі. На першым часу нарадавацца не маглі, што заняліся такой, з іхняга пункту гледжання, даходнай справай. Нахваліцца не маглі пры кожнай нашай сустрэчы, як добра наладзілася іхняя гандлёвая справа: выручка штомесяц складала не адну сотню, а то і тысячу ці болей долараў, а гэта не ішло ні ў якое параўнанне з капейкамі, якія яны атрымлівалі, працуючы вучонымі ў сваіх інстытутах. Мінула трохі часу, і мае дамарослыя гандляры чагосьці скіслі, амаль не хваліліся ўжо тым, якія шалёныя грошы заграбаюць яны. Калі я пацікавілася, чаму гэта яны так хутка расчараваліся, то што пачула ў адказ? Маўляў, пакупнік збяднеў, да таго ж рэкеціры жыць не даюць, падатковая інспекцыя таксама бясконца правярае... А тавар? Каб мець варты тавар, трэба выпраўляцца ў далёкую, куды-небудзь, вядома ж, за мяжу, дарогу... Трэба цягаць на сабе непад'ёмныя ношкі... Скрозь і ўсюды заграбушчыя мытнікі, міліцыя-паліцыя...

Яны думалі, што наш хлеб лёгкі і сытны, але хутка пераканаліся, што гэта зусім не так. Хто-хто, а мы добра ведаем звычаі аптовых баз, дзе, калі не падмажаш, то і мала што возьмеш. Чаўнакі яшчэ не ведаюць, што такое санстанцыя, пажарнікі, а мы сустракаемся з імі пастаянна, і радасці ад гэтых сустрэч мала.

Пра санстанцыю і пажарнікаў я наслуханы добра, і мяне цікавіць адно: няўжо ў іхніх узаемаадносінах з тымі, каго яны правяраюць, нічога дасюль не памянялася? Што ні гавары, а цяпер зусім іншы час.

— Іншы час, — задумваецца яна. — Хто яго ведае, чаго больш у гэтым новым часе — добрага ці дрэннага? Раней хоць быў нейкі кантроль, дысцыпліна на дзяржаўным узроўні, а цяпер... Раней калі хто праштрафіўся, то мы ці на камсамольскім, на партыйным сходзе так увалім яму, што ён доўга помніў. Галоўнае, што гэта дзейнічала, уплывала на паводзіны людзей, а сёння да таго ўжо разбасячыліся... Куды, да чаго мы дойдзем-прыплывём? — пытаецца яна і сама адказвае: — Пэўна ж, што нічога добрага з гэтага не вый-

дзе. Сёння ўсяму адна мерка — грошы. Грошы, магчыма, гэта не так ужо і дрэнна, бо з грашыма не прападзеш, з імі дастатак забяспечаны. Але калі гоняцца за грашыма любой цаной, то прабачце... Грошы без вартай маралі непазбежна прывядуць да распусты, бяды.

Логіка ў яе развагах, безумоўна, ёсць, і ўсё ж тое-сёе застаецца няясным.

— Мне здаецца, што параўноўваць вас і чаўнакоў не зусім правільна. Вы хоць і адкрытае акцыянернае таварыства, але пад строгім дзяржаўным патранажам, бо ў каго кантрольны пакет акцый? Ото ж і яно... Значыць, вы так або інакш — гандляры з дзяржаўным мысленнем, а чаўнакі... Яны — дзеці рынкавай стыхіі.

— Хто гэта адмаўляе? У нас ужо накоплены вопыт, у нас вунь якія гандлёвыя залы, склады... Шмат у чым мы выйграём у параўнанні з чаўнакамі, але нямала і такога, што не на нашу карысць. Чаўнакі ствараюць нам неймаверную канкурэнцыю за кошт чаго? Яны не плацяць за цяпло, святло, іхнія падаткі і нашы — неба і зямля. Іхні тавар таму і значна таннейшы за наш, а таму і выручка іхняя часам большая. І ўсё ж маладыя гандляры да нас ідуць больш ахвотна, чым да якога-небудзь прыватнага прадпрымальніка, бо ў нас цывілізаваны гандаль, цывілізаваны пакупнік. Што я маю на ўвазе? У нас калі хто захварэў, то спакойна сядзіць на бюлетэні, а паспрабуйце вы захварэць у прыватнага прадпрымальніка, ён вам хутка пакажа на дзверы. Я ўжо не кажу пра тое, калі жанчына зацяжарыць, і трэба ісці ў дэкрэтны водпуск. Сацыяльная абарона ў нас, як і раней, у нас кожнаму, хто ідзе ў водпуск, выплачваецца пэўная сума на лячэнне, выдзяляюцца бясплатна пуцёўкі ў санаторыі, прафілакторыі, у нас вунь які свой медыцынскі цэнтр. Хіба гэта ў прыватніка ёсць? Так, у іх, прыватнікаў, магчыма, заробак часам, дый то як у каго і не заўсёды, трохі большы, але сацыяльная абарона, скажу шчыра, многага варта. А пакупнік? Хіба ён у роўных умовах у нас і ў прыватнікаў? У нас любы тавар, калі раптам высветліцца, што ён няякасны, не адпавядае пэўнаму стандарту, можна ці замяніць, ці адрамантаваць па гарантыі. Паспрабуйце вы, калі раптам што, зрабіць тое ж самае з таварам, які набылі дзе-небудзь на рынку ў прыватніка. Часам і таго прыватніка не знайсці, і гарантыйнага абслугоўвання дамагчыся, як у скупога снегу зімой прасіць.

Напаследак я пытаюся:

— Аддзел знешняга гандлю, якім вы кіруеце цяпер, ён калі з'явіўся? Здаецца, раней яго не было.

— Вядома, не было. У нашым сённяшнім жыцці шмат чаго новага. Калі Беларусь стала незалежнай, то мы жывём і дзейнічаем па новых законах, у новых умовах. Цяпер няма цэнтралізаваных паставак, усё і адусюль мы здабываем, дастаўляем сваім транспартам, самі. З кожным прамысловым прадпрыемствам, іншымі суб'ектамі гаспадарання заключаем прамыя дагаворы. З краінамі СНД, з далёкімі замежнымі краінамі дзейнічаем таксама на дагаворнай аснове. Таму і з'явіўся ў нас аддзел знешняга гандлю, бо Украіна, Расія, іншыя былыя рэспублікі СССР сёння — замежжа, а мы з гэтым так званым замежжам сувязей не разрывалі ніколі.

## ГАЛОЎНАЕ ЗВЯНО

— На працягу свайго амаль 40-гадовага існавання ЦУМ «Мінск» без перабольшвання — самае галоўнае гандлёвае прадпрыемства Беларусі, — гаворыць намеснік дырэктара універмага па кадрах Надзея Іванаўна Марозава, — калектыў універмага ўнёс значны ўклад у развіццё і ўдасканаленне гандлёвай галіны.

Надзея Іванаўна прыйшла на работу ва універмаг «Мінск» не з першага дня ягонага адкрыцця, але яе працоўны цумаўскі стаж вымяраецца таксама не

адным дзесяцігоддзем. Яна — з тых, хто пачаў удасканальваць сваё майстэрства з самай нізкай прыступкі, з радавога малодшага гандляра першага разраду, кваліфікацыі, якая прысвойвалася пасля заканчэння цумаўскай школы-магазіна.

— За сорак гадоў існавання ЦУМа «Мінск» склалася сістэма работы з кадрамі, і час пацвердзіў яе жыццяздольнасць, — працягвае яна. — Падбор, расстаноўка і падрыхтоўка спецыялістаў — было, ёсць і будзе галоўным звяном у фарміраванні вытворчых зносін на прадпрыемстве на любым этапе яго-нага развіцця.

Яна гартае нейкую шэрую папку з белымі завязкамі, у якой розныя кадравыя даведкі. Выбіраючы і чытаючы ўслых з тых даведак пэўныя месцы, лічбы, раз-пораз кідае ў мой бок запытальны позірк: ці разумею, ці даходзіць да мяне сэнс і важнасць работы, якую яна, намеснік дырэктара, галоўны кадравік ЦУМа, праводзіць ужо каторы час?

— Дзе вы бачылі, каб з года ў год, асабліва ў наш час, калі вакол канкурэнцыя, ідуць звальненні, колькасць работнікаў наадварот — павялічвалася, расла? — пытаецца яна. — І аб чым гэта сведчыць? Ці не аб тым, што прадпрыемства набірае абароты, прагрэсіруе? Гэта калі паглядзець з аднаго боку. А з другога... Хто гэты прагрэс забяспечыў? Без высакакласных, дасведчаных спецыялістаў такое наўрад ці стала б магчымым.

Яна чамусьці зноў заглядвае ў шэрую папку, яе позірк прыкуты да нейкай паперчыны, я чую нягучны, дзелавы голас:

— Адным словам, у нас на сённяшні дзень без малога тысяча дзвесце работнікаў, большасць з іх — жанчыны, і гэта характэтна для нашай галіны... На першае чэрвеня 2002 года колькасць мужчын у нас складала 13,8 працэнта, а жанчын адпаведна — 86,2 працэнта. Дамінуючай прафесіянальнай групай з'яўляюцца працаўнікі рабочых катэгорый, колькасць якіх на цяперашні час складае 962 чалавекі, або 74,9 працэнта, з іх непасрэдна гандляроў — 634 чалавекі.

Рэканструкцыя, якая пачалася тут на пачатку дзевяностых гадоў, не магла не адбіцца і на кадрах. Гэты перыяд з'явіўся своеасаблівым выпрабаваннем для кожнага, бо трэба было дбаць не толькі пра выкананне плана тавараабароту, пра тое, каб на складах і прылаўках хапала ўдосталь любога тавару, а яшчэ і працаваць не ў зусім звыклых умовах. Бо частка універмага была зачынена, знаходзілася на рэстаўрацыі, яе перабудоўвалі, трэба было адпрацаваць пэўную колькасць часу на будоўлі. Не кожны вытрымліваў гэткі жорсткі графік, некаторыя пазвальняліся, падаліся шукаць сабе больш цёплага, лягчэйшага, хлебнага месца.

— Пасля рэканструкцыі, якая скончылася дзесьці к канцу 1997 года, — тлумачыць Надзея Іванаўна, — цумаўскі калектыў абнавіўся напалову, заявы аб уладкаванні да нас на працу ў 1997 годзе падалі 650 чалавек. Для аднаго гандлёвага прадпрыемства, няхай нават такога, як сталічны ЦУМ, гэта дужа нямала. Але трэба разумець, што пасля рэканструкцыі ЦУМ змяніўся да непазнавальнасці не толькі знешне і ўнутрана, яго архітэктурны выгляд набыў новыя, сучасныя рысы. Чаму правялі рэканструкцыю, ды яшчэ ў такі час, калі распаўся СССР, калі мы набылі дзяржаўную незалежнасць, а інфляцыя, недахоп усяго былі такі, што страшна падумаць? Магчыма, лепш было б трохі пачакаць, калі наступіць хоць нейкая стабілізацыя. Але хіба ў тым, даволі цесным, няўтульным памяшканні шасцідзесятых гадоў, у якім гандаль вёўся толькі на двух паверхах, мы змаглі б размахнуцца, весці сваю работу ў сучасных рынкавых умовах гэтак шырока і вольна, прымяняючы ўсю творчую фантазію, як у абноўленым, рэканструяваным, з двума даволі немалымі філіяламі? Не, невыпадкова да нас прыйшоў Вальдэмар Часлававіч Юшкевіч у той няўстойлівы час і заняў пасаду дырэктара. Чалавек ён без усялякага перабольшання мэтанакіраваны, настойлівы, калі ўжо бярэцца за што, то не адступіцца, не спасуе ні перад чым,

пакуль не даб'ецца станоўчага вырашэння. Вы думаеце я знарок кажу гэта, каб неяк дагадзіць дырэктару? Я тут адпрацавала нямала, добра ведаю сваё месца ў калектыве, ведаю, хто чаговарты, а таму і магу даваць ацэнку кожнаму такую, якую ён заслугоўвае. Тым больш, што кожны пачынае сваю працоўную дарогу з аддзела кадраў, якім я загадваю не першы год.

Не ад адной Надзеі Іванаўны чую я добрыя словы пра дырэктара. І мушу пагадзіцца з імі, бо за час, калі збіраў матэрыял для гэтых вось нататак, неаднаразова сустракаўся з ім, вёў размовы пра рознае і ўбачыў: чалавек ён рашучы, можа крыху і крутаваты, але інакш, мабыць, на ягоным месцы і нельга, бо ён адзіны тут за ўсё ў адказе — і за выкананне плана тавараабароту, і за захаванне таварна-матэрыяльных каштоўнасцей, за тое, каб людзі атрымлівалі вартую зарплату. Дый за кадры хіба ён не нясе адказнасці? Пэўна ж, што сваіх намеснікаў ён падбірае сам, а начальнікі аддзелаў, вядучыя спецыялісты без ягонай згоды хіба назначаюцца?

Аднойчы, калі я вёў размову з В. Ч. Юшкевічам аб ЦУМе, сённяшнім і ўчарашнім дні універмага, аб людзях, якія працавалі і працуюць тут, аб іхнім лёсе, ён сказаў мне, як папракнуў:

— Не ведаеце вы гандаль...

Я з ім не пагадзіўся:

— Канечне, так як вы, Вальдэмар Часлававіч, як іншыя, для каго гэта прафесія, хто звекаваў за прылаўкам і каля прылаўка, не ведаю, і навошта мне гэта? Але ж як чалавек сваёй прафесіі, як пакупнік, я добра разумею псіхалогію тых, для каго гандаль — паўсядзённы клопат. У мяне сваё меркаванне пра ўчарашні і сённяшні дзень беларускага гандлю і, паверце, гэтае меркаванне не такое ўжо і далёкае ад сапраўднасці. Хіба я забыў, як некалі шукаў сабе той жа звычайны кажушок ці дублёнку, якіх на прылаўку ці то вось тут, у вашым універмагу, ці яшчэ дзе, днём з агнём было не знайсці, а на складзе ўсё было, але хавалася ад такіх пакупнікоў, як я, бераглося для іншых, хто займаў адпаведныя высокія пасады і ад каго залежаў ваш, кіраўнікоў гандлю, лёс. Ці ж няпраўда гэта? А вы кажаце, што я не ведаю гандаль... Сёння, вядома, іншая пагода — дэфіцыту няма, набыць можна ўсё што хочаш, абы грошы. У сувязі з гэтым і псіхалогія ў гандляроў зусім іншая, і ўзаемаадносіны паміж імі і пакупнікамі іншыя, а таму даводзіцца мяняць сваю псіхалогію, даводзіцца з новымі меркамі падбіраць кадры. Ці ж не так?

Чэргі, чорны ход, якім карысталіся далёка не ўсе пакупнікі, — неад'емныя спадарожнікі гандлю савецкіх часоў. Што іх спарадзіла, спрыяла таму, каб яны захаваліся аж да той пары, пакуль не перастала існаваць савецкая ўлада? Няўжо сама сістэма? Пэўна, у такім сцверджанні ёсць немалая доля праўды. Але ж і самі гандляры хіба імкнуліся да таго, каб наглуха зачыніць свой чорны ход, ліквідаваць чэргі? Яны, не ўсе, вядома, пагалоўна, але многія скарыстоўвалі сумнавядомы дэфіцыт у сваіх небескарыслівых мэтах, карацей кажучы, нажываліся на гэтым як толькі маглі. Многія, напэўна, таму і рваліся ў гандляры, што, займеўшы гэтую прафесію, узбіўшыся тым болей на якуюнебудзь, няхай нават самую нязначную пасаду ў вялікім ці малым прамтаварным або харчовым магазіне, лёгка і проста вырашалі свае жыццёвыя праблемы. Быў строгі дзяржаўны кантроль, на ўсіх прадпрыемствах працавалі партыйныя, камсамольскія арганізацыі, якія, здавалася, спуску не давалі парушальнікам працоўнай дысцыпліны, чалавечай маралі, але чэргі, чорны ход, дэфіцыт заставаліся. Выходзіць, што існавала двайная мараль? Адна была афіцыйная, а другая — на бытавым узроўні...

— У гандлі, як і ўсюды, жывыя людзі, а яны дужа розныя, — не пагадзілася са мною Надзея Іванаўна, калі я пачаў гаварыць пра адмоўныя бакі гандлю, — нічога ідэальнага на гэтым свеце не бывае. Скажыце, дзе, калі, у якім ладзе вы бачылі абсалютна ўсё ідэальнае? Кажуць жа: рыба шукае, дзе глыбей, а чалавек — дзе лепей. Не памыляецца той, хто нічога не робіць.

Я разумею яе: каму гэта ахвота, тым больш калі на носе юбілей, засыроджваецца на перагібах, перакосах, якіх, трэба пагадзіцца з Надзеяй Іванаўнай, дзе і ў каго толькі не бывае.

— Я адно ведаю: я рабіла сваю справу заўсёды ад душы, ад чыстага сэрца, і такіх, як я, у гандлі, у ЦУМе таксама, нямала было і раней, і цяпер.

Яна называе прозвішчы, імёны... Ніна Сяргееўна Корсак, Эма Адамаўна Пашко, Раіса Сяргееўна Кочатава, Фёдар Фёдаравіч Рэвякаў, Валянціна Мікалаеўна Гапоненка, Раіса Віктараўна Цецерукова...

— Гэтыя людзі заклалі аснову кадравай работы ў ЦУМе, — зазначае Надзея Іванаўна, — з іх пачалася гісторыя універмага «Мінск».

З яе слоў становіцца вядомым, што ў шасцідзесятыя гады работнікаў масавых прафесій для ЦУМа, як і для беларускага гандлю ўвогуле, рыхтаваў Мінскі вучэбна-курсавы камбінат, які з 1972 года стаў называцца прафесіянальна-гандлёвым вучылішчам. Спецыялістаў з сярэдняй адукацыяй рыхтаваў тэхнікум, з вышэйшай — Беларускі дзяржаўны інстытут народнай гаспадаркі імя Куйбышава.

— На працягу ўсёй гісторыі існавання універмаг з'яўляўся і з'яўляецца базавым прадпрыемствам, дзе распрацавана і дзейнічае сістэма падрыхтоўкі кадраў, пачынаючы з вытворчай практыкі навучэнцаў і заканчваючы прафесіянальным станаўленнем маладога работніка ў калектыве, — падкрэслівае Марозава.

Яна даводзіць, што ў цумаўскім асяроддзі заўсёды ствараліся спрыяльныя ўмовы для тых, хто хацеў павышаць прафесіянальнае майстэрства, цягнуўся да навукі. Свае словы Надзея Іванаўна падмацоўвае канкрэтнымі лічбамі:

— Ужо ў тым самым годзе, калі універмаг адчыніў свае дзверы для пакупнікоў, многія з супрацоўнікаў, хто не меў належнай адукацыі, падалі дакументы ў тэхнікумы, інстытуты. У 1964 годзе колькасць нашых навучэнцаў дасягнула 50 чалавек, у 1970 іх налічвалася 126, у 200—194. А ў цяперашні час без адрыву ад вытворчасці займаюцца ў сярэдніх і вышэйшых навучальных установах 216 цумаўцаў, 195 з іх — працаўнікі гандлёвай залы.

Быццам падводзячы рысу пад размовай аб цумаўскіх студэнтах-завочніках, Надзея Іванаўна не забывае нагадаць, што з усіх 1200 чалавек, якія тут працуюць, 213 маюць вышэйшую адукацыю, 479 — сярэднюю спецыяльную.

— Можа, для каго з'яўляецца нейкім сакрэтам ці нечаканасцю, а мо нават і загадкай, што мы з года ў год, як раней, пры СССР, так і цяпер, калі Беларусь незалежная дзяржава, не здаём сваіх пазіцый, бо тавараабарот у нас не меншае, наадварот, расце, а, значыць, і людзі маюць нядрэнныя заробкі, маюць належную сацыяльную абарону, — у руках у Надзеі Іванаўны ўжо другая, сіне-белая папка, якую яна раскрыла, паклала перад сабою надрукаваны на камп'ютэры аркуш, і яе позірк неадрыўны ад гэтага аркуша. — Сёння, каб нечага дасягнуць, трэба добра разумець працэсы, якія адбываюцца ў грамадстве, у гандлі... Хто гэта зможа? Безумоўна, людзі ўсебакова падкаваныя.

Падрыхтоўка і перападрыхтоўка кадраў у ЦУМе «Мінск» вядзецца бесперапынна.

— З гэтай мэтай у нас арганізаваны вытворча-эканамічныя семінары: для спецыялістаў камерцыйнага аддзела, бухгалтэрыі, для кіраўнікоў таварных аддзелаў, секцый і іх намеснікаў, для спецыялістаў і работнікаў тэхнічнай службы, — тлумачыць Надзея Іванаўна.

Акрамя таго, ва ўсіх таварных аддзелах створаны школы гандлёвага майстэрства для тых, хто непасрэдна стаіць за прылаўкам, а таксама школа для матэрыяльна-адказных асоб складаў.

Створаны і дзейнічае Савет па арганізацыі вытворча-эканамічнай вучобы, лектарская група, у склад якіх уваходзяць кіраўнікі і спецыялісты універмага, распрацавана лекцыйная тэматыка па ўсіх накірунках навучання, навучальныя планы для ўсіх семінараў і школ, графікі правядзення заняткаў.

— Гэтая работа вядзецца яшчэ з тых, савецкіх, часоў, — паўтарае Надзея Іванаўна. — Дзеля таго ж самага ў нас створаны, абсталяваны і забяспечаны неабходнай літаратурай інфармацыйна-метадычны кабінет.

Не забывае яна згадаць і пра конкурсы прафесійнага майстэрства. Яны таксама зарадзіліся не сёння і нават не ўчора — даўно, ледзь не з таго самага часу, калі адчыніўся ЦУМ «Мінск». У цумаўскім музеі, што знаходзіцца на трэцім паверсе, дзе і зала паседжанняў, дзе мы зараз з Марозавай і вядзём размову, — у музеі я бываў не раз і не два. У ім нямала фотаздымкаў розных гадоў, розных дыпломаў, кубкаў, схаваных за шклом, што сведчаць аб разнастайным жыцці цумаўцаў, аб іхніх перамогах у спорце, мастацкай самадзейнасці, розных прафесійных конкурсах.

— Раней гэтыя самыя конкурсы прафесійнага майстэрства праводзіліся паміж цэнтральнымі універмагамі Мінска і Кіева, іншымі цэнтральнымі універмагамі Савецкага Саюза, — тлумачыць Надзея Іванаўна, — цяпер жа толькі на ўзроўні горада, роднай рэспублікі.

У папачцы, якую раскрыла і трымае каля сябе Надзея Іванаўна, чамусьці ёсць запіс пра конкурс 2000 года. Яна мне паказала гэты запіс, і я зразумеў, што з 45 удзельніц першага тура пераможцамі выйшлі восем чалавек. Лепшай сярод іх стала Наталля Яшчанка, гандлярка ЦУМа. Выбар цумаўскага кіраўніцтва быў правільны, Наталля Яшчанка перамагла ў гарадскім і рэспубліканскім конкурсах прафесійнага майстэрства, і ёй павысілі прафесійную катэгорыю, цяпер яна гандляр першага разраду, яе імя занесена на «Дошку гонару» універмага, было прынята рашэнне аб аплаце за кошт прадпрыемства вучобы ў Інстытуце сучасных ведаў, дзе Наталля займаецца без адрыву ад вытворчасці.

— Дзеля засваення прафесіі, замацавання маладога работніка ў калектыве, развіваецца і ўдасканальваецца цумаўская школа настаўніцтва. Для каардынацыі гэтай работы створаны Савет настаўнікаў, які ўжо больш за дзесяць гадоў узначальвае лепшы настаўнік, загадчыца секцыі «Салон жаночых сукенак» Тамара Уладзіміраўна Чахоўская...

Я даведваюся, што Тамара Уладзіміраўна працуе ў ЦУМе «Мінск» з 1965 года, вопыт работы з моладдзю яна пераймала ў Святланы Уладзіміраўны Картавінай, якая ўжо знаходзіцца на заслужаным адпачынку. У ранейшыя часы малады работнік і настаўнік падпісвалі ўзаемныя сацыялістычныя абавязацельствы, падводзіліся вынікі спаборніцтва за званне «Лепшы настаўнік», «Лепшы малады гандляр», і вынікі працы настаўніка залежалі ад поспехаў ягонага вучня.

— У цяперашні час саветы настаўнікаў створаны ў кожным таварным аддзеле, у іх склад уваходзяць вопытныя гандляры, кіраўнікі секцый, якія перадаюць свой вопыт, веды, прафесійныя навыкі, і, самае галоўнае, — любоў да роднага прадпрыемства. Бо для тых, хто адпрацаваў у ім болей за дваццаць гадоў, ЦУМ без усялякага перабольшання стаў родным домам. На сённяшні дзень ва універмагу працуюць 243 чалавекі са стажам больш за дваццаць гадоў, 60 чалавек — са стажам звыш трыццаці гадоў. І ўсяго адзінаццаць чалавек, якія застаюцца ў цумаўскім страі з першага дня ягонага адкрыцця.

Яна падае мне надрукаваныя на камп'ютэры аркушы паперы:

— Я падрыхтавала справаздачу аб рабоце з кадрамі ў ЦУМе «Мінск». Прачытайце, магчыма, тады будзе менш пытанняў, а калі ўсё ж узнікнуць, то калі ласка, прыходзьце, звоніце. А зараз выбачайце — я на рабоце.

Яна бярэ свае папачкі, прастуе да выхаду. Услед за ёю і я.

Спусціўшыся ліфтам на першы паверх, я не пакідаю універмаг, доўга блукаю па секцыях, з цяжкасцю размінаюся з пакупнікамі, якіх тут заўсёды ў любую пару года, у любы час дня нібыта мурашоў у мурашніку. Адны выбіраюць гадзіннікі, другія — сталярны інструмент, бытавую хімію, лекі ў аптэчным кіёску... Я згадваю час, калі ЦУМ толькі адчыніўся: у той год мяне прызывалі

ў войска, і перад самай адпраўкай у невядомую мне ваенную часць я чамусьці завярнуў у новы, нядаўна адкрыты універмаг. Мне ён тады падаўся дужа прасторным, светлым, хоць неабходнага тавару на прылаўках недаставала. Але сённяшні ЦУМ, які перабудаваўся, перажыў рэканструкцыю на пачатку дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя, хіба параўнаеш з тым, колішнім? Сёння тут пяць гандлёвых паверхаў, эскалатары, а тавару, тавару...

Выйшаўшы на вуліцу, я азірнуўся, убачыў, што і знешні выгляд у ЦУМа сучасны, здалёку чырванаватым святлом свеціцца надпіс на фасадзе, які быццам заварожвае, заклікае кожнага, хто акажацца побач, не праходзіць міма.

А насупраць — плошча, якая носіць імя народнага песняра Беларусі Якуба Коласа. Яна, як і ЦУМ, за апошнія год-два таксама змянілася, папрыгажэла, набыла новае аблічча. Шмат хто, ідучы ў ЦУМ або выходзячы з яго, праз падземны пераход трапляюць адразу на гэтую плошчу, садзяцца на лавачкі, адпачываюць, глядзяць на скульптуры літаратурных герояў народнага песняра, на яго самога, і думаюць, разважаюць: як шпарка бяжыць час, а разам з ім і ўсё наша жыццё.



ДЗМІТРЫЙ БУГАЁЎ

# З ДАЛЕЧЫНІ ЧАСУ

Васіль Уладзіміравіч Івашын у маі 2003 года адзначыў сваё 90-годдзе. На літаратуразнаўчай ніве гэты вядомы літаратуразнаўца працуе з 1949-га. Значыць, ягоны даследчыцкі стаж доўжыцца ўжо больш за паўстагоддзя. І многія гады Васіль Івашын быў адной з галоўных, ключавых фігур як нашага літаратуразнаўства, так і педагагічнай навукі. Маю на ўвазе той перыяд, калі Васіль Уладзіміравіч узначальваў сектар савецкай літаратуры ў АН БССР (1954—1967), а затым Навукова-даследчы інстытут педагогікі Міністэрства асветы БССР (1967—1978), стаўшы з 1979 года вядучым навуковым супрацоўнікам Інстытута адукацыі. Тут ён працуе на гэтай жа пасадзе і цяпер. З'ява не проста рэдкая, а выключная. У літаратуразнаўстве і педагогіцы В. Івашын дасягнуў годнае вышыні, стаўшы доктарам філалогіі і прафесарам, акадэмікам АН СССР, акадэмікам НАН Беларусі, замежным членам Расійскай акадэміі адукацыі.

Усё гэта здабыта сумленнай працай рознабакова таленавітага чалавека. Але я не буду аналізаваць яго ўклад у педагагічную навуку, бо сам як даследчык ніколі больш-менш сур'ёзна не займаўся гэтай галіной, скажу толькі пра літаратуразнаўчыя даследаванні вучонага, пра тое, як яны ўспрымаліся ў свой час і як бачацца мне цяпер.

Набыткі Васіля Івашына — даследчыка літаратуры і ў колькасных адносінах даволі салідныя: больш за 250 літаратуразнаўчых артыкулаў (такія звесткі падало «Роднае слова» ў 2001 годзе), дзве брашуры, прысвечаныя творчасці Янкі Купалы і развіццю беларускай літаратуры (1955) пачатку стагоддзя, ёмістыя манаграфіі пераважна праблемнага характару — «Янка Купала: Творчасць перыяду рэвалюцыі 1905—1907 гг.» (1953), «М. Горкі і беларуская літаратура пачатку XX стагоддзя» (1956, на рускай мове), «Ля вытокаў сацыялістычнага рэалізму» (1967, таксама на рускай мове), «Да вышынь рэалізму» (1983), «Выверанае жыццём» (1988), «Вывучэнне рускай літаратуры ва ўзаемасувязі з беларускай» (1988, кніга напісана па-руску ў сааўтарстве з М. Лазаруком і А. Ленсу).

Шмат выданняў вытрымалі школьныя падручнікі па беларускай літаратуры для 8 класа, створаныя Івашыным у сааўтарстве, адзін з В. Барысенкам (1959), другі — з М. Лазаруком (1979). З Лазаруком жа Івашын напісаў і падручнік для 9 класа (1992). Яшчэ была значная рэдактарская праца над цэлым шэрагам выданняў па літаратуразнаўстве і педагогіцы. Сярод іх такія спецыфічныя публікацыі, як «Бібліяграфія твораў Янкі Купалы» ў дзвюх частках (1955 і 1957, абедзве з прадмовамі Івашына-рэдактара), два выпускі зборніка «Беларуская літаратура: Даследаванні і публікацыі» (1958, 1961), важкі двухтомнік «Гісторыя беларускай савецкай літаратуры». Першы том гэтай ака-

дэмічнай, этапнай для нашага літаратуразнаўства працы, выйшаў у 1964 годзе, другі — праз два гады. Рэдагаваў абодва тамы В. Івашын разам з В. Барысенкам, тагачасным дырэктарам Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы. Праца стваралася з немалымі цяжкасцямі, бо ў 60-я гады многае ў нашай паслякастрычніцкай літаратуры пераасэнсоўвалася з апорай на тыя магчымасці, якія адкрыла для даследчыкаў кароткачасовая хрушчоўская «адліга». Для названай «Гісторыі» мною асабіста напісаны раздзелы пра творчасць У. Дубоўкі, М. Лынькова, М. Танка. Вось чаму добра ведаю, з якімі пакутамі сутыкаліся рэдактары, «прычэсваючы» нашы задзірыстыя працы.

Вяртаючыся да Івашына — даследчыка літаратуры, хачу падкрэсліць, што яго кнігі і многія артыкулы прываблівалі сваёй неардынарнасцю і звычайна вызначаліся і сваёй фактычнай грунтоўнасцю, і праблемнай скіраванасцю, што праводзілася дастаткова паслядоўна, часам з жорсткай, а то і жалезнай лагічнасцю, што для гуманітарнай сферы было справай нязвыклай, нячастай. Дзякуючы значнай фактычнай насычанасці і трапнасці многіх канкрэтных назіранняў у гаворцы пра мастакоўскую адметнасць выдатных пісьменнікаў кнігі Івашына з цікавасцю перачытваюцца і цяпер. А ў сваю пару мы па іх вучыліся спасцігаць таямніцы літаратуразнаўчага аналізу.

Добра бачна ў працах Івашына іх прадстаўнічасць, тое, што яны адлюстроўваюць характар, дух свайго часу з пазітыўным і адметным у ім, выяўляюць усё гэта ярка, выразна, буйным планам.

Вядома, як і ўсе нашы тагачасныя працы, даследаванні Івашына ствараліся ў каардынатах бальшавіцкай ідэалагічнай сістэмы, у агульным падыходзе гэтай сістэме падпарадкаваны безумоўна, нават дэманстратыўна. Вось гартаю івашынскую кнігу, прысвечаную купалаўскай творчасці перыяду рэвалюцыі 1905—1907 гадоў. Яна стракаціць ад шматлікіх спасылак. І не толькі на Леніна ды Сталіна, што тады было нормай, але і на больш дробных бальшавіцкіх функцыянераў — Калініна, Молатава, Малянкова, Жданава, Луначарскага, на кароткі курс «Гісторыі ВКП(б)». Усё гэта адмеціны таго часу. У канкрэтнай гаворцы пра літаратуру спатыкаешся на характарыстыцы В. Ластоўскага як буржуазнага нацыянальнага (у сувязі з нашаніўскай дыскусіяй 1913 года) або на супрацьпастаўленне Янкі Купалы Алесю Гаруну. Маўляў, у Я. Купалы любоў да Радзімы была сапраўднай і высакароднай, а ў Гаруна фальшывай і заганна-нацыяналістычнай. Цяпер гэта можа выклікаць толькі іранічную ўсмешку. Але ў перыяд выдання кнігі Івашына такія ацэнкі былі ўзаконенымі і непарушнымі. І ніхто з савецкіх даследчыкаў перайначыць, перагледзець іх не мог.

Але ж змест кнігі Івашына пра Я. Купалу не зводзіцца да цытавання падпарачных выказванняў партфункцыянераў ці да паўтарэння адыёзных на сённяшняе ўяўленне агульных ацэнак. Назіраем іншае. У канкрэтным аналізе купалаўскай творчасці яшчэ ў сваёй першай кнізе пра народнага паэта Івашын даў багата такога, што гучыць і сёння (напрыклад, гаворка пра метафару ў Я. Купалы, пра яго працу над словам, нават пра моўныя агрэхі ў ранняй творчасці паэта).

Істотна і тое, што ў параўнанні з іншымі тагачаснымі манаграфічнымі даследаваннямі гэтага накірунку, скажам, з кнігі А. Семяновіча альбо М. Барсток, праца Івашына вызначаецца куды большай змястоўнасцю. А ўзяць яго кнігу «Ля вытокаў сацыялістычнага рэалізму»... Скрупулёзнае і паслядоўна-напорыстае абгрунтаванне сацрэалістычнай дагматыкі тут займае шмат месца і вызначае галоўны тэарэтычны кірунак. Але там, дзе даследчык пераходзіць да мастацкай канкрэтыкі, ён зноў становіцца цікавым і слушным, асабліва ў аналізе твораў М. Багдановіча, пра якога Івашын пісаў з рознай нагоды шмат разоў, даючы сціслыя, але трапныя параўнальныя характарыстыкі цэлага шэрагу пісьменнікаў. Вось як у некалькіх сказах акрэсліваецца адметнасць Я. Купалы, Я. Коласа, З. Бядулі: «Купала ў беларускай паэзіі, як ніхто

іншы, умеў адкрываць у душы простага чалавека ўсё вялікае, светлае, яркае, гераічнае. У Коласа пры ўсёй шматграннасці яго індывідуальнасці надзвычай развітае пачуццё камічнага; жывы, па-народнаму сакавіты, іскрысты гумар — найкаштоўнейшая эстэтычная якасць таленту гэтага пісьменніка. Галоўнай уласцівасцю Бядулі як мастака з'яўляецца яго ўменне адкрываць у жыцці трагічнае». Ды і там, дзе ўласна эстэтычны аналіз выглядае на цяперашнія меркі спрэчным, ён усё роўна па-свойму цікавы. А хоць у якой меры прыняць падпарадкаванне мастацкай творчасці дыктату таталітарнай сістэмы, якая ў імя свайго панавання бязлітасна знішчала мільёны чалавечых жыццяў, сёння ніяк не выпадае. Івашын, можа, і вымушана, але вынаходліва, а ў нечым і віртуозна падводзіў тэарэтычную базу пад гэты дыктат. І ён тут не быў адзінокі. У савецкія часы мы ўсе мусілі неяк мірыцца з гэтым дыктатам, а то і апраўдваць яго. Ідэалагічная зашоранасць з бальшавіцкай падкладкай была тады зноў жа нормай, у ідэалагічнай сферы абавязковай. І мы звыкліся з ёю, бо нам настойліва ўбівалі ў галовы, што камуністычная дактрына самая гуманістычная, найбольш прагрэсіўная і адзіна правільная, а яе стваральнікі ад Маркса да Леніна і Сталіна — найбольшыя чалавекалюбцы і самыя паслядоўныя абаронцы народа. Тое, што гэткія чалавекалюбцы, дарваўшыся да ўлады ў вялікай краіне, асабліва лютавалі ў вынішчэнні народа, прыхоўвалася як непарушная дзяржаўная тайна. А масавыя рэпрэсіі ў дачыненні да цэлых пластоў насельніцтва (наколькі гэта было практычна немагчыма) абвяшчаліся неабходнай для народнага шчасця распраўй з ворагамі новага жыцця, светлай будучыні працоўных.

У літаратуры апраўданне ідэалагічнага дыктату вялося праз абгрунтаванне пастулатаў пра дабратворнасць, вядома, толькі ўяўна, камуністычнай партыйнасці. Гэтыя пастулаты былі пакладзены і ў аснову той казёншчыны, якая атрымала гучную назву сацыялістычнага рэалізму. Ён абвяшчаўся вяршыняй эстэтычнага прагрэсу, асабліва значнага ў СССР. Лічылася, што гэты прагрэс стаў моцным ужо ў 30-я гады XX стагоддзя, хоць якраз яны былі пазначаны пераходам ад ідэалагічнага заціску да фізічнага вынішчэння творчай інтэлігенцыі. Пісьменнікаў расстрэльвалі цэлымі групамі. У нас за адзін дзень (29 кастрычніка 1937 года) расстралялі дзевяць таленавітых майстроў літаратуры, сярод якіх былі такія выдатныя таленты, як М. Чарот, М. Зарэцкі, П. Галавач. Праз дзень чэкісты знішчылі Т. Кляшторнага, Я. Нёманскага, Ю. Таўбіна. У некаторых сярэднеазіяцкіх рэспубліках тады ад усёй пісьменніцкай суполкі заставаўся адзін чалавек. У нас неяк уцалела пасля ўсіх чыстак і пасадак каля паўтара дзесятка добрых творцаў на чале з Я. Купалам і Я. Коласам. Але ўсіх іх прымусілі зрабіць дзікія нагаворы на сябе. Іхнія ж творы крамсаліся бязлітасна. Вось такая была свабода творчасці, якую нібыта забяспечваў сацыялістычны рэалізм. На самай справе ўсё сапраўднае, значнае ў савецкай літаратуры стваралася насуперак казённай дагматыцы сацрэалізму. А па яе канонах пісаліся творы тыпу «Кавалера Залатой Зоркі» і яго бясконцых працягаў С. Бабаеўскага, рабілася драматургія такога кшталту, як «Кухарка» («Стряпуха») А. Сафронава, у беларускай літаратуры ствараліся раманы А. Стаховіча («Пад мірным небам» і «Шырокія гарызонты»), горшыя ўзоры прозы М. Паслядовіча ды Т. Хадкевіча, сусальныя п'есы пра Алазанскую даліну ў Беларусі ды вырошчванне кок-сагызу ў нас жа, у лепшым выпадку такія прыгладжаныя лірычныя камедыі, як «Пяюць жаваранкі» К. Крапівы, а то кляпалася і зусім лакіровачная драматургія, у якой разгортваўся псеўдаканфлікт добрага з яшчэ лепшым, шчодра выдаваліся хвалебныя оды ўладарным тыранам, у якіх маляваўся нечуваны дабрабыт людзей, у рэальным жыцці даведзеных да жабрацтва, славілася калектывізацыя, якая разарыла краіну. Пасля фактычнага банкруцтва камунізму ў сусветным маштабе і распаду савецкай таталітарнай дзяржавы ўся гэтая дагодліва-карыслівая паказуха стала відавочнай, хоць яна і цяпер нахвальваецца і падтрымліваецца нашымі казёнымі патрыётамі.

Але кніга Івашына пра сацыялістычны рэалізм і яго вытокі стваралася яшчэ ў 60-я гады, калі крах камуністычнай дактрыны і ў жахлівых снах не мроіўся тым савецкім кіраўнікам, чые нашчадкі з цягам часу паз'язджалі ў багатую Амерыку. Тагачаснае панаванне камуністычнай дактрыны, яе ўяўная непахіснасць таксама паддавала імпэту ў яе апраўданні.

Шмат апалагетычных разважанняў пра нібыта невычэрпныя магчымасці сацрэалізму ёсць і ў наступных літаратуразнаўчых кнігах Івашына, выдадзеных ужо ў 80-я гады. Тут жорсткая партыйная апека над мастакамі разглядаецца як неабходная ўмова плённасці мастацкай творчасці, яе свабоды. «Каб стаць сапраўды свабодным, пісьменніку неабходна быць партыйным», — гаворыцца ў кнізе «Выверанае жыццём». Выходзіць, ідэалагічны дыктат бальшавікоў і забяспечваў свабоду творчасці. Пра тое, колькі ад такой свабоды нацярпелася савецкая літаратура, выразна сказаў у сваім перадсмяротным лісце А. Фадзееў, развітальны крык душы якога доўга ўтойвала бальшавіцкая цэнзура.

Збянтэжана спатыкаешся сёння і на колішніх бадзёрых заявах аб тым, што «ідэі камунізму, які сцвярджае (некалі сцвярджала. — **Д. Б.**) наша літаратура, адпавядаюць аб'ектыўнаму ходу развіцця грамадства» (з кнігі «Выверанае жыццём»). У іншым месцы той жа кнігі згадваюцца «аб'ектыўныя заканамернасці развіцця чалавечага грамадства да камунізму». Але камуністычныя рэжымы ўзнікалі не пры нармальным ходзе падзей, а звычайна ўсталёўваліся спрытнымі авантурыстамі ў выніку гвалтоўных дзяржаўных пераваротаў, падтрымліваліся сілай зброі і там, дзе не сустракалі належнага адпору, даводзілі людзей да жахлівага становішча, як гэта здарылася ў Кампучыі. Ды і пра хвалёную некалі кастраўскую Кубу, якую ў нас абвяшчалі востравам свабоды, цяпер сталі вядомы многія ганебныя факты. А як жыве народ у камуністычнай Паўночнай Карэі, якой пастаянна патрабуецца гуманітарная дапамога сусветнай супольнасці? Абяздоленыя жыхары заняволенай краіны знаходзяцца на мяжы галоднай смерці.

Цяпер мы ўжо трохі адвыклі і ад казуістычных сцвярджэнняў, што партыйны дыктат над літаратурай найлепш выяўляе яе народнасць. «Камуністычная партыйнасць не толькі вышэйшае выяўленне ідэйнасці літаратуры, але і яе народнасці», — чытаем усё ў той жа кнізе «Выверанае жыццём». Гэта амаль афіцыйная колішняя фармуліроўка, паўтораная Івашыным і ў наш час, але сёння яе поўная непраўдзівасць відавочная.

Нельга сёння пагадзіцца і з тым, нібыта «камуністычная партыйнасць пашырала гарызонты гістарычнага бачання Я. Купалы, адкрывала шырокія магчымасці для паказу народнага жыцця ў гістарычнай перспектыве» («Выверанае жыццём»). Горкая праўда заключаецца ў тым, што бальшавіцкі дыктат штурхаў Я. Купалу да самагубства, а ў паднявольнай творчасці змушаў на «дрындушкі», пра якія іранічна гаварыў сам паэт.

Зрэшты, варта падкрэсліць, што сапраўдную цану мастацкім творам Івашын добра ведае. Гэта адразу заўважаецца, калі даследчык ад ідэалагічнага тэарэтызавання пераходзіць да пісьменніцкай творчасці, яе эстэтычнага аналізу. Тут назіранні В. Івашына зноў жа ў большасці трапныя, пранікнёныя. Усё вартаснае схопліваецца, пра недахопы гаворыцца таксама з веданнем справы. Ужо згадвалася грунтоўнасць ягоных характарыстык Я. Купалы, Я. Коласа, З. Бядулі. Шмат слушнага сказана ў Івашына пры разглядзе прозы І. Мележа і В. Быкава, Я. Брыля і А. Адамовіча, І. Шамякіна і І. Чыгрынава, М. Лобана і А. Чарнышэвіча, А. Кулакоўскага і І. Навуменкі, І. Пташнікава і В. Адамчыка, А. Асіпенкі і М. Стральцова, Я. Сіпакова, зусім маладых тады А. Жука, Г. Далідовіча. Змястоўна разважае В. Івашын пра паэзію А. Куляшова і М. Танка, П. Панчанкі і А. Пысіна, А. Вярцінскага і Р. Барадуліна, Н. Гілевіча, Г. Бураўкіна, В. Зуёнка і таго ж Я. Сіпакова, пра драматургію К. Крапівы, А. Макаёнка і М. Матукоўскага. Вось як важка сказана ў кнізе

«Да вышынь рэалізму» пра ролю быкаўскіх аповесцей у развіцці беларускай раманнай прозы: «Вопыт В. Быкава ў жанры аповесці мае важнае значэнне для далейшых адкрыццяў беларускага рамана не толькі з боку чалавеказнаўчай, маральнай праблематыкі, але і яго жанравай структуры. Ён можа стаць апорай для пошукаў больш дынамічнай раманнай формы, для развіцця ў нашай прозе псіхалагічнага рамана характараў».

Пра адметнасць макаёнкаўскай драматургіі: «Сваімі творамі А. Макаёнак пашырае формы і спосабы рэалістычнай тыпізацыі ў сатырычнай камедыі, абнаўляе яе жанравую структуру і стылістыку за кошт сімваліка-метафарычных і казачна-фантастычных сродкаў мастацкага абагульнення, элементаў публіцыстыкі і драматызму».

Гэта ўсё з кнігі «Да вышынь рэалізму». У кнізе «Выверанае жыццём» канкрэтная размова ў гэтым кірунку прадоўжана. Высока ацэнены даследчыкам апошнія па тым часе лепшыя паэтычныя зборнікі П. Броўкі, выдатны цыкл «Новая кніга» А. Куляшова, яго пазначаны высокай грамадзянскай мужнасцю «Маналог», паэмы «Хамуціус» і «Варшаўскі шлях», тагачасныя зборнікі М. Танка, П. Панчанкі, А. Вярцінскага, П. Макаля.

Васілю Івашыну ўдалося не толькі дасягнуць зайздроснага жыццёвага даўгалецця, але і захаваць творчы патэнцыял. Даследчык і ў апошнія гады час ад часу друкуе новыя і талковыя артыкулы пра нашу літаратуру. Згадаю хоць бы яго нядаўнія публікацыі пра М. Багдановіча.

А як прыемна здзівіў Івашын знаўцаў беларускай паэзіі сваімі вершамі, з якімі прыйшоў да чытача ва ўзросце зусім сівога аксакала. Нечаканасцю стала і тое, што да паэтычнага слова звярнуўся, здавалася, «чысты» літаратуразнаўца, схільны найперш да праблемнага разгляду літаратуры. А ён у сваіх вершах ніколькі не збіўся на старэчую графаманію, якою атакуюць многія выданні адстаўныя пенсіянеры з тых, што па наіўнасці лічаць літаратуру вельмі лёгкім заняткам. Шаноўны даследчык з акадэмічнымі званнямі даў паэзію сапраўдную, творы, у якіх удумлівасць багатага жыццёвым вопытам чалавека і філасофская заглыбленасць спалучаюцца са свежасцю пачуццяў.

Некалькі слоў пра асабістыя стасункі з Васілём Івашыным. У 1959—1964 гадах мне давялося працаваць пад непасрэдным кіраўніцтвам Івашына ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы (сектар савецкай літаратуры). Гэта быў выдатны калектыў, у якім панавала дзелавая атмасфера. Яе ўсяляк падтрымлівалі і дырэктар Інстытута В. Барысенка, і В. Івашын, які вызначаўся сваёй прынцыповасцю, спалучанай з добразычлівасцю. Але добразычлівасць гэтая ніколі не ператваралася ў згубную паблажлівасць. В. Івашын праводзіў сваю прынцыповую лінію ўпэўнена, без хістанняў, без шарахання з крайнасці ў крайнасць. Абмеркаванне навуковых прац на пасяджэннях сектара заўсёды было сур'ёзным, удумліва-патрабавальным, без лішняга захвальвання, але з нязменнай увагай да ўсяго жывога, істотнага ў працах не толькі старэйшых, але і маладзейшых калег. Здараліся і спрэчкі, часам гарачыя, з яўным перабoрам эмоцый. Але гэта істотна, а тым больш надоўга не ўплывала на дзелавыя стасункі, бо бурлівае кіпенне эмоцый урэшце сціхала, а Івашын, і сам чалавек толькі знешне сухавата-стрыманы, а папраўдзе вельмі эмацыянальны, умеў дараваць нам нашу гарачлівасць. Мы ж шмат разоў пераконваліся ў яго дальнабачнасці і цанілі ягоную дзелавітасць, яго шчыры клопат пра справу, якую рабілі агульнымі намаганнямі.

З далечыні часу мне выразна бачыцца, што гады працы ў Інстытуце літаратуры былі шчаслівым дарункам лёсу. І я ўдзячны за іх не толькі Васілю Барысенку, які перацягнуў мяне ў Мінск, але і Васілю Івашыну, які ласкава згадзіўся ўзяць у свой сектар яшчэ зялёнага навукоўца, заставаўся спагадлівым чалавекам пры ўсіх дробных сутычках, відаць, непазбежных у любой працы. Горача, шчыра, ад усёй душы жадаю шаноўнаму Васілю Уладзіміравічу добрага здароўя і творчага настрою, які не бывае лішнім у любым узросце.

**ПАВЕЛ ГАСПАДЫНІЧ**

# ПЕРАКЛАДЫ РЫГОРА БАРАДУЛІНА

У цэнтры нашай увагі найперш пераклады Р. Барадуліна з іспанамоўнай паэзіі, што вызначаюцца перш за ўсё сваёй непаўторнай вобразнасцю, метафарычнасцю, шчодрай маляўнічасцю слова, душэўнай і моўнай раскутасцю. І гэта вынік творчасці самога пісьменніка, праява высокага натхнення, тае стыхіі, калі «валоданне мовамі, энцыклапедычная эрудыцыя, філасофска-філалагічны талент, індзейскі слых на падтэкставыя плыні, моцная нацыянальная свядомасць і спрадвечнае імкненне да высокіх агульначалавечых каштоўнасцяў маюць аднолькавую інварыянтную сілу і праяўляюцца ў моманты найвышэйшай гармоніі сферы інтэлекту з тонкім дыяпазонам пачуццёвай сферы...» (К. Шэрман).

Вядома, што мастацкі пераклад — з'ява дзвюх літаратур, дзвюх моў, пункт далучэння розных стыляў мыслення і асэнсавання свету, якія з гонарам беражэ кожны народ у абсягах сваёй культуры. Адсюль вынікае, што асноўны абавязак паэта-перакладчыка — шанаваць арыгінал.

І натхненне, і шанаванне арыгінала, і свой уласны творчы стыль паэта-перакладчыка Р. Барадулін сцвярджае на высокім мастацім узроўні, што дае магчымасць беларускаму чытачу даволі лёгка і непасрэдна ўспрымаць складаную паэтычную сістэму іспанамоўных аўтараў.

Адзначаючы таленавітасць і майстэрства перакладчыка, нельга не заўважыць тыя прычыны, якія пабудзілі яго перакладаць менавіта таго ці іншага пісьменніка пэўнай краіны. Так, разважаючы пра шматлікія пераклады Р. Барадуліна, М. Стральцоў асобна спыняецца на іспанамоўных: «Багаты на яркую вобразнасць уласны мастацкі свет Барадуліна-паэта адчуў нешта сабе роднаснае ў шчодра маляўнічай палітры іспанамоўнага слова, душнавата-церпкага, набрынялага раскошай паўдзённага сонца, экзатычных фарбаў, пахаў». Заўважым: беларускае слова ў творчасці Р. Барадуліна таксама вызначаецца аб'ёмнасцю і метафарычнасцю, шматзначнасцю і аманімічнасцю, той трапнасцю і лаканічнасцю паэтычнай мовы, што дазваляюць максімальна «наблізіць» да нас П. Нэруду, Н. Гільена, Г. Містраль, Ф. Г. Лорку, С. Вальеху, Х. Р Хімэнэса і інш.

Акрамя таго, вядома, што лацінаамерыканская паэзія — паэзія яркіх, нечаканых метафар, прыгожа-парадаксальных вобразаў, паэзія, пабудаваная на цеснай сувязі гукаў і слоў, са сваім адметным «экзатычным» рытмічным і рыфмовым малюнкам, асацыятыўнымі паралелямі. Азначаная асаблівасць імпануе і Барадуліну-перакладчыку, бо ўласная творчасць паэта пабудавана прыкладна па тых жа прынцыпах. У сувязі з гэтым варта прывесці выказван-

не А. Сямёнавай: «Яшчэ ў тыя часы, калі «магічны рэалізм» Лацінскай Амерыкі не дасягаў еўрапейскага кантынента і межаў былога Саюза, яркае свята метафар наладжваў у сваёй паэзіі Р.Барадулін, захапляючыся словам, гуляючы ім, віртуозна знаходзячы яго, слова, магчымасці. Мабыць, таму так прыдалася школа лацінаамерыканцаў і іспанскіх метафарыстаў беларускай глебе. І ёсць судатычнасць з уяўленнямі беларусаў у тым, што майя і ацтэкі лічылі паэзію магіяй багоў, лічылі яе мастацтвам абагаўлення ўсяго існага. І гэтая місія паэзіі наўатль (так звалася паэзія ацтэкаў) — ці не блізкая яна таму значэнню, што мела Слова ў беларусаў?».

Не апошняя прычына ўзнікнення перакладаў Р. Барадуліна менавіта лацінаамерыканскай паэзіі — духоўная блізкасць абедзвюх нацый з іх у нечым агульнымі гісторыяй, культурай, мастацтвам. Як вядома, лацінаамерыканская культура ў пераважнай большасці заснавана на культуры індзейскіх плямёнаў, асабліва ацтэкаў і майя, далучана да іх своеасаблівай веры і звычаяў. Міжволі прыгадваюцца і знакавыя сімвалы паганскай культуры Беларусі: Пярун, Дажджбог, Вялес, Зюзя і інш., абрады, заклінанні, святы і г.д. Што да агульных паралеляў развіцця гісторыі лацінаамерыканцаў і беларусаў, то тут, з аднаго боку, варта адзначыць шматлікія захопы і рабаванні краінаў Лацінскай Амерыкі іспанцамі і паўночнымі амерыканцамі. З другога, уявім незлічоныя войны, падзелы і заваяванні тэрыторыі, што не абмінулі Беларусь.

Адным з першых лацінаамерыканскіх паэтаў, некаторыя вершы якога пераклаў Р. Барадулін, стаў Пабла Нэруда. У сёмым нумары часопіса «Беларусь» за 1964 год быў змешчаны ягоны верш «Гераічнае дзеянне». Гэты пераклад стаў для Р. Барадуліна зыходным пунктам далейшых шматлікіх перакладаў з іспанскай мовы. Варта адзначыць і тое, што вялікую ролю ў знаёмстве з творчасцю вялікіх іспанамоўных пісьменнікаў (у арыгінале!), асэнсаваннем мастацкай адметнасці, успрыманнем і ўзнаўленнем яе на грунце беларускай мовы адыграла знаёмства (а ў далейшым — трывалае творчае сяброўства) з перакладчыкам К. Шэрманам, для якога іспанская мова — родная, як і родная для яго культура лацінаамерыканскага кантынента. Як адзначае М. Кенька ў артыкуле «Ад мовы да мовы масцілася кладка» («ЛіМ», 1987г., 1 мая), «творчая садружнасць Р. Барадуліна з перакладчыкам К. Шэрманам, выдатным знаўцам літаратуры іспанамоўных краін, памножаная на вопыт і натхненне, дапамагла пераадолець цяжкасці, звязаныя з першаадкрыццём твораў, такіх незвычайных, нават можна сказаць экзатычных для беларускай паэзіі».

Так, з дапамогай К. Шэрмана, пачынаючы з сярэдзіны 1970 гг., у беларускім друку пачынаюць з'яўляцца першыя пераклады Р. Барадуліна элегій П. Нэруды, што ўгрунтавалі змест асобнай кнігі выбранай лірыкі паэта «Крыві бунтоўнай кроплі». (1976). У ліку перакладчыкаў — і Рыгор Барадулін. У гэты ж час з'явіліся пераклады паасобных вершаў Баніфацыё Бірнэ, Рэхіна Эладыё Баці, Аўгусціна Акосты, Хасэ Мануэля Паведы, Хасэ Сакарыяса Талета, Рэхіны Пэдросы, Хуана Марынельё, Рубэна Марцінеса Вілены, Нікаласа Гільена, Фелікса Піта Радрыгеса, Анхеля Аўх'ера, Хасэ Лесама Лімы, Элісэа Дыега. Акрамя таго, асобнымі кнігамі выйшлі пераклады з Ф. Г. Лоркі, Г.Містраль, С. Вальехі.

Што датычыць паэзіі П. Нэруды, то Р. Барадулін звярнуўся да яе зусім невыпадкова. Значнасць і маштабнасць вялікага чылійскага паэта, лаўрэата Нобелеўскай прэміі, непаўторная паэтычная адметнасць яго слова, амаль дзіцячая замілаванасць ледзь не кожнай выявай радзімы, бескампраміснае змаганне супраць несправядлівасці і прыгнёту, а да таго і красамоўная метафарычнасць у паэзіі, гнуткасць слова, няспынныя пошукі новых формаў вершатворчасці, — усё гэта ў лучнасці і абумовіла зварот Барадуліна да ўзнаўлення творчасці П. Нэруды на беларускай мове. «Калі Андыйскія Кардыльеры — ка-

менны хрыбет усёй Амерыкі, спінны мозг Чылі, дык без перабольшання можна сказаць, што Пабла Нэруда — лірычны хрыбет сучасных іспанамоўных літаратур, спінны мозг лацінаамерыканскай паэзіі» (К. Шэрман).

Асноўныя рысы стылю Пабла Нэруды — «выхад» вобразаў па-за межы рамак класічнага вершаскладання, адкідванне другарадных элементаў — рыфмы, памеру, алітэрацыі — і вылучэнне на першы план рытмікі верша, прычым, націск робіцца на ўнутранай, інтанацыйна-духоўнай рытміцы. Акрамя таго — жывая, высокакантрастная, чыста нэрудаўская метафарычнасць, якая часам не паддаецца лагічнаму асэнсаванню, таму што будуецца на складаных асацыятыўных сувязях, закліканых абуджаць эмоцыі пэўнай афарбоўкі. Галоўнай кампазіцыйнай адзінкай большасці вершаў Нэруды з'яўляецца непасрэдна страфа, незалежна ад колькасці радкоў у ёй. У сваёй большасці ўсе гэтыя рысы захаваны Р. Барадуліным, асабліва пры перастварэнні элегій. Знайшла месца даволі рэдкая з'ява: беларускі перакладчык, не азіраючыся на паралельныя рускамоўныя ўзнаўленні твораў Нэруды, перакладаў вершы чылійскага паэта цалкам самастойна.

Другім іспанамоўным паэтам пасля П. Нэруды, творы якога перакладаў Р. Барадулін, стаў Федэрыка Гарсія Лорка. Дарэчы, паэтычная стылістыка гэтага сусветнавядомага паэта Іспаніі найбольш грунтоўна ўвасобілася ў беларускім кантэксце, стаўшы яркім і непаўторным фактам нашай культуры дзякуючы Р. Барадуліну. Блакітныя званы Гранады, хараство андалузскіх і маравійскіх матываў, прываблівы сваёй незвычайнасцю іспанскі фальклор ды, зрэшты, і само высокамастацкае слова геніяльнай паэзіі Лоркі занялі ў беларускай літаратуры сваё адметнае месца.

Кніга выбранай лірыкі Ф. Г. Лоркі «Блакітны звон Гранады» ў перакладах таго ж Барадуліна, змясціла пад сваёй вокладкай творы амаль з усіх кніг іспанскага паэта. А гэта — «Кніга вершаў», «Кантэ хонда», «Першыя песні», «Цыганскі рамансэра», «Паэт у Нью-Йорку», «Тамарытанскі дыван» і іншыя. У 1986 г. у кнізе «Кахаць — гэта значыць...» (серыя: «Кніга перакладчыка») таксама былі змешчаны творы Лоркі, апублікаваныя ў розных выданнях і ў кнізе «Блакітны звон Гранады».

Шанцавала паэту і на глебе рускамоўных перакладаў: першы зборнік Лоркі на рускай мове пад рэдакцыяй іспанскага прафесара Ф. Кельіна выйшаў у гады Вялікай Айчыннай вайны. Багатыя на пераклады і новыя шматлікія выданні знакамітага іспанскага паэта і наступныя гады. Ці не таму пры падрыхтоўцы выдання «Блакітны звон Гранады» перад перакладчыкам паўстала праблема ўліку ўсіх існуючых у былым СССР перакладаў, іх супастаўлення з поўным спісам твораў Лоркі па іспанскіх крыніцах, бо, як адзначае К. Шэрман у сваім артыкуле «На шляхах да спаткання» («Далягляды», Мн. — 1977.), «іншая методыка наўрад ці забяспечыла б навізну зместу ў новай кнізе (рускія пераклады з Лоркі беларускаму чытачу вядомыя). У першую чаргу былі выяўлены творы, якія дагэтуль у нашай краіне не перакладаліся. Яны і склалі значную частку кнігі».

У той жа час пры параўнанні і аналізе існуючых перакладаў, супастаўленні іх з арыгіналам з'явілася магчымасць знайсці творы збедненыя ці сапсаваныя пры перакладзе. Такім чынам, можна пазбегнуць памылак папярэдніх перакладчыкаў, як гэта зрабілі К. Шэрман і Р. Барадулін. «Іншага шляху адраджэння паэта няма і быць не можа».

Вядома, што падтэкст, а тым самым і паэтычны сэнс губляюцца пры блізкім да арыгінала перакладзе з-за неразумення жанравых асаблівасцей верша і павярхоўнага прачытання тэксту. Для прыкладу, параўнаем пераклады М. Паўлавай і Р. Барадуліна лоркаўскай «Газелі пра чарадзейнае каханне» з цыкла «Тамарытанскі дыван», якія Лорка прысвяціў старажытным маўрытанскім паэтам Гранады, чые вершы высечаны на сценах палаца Альгамбра.

**Арыгінал:**

*Con este yeso*
*de los malos campos,*
*eras junco de amor,*
*jazmín mojado.*
*Con sur y llama*
*de los malos cielos,*
*eras rumor de niebe*
*por mi pecho.*
*Cielos y campos*
*anudaban cadenas en mis manos.*
*Cielos y cielos*
*azotaban las llagas*
*de mi cuerpo.*

**Падрадкоўны пераклад:**

*Сярод алебастру*
*варожых[для чалавека] лугоў*
*ты была асакой кахання,*
*язмінам вільготным.*
*Сярод паўднёвай [спёкі] і агню*
*варожых нябёсаў*
*ты была шэптам снегу*
*у грудзях маіх.*
*Нябёсы і лугі*
*закавалі ў ланцугі рукі мае.*
*Нябёсы, нябёсы*
*білі па язвах*
*цела майго.*

**Пераклад М. Паўлавай:**

*С этим гипсом*
*полей недобрых —*
*ты была тростником любви,*
*жасмином мокрым.*
*С огнем и югом*
*небес недобрых —*
*ты была в груди моей*
*шумом снега.*
*Небеса и степи*
*заковали руки мои цепями.*
*Небеса, небеса*
*язвы на теле моем хлестали.*

**Пераклад Р. Барадуліна:**

*Сярод алебастру*
*лугоў змяіных*
*ты была асакой кахання,*
*вільготным язмінам.*
*Сярод ветру паўднёвага і агню*
*нябёсаў заклятых*
*у грудзях маіх*
*шэптам снегу была ты.*
*Нябёсы і лугі*
*закавалі рукі мае ў ланцугі.*
*Нябёсы, нябёсы,*
*паранілі цела маё*
*вашага гневу восы.*

Пераклад Паўлавай, па сутнасці, — адэкватны падрадкоўнік, пра што сведчаць перастварэнні наступных слоў: *С этим — Сярод.* У рускім варыянце маем сляпую кальку іспанскага прыназоўніка con, які тут перакладаецца словамі *сярод,* альбо *у, на; мокрым — вільготным, шумом — шэптам.* Пры перакладзе падобная ізаляцыя слова без уліку семантычных сувязей і экспрэсіўных метамарфозаў непажаданая. Можна сказаць, што ануча — мокрая, але вусны ці кветка язміну ў дадзеным выпадку і пры існуючых семантычных сувязях у вобразе, пабудаваным выключна на збліжэнні высокакантрастных адчуванняў, могуць быць толькі вільготнымі. Можна згадзіцца і з *шумам* дажджу, але *«сярод ветру паўднёвага і агню нябёсаў заклятых»* у грудзях паэта каханая — усё-ткі *шэпт* снегу; *язвы на теле моем хлестали — паранілі цела маё вашага гневу восы.* «Тамарытанскі дыван» — зборнік вершаў, напісаны Лоркам з выкарыстаннем маўрытанскіх жанраў. Паэта натхнялі маўрытанскія сады Тамарыты паблізу Гранады. Агульнавядома, што маўрытанскай паэзіі, якая існавала ў Іспаніі на працягу васьмі стагоддзяў арабскага панавання, уласціва глыбокая і ў той жа час рэльефная вытанчанасць, дзівосны, ледзь улоўны рух пачуццяў і закончаная афарыстычнасць. Літаральная калька вобраза, які па-іспанску адпавядае патрабаванням жанру і за канкрэтным значэннем асобных слоў хавае па-арабску ажурную метафарычнасць, у перакладзе Паўлавай загубіла тое імгненне, калі чытач становіцца сааўтарам паэта. У Р. Барадуліна гэты вобраз захоўвае найтанчэйшыя падтэкставыя інтанацыі і адначасова далучае чытача да суперажыванняў геніяльнага іспанскага паэта.

Трэба адзначыць яшчэ адну дэталь. На першы погляд, М.Паўлава як быццам дакладна перадае паўтор Лоркі *«malos campos — malos cielos»,* яна піша: *«полей недобрых — небес недобрых».* У Барадуліна — *«лугоў змяіных — нябёсаў заклятых».* І гэта таму, пэўна, што экспрэсіўнасць слова *«недобрых»*

у азначаным кантэксце даволі заніжаная. Асноўны кампазіцыйны стрыжань верша — высокая кантрастнасць, рэзкае супрацьпастаўленне элементаў вобраза. Ф. Г. Лорка кажа *«malos campos»,* і ў голасе паэта гучыць адчуванне яўнай варожасці тых мясцін да чалавека. Далей мы бачым нябёсы, якія полымем паўднёвай спёкі абрушваюцца на чалавека, які стаіць пасярод варожай пустыні. Ці будуць гэтыя нябёсы проста *«недобрые»?* Апрача таго, у арыгінале паўтор нясе функцыю ўзмацнення кампазіцыйнай еднасці вобразаў. М. Паўлава замест узмацнення прапануе механічны перанос паўтораў. Р.Барадулін пайшоў сваім шляхам: яго эпітэты — *«змяіных», «заклятых»* больш экспрэсіўныя. Акрамя ўсяго, іспанскі асананс тыпу *«campos — mojado»* гучыць па-беларуску бедна, таму Барадулін кампенсаваў адсутнасць дынамікі больш паўнагучнай рыфмай.

Недасканалы пераклад на рускую мову некаторых вершаў Лоркі звязаны і з іншымі прычынамі. Так, у Лоркі ёсць адзіны кубінскі верш «Сант-Яга дэ Куба ў рытме сона» — сапраўдная афра-кубінская песня ў рытме сона (сон — жанр афра-кубінскага фальклору: рытмічная песня, якую звычайна суправаджаюць танцам пад журботную танальнасць барабанаў або гітары). Разгледзім два ключавыя вобразы ў перакладзе гэтага твора І. Тынянавай:

**Арыгінал:**

*con la rubia cabeza de Fonseca.*
*Irer a Santiago.*
*Y con el rosa de Romeo y Julieta*
*irer a Santiago.*
*Mar de papel y plata de monedas.*
*Irer a Santiago.*

**Падрадкоўнік:**

*...з рыжай галавой Фансекі.*
*Паеду ў Сант-Яга.*
*І з ружовай[этыкеткай],*
*дзе Рамэо і Джульета,*
*паеду ў Сант-Яга.*
*Папяровае мора і срэбра*
*[медалёвых] манет.*

**У перакладзе І. Тынянавай:**

*С сигаретами лучших сортов*
*Я поеду в Сант-Яго.*
*В душистом табачном дыму*
*Я поеду в Сант-Яго.*

Прыведзены тут пераклад у пэўным сэнсе нясе інфармацыю аб тым, што Лорка адно заядлы курэц альбо легкадумны гультай. І гэта — вынік неапраўданага адыходу ад арыгінала, калі зашыфраваныя ў падтэксце рэаліі недаацэньваюцца. Без ключа да падтэксту, які можна было знайсці ў гісторыі стварэння верша, пераклад часам не толькі памылковы, але і глухі. Недарэмна І. Тынянава пайшла на скарачэнне вобраза — з шасці радкоў да чатырох.

Бацька Лоркі (а не сам паэт) любіў курыць кубінскія цыгары (не цыгарэты) і даволі часта атрымліваў з Кубы драўляныя скрыначкі цыгар з маляўнічымі этыкеткамі з выявамі блакітнага мора, пальмаў, медаля тытунёвай фірмы Фансекі, Рамэо і Джульета. Менавіта з гэтых этыкетак-малюнкаў будучы паэт у дзяцінстве і даведаўся пра Кубу. Не пах духмянага тытуню (даволі павярхоўнае тлумачэнне), а водар мрояў маленства пабываць у далёкай краіне абуджаў натхненне Лоркі. У перакладзе І. Тынянавай гэты вобраз страчаны.

**Далей у арыгінале чытаем наступнае:**

*ЎOh Cuba! Oh ritmo de semillas secas!*
*Irer a Santiago.*
*ЎOh cintura caliente y gota de madera!*
*Irer a Santiago.*
*Arpa de troncos vivos. Caimarn.*
*Flor de tabaco.*
*Irer a Santiago.*

**Падрадкоўны пераклад:**

*О Куба! О рытм сухіх зярнят!*
*Паеду ў Сант-Яга.*
*О гарачыя сцёгны і кроплі дрэва!*
*Паеду ў Сант-Яга.*
*Арфа з жывых ствалоў. Яшчарка.*
*Тытунёвая кветка.*
*Паеду ў Сант-Яга.*

**Пераклад Тынянавай наступны:**

*О Куба! О танец сухих семян!*
*Я поеду в Сант-Яго.*
*О деревья горячие в липкой смоле!*
*Я поеду в Сант-Яго.*
*О поющие листья! Кайманы! Табак в цвету!*
*Я поеду в Сант-Яго.*

Звернем увагу на выраз Тынянавай: *«поющие листья, кайманы, табак в цвету»*. У Лоркі Куба — гэта арфа з жывых пальмавых ствалоў, звонкіх і напятых, як струны, карыбскім ветрам. Куба Лоркі — не экзатычныя кайманы і плантацыі тытуню, а ўсяго толькі яшчарка на карце свету (вобраз яшчаркі, намаляванай на карце, традыцыйны ў літаратуры Цэнтральнай Амерыкі ), кветка тытуню, што гайдаецца ў моры рытмамі сухіх зярнят, якія звіняць у народным інструменце мара́кас. У такіх выпадках мэтазгодна матэрыялізаваць падтэкст, чаго дасягнуў у сваіх перакладах Р. Барадулін:

*...З этыкеткай з маленства — рыжыгаловым Фансекам*
*Паеду ў Сант-Яга.*
*З этыкеткай ружовай, дзе Рамэо й Джульета,*
*Паеду ў Сант-Яга.*
*Папяровае золата і срэбра манет медалёвых.*
*Паеду ў Сант-Яга.*
*О Куба!*
*О рытмы сасмяглага семя ў мара́каса ў глотцы!*
*Паеду ў Сант-Яга!*

*О спёка сцёгнаў і слёзы дрэва!*
*Паеду ў Сант-Яга.*
*Арфа чуйных ствалоў, яшчарка, цвет тытунёвы.*
*Паеду ў Сант-Яга...*

Нават з прыведзеных прыкладаў можна заўважыць, наколькі больш яскрава і адначасова дакладна перакладае Р. Барадулін вершы Лоркі. Почырк беларускага перакладчыка, яго тэмперамент, талент сугучны почырку, тэмпераменту і таленту, самой лірычнай паліфаніі іспанскага паэта. Трэба дадаць, што Федэрыка Гарсія Лорка — найдасканалейшы знаўца іспанскага фальклору, у паэзіі якога адлюстраваны (у выніку шматлікіх паездак па Іспаніі) народныя рамансы, сігірыйі, петээры, салеа́. Шматлікія вершы Лоркі вылучаюцца перш за ўсё сваёй музыкальнасцю, напаўусходнім каларытам, меладыйнай раскаванасцю, нязмушаным і разам з тым напружаным рытмам. Усё гэта, увесь «дух» лоркаўскай паэзіі Барадулін здолеў перадаць сродкамі беларускай мовы, увасобіўшы імі не толькі нацыянальны — іспанскі — каларыт, не толькі сэнс, глыбіню ідэйнага зместу, пранікнёны лірызм у знітаванасці з глыбокім трагізмам, а і своеасаблівасці мастацкай формы, вобразнай сістэмы, характар узаемасувязей зместу і формы. Да таго ж, Р. Барадулін сам выдатны знаўца беларускага фальклору, майстар выяўлення самых нечаканых глыбінных адценняў слова.

Аднак, перадаючы асноўныя вобразы, матывы, ідэі твораў Лоркі (унікальнасць лоркаўскай загадкавасці і недагаворанасці, знітаваная з гэтай недагаворанасцю казачнасць, нерэальнасць у рэальнасці, цыганская шматколерная вобразнасць, і звязаныя з усім гэтым рытм і рыфма — кнігі «Цыганскі рамансэра», «Кантэ Хонда» і інш.), Барадулін у паасобных месцах адыходзіць ад прастаты (нягледзячы на ўсю асацыятыўнасць мыслення Лоркі) іспанскага паэта, падменьваючы яе метафарычнай заглыбленасцю, як, напрыклад, у вершы «Норма і рай неграў».

**Падрадкоўнік:**

*Ненавідзяць цень птушкі*
*над прылівам белай шчакі,*
*і барацьбу святла і ветру*
*ў салоне з халоднага снегу.*

*Ненавідзяць стралу без цела,*
*хусцінку верную разлукі,*
*голку, што падтрымлівае націск і ружу*
*у пунсовым каліве ўсмешкі.*

Вельмі тонка зашыфраваныя Лоркам пачуцці неграў, іх адносіны да чужога, варожага ім свету залішне канкрэтызаваныя ў беларускім варыянце. Аднак, дэшыфраваная ў перакладзе паэтычнасць пазбылася сваёй лёгкасці:

*Ненавідзяць цень птушак пагарды*
*над прылівамі белаты шчок схалёных,*
*і зацятасць злюцелую святла і ветру*
*у белаайсбергавых салонах.*

*Ненавідзяць кепікі — стрэлы без плоці*
*і ўзмах хусцінак расстання няспешных,*
*калючкі крыўды і складкі руж*
*ў сытай нясмеласці ўсмешак.*

Перакладчык характарызуе вобраз сытага, чэрствага, пагардлівага чалавека, які ненавідзіць людзей іншага колеру скуры, азначэннямі: *«цень птушак пагарды», «шчокі схалёныя», «зацятасць злюцелая», «сытая нясмеласць усмешак».* Усё гэта, безумоўна, надае большую выразнасць і экспрэсіўнасць вершу, але не адпавядае стылю Гарсія Лоркі, у якога кожны радок агорнуты чароўнай смугой недагаворанасці, глыбока затоенага падтэксту.

Аднак такіх момантаў у перакладах Р. Барадуліна няшмат. Спрэчным, на нашу думку, з'яўляецца выказванне Н. Мацяш наконт адступленняў Р. Барадуліна ад арыгінала лоркаўскага верша «Гітара» («Полымя», 1976, № 3 ), у якім сцвярджаецца, што арыгінал выглядае «куды прасцей і празрысцей». Маецца на ўвазе тэкст з падрадкоўнікам: «Пачынаецца плач // гітары. // Разбіваюцца чаркі // світання.

**Пераклад М. Цвятаевай:**

*Начинается*
*Плач гитары.*
*Разбивается*
*Чаша утра.*

**Пераклад Р. Барадуліна:**

*Пачынае плакаць гітара —*
*Гарлачом свішча ранак*
*гартанны.*

Сапраўды, найперш заўважаецца пэўнае адступленне ад арыгінала. Бліжэй да літары іспанскага верша М. Цвятаева: *разбивается чаша утра.* Аднак няцяжка заўважыць, што ў пошуках натуральнасці гучання гэтага вобраза на рускай мове і М. Цвятаева была вымушана змяніць граматычную форму: *se rompen las cosas — разбіваюцца чаркі* (у арыгінале множны лік назоўніка і дзеяслова). Р. Барадулін гэты зрокавы вобраз перадае, зберагаючы ўвесь малюнак прыроднай з'явы і лоркаўскага гукапісу. Таму не варта сцвярджаць пра «даволі паказальныя адступленні» Р. Барадуліна ад арыгінала, у якім, на думку Н. Мацяш, усё «куды прасцей і празрысцей».

Аднак трэба адзначыць, што ў некаторых вершах Лоркі перакладчык не здолеў захаваць незвычайны лаканізм іспанскага паэта, характар яго паэтычнай манеры — недавыказанасці, загадкавасці, хоць уся вобразная сістэма, рытміка перакладу адпавядае арыгіналу. А там, дзе дазваляюць магчымасці роднай мовы, перакладчык застаецца да канца дакладным нават і паслоўна:

*Verde que te quiero verde. // Verde viento. Verdes ramas. — Зялёнае, ты мне люба. // Вецер зялёны, зялёнае голле.* У гэтых пачатковых радках, як і далей у «Самнамбулічным рамансе», абыгрываецца эпітэт «зялёны». Тая ж паэтычная дакладнасць у перакладзе складанай па сюжэце «Гарэзлівай песні»: «Мама, хачу быць са срэбра. // Сыне, срэбра стыне». Добра перакладзеная ўнутраная рыфма другой фразы зблiжае інтанацыйнае гучанне перакладу з арыгіналам.

Агульнавядома, што паэт з яркай творчай індывідуальнасцю перакладае шэдэўры іншых літаратур у той ці іншай ступені «пад сябе», выяўляючы ў творчым працэсе перакладу асаблівасці сваёй манеры. Гэта можна аднесці і да Барадуліна, у перакладах якога знаходзім яго ўласныя вобразы, якіх няма ў Лоркі. Аднак усе яны ў поўнай адпаведнасці з духам кантэксту, з унутраным ладам таго ці іншага верша іспанскага паэта. Так, *«дасвецце ідзе басаནож»* — няма такога вобраза ў Лоркі ў вершы «Перакрыжаванне», але ён не-абходны для дакладнай перадачы меладычнасці верша і адчування трывогі на дасвецці, калі паэту паўсюль бачыцца «у сэрцы нож». А ў рытмічна лёгкім і таямнічым «Танцы» ў шасці танцуючых цыганак *«спеюць зорамі вочы»* — зноў адступленне перакладчыка ў рамках агульнага малюнка і агульнай танальнасці верша. Радок з верша «Лола» *«el agua de la acequia / / iba llena de sol,* што даслоўна гучыць як *«Вада ручайка // бяжыць, поўная сонцам»,* у Р. Барадуліна перакладаецца як *«Бяжыць ручаінка імклiва, // ад сонца зліпаюцца вейкі».* Але гэтае адступленне не супярэчыць агульнаму кантэксту, яно неабходна для дакладнай эмацыянальнай перадачы вобраза. Можна прыводзіць шмат падобных адступленняў, аднак у пераважнай сваёй большасці яны не разбураюць агульны вобразна-ідэйны і нацыянальны малюнак твора, а наадварот, падкрэсліваюць і ўзбагачаюць сродкамі беларускай мовы. І ў гэтым выпадку мы назіраем, акрамя пазнавальнай і эстэтычнай функцыі, функцыю развіцця нацыянальнай мовы і яе стыляў, што яскрава бачна ў перакладах Барадуліна з Лоркі.

Заканчваючы размову пра пераклады з Лоркі, можна адзначыць, што ўсе перастварэнні Барадуліна, апублікаваныя за апошні час у розных перыядычных выданнях, поўнасцю ўзяты з кнігі «Блакітны звон Гранады» (Мн.: Мастацкая літаратура, 1975).

Дзякуючы перакладам Р. Барадуліна беларускі чытач пазнаёміўся і з творчасцю аднаго з буйнейшых кубінскіх паэтаў — Н. Гільена, вершы якога пачалі з'яўляцца ў перыёдыцы з 1978 г. У гэтым жа годзе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» выбраная лірыка кубінскага паэта выйшла асобнай кнігай «Падарожжа да сябе самога» (пераклады К. Шэрмана, М. Стральцова і Р. Барадуліна).

Асноўныя жанрава-стылёвыя асаблівасці твораў Н. Гільена ў першую чаргу заключаюцца ў дасканалай фальклорнай апрацаванасці вершаў. Дзякуючы нацыянальнай самабытнасці гэтага паэта ў класічную паэзію з глыбіні народнай творчасці прыходзяць, да прыкладу, такія жанры, як соны. Даволі часта ў паэзіі Гільена выкарыстоўваюцца разнастайныя негрыцянскія клічы, што суправаджаюць рытмічныя танцы. Адзін з іх, сонгара касонга, нават даў назву адной з кніг паэта. Адсюль і народнасць стылю паэзіі Гільена — незвычайная рухавасць і напружанасць рытму, лёгкасць радкоў, натуральнае чаргаванне доўгіх і кароткіх радкоў, алітэрацыі і асанансы, гукаперайманні і інш. Усё гэта без належнай падрыхтаванасці даволі цяжка перакладаць на іншую мову. Таму можна згадзіцца з Н. Мацяш, якая адзначыла, што зайздроснай удачай, часта вяршыняй майстэрства паўстаюць пераклады твораў Н. Гільена, зробленыя Р. Барадуліным. Амаль усе яны — гэта вершы-блізняты Гільена, дзе так натуральна і напоўнена пульсуе паэтычная самабытнасць вялікага кубінца. Адным з самых яркіх прыкладаў дакладнасці формаў і адначасова адэкватнасці зместу, збераджэння ўсіх рытміка-інтанацыйных і фанетычных

асаблівасцей арыгінала, перастварэння яго найвыразнейшымі сродкамі беларускай мовы з'яўляюцца такія вершы, як «Негр-губашлёп», «Мулатка», «Трыснёг», «Кліч» і інш., у якіх, акрамя ўсяго, не парушаюцца прынцыпы эквілінеарнасці і эквірытмічнасці.

Варта адзначыць, што ў параўнанні з рускімі перакладамі гільенаўскай лірыкі, найперш на ўзроўні гукапераймання і інтанацыйных асаблівасцей, пераклады Барадуліна вызначаюцца большай дакладнасцю і вобразнасцю. У якасці прыкладу можна прывесці ўрыўкі з паэмы Н. Гільена «Вест-Індыя К°». Так, у рускім перакладзе А. Савіча гэтага твора назіраем спробу на ўзроўні першакрыніцы ўвасобіць іспанскае chas — гукаперайманне, якое імітуе ўдар мачэтэ па цукровым трыснягу: *«Срезать бы головы, как стебли // р-раз, р-раз, р-раз!»* Аднак гэта нават не прыблізнае «чах!», рускім «р-раз!» перадавалася толькі аўтарская ідэя, узмацнялася эмацыянальна, сама ж форма твора пазбаўлялася ідэальнага перастварэння. У беларускім варыянце гукавая імітацыя — *«Сцяць бы галовы, як сцёблы, час // час, час, час!»* — аказалася нагружанай і сацыяльным значэннем: пратэст супраць паняволення, заклік да расправы з крыўдзіцелямі. А побач, узмацняючы гэту ідэю, якраз — «час, час, час!»

Параўнаем страфу з паэмы «Вест-Індыя К°» (частка 5) у перакладзе Р. Барадуліна і І. Эрэнбурга:

**Маецца на ўвазе страфа з наступным падрадкоўнікам:**

*Мужчыны, калі яны мужчыны,*
*павінны мець свой нож;*
*мужчыны, калі яны мужчыны,*
*павінны мець свой нож:*
*я быў мужчынам, меў нож,*
*а цяпер сяджу ў турме!*

**У І. Эрэнбурга:**

*Говорят: «У тебя есть нож,*
*мужчина ты, не чечетка».*
*Говорят:«У тебя есть нож,*
*мужчина ты, не чечетка».*
*Я был мужчиной — и что ж?*
*Сижу теперь за решеткой».*

**У Р. Барадуліна:**

*Мужчыны, калі мужчыны,*
*нож мець пры сабе павінны;*
*мужчыны, калі мужчыны,*
*нож мець пры сабе павінны:*
*мужчынам быў, нож пакратаў,*
*свет зараз бачу з-за кратаў.*

***І далей:***

*Каб зараз сканаў ад адчаю,*
*каб зараз сканаў ад адчаю,*
*каб зараз сканаў ад адчаю, мама,*
*шчасцю б не ведаў краю.*

У трактоўцы Эрэнбурга гэты нечаканы зварот да мамы, што выкарыстаны ў беларускім тэксце, адсутнічае. А значыць, не знайшла свайго адлюстравання яшчэ адна істотная рыса характару лірычнага героя — яго ледзь не дзіцячая безабароннасць і разгубленасць.

Кажучы аб перакладах Р. Барадуліна, з Н. Гільена, нельга не заўважыць некаторае падабенства паэтычнай творчасці абодвух: гэта і гукапіс, алітэрацыі, шматлікія асанансы і, вядома, моцная, трывалая сувязь з вуснай народнай творчасцю. Таму не дзіва, што пераклады Р. Барадуліна ў асноўным атрымліваюцца куды больш «гільенаўскімі», чым рускія. Далучаючы ў пераклады сваё разуменне і асэнсаванне твораў кубінскага паэта, беларускі перакладчык адначасова знаходзіць нечаканыя, дакладныя, яркія вобразы, няхай часам і не зусім поўнасцю сугучныя з вершаванымі формамі Гільена, аднак скіраваныя на тое, каб яшчэ больш падкрэсліць неардынарнасць і веліч паэтычнага слова іспанскага аўтара.

Наступнымі іспанамоўнымі паэтамі, перакладзенымі Р. Барадуліным, сталі Габрыэла Містраль, С. Вальеха, крыху пазней — К. Шэрман.Творы гэтых аўтараў былі выдадзены асобнымі кнігамі. Акрамя таго, у 1970-х гг. у пе-

рыёдыцы і зборніках паэзіі выдаваліся перакладзеныя Р. Барадуліным Рубэн Марцінес Вілена, Хасэ Лесама Ліма, Элісэа Дыега і інш., творчасць якіх вызначаецца ў першую чаргу народнай каларытурай, яркай вобразнасцю, нечаканымі метафарамі, поліфанічнасцю, лацінаамерыканскай меладычнасцю. А таксама адметным светабачаннем і імкненнем іх аўтараў да грацыёзнасці і вытанчанасці зместу і формы.

Усе гэтыя рысы ўласцівы і паэзіі Габрыэлы Містраль. Творчасць слыннай паэткі Чылі, лаўрэата Нобелеўскай прэміі, прыўнесла шмат новага і арыгінальнага ў скарбніцу як лацінаамерыканскай, так і ўсёй сусветнай літаратуры.

Люсіа Гадой Алькаяга (сапраўднае прозвішча гэтай чылійскай паэткі) перажыла духоўную трагедыю, якая адбілася на яе творчасці і з-за якой, магчыма, у літаратурным свеце і з'явілася імя Габрыэлы Містраль. Працуючы школьнай настаўніцай, будучая паэтэса пакахала маладога чалавека — Рамел'ё Урэта, які праз пэўны час пачаў сустракацца з другой дзяўчынай. Люсіа вельмі цяжка перажывала здраду яшчэ і таму, што ў хуткім часе хлопец наклаў на сябе рукі. У выніку душэўнай пакуты, на думку Карласа Шэрмана, «знікла дзяўчо, выспелае дзеля любові, і нарадзілася маці мовы лацінаамерыканскай, мовы, якой чакалі народы ад Вогненнай Зямлі да паўночнай мексіканскай мяжы». Тут трэба дадаць, што тагачасная іспанамоўная паэзія выкарыстоўвала традыцыйную для Іспаніі сімволіку, у выніку чаго ўспрымалася ў Лацінскай Амерыцы як чужая. Старамодна ўзвышанае кастыльскае слова не мела патрэбнай важкасці. Аднак моцны таленавіты голас Габрыэлы Містраль увабраў у сябе балесны лямант, старажытны гул, што сыходзіў ад плямёнаў, знішчаных іспанскімі заваёўнікамі. Урэшце, мінорны тон паэтэсы набыў трагічнасць неажыццёўленага мацярынства, нядзейсненага жаночага шчасця, словы набылі рэальную вагу, у рэчах і з'явах прыроды адлюстраваліся жывыя якасці чалавечага характару. Паэзія прыняла медытатыўна-рамантычныя, узнёслыя рысы, а ў вершах Містраль абудзілася неверагодная язычніцкая адухоўленасць роднай прыроды.

У 1984 годзе выйшла кніга выбранай лірыкі Габрыэлы Містраль «Ветраліст» у перакладзе на беларускую мову Р. Барадуліна. У ёй прадстаўлены вершы амаль з усіх кніг чылійскай паэтэсы. Што ж датычыць непасрэдна саміх перакладаў, то ўсе жанрава-стылёвыя рысы твораў, «жаночыя» асаблівасці светаўспрымання і звязаныя з гэтым вобразы і сімвалы ў кантэксце лацінаамерыканскай культуры, грандыёзная, яркая метафарычнасць і разам з тым прастата і яснасць выказванняў захаваны ў сваёй першаснове, пераклады сумяшчаюць літаральнасць і дух твораў вялікай паэткі:

**Арыгінал:**

*Se va te mi cuerpo gota a gota.*
*Se va mi cara en un leo sordo;*
*se va mis manos en azogue suelto;*
*se van mis pies en dos tiempos de polvo*
(Ausencia)

**Пераклад Барадуліна:**

*І цела маё знікае па кроплі,*
*і твар мой знікае ў карціну паныла;*
*і рукі знікаюць вольнай іртуццю,*
*і ногі — двума імгненнямі пылу*
(Адсутнасць)

У гэтым прыкладзе не спатрэбілася падрадкоўніка, бо верш «Адсутнасць» з кнігі «Лёсасека» Барадулін слова ў слова пераклаў на беларускую мову, захоўваючы рытміка-інтанацыйны, рыфмовы лад твора, не парушаючы вершаваны памер і пры тым удала перадаючы ўнутраны стан лірычнай гераіні, кранальную інтымнасць верша, ледзь улоўныя імгненні перажыванняў гераіні.

У некаторых перакладах з Габрыэлы Містраль, аднак, назіраем невялікія змены рытмікі і графічнага малюнка верша, што дазваляе мацней гучаць самому Барадуліну не толькі як перакладчыку, але і як паэту. Асабліва гэта бач-

на з твораў апошніх кніг чылійскай паэткі. Так, як у вершы «Краіна адсутнасці»: *«вялі да яе // не мастоў рукавы //, ніхто не апісваў // яе астравы //, я не адкрывала // яе сінявы».* Тут перакладчык апускае некаторыя элементы арыгінала і дабаўляе свае, такія, як *«мастоў рукавы», «сінява»,* якія надаюць вершу больш дынамічны рытм, а захаваную рыфму іспанскага верша робяць поўнай і адкрытай. І яшчэ адзін, на нашу думку, недахоп кнігі «Ветраліст» — незакончанасць альбо няпоўнае «прадстаўленне» творчага партрэта Габрыэлы Містраль. Гэта выяўляецца ў тым, што ў «Ветраліст» не ўвайшлі вершы з кнігі «Санеты смерці», за якія Містраль у 1914 годзе атрымала Нацыянальную прэмію Чылі. Незразумела і адсутнасць у «Краявідах Патагоніі» першай часткі, якая мае назву «Адчай». Справа ў тым, што падборка вершаў у «Ветралісце» стварае ўражанне аб роўным развіцці таленту і паступовым пашырэнні творчага дыяпазону Габрыэлы Містраль. А вось чаго ёй каштаваў пераход ад інтымных перажыванняў і ўнутранай замкнёнасці да агульнакантынентальных праблем і вобразаў — гэта не паказана.

Яшчэ адным буйным прадстаўніком паэзіі Лацінскай Амерыкі, вершы якога склалі кнігу выбранай лірыкі «Чорныя геральды» ў перакладах Р. Барадуліна, з'яўляецца Сэсар Вальеха. Гэты паэт спалучыў у сваёй творчасці класічныя фальклорныя матывы Лацінскай Амерыкі з мадэрнісцкімі плынямі. Яго шматлікія неалагізмы і складаныя асацыятыўныя метафары многія не разумелі, верлібры і белыя вершы спалучалі еўрапейскія дасягненні і лацінаамерыканскія традыцыі.У першую чаргу гэта было звязана з тым, што тагачасная паэтычная мова краінаў Лацінскай Амерыкі была акадэмічнай, спалучаючы ўрачыстасць і прамалінейнасць, узнёсласць старажытнай міфалогіі з грэблівасцю да мовы народа. Вальеха шукае выйсце ў мадэрнісцкім накірунку. Паэт любіць неалагізаваць, паўтараць слова ўслых, намацваць яго языком, прыціскаць, дэфармаваць, нібыта дзіця, якое не разумее слова да дна і прыстасоўвае яго да ўласных экспрэсіўных патрэб, нібыта індзеец, які паўстае супраць навязанай яму мовы і не можа пазбавіцца пачуцця штучнасці некаторых слоў і выразаў, далёкіх ад душы. Акрамя таго, С. Вальеха даволі часта ўводзіў у паэзію навуковыя тэрміны, а пачынаючы з кнігі «Асалода», закладваў у падаснову тэксту метафары, звязаныя з акалічнасцямі прыватнага жыцця, вобразы без ключа, без вонкава лагічных падыходаў. І ўсё ж, нягледзячы на ўсю складанасць і «зашыфраванасць» паэзіі Вальехі, Р. Барадуліну даволі паспяхова ўдалося ўзнавіць творы вядомага перуанца на беларускай мове, часам, дзеля захавання метафарычнай і шматступеневай вобразнасці арыгіналаў, адступаючы ад фармальнага аздаблення. Вось як, напрыклад, гучыць верш «Лядзяшчыя барты» на беларускай і рускай мовах:

**У перакладзе І. Чацегавай:**

*Я день за днем все жду на берегу,*
*но день за днем ты проплываешь мимо,*
*кораблик мой, далекий навсегда...*
*Твои глаза — два гордых капитана,*
*твой рот — как мимолетный взмах платка,*
*краснеющего кровью расставанья.*

**У перакладзе Р. Барадуліна:**

*Кожны дзень прыходжу, як ты праходзіш,*
*параходзік, даллю зачараваны...*
*Вочы — светлачубыя капітаны;*
*вусны — хусцінкі чырвонай праявы,*
*звыклай хістануцца ў «бывай» крывавы!*

Параходзік — вобраз мары, светлай надзеі, што гайдаецца на хвалях бурапеннага жыцця хісткім выратаваннем лірычнага героя. І таму не зусім дакладна гучыць *ждать, проплывать мимо, гордые.* Акрамя таго, у рускім перакладзе недакладна перададзена іспанскае *adiós — «бывай».* Бо ёсць розніца паміж *расставанием* і *бывай.* Аднак і Р. Барадулін адыходзіць ад арыгінала, робячы пры гэтым больш узмацняльны эфект, надаючы вершу дынамізм і меладычнасць: ён ужывае эпітэт *светлачубыя* (не гордые!) капітаны, апускае прыслоўе заўсёды, якое ў спалучэнні з *даллю зачараваны* разумеецца само па сабе.

Наогул, кажучы пра пераклады Р. Барадуліна з С. Вальехі, можна адзначыць найтанчэйшае разуменне кожнай дэталі, кожнага адцення слова перакладчыкам. Такія вершы, як «Паэт сваёй каханай», «Імперскія настальгіі», «Трыпціх самабытнасці», «Малітва на дарогу», «Неверагоднай душы маёй каханай», «Шлюбны ложак спрадвечны», «Даведка» і інш., стала ўвайшлі ў скарбніцу беларускай літаратуры, узбагаціўшы яе новымі арыгінальнымі вобразамі, каларытам далёкай краіны, непараўнальна яскравай тропікай.

Пачынаючы з сярэдзіны 1980-х гг., Р. Барадулін перакладае іспанскія творы К. Шэрмана. Асобнымі кнігамі былі выдадзены: «Дождж у Каралішчавічах» (на іспанскай і беларускай мовах; Мн.,1984 г.), «Сны» (Мн., 1989 г.), «Накірункі свету» (на іспанскай, беларускай, англійскай, рускай мовах, Мн., 2000 г.). Трэба адзначыць ягоны велізарны ўклад у развіццё беларуска-іспанамоўных літаратурных узаемасувязей, яго працу як выдаўца, перакладчыка, крытыка. Паэтычная творчасць К. Шэрмана, як і перакладчыцкая, несумненна, высокага мастацкага кшталту, тым больш, што сваімі карэннямі яна ўходзіць у лацінаамерыканскую глебу, што яскрава адлюстравалася ў ягоных вершах і паэмах. Амаль ва ўсіх вершах К. Шэрмана мы знаходзім у адначассе лацінаамерыканскае спякотнае сонца і беларускія завірухі, буйныя рэкі Аргенціны і нашы ціхмяныя рэчкі. Акрамя таго, паганскі дух абедзвюх нацый настолькі паяднаўся ў паэзіі Шэрмана, што стаў амаль адным існым: Дажджбог, Вялес, Зюзя, Ляля, Лядашчык, Лясун, Дамавік, Русалка пераклікаюцца з вобразамі багоў-змеяў індзейцаў, з іхнімі валадарамі вады, неба, агню, зямлі. Нават далучэнне бацькі да зямлі Шэрман перажывае і апісвае праз «вогненнае» (лацінаамерыканскае пачуццё ) умыванне снегам на вадохрышча.

Усяго гэтага было дастаткова, каб пачаць творчую працу па ўзнаўленню тэкстаў іспанамоўнага арыгінала сродкамі беларускай мовы. І, можа, як нікога з іншых, Р. Барадулін па-майстэрску, на высокім мастацкім узроўні пераклаў К Шэрмана, бо не апошнюю ролю ў гэтым адыграла іх творчае сяброўства, іх сумесная праца пры перакладах іспанамоўнай паэзіі. І калі пры перакладах Лоркі або Вальехі, Містраль ці Гільена пэўныя адступленні і недакладнасці можна было заўважыць, то ў гэтым выпадку Барадулін дасягнуў амаль ідэальнага выніку — спалучыўшы літаральнасць і дакладнасць з вобразам і словам іншамоўнага паэта, не страчваючы нічога істотнага:

*Los indios,*
*Denigrados en su propia tierra*
*Bajo el motivo*
*De la insuficiencia mental,*
*Afirman que los puntos cardinales*
*Son siete:*
*Norte, Sur, Oeste,*
*Arriba, Abajo y Adentro de Uno Mismo.*

*El urltimo,*
*Para los pobres filorsofos de piel cobriza,*
*Es el refugio final*
*Ante la vida*
*Que se afronta*
*Con el rostro de piedra,*
*Sin rebajarse*
*Expresando emociones.( Los puntos cardinales).*

*Індзейцы,*
*Зняважаныя на сваёй зямлі*
*Пад выглядам недахопу асветы*
*І адсутнасці важных праблем,*
*Сцвярджаюць, што накірункаў свету*
*Сем:*
*Поўнач, Поўдзень, Усход і Захад,*

*Уверх, Уніз і Ўнутр*
*Сябе Самога.*

*Апошні для меднаскурых філосафаў —*
*Гэта схоў забыцця*
*Ад жыцця,*
*Перад якім нязменна*
*Мусяць з тварам каменным*
*Стаяць моцна,*
*Не прыніжацца,*
*Выказваючы эмоцыі.*

(«Накірункі свету»)

Як бачым, сёмы накірунак свету — духоўны скарб асобы, яго інтэлектуальнае і культурнае багацце, магчымасць здзяйснення карыснага ў імя бліжэйшага, як гэта рабілі і працягваюць рабіць К. Шэрман і Р. Барадулін, узбагачаючы іспанамоўную і беларускамоўную культуру найлепшымі здабыткамі абедзвюх літаратур, а значыць — умацоўваць сяброўскія адносіны між двума народамі, пабудаваныя на ўзаемапавазе і на ўзаемнай творчай зацікаўленасці. І хоць яшчэ засталося многа не даследаванага ў гэтым накірунку, яшчэ не поўнасцю адкрыта беларускаму чытачу паэтычнае багацце іспанамоўных краін (да прыкладу, толькі паасобныя вершы такіх слынных паэтаў, як Рубэн Марцінес Вілена, Фелікс Піта Радрыгес, Анхель Аўх'ер, Хасэ Лесама Ліма, Рэхіна Пэдроса, Элісэа Дыега і некаторыя іншыя, былі перакладзены Р. Барадуліным), але можна ўжо зараз адзначыць першыя, і пры тым даволі трывалыя, крокі на гэтым шляху. А высокая культура перакладаў Р. Барадуліна, высокамастацкае і ў той жа час дакладнае ўзнаўленне арыгіналаў знойдзе прыхільнікаў у беларускага чытача.



**КСЕНАФОНТ ЛЕЦКА**

# У СВЯТЛЕ ФАЛЬКЛОРНЫХ ВЫТОКАЎ

## I. НАРОДНЫЯ КАЗКІ, ЛЕГЕНДЫ, ПАДАННІ

Як вядома, на працягу многіх стагоддзяў духоўныя запатрабаванні чалавека здавольвала вусная народная творчасць. У эпоху, калі «яшчэ не былі вызначаны функцыі мастацтва і не-мастацтва, тут было ўсё: і непасрэднае жыццё з яго паўсядзёнными клопатамі, і імкненне пазнаць навакольны свет, і жаданне паведаміць супляменнікам важнейшыя звесткі аб ім; было і выразна выражанае імкненне атрымаць неабходны эмацыянальны зарад для далейшай працоўнай, баявой і паляўнічай дзейнасці і г.д.» (Ю. Андрэеў). З цягам часу душэўны свет чалавека «адмяжоўваецца» ад рацыянальнага, даючы штуршок для нараджэння вуснай творчасці, дзе пераважаў пачуццёвы элемент. Менавіта народным песням, легендам, паданням суджана было стаць першымі ўзорамі мастацтва ў сучасным разуменні гэтага слова. Легенды і некаторыя іншыя жанры народнай творчасці — казкі, міфы, быліны і г.д. даюць сёння ўзоры фантазіі, што сталіся самымі раннімі правобразамі рамантычнага тыпу мыслення. Мастацкай асаблівасцю шматлікіх жанравых форм вуснай славеснасці з'яўляецца не «дакладнае» (з элементамі аналізу) узнаўленне рэчаіснасці (як і паданняў, ствараемых пераважна па рэалістычных прынцыпах), а суб' ектыўна перабольшанае, ідэалізаванае ўяўленне пра яе. Такая форма мастацкага пазнання і адлюстравання рэчаіснасці развівалася і ў старажытным прафесійным мастацтве, пра што сведчаць далёкія ад сучаснасці творы, якія дайшлі да нас з антычнасці, Сярэдневякоўя і іншых больш позніх эпох.

Вызначальна тое, што ў паэтыцы найстаражытнейшага фальклору абавязковымі былі такія элементы, як рэалістычны аналітызм (сказ, паданне) і ўзвышаная ідэалізацыя жыццёвых з' яў і стану чалавечай душы (легенда, міф, казка). У легендах і міфах паэтызаваўся добры, светлы, жыццесцвярджальны пачатак чалавечага быцця — каханне і мужнасць, чысціня думкі, смелы ўчынак чалавека і іншыя якасці і дзеянні, што пазней будуць названы рамантычнымі. Песні і казкі, легенды і паданні, якія жывілі пазней духоўны свет пісьменнікаў рамантычнага кірунку, з' явіліся арыгінальнай асноваю іх эстэтычнага і маральнага выхавання, так як рамантызацыя добрага і мудрага пачаткаў у фальклоры стала гарантам, галоўнаю дамінантай духоўна-стылявога адзінства.

Паэтычныя сродкі, пры дапамозе якіх стваралася рамантычная настраёвасць, былі вельмі разнастайнымі ў фальклоры кожнага народа, але абавязковай сярод іх была гіпербалізацыя. Паводле слоў даследчыкаў, адной з галоў-

ных форм тыпізацыі ў вуснапаэтычнай творчасці з' яўляецца «форма рамантычнай ідэалізацыі героя ў былінах, казках, гістарычных, вясельных, валачобных, калядных песнях і іншых буйных фальклорных жанрах, дзе вобраз героя ідэалізуецца, пазбаўляецца бытавой і псіхалагічнай канкрэтызацыі, абстрагуецца, гіпербалізуецца, выступае ў незвычайных абставінах» (М. Ларчанка).

Вышэйшай формаю фальклорнай творчасці з' яўляецца народны эпас, у якім рамантызацыя рэчаіснасці паўстае не толькі як вобразна-выразны, выяўленчы сродак, але і як аснова кампазіцыі, сюжэта твора, адной з вызначальных рыс у характары героя, калі гіпербала выступае як самы прадуктыўны вобразны сродак. «У эпічным свеце ўсё набывае асаблівыя, грандыёзныя памеры, перабольшаныя ўласцівасці і якасці...» (Б. Пуцілаў). У беларускім эпасе рамантычная гіпербалізацыя дзеянняў герояў дазволіла стварыць паэтычна абагульненую карціну аб непераможнасці народа ў барацьбе са знешнімі ворагамі і мясцовымі прыгнятальнікамі, паказаць асобнага чалавека, які сімвалізуе народную годнасць і справядлівасць.

Зародкі рамантычнага тыпу мыслення ў фальклоры служаць каштоўнай крыніцаю для пошуку вытокаў і вызначэння генезісу беларускага рамантызму XIX стагоддзя і ў дадзенай сувязі пры выяўленні генетычных каранёў гэтай мастацкай з'явы ў беларускай народна-паэтычнай творчасці многія даследчыкі галоўным чынам звяртаюць увагу на чарадзейныя казкі, легенды і паданні, а таксама вершы баладнага і песеннага складу. Прынамсі, паводле акадэміка В.А. Каваленкі, «ніводны фальклорны жанр не валодаў такой бязмежнай здольнасцю паэтызацыі, як казка, асабліва чарадзейная»[1]. З'яўляючыся адным з вядучых жанраў непісьмовай славеснасці, менавіта чарадзейная казка шырока выкарыстоўвалася рамантыкамі. Чарадзейныя казкі адлюстравалі мары чалавека аб лепшым жыцці, паляпшэнні сацыяльных умоў, дасягненні роўнасці і справядлівасці паміж людзьмі. У згаданым жанры нямала азначальна рамантычных магчымасцей: ад спецыфічнага аповяду да ўсемагчымых гіпербалічных форм, дзе маюць месца розныя нечаканасці і пераўтварэнні, спалучаюцца і ўзаемадзейнічаюць неверагоднае і незвычайнае, рэальнае і ўмоўнае, жыццёвае і фантастычнае.

Героі беларускіх чарадзейных казак — людзі, якім уласцівы глыбокія пачуцці, мары і ідэалы, здольнасць імкнуцца да лепшай будучыні, да шчасця. Казачныя станоўчыя героі Іван-Дараган, Івашка Мядзведжае вушка, Іван Кабылін сын і іншыя — змагары, барацьбіты за шчасце людское, гіпербалізуюцца і надзяляюцца незвычайнаю фізічнай сілаю. Роднасныя рамантызму тэндэнцыі, якія найбольш выяўляюцца ў гіпербалізацыі абстаноўкі і дзеянняў герояў, заўважаюцца таксама ў беларускіх чарадзейных казках і ў казках на былінныя сюжэты пра волатаў і асілкаў («Кацігарошак», «Пра Іллюшку», «Як Ілля Мурамец пабядзіў Салаўя-разбойніка, Абжору, Алькадзіма», «Ілля Мурамец», «Бязногі багатыр», «Іван Пракрасны і князь Ладымяр», «Іскарка-парубак Дзевічы сын» і інш.). Казачныя героі ў быце паказваліся звычайнымі людзьмі, але ў бойках з ворагамі былі непераможнымі, непадуладнымі ніякай звышнатуральнай сіле. Гіпербалізацыя, як мастацкі прыём, перайшла з часам і ў прафесійнае мастацтва. Пры гэтым варта адзначыць, што духоўнасць складае аснову асаблівасцей характару станоўчага героя казкі, што, як вядома, з'яўляецца першай па часе функцыянавання скарбніцаю духоўнай культуры чалавецтва. Выкарыстанне казачных форм дапамагло значна ўзбагаціць рамантычную літаратуру. Сёння не выклікае сумнення той факт, што беларускі, як і еўрапейскі рамантызм, праяўляў цікавасць да народна-паэтычнай творчасці, што, да прыкладу, выразна выяўлялася найперш ва ўзмоцненым зваро-

---

[1] Каваленка В. А. Міфа-паэтычныя матывы ў беларускай літаратуры. — Мн.: Навука і тэхніка, 1981. — С.88.

це пісьменнікаў рамантычнага кірунку да фальклорнай казкі, аснову якой грунтавала фабула з усімі ўласцівымі ёй элементамі фантастыкі. Казкавая фантастыка, якая знайшла адбітак у многіх творах беларускай літаратуры XIX стагоддзя, аказалася для рамантыкаў найбольш прымальнай формаю ўвасаблення цэласнага свету-універсума. Такім чынам, рамантызм садзейнічаў развіццю фантастыкі, паколькі пісьменнікі гэтага кірунку ўспрымалі і прадстаўлялі казку «як бы канон паэзіі», «абсалютны чарадзейны сінтэз», які «часта з'яўляецца воссю казкі, ці нават яе мэтаю».(Навaліс). Барацьба дабра і зла, праўды і няпраўды, пошукі шчасця і змаганне за яго атрымалі ў казках адлюстраванне, набліжанае са значнай перавагаю да рамантычнай канцэпцыі жыцця. Многае з таго, што адбываецца тут на рэальным фоне, ахутана арэолам таемнага і загадкавага, дзівоснага і незвычайнага, неверагоднага і звышнатуральнага.

Даволі блізкі да рамантычнага светаўспрымання фальклорны матыў аб пошуках шчасця, які найбольш выразна і мэтанакіравана бачыцца ў казцы «Асілак»: «Ведама, чалавек ніколі не кідае надзеі на шчасце, бо без надзеі нельга жыць на свеце». Аднак гэты жаданы ідэал, як і ў творах рамантыкаў, нярэдка суседнічае з яго антыподам, аб чым сведчаць шматлікія варыяцыі казкавых вобразаў пра беднага і багатага брата («Шчасце і гора», «Шчасце», «Шчасце і няшчасце» і інш.). Спрадвечная мара чалавека аб шчасці і спадзяванні на лепшае ў жыцці цесна лучацца ў чарадзейнай казцы «Ладзька» з тэмаю наканаванасці лёсу і гора, з жаданнем герояў ісці «ў свет долі іскаць». Прадвызначанасць лёсу чалавека, якая сугучна рамантычнай паэтыцы, вызначае і вытлумачвае таксама кантраст паміж багаццем і беднасцю ў грамадстве («Доля аратага і купца», «Доля і злыдні», «Доля»). У казцы «Ліхая доля» гэтая наканаванасць розных жыццёвых шляхоў беднага і багатага суродзічаў абумоўлена тым, што «не аднакую ім Бог долю даў». Разам з тым, казачнік сцвярджае, што «на свеце толькі той шчасце мае, каму доля спрыяе, або хто сваю долю да ў руках трымае. Бо без ушчунку й ад долі няма ратунку».

Як і ў творах пісьменнікаў-рамантыкаў, у казках пошукі шчасця звычайна не прыносяць чалавеку ўдачы і прыводзяць яго да скаргі на свет і на свой горкі лёс. Апошні часам становіцца вынікам асабістай няздольнасці ці нежадання асобы карыстацца Божай міласэрнасцю, што, да прыкладу, відаць з рэплік герояў казкі «Пракрасная дзявіца Алена»: «Ах, брат! Даваў табе Бог шчасця, да не ўмеў ты яго шанаваць...». Або: «Ах, братка ты мой родны! Даваў табе Бог шчасця-долю, да не ўмеў ты шанавацца,.. не ўмеў слухаць яе». Надзеі на Усявышняга ўскладаюць героі іншых чарадзейных казак, хаця гэтыя спадзяванні не заўсёды спаўняюцца. Відаць, не выпадкова ў творах згаданага жанру беларускага фальклору сустракаецца (хоць даволі і рэдка) матыў пакаяння не толькі людзей, але нават «грэшных» нечалавечых істот — аднаго з трох кітоў, на якіх, паводле некаторых рэлігійных крыніц, стаіць Зямля і трымаецца ўвесь белы свет: «Пакайся ты (Кіт-рыба. — **К.Л.**) сваім грахам, выхаркай хоць трэцюю часць людзей і караблёў, што ты праглаціла, тады цябе Гасподзь прасціць, грахам тваім!» — гаворыць галоўны герой казкі «Тром сын Безымённы».

Прыведзеныя прыклады паказваюць, што беларуская народная творчасць свецкага паходжання мае пэўнае судакрананне з духоўнаю паэзіяй. Калі выкладзеных намі аргументаў недастаткова, то для большай пераканаўчасці нашых вывадаў яшчэ дададзім, што ў казках, як і ў творах некаторых рамантыкаў, Бог выступае стваральнікам свету, носьбітам дабра і міласэрнасці для людзей. Пра гэта мы даведваемся з вуснаў галоўнага героя аднайменнай казкі «Асілак», які выганяе з лесу разбойнікаў і рашуча заяўляе ім: «...Бог даў лес на патрэбу ўсім людзям... я прыйшоў, каб адабраць у вас Божую пушчу й даць усім людзям». Дарэчы, вобраз лесу ў казцы «Каваль» таксама паўстае ва ўзвышана рамантызаваным выглядзе і служыць надзейным сховішчам для людзей, што ўцякаюць сюды ад розных бед і няшчасцяў, у тым ліку і ад варо-

жай навалы: «Ведама, лес вялік — няма яму ні канца, ні краю. Жыві ў ём хаць век — ніхто не трапіць».

Героі чарадзейных казак — волаты, асілкі або звычайныя людзі, што змагаюцца з варожай сілаю і перамагаюць яе, станавіліся правобразамі асобных рамантычных герояў беларускай літаратуры XIX стагоддзя (напрыклад, постаць адважнага і дужага воіна Кізралі і яго баявога каня ў польскамоўнай вершаванай аповесці В. І. Дуніна-Марцінкевіча «Славяне ў XIX стагоддзі». Гістарычная аповесць. У 2-х песнях). Дарэчы, у беларускім фальклоры неймаверна часта сустракаецца адзіны і непадзельны ў сваім родзе вобраз-сімвал героя і каня — старажытнейшы ў сусветнай літаратуры, які арганічна ўваходзіць у рамантычную паэзію і становіцца ў творчасці яе многіх прадстаўнікоў адным з самых займальных і захапляючых. Конь — нязменны і верны сябра воіна, рыцара — удзельнік яго пакутаў, розных прыгод і хваляванняў, спадарожнік усяго яго жыцця, баявы памочнік і мудры дарадца, да таго ж звязаны з містычнымі сіламі і сваім магутным супрацьдзеяннем і знаходлівасцю павінен дапамагчы свайму ваяўнічаму гаспадару.

Гэтыя рысы казачнага каня вызначаюцца ўжо ў старажытны перыяд, у міфалогіі многіх народаў свету. Асаблівае цяпло, надзея і сіла пранізваюць вобраз скакуна, які паходзіць са старажытнай міфалогіі. Спачатку замацаваўшыся ў еўрапейскіх рыцарскіх легендах сярэдніх вякоў, ён паступова ў новай рамантычнай рэдакцыі трансфармаваўся ў прывабны паэтычны вобраз каня, які праходзіць праз творчасць Г. Гейне, Ё. В. Гётэ, Дж. Байрана, Адама Міцкевіча, М. Ю. Лермантава, Яна Чачота, Гераніма Марцінкевіча, В. І. Дуніна-Марцінкевіча. Дарэчы, постаць конніка часам з' яўляецца носьбітам пэўных рыс эстэтычнага вобраза біблейскага святога Георгія, які знішчае кап' ём лютага дракона. Калі ж заглянуць яшчэ глыбей, то знойдзем нешта падобнае і ў творчасці больш старажытных народаў, дзе міфічныя паўбагі часта паўстаюць перад намі на паўбоскіх конях, што валодаюць містычнымі якасцямі і заносяць у неабсяжныя прасторы сваіх седакоў, каб выратаваць іх ад фатальных, наканаваных лёсам пагібельных выпрабаванняў (напрыклад, Тэзея). «У пэўнай сувязі з татэмістычнымі ўяўленнямі, і культам продкаў, — паводле слоў вядомага беларускага фалькларыста К.П. Кабашнікава, — знаходзіцца, напрыклад, вобраз багатырскага каня, які не толькі дае свайму гаспадару мудрыя парады, але і дапамагае яму ў змаганні з ворагам».

Гераічныя подзвігі казачных змагароў (часцей за ўсё на конях), як правіла, патрабуюць ад іх доўгага і небяспечнага падарожжа, якое звязана з пераадоленнем вялікіх адлегласцей і розных перашкод. Так, галоўныя дзейныя асобы чарадзейнай казкі «Браты-багатыры» выбіраюць лепшых коней і едуць у далёкі і нязведаны край, каб адолець нячыстую сілу і перамагчы шасцігаловага цмока-змея. Кацігарошак з аднайменнага казачнага твора самастойна «адпраўляецца ў пуць, у чыстую дарогу…», а адзін з герояў казкі «Прекрасная дзявіца Алена», паводле яго ж прызнання, «сабраўся і пайшоў зноў у свет белы...». Невыпадкова, што матыў дарогі і жаданне ці імкненне героя паехаць вярхом на кані ці адправіцца пешшу «ў белы свет» становіцца адным з важнейшых кампанентаў казачнага сюжэта і вызначальнай рысаю многіх рамантычных твораў беларускай літаратуры XIX — пачатку XX стагоддзя. Больш таго, у казкавым эпасе, акрамя зямнога свету, існуе «той (замагільны. — **К.Л.**) свет», што не выключае, на наш погляд, узнікнення на гэтай глебе рамантычнага «двоемирия» («двух светаў»), якое, па ўсёй верагоднасці, бярэ выток з духоўнай паэзіі.

Акрамя прыведзеных намі прыкладаў, мы сустракаем у беларускай літаратуры XIX стагоддзя адзін даволі цікавы ўзор мастацкага пераасэнсавання, якое зрабіў Ян Баршчэўскі на аснове народнага апавядання пра Ганну, дачку Акіяна. Выкарыстоўваючы сюжэт гэтага твора, пісьменнік хораша паказаў метафарызацыю людскога жыцця з падарожжам чалавека па моры ў апавяданні

«Думкі самотніка», што змешчана ў кнізе «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях». На гэтую сувязь указвае сам аўтар твора: «Мора! У тваіх глыбінях быў для мяне іншы свет, шчаслівы і дзіўны, пра які столькі я чуў апавяданняў з вуснаў простага люду. Там жыла калісьці дзяўчына Ганна, дачка вялікага Акіяна, каралева духаў, цуд хараства; нябачная моц зямлі і мора імгненна выконвалі ўсе яе загады. Цуд дабрыні, яна ацаніла шляхетнасць маладога хлопца, які спусціўся на дно і стаў перад вялікім Акіянам, каб адслужыць яму за вяртанне свайго бацькі на родную зямлю. Але ён быў слабы чалавек і не мог выканаць наказы мора, і тады Ганна, выручаючы каханага, загадала духам, і за адну ноч з'явіліся палацы з караляў і дарагіх перлаў. Ацаніў Акіян дабрачыннасць і мудрасць хлопца, даўшы яму за жонку сваю дачку Ганну». У Яна Баршчэўскага, як і ў творах многіх пісьменнікаў-рамантыкаў, жыццёвае мора-акіян праецыруецца на зямны свет, які, паводле аўтарскага мастацкага мыслення, у сапраўднасці больш складаны і супярэчлівы, поўны для чалавека душэўных трывог і жорсткіх выпрабаванняў: «Мора! Сёння я не так ужо думаю пра цябе. Ты нагадваеш сляпую фартуну: узбагачаеш людзей і кідаеш у бяздонныя глыбіні, няможна расчуліць тваё зімовае лона, калі няшчасны ветразь, занесены хваляю далёка ад роднае зямлі, гіне, самотны, на пустэльных берагах вострава ад тугі або ад голаду, і ў яснае надвор' е не дрэмлюць на тваім дне ненажэрныя пачвары, паглядаючы з адкрытаю пашчаю на марскіх вандроўнікаў. О мора! Ты нагадваеш свет, па якім чалавек ідзе рознымі пуцінамі жыцця».

У народным эпасе глыбей і танчэй, чым у раннім фальклоры, апаэтызавана самае моцнае чалавечае пачуццё — каханне, што паўстае найперш як натуральны дар прыроды, пачуццё бескарыслівае, шчырае і ўзаемнае, якое звычайна прыносіць чалавеку радасць і шчасце. Барацьба, змаганне героя за прыгажосць кахання, вяршыня якога ў жаніцьбе з любай дзяўчынай, адлюстравана ў эпасе ўсіх народаў свету. Розныя формы гэтай барацьбы раскрыты і ў класічным грэцкім эпасе, і ў «Песнях аб Нібелунгах», і ў «Манасе», і ў «Давідзе Сасунскім», і ў старажытнарускіх былінах пра Дабрыню Нікіціча, Алёшу Паповіча.

У беларускім народным эпасе пачуццё кахання, яго прыгажосць займаюць параўнальна невялікае месца. Аднак няма падстаў гаварыць пра «белыя плямы»: любоўная тэматыка пранікала ў малыя фальклорныя формы — казкі і песні. У народных казках, героем якіх выступае пераважна Іван — сялянскі сын, у песнях безыменных аўтараў або ў цыкле песень, якія прыпісваюцца легендарным паэтэсам, пачуццё кахання ўзнята на вышыню чалавечага шчасця, апета як непараўнальна духоўная асалода, свята сэрца. Паказальная ў гэтым плане казка «Любошчы», дзе ўсемагутная сіла рамантычнага кахання люструе вялікае пачуццё і збавенне ад нечалавечых заган, сумяшчае прыкметы барока з яго кантрастным супастаўленнем супрацьлеглых паняццяў — прыгожага і агіднага, прывабнага і брыдкага, прыцягальнага і страшнага: «Вечар быў гожы: цёпла, ціха, бы ў вусе. Сонейка даўно зайшло, толькі яшчэ чырванелі хмаркі. І пачаў пачвара з свіным лычом пець песні, пачаў пець так гожа, што от голас лезе аж у самую душу й разам хочацца плакаць і смяяцца. І думаецца дзяўчыне, што от так слухала б усё жыццё й нічога б больш не хацела. От ужэ сцямнела; заблішчалі на небе ясныя зоркі да толькі мігаюць мілымі вочкамі да баццэ шэпчуць: гожы свет, добра на ём жыць да любіць. Любі, дак усё адалееш. А ён усё пяе да пяе да з такімі любошчамі, што затапіў у дзяўчыны й голаў, і сэрца. Сама не ведама, зачым схапіла яна страшэннага чалавека за голаў да й пацалавала. У той момант абярнуўся ён у гожага каралевіча...».

У беларускім фальклоры, як і ў творах рамантыкаў, жаночая прыгажосць надзяляецца дэманічнай сілаю свайго ўздзеяння: вось як паланіла беднага парабка сваёю незвычайнай красою гераіня казкі «Прыгажуня-жонка»: «Глянуў

на яе (паненку. — **К.Л.**) парабак — і рот разявіў; глядзіць — слова вымавіць не можа, як быццам яму заціяло. Глядзіць — ні рукой, ні нагой не кране, шавяльнуцца не можа — зачараваны ды й годзе, так ён задзівіўся. І было чаго! бо дужа ж яна прыгожая». Той жа магічна-дэманічны пачатак прыцягальнага жаночага хараства і яго рамантызацыя назіраецца ў казцы «Каваль»: «Падышоў Каваль да як глянуў на царэўну, дак не мажэ й ачоў адвесці ад яе, такая яна гожая й так яму спадабалася. От стаіць Каваль на адным месцы, бы ўкопаны…». А ў казцы «Агонь у сэрцы, а розум у галаве» чытаем: «Пайшоў ён (чалавек. — **К.Л.**) к рацэ, каб напіцца. Толькі ён схіліўся к вадзе, аж адтуль выплыла вельмі гожая паненка, да як зірнула на яго, дак ён і стаў, бы ўкопаны. Стаіць, пазірае да й ачу не мажэ адарваць ад яе».

Беларускія казкі і асабліва паэтычныя жанравыя разнавіднасці нацыянальнага фальклору з любоўнай тэматыкаю вельмі шырока выкарыстоўваюць таксама ўжо вядомыя нам вобразы каня і конніка, дзе конь выступае ў ролі вернага і спагадлівага сябра свайго маладога гаспадара ў яго каханні з любай дзяўчынаю. Паэтызуючы гераіку і пачуццё кахання, стваральнікі фальклору, як правіла, не спрабуюць «разгадаць» тайну гэтых з' яў. Аўтары чарадзейных казак не ставяць такой мэты і пры паказе жаноцкай ці мужчынскай красы, бо, на іх думку, прыгажосць героя ( часцей за ўсё гераіні) бывае настолькі вялікая і бязмежная, што не заўсёды паддаецца не толькі апісанню, але і выказванню нават словамі: «Такая яна (марская дзяўчына. — **К.Л.**), красавіца, што ні ў казцы казаць, ні пяром не апісаць», а «як запяе песні, дык аж мора калышацца» («Пра Івана-Дарагана»); «... доч... стану простага, але неапісанай красаты» («Кацігарошак»); «А дачка (князя. — **К.Л.**) была такая харошая, што і сказаць няможна» («Кірыла Кажамяка»); «Выходзіць адтуль (з залатой карэты. — **К.Л.**) царэўна, ды такая прыгожая — ні пяром апісаць, ні ў казцы расказаць». Рамантычнай узвышанасцю вызначаецца «паненачка пекна», што выглядае «як кветка серад летка» («Аб токару і злотніку»). У гэтай сувязі ёсць удалая магчымасць адзначыць, што з беларускаю чарадзейнай казкаю генетычна лучыцца вобраз антычнай багіні Венеры з паэмы «Тарас на Парнасе», дзе гераіня паўстае не толькі ў рэальна-бытавым плане, але і надзяляецца рысамі фальклорна-рамантычнага стылю.

Зрокава-інтуітыўнае ўражанне выключнай красы аказвае ў некаторых казках вядомы нам з антычнасці жаночы вобраз Алены, якая выступае тут то ў ролі дзяўчыны («Пракрасная дзявіца Алена»), то ў ролі нявесты («Пра Ігра Ігравіча, пра старыка Палугрыма»). Дарэчы, заўважым, што з абаяльнай постаццю гэтай антычнай гераіні, якая затым увайшла ў кантэкст беларускай чарадзейнай казкі, суадносіцца вобраз незвычайна прыгожай маладой дзяўчыны ў рамантычным вершы «Пасля маскараду ў Асвеі» Валяр'яна Грымалоўскага — польскамоўнага паэта Беларусі першай паловы XIX стагоддзя, які паходзіў з Віцебшчыны. Праўда, у дадзеным творы выключнае хараство, чароўна-прыцягальная прыгажосць гераіні ўдала лучацца з адмысловым майстэрствам яе танца на маскарадзе — касцюміраваным бале.

Немалаважны той факт, што рамантычны верш «Пасля маскараду ў Асвеі» Валяр'яна Грымалоўскага мае генетычную повязь не толькі з антычнасцю, але і з беларускаю чарадзейнай казкаю, ужо сваёй назваю і зместам нагадваючы нам пра свята народнага карнавалу, якое пачалі адзначаць на Беларусі з даўніх часоў. Да таго ж, прывабны выгляд безыменнай гераіні, якая атаясамліваецца з вобразам старажытнагрэчаскай Алены, прадстаўляе, на наш погляд, прататып далёкіх і больш блізкіх па часе маладых прыгажунь Беларусі, якія звычайна вызначаліся на касцюміраваным бале сваёй прыцягальнай красою і майстэрствам выканання танца.

Аднак не толькі гераічны подзвіг і каханне, але і сама прыгажосць чалавека для стваральнікаў фальклору адметныя з'явы, як і ўсё астатняе ў прыродзе. Тлумачэнне першапрычыны іх — гэта ўжо задача прафесійнай літарату-

ры, якая абвясціла, што тайну вялікіх подзвігаў і моцнага кахання трэба шукаць у загадцы чалавечай душы. Ёсць многа ў свеце цудаў, гаварыў Сафокл у «Антыгоне», але самае дзівоснае з іх — чалавек. Уся гісторыя пісьмовай славеснасці — гэта, па сутнасці, спроба разгадаць дадзеную тайну. Пранікаючы ў глыбіні чалавечай душы, прафесійная літаратура, аднак, ніколі не забывала аб сваёй першакрыніцы, аб фальклоры, пастаянна звяртаючыся да яго тэм, вобразных прыёмаў, невычэрпнага аптымізму. Рамантыкаў, якія тварылі на рубяжы XVIII—XIX стагоддзяў, прываблівалі і захаплялі ў фальклоры натуральнасць мастацкага мыслення (чаго не хапала папярэднікам рамантызму — класіцыстам) і гіпербалізацыя ў перадачы сілы чалавечага кахання, гераічных імкненняў народа.

Фальклорныя вытокі і генезіс беларускага рамантызму неаддзельныя ад тэмы мастака і мастацтва, якая, як вядома, зарадзілася ў вуснай народнай творчасці і знайшла найбольш яркае выражэнне ў беларускай літаратуры XIX — пачатку XX стагоддзя. І асабліва паказальнай, удзячнай для раскрыцця вытокаў і генезісу азначанай тэмы з' яўляецца казка «Іванка-Прастачок», дзе галоўны герой — таленавіты ад прыроды музы́ка-самавучка — сваім чароўным граннем на самаробнай дудцы не толькі захапляе ўсё навокал, але і прасвятляе просты люд у пазнанні праўды і крыўды на зямлі. Само гранне дудара ўсясветнае і казачна-рамантычнае: «Зрабіў (Іванка-Прастачок. — **К.Л.**) дудку-весялушку да заграў сабе так жаласліва ды так гожа, што не толькі людзі, а звяры й птушкі сталі яго слухаць, сталі ўкруг збірацца. І пачаў... па свеце хадзіць, у дудачку граць, людзей збіраць да ім праўду казаць... І разнёсся ад Іванкавае дудкі голас па ўсяму свету. Пачалі людзі к таму голасу прыслухацца да розуму набірацца; пачалі думаць да гадаць, як за праўду пастаяць». Гранне самаробнай свісцёлкі касмічна-маштабнае і даволі дзейснае, таемнаняўлоўнае і непераможнае. Яно заключае ў сабе глыбокі сацыяльны падтэкст і свабодалюбівыя настроі: «Дудка свішча, дудка грае; пошчак па свету гуляе, людзей навучае. Яго не злавіць, ні з гармат не забіць. Ён вольна па свету гуляе, ніякіх загародак не знае; хоць сам без цела, да вялікую сілу мае. Грае, грае, а як прыйдзе час, дак усіх ён параўняе. Ой ты, дудка мая, весялушка мая!». Рамантычнае выражэнне, спалучанае з бытавой апісальнасцю, знайшла тэма мастака і мастацтва ў казцы «Гуслі», дзе сірата пастушок Іваньчык пазней стаў гусляром. Праўда, у адрозненне ад Івана-Прастачка, ён сваім граннем па свеце (яно ўспрымаецца пакуль што як «вядзьмарства») яшчэ не садзейнічае разняволенню прыгнечанага народа. Аднак Іваньчык таксама адметны, выключны па натуры, вызначаецца сярод іншых людзей, і таму па прыродзе сваёй нагадвае рамантычнага героя. Пастушку ўласціва здольнасць пранікаць у таямніцы навакольнага свету, размаўляць з гаўядам, разумець мову ўсялякае жывёлы й нават расліны. Яму здавалася, што птушкі пяюць яго песні, што мушкі да полуднічкі жаласна гудуць, дак гэта яны плачуць над яго горкаю, пастуховаю доляю, што гаўяда пазірае на яго да й хоча яму сказаць: «Бедны пастух! Ніколі не быць табе гаспадаром… Кінь гэты край да йдзі ў свет шукаць шчасця».

Яму здавалася, што лесківае яму вецццем, што траўка й кветкі яму шэпчуць ціхенька: «Йдзі ў свет».

Паслухаў іх наш Іваньчык і пайшоў у свет шукаць шчасця».

Як дар Божы, набывае незвычайныя свісцёлкі найміт-пастух — герой казкі «Папоў парубак», дзе і яны выконваюць чарадзейныя функцыі. Згаданая тэма набыла асабліва выразнае грамадскае гучанне ў беларускамоўнай і польскамоўнай рамантычнай паэзіі Беларусі XIX стагоддзя, у прыватнасці, у вершы Паўлюка Багрыма «Зайграй, зайграй, хлопча малы...», у лірыцы Уладзіслава Сыракомлі («Лірнік вясковы», «Не я пяю!» і інш.), Францішка Багушэвіча («Мая дудка», «Смык», «Хто над жалезнай струной запануе...»), у ананімным вершы «Дудар», у драматычнай паэме Антона Крумана «Пясняр

з-над Дзвіны» і інш. Значнае раскрыццё і актуальнасць, як вядома, тэма мастака і мастацтва набыла ў беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя.

Адным з вытокаў і генетычнай асноваю беларускага рамантызму ўвогуле з' яўляецца матыў сну, што бярэ пачатак з вуснай народнай творчасці і выконвае ў яе мастацкай сістэме немалаважную ролю. Ужо самая ранняя ступень чалавечай свядомасці і творчасці — міфалагічная — казкі, легенды і іншыя фальклорныя жанры выяўлялі глыбока сімвалічныя паняцці пра сны, якія вобразна называліся «вандраваннямі душы», «абдымкамі Марфея», «боскімі прыметамі» і т.п. «З самых старажытных часоў чалавечы розум бачыў у снабачаннях адзін з найбольш сапраўдных сродкаў для таго, каб прыпадняць таямнічую заслону будучага» (Балов А. Сон и сновидения в народных верованиях // Живая старина, 1891. Вып. IV. — С.208). Сны як форма сувязі са звышнатуральнымі сіламі былі вельмі распаўсюджаны ў антычнай і ўсходняй літаратурах, ва ўнаследаваных са старажытных часоў літаратурных помніках. Так, у старажытнаўсходняй эпапеі «Гільгамеш» (III ст. да н.э.) вялікае месца займаюць снабачанні, пры дапамозе якіх героі даведваюцца аб падзеях, што павінны адбыцца з імі ў будучым. Сны з' яўляюцца прывычным сродкам зносін багоў і герояў і ў многіх эпізодах грэчаскай міфалогіі. Для тлумачэння снабачанняў або нават для бачання прарочых сноў у старажытным свеце будаваліся спецыяльныя капішчы, якія ўяўлялі культавыя збудаванні ўсходніх і прыбалтыйскіх славян язычніцкага перыяду. Тут трэба ўспоміць тое, што снабачанні, акрамя фальклору, шырока прадстаўлены і ў самой Бібліі. Яны — традыцыйны элемент у сусветнай культуры, пачынаючы з далёкай мінуўшчыны. Успрыманне сноў як сродку прадбачання і прадказання будучыні абумоўлена многавяковай традыцыяй. Вучоныя старажытнасці — Піфагор, Платон, Геракліт, Дэмакрыт, Арыстоцель і інш. — выказвалі розныя погляды на паходжанне і прыроду снабачання, але пры гэтым мала хто адмаўляў іх прарочую сутнасць. Натуральна, што ўзнікла імкненне і жаданне разгадваць сны.

Матыў сну выразна праявіўся ў эпоху барока, а дакладней, у барочнай тэме «жыццё ёсць сон», якая адрадзілася ў рамантызме. Аднак калі ў класіцызме і барока ён служыў перш за ўсё прадказанням, што папярэджвалі і вызначалі развіццё дзеяння, то ў рамантызме сон — гэта жыццё душы героя. Рамантычны герой часта засынае, і ў сне яго наведваюць мары-лятункі, прывіды, здані, а ў начных снабачаннях — анёлы. Іх паказ служыць раскрыццю дзейнай асобы твора. Снабачанні выступаюць як нейкі таямнічы голас быцця, што ўносіць эфект загадкавасці і стварае той умоўны і жаданы свет, які мы нярэдка назіраем у творах рамантыкаў.

Найбольш багатыя па колькасці і разнастайныя па форме сны ў чарадзейных казках. Дарэчы, яны складаюць адзін з самых старажытных пластоў беларускага фальклору. Мара і вера нашых далёкіх продкаў у лепшую будучыню, жаданне і здольнасць заглянуць наперад, пазнаць ці палепшыць свой лёс і становішча, прадбачыць падзеі і з' явы — усё гэта пазней прадоўжыла і паглыбіла ў форме сноў рамантычная мастацкая літаратура, якая знайшла адпаведныя вобразна-выяўленчыя прыёмы і сродкі дзеля ўвасаблення жаданага ідэалу. Паказальныя ў гэтых адносінах чарадзейныя казкі «Булат — добры молодзец», «Лякай-камень», «Іван Беларасейскі», «Рак-царэвіч», «Сірата», «Слуга стаў каралём» і інш. Рамантычныя тэндэнцыі захоўваюць т.зв. прарочыя казкі, у якіх сны патрабуюць разгадкі, тлумачэння. Сюды ж у пэўнай ступені адносяцца і тыя казкавыя творы, у якіх снабачанне супадае з явай рэчаіснасці або шлях да явы праходзіць праз дакладнае здзяйсненне таго, што прадвызначана ў сне.

Матыў сну нярэдка выкарыстоўваецца ў беларускай літаратуры на розных этапах яе станаўлення і развіцця. У XIX стагоддзі ён знаходзіць выражэнне ў баладзе Яна Чачота «Радзівіл, або Заснаванне Вільні», кнізе Яна Баршчэўскага «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях»,

у «Стаўроўскіх дзядах» — другой частцы вершаванай аповесці «Вечарніцы» В. І. Дуніна-Марцінкевіча, у баладзе «Быў у чысцы» Францішка Багушэвіча. Называючы імёны вышэйзгаданых пісьменнікаў, варта ўспомніць і творы, якія папярэднічалі ўзнікненню такой традыцыі ў нашай прафесійнай славеснасці. Гэта сон Святаслава са «Слова пра паход Ігаравы» перыяду Старажытнай Русі, тры сны, якія бачыць на працягу адной ночы галоўная гераіня «Жыція Еўфрасінні Полацкай» і, нарэшце, прарочы сон Гедыміна пра заснаванне Вільні ў адным з гістарычных паданняў, што змешчана ў «Хроніцы Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага» і паслужыла асноваю для напісання вышэй памянёнай балады Яна Чачота. Выкарыстанне матыву снабачання як мастацкага прыёму і перанясенне яго ў пісьмовую славеснасць — важнейшы элемент мастацтва не толькі ў беларускай, але і ў сусветнай літаратуры эпохі рамантызму.

Такім чынам, праведзенае намі ўпершыню даследаванне беларускіх народных казак у святле ўзнятай праблемы наглядна паказала, што яны маюць шмат тыпалагічна роднасных ці сугучных рамантызму тэндэнцый, якія сталі адным з фальклорных вытокаў і генетычнаю повяззю для ўзнікнення рамантычнага кірунку ў літаратуры Беларусі XIX стагоддзя. У творах дадзенага жанру народнай прозы, як і ў фальклоры ўвогуле, рамантыкі вучыліся бачыць самыя высокія намеры чалавека, яго прагу да ідэальнага жыцця. Яны выкарыстоўвалі і творча пераасэнсоўвалі тэмы, матывы і вобразы народных казак, іх прыёмы і сродкі. Пераймаючы гэтую навуку ў фальклоры, пісьменнікі рамантычнага кірунку лічылі, што народная творчасць — крыніца чалавечых пачуццяў і думак, без глыбокага асэнсавання якіх немагчыма ніякае мастацтва.

Генетычныя карані рамантызму маюць беларускія легенды і паданні, якія пры пэўнай іх агульнасці маюць у кожным выпадку спецыфічныя рысы. Гэтыя два жанры фальклору, у адрозненне ад чарадзейных казак, вызначаюцца немалой доляю дакладна-рэалістычнай апісальнасці, якая, аднак, спалучае нямала ўмоўна-фантастычнага. У іх цесна пераплятаюцца і ўзаемадзейнічаюць канкрэтна-бытавое і неверагоднае, паказваецца раптоўнасць і непрадказальнасць дзеяння, назіраюцца нечаканыя знікненні або пераўтварэнні жывых і нежывых істот. Сюжэт многіх легенд і паданняў агорнуты заслонаю тайны, яны ўвабралі багата рысаў дзівоснага і чарадзейнага, звычайнага і звышнатуральнага, цудоўнага і цудадзейнага, а «зварот да скарбаў народнай творчасці і стварэнне літаратурных твораў на аснове беларускіх легенд і паданняў у першай палавіне XIX ст., на думку многіх даследчыкаў, звязаны з развіццём рамантызму ў заходнееўрапейскіх і славянскіх літаратурах» (М. Грынблат).

У творах дадзенага жанру недастаткова было паказаць толькі чарадзейнае, трэба было чымсьці растлумачыць дзівосныя з' явы, бо ў адваротным выпадку парушалася б іх праўдападобнасць. Своеасаблівасць легенд і паданняў у тым, што фантастычнае, па форме сваёй усё больш прасоўваючыся і набліжаючыся да рэальнага, адначасова ўводзіла на першапачатковым этапе развіцця рамантызму розных дэманаў, якія запазычваліся з вуснай народнай творчасці і ахутваліся смугою таемнасці. «Вера ў дэманічныя сілы дала пачатак шматлікім расказам і легендам... У залежнасці ад ваколіц свайго бытавання яны набіралі мясцовыя рэаліі, што яшчэ больш пераконвала людзей» (М. Шаховіч). Гэтыя «мясцовыя рэаліі», не былі пазбаўлены, як, напрыклад, у беларускай легендзе [«Зямля»] культу роднай зямлі, яе ўзвышанай рамантызацыі і нават абагаўлення: «святая зямелька», «маці-зямля», «родная зямелька», «святая маці зямля». Трэба думаць, што менавіта адсюль, з вуснай народнай творчасці, пачынаецца зародак і выток паняцця вобраза радзімы — аднаго з важных кампанентаў будучага рамантычнага кірунку ў беларускай літаратуры XIX стагоддзя.

Як і ў казках, і ў легендах прыкметна заўважаюцца рамантычныя тэндэнцыі ў паказе асілкаў, постаці і дзеянні якіх празмерна перабольшаны і гіпербалізаваны (два аднайменныя народныя творы «Асілкі»). Нямала роднасных рамантызму рыс маюць легенды пра ўсемагчымыя ператварэнні людзей у ваўкоў («Ваўкалака», «Ваўкалакі», [«Як чалавек жыў ваўкалакам], [«Як чараўнік абярнуў вясельны паязд у ваўкоў»], [«Жаніх-ваўкалак»], «Заклятае вяселле», [«Сын-ваўкалак»], «Жаўнер і ваўкалак», [«Вядзьмак-ваўкалак»]). Здараецца і так, што чалавек можа стаць птушкаю (часам жабаю), дзе дамінуе вобраз зязюлі («Пра зязюлю», «Зязюля», [«Адкуль зязюля»], «Чаму зязюля кукуе», «Зязюля і Кук», [«Зязюля, салавей і жаба»], «Зязюля, сокал і люгашка», «Пра сівую зязюлю, ластаўку і салаўя», «Зязюльчыны слёзы»). Значна радзей бываюць ператварэнні людзей у дрэвы па волі Бога за іх сямейную нявернасць і здраду [«Пра бярозу і асіну»]. У многім роднасна рамантычнаму стылю легенда «Пералёт-трава, або лятучае зелле», дзе знайшла яркае выражэнне мара чалавека аб шчасці на зямлі: «Расказваюць пра яе (пералёт-траву. — **К.Л.**), што яна здольна пераносіцца з месца на месца, кветка яе з колераў вясёлкі, надзвычай жывая і прыгожая, а ў сваім начным палёце блішчыць, нібы зорка. Шчаслівы той, хто яе сарве, не пазнае гора ў сваім жыцці, усе яго жаданні збудуцца, гэта — зелле шчасця...». Нездарма названая легенда і многія творы непісьмовай славеснасці іншых жанраў (асабліва паданні) прыцягнулі ўвагу Яна Баршчэўскага і склалі аснову яго кнігі «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях». З ліку іншых такіх жа легенд, якія так шчодра жывілі беларускую рамантычную літаратуру, варта назваць фальклорныя творы [«Папараць-кветка»], «Ноч на Івана Купалу», «Кветка папараці», «Цвет папараці» і «Папараць».

Як і ў рамантыкаў, так і ў стваральнікаў фальклору асэнсоўвалася немагчымасць дасягнення людзьмі жаданага ідэалу, які не заўсёды яшчэ набліжаўся да выразна акрэсленай мэты, хаця і зводзіўся да настойлівых пошукаў шляхоў для яе ажыццяўлення. Так, у легендзе «З чаго ліха на свеце» шчаслівае і радаснае мінулае з яго ідэальным ладам і роўнасцю паміж людзьмі супрацьпастаўляецца тагачаснай змрочнай рэчаіснасці з яе неўладкаванасцю і бедамі на зямлі. Героем тут выступае не толькі ўвесь зямны народ, але і сам Бог, да якога звяртаюцца нябесныя анёлы з просьбаю дапамагчы ім прасвятляць чалавецтва, пазбаўляць яго ад розных няшчасцяў і гора: « І просяць Бога святыя анёлы, каб ён паслаў іх на зямлю служыць людзям і бараніць іх ад ліха. І пазволіў Бог анёлам сцерагчы людзей, а сам вялеў яснаму сонейку свяціць людзям, каб ад таго свету яны набіраліся розуму, таго вялікага розуму, што мацней усяго на свеце».

Акрамя біблейскіх персанажаў, у легендзе «З чаго ліха на свеце» вялікі сэнс набывае вобраз сонца — увасабленне ўсяго светлага, чыстага, свабоднага, што ёсць на зямлі. Людское жыццё, якое «бы вада цячэ ў рацэ», непасрэдна лучыцца з ростам чалавечага розуму, які параўноўваецца далей з ясным сонцам і ўспрымаецца як паступовае ўсведамленне народам неабходнасці змагацца з няроўнасцю, з сацыяльным злом і яго носьбітамі, што прыводзіць урэшце да рамантычнай мары і веры ў лепшую будучыню: «От як вырасце той ясны, бы сонейка, розум да пачне свяціць людзям у вочы, то тагды ўсе пазнаюць з чаго ліха на свеце, пазнаюць праўду, паднімуцца ў згодзе, бы адзін чалавек, прагоняць паганую нечысць і зажывуць на зямлі, бы ў раю». Вобраз сонца, які не раз выкарыстоўваўся рамантыкамі, набывае ў легендзе «Пятніца» веліч і хараство, стварае цэлую сістэму, цэлы сусвет: «Радасна яны (людзі. — **К.Л.**) сустракалі сонейка, як яно падымаецца з-за зямлі да аглядае, ці ўсё на сваём мейсцы, ці накормлена да расою напоена, ці сагрэта да памыта. Радасна ж і праваджалі яснае сонейка на супакой...».

Легенды і іншыя жанры фальклору (асабліва песні), прысвечаныя культу сонца, складаюць тэматыку твораў агульначалавечага характару. Паэтызацыя

вобраза сонца — цікавая і значная фальклорная тэма, якая знайшла шырокае адлюстраванне ў непісьмовай славеснасці. Метафарычны вобраз гэтага нябеснага свяціла зведаў нямала пераўвасабленняў у фальклоры народаў свету, у тым ліку і ў вуснай народнай творчасці беларусаў. Сонца — адзін з прыгажэйшых мастацкіх вобразаў, які ўвайшоў у сусветную літаратуру і ўвёў у яе ўсе свае шматпланавыя варыянты. Не менш актуальнай і прыцягальнай аказваецца гэтая тэма і для еўрапейскіх рамантыкаў XIX стагоддзя. Нябесныя свяцілы сонца, месяц, зоры і іншыя метафарычныя вобразы, выток і аснова якіх — народная паэтычная думка, знаходзяць працяг і далейшую інтэрпрэтацыю ў творчасці пісьменнікаў Беларусі эпохі рамантызму.

Блізкасць да рамантычнага светаўспрымання маюць і паданні, што ў значнай большасці нагадваюць рэалістычнае апавяданне. Нават параўнальна нешматлікія творы пра гістарычныя падзеі не пазбаўлены тут тых элементаў, якія сугучны ці роднасны праявам рамантызму. Вось апісанне пакарання лютага і жорсткага ўладара, яго гібелі разам са сваімі збудаваннямі ў паданні [«Пра замак Князя Слуцкага і яго замак на Князь-возеры»]: «Тады прыйшла мяжа цярпенню зямлі. У адну ноч пачалі біць шалёныя маланкі, грымець перуны, аж калацілася цвердзь, а замак і ўсё наваколле пачалі правальвацца ў воды возера. Страшныя валы пабеглі на зямлю, злізвалі хаты, лясы. Вежы замка зніклі ў пене на вачах. А трэба сказаць, што цярпенне людзей скончылася ў тую самую ноч, і яны выйшлі з хат з доўбнямі і віламі, якраз тады, калі д' яблава гняздо пачало тануць. І вось тут, убачыўшы, што цярпенню людзей прыйшоў канец, зямля злітавалася. Сціхнулі воды, і толькі муры і вежы замка канчаткова і назаўсёды зніклі пад вадой».

Роднасныя рамантызму тэндэнцыі маюць асобныя паданні пра мінулыя войны і пра нашэсце іншаземнага войска. Гэта ў першую чаргу тыя творы, якія паказваюць перамогу нашых далёкіх продкаў над знешнімі ворагамі і адначасова апавядаюць пра цудадзейны абраз Багародзіцы і іншых святых. Так, з дапамогаю цуду, сатваронага Чолнскай Маці Боскаю, «татараве ўсе аслеплі», што «сабралі сілу незлічоную і пайшлі на манастыр...» [«Пра татарскія магілы»]. Аналагічнае пакаранне, але па Божай ужо волі панеслі татары за «лютаванне» над людзьмі [«Пра татарскія курганы»]. Такімі ж рысамі чарадзейства і рамантызацыі надзелены абраз Святой Параскевы, ад якога аслеплі шведскія салдаты, што стралялі ў гэтую ікону [«Пра вайну са шведамі»]. Цудадзейства іконы лучыцца таксама з месцам населенага пункта, дзе адбылася перамога над шведамі («Асінавы гарадок»). Акрамя разгледжаных намі твораў, розныя ператварэнні і прывіды ёсць у паданнях «Пра Чорную даму», «Чорная дама ў труне», «Гара Замак», «Пявун-звон» і інш.

Спалучэнне рэальнага і ўяўна рамантызаванага можна знайсці ў паданнях тапанімічнага характару — пра паходжанне гарадоў, мястэчак, паасобных вёсак, урочышчаў, рэк, азёр, замчышчаў, гарадзішчаў і курганоў у Беларусі і іх назваў. Прывядзём некаторыя прыклады. У легендзе [«Аб паходжанні Мінска»] узнікненне гэтага горада звязваецца з імем «знакамітага волата-чараўніка па празванню Менеск, або Менскі», якога «ніхто... ніколі не бачыў, а між тым на ўсім свіслацкім наваколлі ўсе расказвалі аб яго сіле і магутнасці». У другім творы «Машэка», дзе апавядаецца пра заснаванне Магілёва, выкарыстоўваецца роднасны рамантызму прыём гіпербалізацыі незвычайнай фізічнай сілы галоўнага героя, вобраз якога трывала ўвайшоў у беларускую прафесійную славеснасць. Больш таго, у гэтым жанры фальклору, як і ў творах рамантыкаў, узнікаюць нечаканыя прывіды: «Раптам, нібы светлая хмарачка на небе, выплыла з бліскучай імглы белая здань жанчыны» («Пра Магілёў»). Арэолам таемнага і загадкавага агорнуты безыменны вобраз гераіні з падання [«Пра Тураў»]: «Імя яе (княгіні. — **К.Л.**) невядома. Вядома толькі тое, што была яна вялікая чараўніца». Часам асобныя сюжэты пра паходжанне іншых гарадоў паказваюць у рамантызаваным святле незвычайную

прыгажосць і моцнае пачуццё любові дзяўчыны-князёўны і пастуха-дудара («Адкуль Капыль»). У паданні «Пра Кажан-Гарадок, Майдан і Відушаву гару» арэолам рамантычнага і загадкавага авеяна імя славутага рымскага паэта Авідзія, які «нібыта загінуў недзе на Палессі і пахавалі яго тут». Дарэчы, да старадаўняга падання аб наведванні Палесся Авідзіем, выгнаным з Рыма, звяртаецца ў канцы XVIII стагоддзя лацінамоўны паэт Беларусі Міхаіл Карыцкі ў элегіі, прысвечанай праканцлеру Вялікага княства Літоўскага Антонію Пшэдзецкаму ў сувязі з прыбыццём апошняга ў горад Пінск. У сярэдзіне XIX стагоддзя гэтая тэма знайшла рамантыка-рэалістычнае адлюстраванне ў польскім вершы «Авідзій на Палессі» Уладзіслава Сыракомлі (Людвіка Кандратовіча).

Акрамя назваў некаторых гарадоў і вёсак, роднасныя рамантызму тэндэнцыі маюць асобныя паданні пра ўрочышчы, дзе ў параўнанні з фантастыкаю дамінуе рэалістычнае апавяданне. У дадзенай сувязі зноў успомнім знаёмы нам з чарадзейных казак і сугучны рамантычнай паэтыцы матыў уцёкаў людзей у прыроду ад сацыяльнага прыгнёту: «Цяжка жылося людзям, яны ўцякалі ад паноў у лес і хаваліся. А лес той быў — шапка валіцца. Там яны рабілі курані і жылі» («Курані»). У паданні «Легенда кахання» атмасферу рамантызацыі стварае адсутнасць дакладнага ўказання месца дзеяння: «...Дзесьці непадалёк сустрэліся юнак і дзяўчына». Увогуле гэты твор уяўляе сабою яркі ўзор любоўна-рамантычнага эпасу. Па сваёй вартасці і значэнню ён выходзіць за рамкі беларускага фальклору. У ім безыменныя закаханыя юнак і дзяўчына — гэта абагульнена фальклорныя вобразы, значнасць і каштоўнасць якіх не знікае на працягу стагоддзяў. Асобныя матывы і эпізоды згаданага падання, якія сустракаюцца з рознай ступенню інтэрпрэтацыі ў вуснай славеснасці многіх народаў свету, набылі своеасаблівую мастацкую трактоўку і больш выразнае гучанне ў сусветнай літаратуры эпохі рамантызму. Беларуская «Легенда кахання» не мае шчаслівай развязкі. Прыгажосць дзяўчыны не прыносіць шчасця-долі ні ёй, ні яе кавалеру: «Заўважыў красуню адзін мецэнат з радзівілаўскіх палацаў. І вырашыў забраць «пекную» дзяўчыну іграць у панскіх «балетах». Але гэты паварот падзей успрымаецца з боку маладых людзей даволі своеасаблівa: закаханыя не выражаюць ніякага пратэсту і не аказваюць ні найменшага супраціўлення, каб пастаяць за сябе і «застацца на ўсё жыццё разам». Асноўная ўвага сканцэнтравана ў паданні на перадачы сентыментальна-рамантычнай журбы закаханых, ад тужліва-роспачнага настрою якіх азмрочваецца навакольны свет: «Пахіліліся ў горы юнак і дзяўчына. Бязвоблачнае неба іх сонечных дзён зацягнулася чорнаю хмарай... Пра жаніцьбу нельга было і думаць. Набліжаўся дзень апошняй сустрэчы. Сэрцы, поўныя кахання, напаўняліся вялікім жалем і смуткам». Пры гэтым у эпізодзе апошняй развітальнай сустрэчы герояў перад разлукаю назаўсёды выкарыстоўваецца прыём загадкавасці як абавязковы кампанент рамантычнага стылю: «Ніхто не чуў і не ведае, колькі слоў было сказана ім (юнаком. — **К.Л.**), колькі слёз пралілося з яе (дзяўчыны. — **К.Л.**) вачэй». Больш таго, застаецца нераскрытаю «тайна» загадкавасці і тады, калі яна паказваецца праз тыповае для рамантычнага стылю спалучэнне адухоўленай прыроды з лірычнай рэфлексіяй герояў: «Толькі дуб і сасна, што раслі побач, былі сведкамі гэтай сустрэчы. Нават праняў пякучы боль чалавечых сэрцаў, апёк агонь нязведанага пачуцця. У жальбе і спачуванні людскому гору дрэвы міжволі пахінуліся адно да аднаго, перапляліся ствaламі ў цесным абдымку, нібыта шчаслівыя ад таго, што ім не пагражала пакутлівая гадзіна расстання. Так і засталіся стаяць, перашэптваючыся ў кронах, поўныя таямнічага пачуцця...».

Прырода і каханне тут складаюць адзіны мастацкі свет, у нетрах якога і нарадзілася «Легенда пра каханне». Гэтыя старажытнейшага паходжання мастацкія вобразы юнака і дзяўчыны, якія сталі неад'емным атрыбутам народнай творчасці, — у вышэйшай ступені прывабныя. Яны валодаюць асаб-

лівай устойлівасцю і бессмяротнасцю і спрадвеку спадарожнічаюць духоўнай культуры чалавецтва. Пакладзеныя ў аснову літаратурнага тыпажу, дадзеныя вобразы з кожным наступным увасабленнем набываюць новае жыццё.

Рамантычнай настраёвасцю і шчырасцю любоўнага пачуцця і трагічнага кахання хлопца і дзяўчыны вызначаюцца два аднайменныя паданні «Дуб і сасна», якія ўключаюць матыў дрэў, што вырастаюць на магілах закаханых і схіляюцца адно да аднаго. Заўважым, што гэты матыў, як мы ўбачым пазней, вельмі шырока распаўсюджаны ў беларускіх баладах фальклорнага паходжання.

Нямала таямнічага і сугучнага рамантызму маюць шматлікія паданні пра ўвайшоўшыя ў зямлю або патанулыя цэрквы, капліцы, званы, пра дзівосныя камяні, у тым ліку загадкавыя камяні-краўцы, камяні-шаўцы і г.д. Не паўтараючы шматлікіх варыяцый твораў з падобнаю тэматыкаю, мы звернемся толькі да падання «Навасадскае замчышча», якое ў свой час прыцягнула ўвагу Каруся Каганца — беларускага пісьменніка канца XIX — пачатку XX стагоддзя. Атмасферу рамантычнай незвычайнасці стварае не толькі з' яўленне па волі Божай новага селішча Навасады, якое ўзнікла насупраць былога гарадзішча і потым зусім прапала пасля страшэнных навальніц і варожай навалы. Знікненне ранейшага пасялення ставіцца ў прамую залежнасць ад нораваў і паводзін заможнай прыгожай княжны, якая канчаткова разуверылася ў сваім жыцці і рашыла свядома, па ўласнаму жаданню пакінуць белы свет: яна «загадала сваім служкам прывязаці сябе да скрыні», дзе было спакавана дарагое багацце, «і кінуць у студню дужа глыбокую і поўну вады, што ў тым гарадзішчы на двары была».

Перад самагубствам гераіні пэўны трывожны настрой выклікае начны пейзаж, які прадвяшчае чаканне нечага пагрозлівага і небяспечнага: «Над усім... западала ночка цёмная. Неба было засуплена чорнымі хмарамі, а вецер сярдзіты раз-паразу зрываўся і з шумам і свістам пралятаў над гарамі, над лясамі і над тым гарадзішчам, маўляў, штось нядобрае павяшчаў». Рамантычная постаць княгіні ў начны час паўстае ўзвышанаю і незвычайнаю. Пры гэтым, як і ў творах рамантыкаў, тут выкарыстоўваецца форма пытання-адказу, якая выдзяляе таямніча-загадкавы вобраз гераіні і адначасова прыцягвае яшчэ большую ўвагу чытача: «А хто гэта ходзіць, як не княжна, слаўная красою і багацтвамі сваімі? І ростам высока, і ліцом красна, хоць не так-то ўжо і малада. І грудзі яе поўныя высока падымаюцца, і вочы карыя аж у цемнаце свецяцца, а буйныя косы вецер па воздусе трэпле». Пэўную цікавасць мае маналог гераіні падання «Навасадскае замчышча», дзе выказваецца набліжаная да біблейскага Эклезіяста скарга княгіні на свой лёс, гаворыцца пра марнасць і тленнасць асабістага шчасця і жыцця на зямлі з усімі яго выгадамі, багаццем і прыгажосцю: «Няма ў мяне ні шчасця, ні долі, ні вернага друга, няма мне з кім дзяліцца ні сваёю красою, ні каханнем, ні багацтвам вялікім, а моладасць мая ўцякае, лічка маё бела пажаўцела, грудкі мае поўныя сталі вянуць, вочкі карыя — ліняці, буйныя косы — выпадаці, а сэрца маё стала заміраці... Няхай жа, калі так, я згіну і ўсё са мной: і думкі мае, і каханне маё, і жаданне, і краса, і багацтвы мае, бо так сіратліва жыці не пад сілу мне!».

Генетычнай асноваю для рамантызацыі рачной воднай стыхіі магло паслужыць тапанімічнае паданне «Як нарадзіліся Нёман і Лоша», дзе назвы рэк адпаведна праецыруюцца на норавы хлопца і дзяўчыны: «Нёман быў шчыры і крэпкі хлапец, а Лоша ціхая, лянівая і хітрая дзеўка». Тое ж адухаўленне Нёмана, які «на сваіх магутных грудзях насіў чоўны, ганяў плыты» ўласціва для падання «Нёман і Лоша». Праз узаемаадносіны закаханых маладых людзей вытлумачваецца паходжанне ракі Віліі («Сцяпан і Вяльяна»). Нярэдка рачная водная плынь (а часам нават і ручэй) выступае згубнаю для чалавека-плыўца (ці весляра) сілаю, што становіцца потым заклятаю ці зачараванаю ў выніку людскога чарадзейства ў знак адплаты і помсты. Асобныя паданні з рачною

тэматыкаю ўзнаўляюць у духу чарадзейных казак сюжэт пра каня і конніка [«Пра раку Вужыцу»] або паказваюць вобраз цудадзейнай залатой кароны («Сож і Дняпро»). Пэўныя рысы падабенства з асобнымі вышэйназванымі творамі маюць персаніфікаваныя вобразы рэк, што знайшлі паэтычнае ўвасабленне і рамантычную трактоўку ў баладзе «Мышанка» Яна Чачота, вершы «Думка» («Плыві, плыві ты, Дзвіна серабрыста...») — урывак з камічнай оперы «Грэх чацвёрты — гнеў» Арцёма Вярыгі-Дарэўскага, у вершы «Прыпяць» В.І.Дуніна-Марцінкевіча, у песні «Вілія» з паэмы «Конрад Валенрод» Адама Міцкевіча.

Нямала роднасных рамантызму рыс маюць тапанімічныя паданні пра азёры, паходжанне або назвы якіх звязваюцца з высокай духоўнасцю і прыгажосцю станоўчых герояў (вобразы дзяўчыны-сіраты Найрыты (Нары) і яе жаніха Андрэйкі ў паданні «Возера Нарач»). У асобных творах падобнага жанру [«Пра возера Нарач»] узнікаюць пэўныя праявы барока, калі ўнутранае душэўнае хараство гераіні лучыцца са знешняй яе непрывабнасцю і прыгажосцю кавалера (любоўныя заляцанні хлопца-прыгажуна да непрыгожай, рабой з выгляду дзяўчыны Аленкі). На такой жа кантрастнай суаднесенасці супрацьлеглых паняццяў пабудавана паданне «Паненчына бухта». Яшчэ больш шырока праявілася «азёрная» тэма ў паданнях «Пра возера Свіцязь», «Свіцязь», [«Возера Свіцязь»], [«Дзе цячэ Свіцязь, некалі было мястэчка»] і інш., дзе спалучаюцца звычайныя і ўмоўна-фантастычныя з' явы і падзеі. Да гэтай воднай стыхіі звярнуліся пазней у рамантычных баладах Ян Чачот («Свіцязь»), Тамаш Зан («Свіцязь-возера»). Асаблівай дасканаласцю і мастацкай непаўторнасцю вызначаюцца рамантычныя балады Адама Міцкевіча «Свіцязь», «Свіцязянка», «Рыбка», «Люблю я», «Лілеі», у аснову якіх пакладзены старажытныя ўяўленні беларускага народа пра азёрных німфаў-свіцязянак і іншых міфалагічных з'яў. «Балады А. Міцкевіча, — як слушна заўважае Л. К.Тарасюк, — пераносяць нас у свет народнай фантазіі, адкрываюць незвычайную прыгажосць беларускага краю... Выкарыстоўваючы ў баладзе «Свіцязь» міфалагічныя народныя ўяўленні пра азёрных німфаў-свіцязянак, А.Міцкевіч пераасэнсоўвае іх у духу рамантычнай паэтызацыі «ахвярнага патрыятызму»: гераіні балады перад пагрозай чужацкага палону аддаюць перавагу смерці, у гэтым выпадку — міфалагічнаму ператварэнню ў свіцязянак» (Тарасюк Л. К. Мастацкія кірункі і плыні ў беларускай паэзіі XIX — пачатку XX ст.: Вучэб. дапам. для студэнтаў філал. фак. — Мн.: Выд-ва БДУ, 1999. — С.10).

Канкрэтна-бытавое і ўмоўна-фантастычнае назіраецца ў фальклорных паданнях пра многія азёры, назвы якіх вызначаюцца па якой-небудзь прыкмеце («Возера Бяздонка», «Возера Бяздоннае», [«Чырвонае возера»], [«Светлае возера»], «Пра возера П'явіч», «Сіняе возера», «Заросшае возера» і інш.). У дадзенай сувязі варта нагадаць пра паданне «Рымаўшчына», дзе згаданы вобраз (ён добра замацаваўся ў пісьмовай славеснасці), набывае разнастайныя адценні ў суаднесенасці з вобразам крыніцы, якая пераўвасабляецца і становіцца «цудоўнай», «цудадзейнай», «незвычайнай», «бяздоннай», і, нарэшце, прадстаўляецца як «крыніца-вакно», дзе «жыў вадзянік» і куды «ў канцы лета з палёў і лясоў збіраліся русалкі зімаваць...».

«Тайна» загадкавасці як адно з правілаў рамантычнай паэтыкі выступае ў шэрагу паданняў пра скарбы, схаваныя ў час войнаў або пры іншых незвычайных абставінах. Гэтае багацце аказваецца недаступным для сквапных людзей, яно ахоўваецца звышнатуральнаю сілаю. Калі, напрыклад, «некалькі полацкіх хлопцаў» з падання [«Заклятая магіла волата»] вырашылі ноччу адкапаць скарб «часткі нейкага разбітага войска», то на месцы пошукаў у зямлі аказаўся нябожчык-ваяр з усімі яго баявымі даспехамі. Не ўдалося шукальнікам шчасця набыць і зброю былога ваяра: «Толькі яны намерыліся так зрабіць, як раптам бліскавіца асвятліла ўзгорак, і бачаць: стаіць агромністы асілак у жалезным панцыры і трымае востры меч над іх галовамі». Згаданы

эпізод, як і ўвесь тэкст падання, уведзены ў кантэкст апавядання Яна Баршчэўскага «Плачка», дзе пры пэўнай інтэрпрэтацыі першакрыніцы захавана ўласцівая для рамантычнага стылю «тайна» загадкавасці: «Толькі (некалькі юнакоў, што жылі ў Полацку. — **К.Л.**) хацелі зрабіць гэтак (пакінуць шкілет былога воіна, а яго зброю забраць сабе. — **К.Л.**) — аж раптам маланка асвятліла пагорак, бачаць: стаіць Волат у жалезным панцыры, трымаючы ясны меч у іх над галовамі». Своеасаблівая, адметная роля адводзіцца ў такім выпадку вобразам каня і конніка, якія па сваіх функцыях істотна адрозніваюцца ад тых жа вобразаў чарадзейных казак, паколькі застаюцца для чытача ў сакрэце і выступаюць носьбітамі таемна рамантычнага. Такі прынцып змяшчэння назіраецца ў паданні [«Схаваныя скарбы»]: «Не раз людзі нібы бачылі на Галубцы сівага старца на белым кані. Ён з'яўляўся на яго вяршыні і знікаў, як толькі набліжаліся да яго людзі. То з'яўлялася пара вялізных дзіўных коней. Верылі, што гэта яны вартуюць схаваныя ў магіле скарбы». Больш таго, у паданні «Пра закляты скарб» апошні нават атаясамліваецца з постаццю незвычайнага скакуна: «Тут (на невялікім узвышшы. — **К.Л.**) час ад часу старажылы бачаць блакітнага каня, які гарцуе і пры набліжэнні да яго ўцякае і праваьваецца ў зямлю. Гэта ёсць закляты скарб, які нікому ніколі не даецца ў рукі».

На падставе ўпершыню праведзенага намі даследавання ў ракурсе ўзнятай праблемы можна зрабіць агульную выснову, што беларускія народныя легенды і паданні, нягледзячы на свае рэалістычныя рысы, генетычна ў многім роднасныя або блізкія рамантычнаму светаўспрыманню. Пісьменнікі-рамантыкі шырока выкарыстоўвалі і творча пераасэнсоўвалі не толькі тэмы, матывы і вобразы, але і пераймалі мастацкія прыёмы і сродкі як народных казак, так і легенд і паданняў. Усё гэта яшчэ раз красамоўна сведчыць пра тое, што беларуская фальклорная проза ў значнай ступені паслужыла жыватворнаю крыніцаю і генетычнаю асноваю для з'яўлення рамантызму на Беларусі ў XIX стагоддзі.

## II. ФАЛЬКЛОРНАЯ БАЛАДА

У плане выяўлення фальклорных вытокаў і генезісу беларускага рамантызму XIX стагоддзя адно з важных месцаў займаюць народныя балады, якія з'яўляюцца складальнаю часткаю нацыянальнай асновы непісьмовай славеснасці беларусаў. Значную ролю ў гэтым накірунку адыгралі балады міфалагічныя, казачныя, легендарныя і навелістычныя. Першая разнавіднасць вершаваных твораў названага намі баладнага жанру змяшчае шмат роднасных рамантызму пераўвасабленняў вобраза дачкі, што жадае стаць або становіцца птушкаю, звычайна шэрай зязюляю. У яе ролі выступае як правіла маладая жанчына, якую дзяўчынаю выдалі вельмі далёка замуж яе бацькі і якая з вялікай роспачы і суму толькі і марыць аб тым, каб наведацца ў свой родны дом («Дачка-птушка»). Аднак рамантызацыю тут ствараюць не так летуценні гераіні, як яе тыя намеры, якія яна будзе пры гэтым ажыццяўляць: «— А я з таго жалю-плачу // Ў лугі палячу, // Ды як стану кукаваці, // Татку засмучу, // Ды як стану бедаваці, // Лясы пасушу, // Ды як стану горка плакаць, // Лугі затаплю!» Жаданне маладой замужняй жанчыны стаць зязюляю скіравана і да роднай маці: «Абярнуся зязюляй, буду кукаваць, Буду роднай матулі жалю задаваць».

У баладных вершах з міфалагічнымі матывамі сустракаюцца больш ускладненыя ператварэнні людзей у жывыя і нежывыя істоты. Так, у адным з варыянтаў балады «Дзяцюк стаў цернем, дзеўка — калінаю» ператвораныя ў птушак хлопец і дзяўчына параўноўваюцца з нябеснымі свяцiламі: «...Ён зрабіўся сокалам, я — арліцаю. А ўзляцеўшы сокалам, я — арліцаю, Ён зра-

біўся месяцам, я — зарніцаю». У беларускай народнай баладзе, як і ў фальклоры многіх народаў свету, набліжанасцю да рамантычнага паказу вызначаецца такая сітуацыя, калі ў знак моцнай і неразлучнай любові нябожчыкаў (звычайна хлопца і дзяўчыны) на іх магілах вырастаюць і сашчапляюцца дуб з бярозаю або зрастаюцца разам вяршочкі зялёнага явару і белай бярозы. Гэты гімн вернасці ў каханні праз алегарычныя вобразы дрэў знайшоў адлюстраванне ў рамантычнай баладзе «Дзве бярозы» Яна Баршчэўскага, у творчасці іншых паэтаў-рамантыкаў. Становяцца «дубочкамі, бярозкамі» і нават «белым камянём» героі народнай балады «Заклятае вяселле». У дадатак да таго хлопец, дзяўчына ці нявестка могуць стаць вярбою. Пра іншыя ператварэнні згадваюць назвы баладных вершаў «Дзяўчына абярнулася краскаю», «Сястра стала яблынькаю» і т.п. А, напрыклад, тапельніца з балады «Ціхоня» «пасярод мора выплыла, Чырвонай ружай расцвіла».

Уласцівая рамантычнай паэтыцы цесная лучнасць чалавека і прыроды знайшла арыгінальнае выражэнне ў фальклорнай баладзе «Сястра ўтапілася», дзе праз вобраз тапельніцы выказваецца яе адзінства з навакольнаю нежывою прыродаю:

— Не сячы, мой татухна, пры дарожцы бярозку,
Не касі, мой брацетка, на лужочку травіцу,
Не шчыпай, мая сястрыца, у садочку цвяточкі,
Не бяры, мая матухна, у крыніцы вадзіцы.
Пры дарожцы бярозка — я сама маладзенька,
А ў лужочку травіца — мая руса касіца,
У садочку цвяточкі — мае ясныя вочкі.
У крыніцы вадзіца — мае дробныя слёзкі.

Велічнасць рамантызаванай прыроды ў іншых творах такога роду мяжуе з казачнай усемагутнасцю чалавека, які можа здзяйсняць неверагодныя цуды («Дзяцюк стаў цернем, дзеўка — калінаю»).

Рамантычныя матывы і вобразы маюць казачныя і легендарныя балады, да якіх належаць у беларускім фальклоры нешматлікія творы. Балады-казкі не пазбаўлены гіпербалізацыі, звышнатуральнага і фантастычнага. У іх, як і ў творах рамантыкаў, адухаўляецца і персаніфікуецца гора («Гора, ліхая доля»), смерць («Смерць — памочніца нявесткі», «Смерць — памочніца мужа»), назіраецца тая ж антрапафарфізацыя з'яў прыроды і яе персаніфікацыя ў вобразе буйных вятроў («Вятры — памочнікі жонкі»). Роднасныя рамантызму тэндэнцыі маюць беларускія народныя балады-легенды, дзе звышнатуральнае і цудоўнае спалучае ў большасці выпадкаў перароблены біблейскія матывы. Так, шматсюжэтная легендарная балада «Юр'я і цмок», якая, па ўсёй верагоднасці, з'яўляецца апрацоўкаю шырока вядомага ў славянскім свеце сюжэта пра святога Георгія Перамоганосца, расказвае ў розных варыяцыях пра героя-збавіцеля, які або дапамагае людзям зlavіць і знішчыць лютага цмока-змея, або сам вярхом на кані забівае кап'ём гэтае страшыдла і выратоўвае народ ад немінучай гібелі. У дадзенай сувязі варта нагадаць добра вядомае на ўсходнеславянскіх землях, у тым ліку і на Беларусі «Слова пахвальнае Георгію», якое напісаў у свой час Грыгорый Цамблак — балгарскі і старажытнарускі пісьменнік, царкоўны дзеяч.

Для пошукаў фальклорных вытокаў і генезісу беларускага рамантызму спрыяе багаты і разнастайны матэрыял, які змяшчаюць народныя навелістычныя балады. Яны, як і чарадзейныя казкі, не ў меншай ступені багатыя вобразамі каня і конніка, што ўвабралі ў сябе нямала роднасных рамантызму рыс. У навелістычнай баладзе «Ратай і жаўнер» з вобразам чатырохногага скакуна непасрэдна лучыцца постаць параненага воіна, якога недзе далёка аплаквае родная маці. Пры гэтым уласцівую для рамантызму незвычайнасць абстаноўкі і яе гіпербалізацыю дапаўняе тут сімвалічная шабля — адзін з важнейшых атрыбутаў воіна. Вобраз баладна-казачнага скакуна можа выступаць і ў

ролі вестуна жонкі забітага на вайне казака («Конь — звястун смерці»). Ён застаецца верным свайму гаспадару пасля яго трагічнай смерці і нават «апраўдваецца» ў сваёй невінаватасці. Пры гэтым захоўваецца атмасфера рамантычнай незвычайнасці.

У беларускай навелістычнай баладзе фальклорнага паходжання з дапамогаю гіпербалізацыі зараджаецца і назіраецца касмічнае бачанне свету, якое стане адметнаю і вызначальнай рысаю творчасці многіх рамантыкаў. Так, у баладным вершы «Вестка пра смерць казака» вестуны — «гусі із Русі» не толькі «скрыдламі сваімі весь двор укрылі», але і «Сваімі вочкамі цэлы свет асвяцілі». Паводле нашых назіранняў, у беларускім фальклоры, у тым ліку і ў навелістычнай баладзе многія падзеі, матывы і вобразы звязваюцца з воднаю стыхіяй. Гэтая прыродная з'ява найчасцей выступае тут у вобразах ракі (апошняя звычайна называецца Дунаем) і мора, якое, як і папярэдні водны аб'ект, даволі часта атаясамліваецца са зменлівасцю складанага і супярэчлівага свету, з цякучасцю і пераходнасцю нялёгкага жыцця чалавека, які прадстаўляецца ў вобразе весляра, што плыве ў чоўне ці лодцы, а то нават і на караблі. У адным з вершаў Францішка Багушэвіча гэтая суаднесенасць і метафарызацыя даволі выразная і па-мастацку паэтычна аформленая:

ïycie zw№ podryïa na w№tiej iodzi,
A њmierж zw№ przystani№ po cikïkim trudzie:
Ludziom o rozkosze bez trudu chodzi,
Wikc sobie i marz№ o niej ci ludzie…[1]

Наогул, вобразы весляра, плыўца, чоўна ці лодкі, якія нярэдка асацыіраваліся з чалавечым лёсам, былі даволі ёмістымі метафарамі ў рамантычнай паэзіі амаль усіх літаратур свету. Ключавую пазіцыю ў гэтай сістэме займае метафарызацыя шляху праз жыццё ў вобразе чоўна ў бурлівым моры. У ходзе працэсу шматлікіх адаптацый дадзеная тэма выглядае рамантычнай умоўнасцю ў рускамоўным марыністычным вершы «Пловец плыл по морю на утлом челне» Адама Гурыновіча.

Вобраз чоўна, які вельмі распаўсюджаны ў сусветнай рамантычнай паэзіі, набывае ў беларускай народнай баладзе ў залежнасці ад кантэксту самыя разнастайныя сэнсавыя адценні і варыяцыі. «Човен», — паводле слоў В. А. Каваленкі, — мастацкі вобраз, раўнапраўны, лірычнаму вобразу «карабля», які часта азначаў у сусветнай паэзіі проста рух, імкненне...».

У беларускай народнай баладзе і іншых жанрах вершаванага фальклору вобраз весляра нярэдка ўвасабляе постаць маладога хлопца, які заляцаецца да дзяўчыны і запрашае яе сесці ў свой чаўнок, што азначае, каб тая згадзілася быць сталаю або часовай спадарожніцаю на жыццёвым шляху дзецюка. Пра тое, што такая згода не заўсёды ўзаемная, відаць па назве балады «Дзяўчына гіне, але не згаджаецца на замужжа з нялюбым». Падобны фальклорны матыў заляцання дзецюка да дзяўчыны ў форме прапановы сесці ў лодку, што ў сапраўднасці азначае стаць спадарожніцаю ў жыцці хлопца, мае месца ў арыгінальным вершы «Jydka» польскамоўнага паэта Юліуша Мучлера, які паходзіў з Беларусі. Праўда, тут сітуацыя крыху іншая, бо перададзены толькі зварот жаніха да сваёй каханай, вобраз якой даволі прывабны і рамантызаваны.

Як і ў творах рамантыкаў з падобнай тэматыкаю, так і ў вершы «Лодка» Юліуш Мучлер нагадвае, што душэўныя парыванні чалавека не абыходзяцца без жыццёвых выпрабаванняў і цяжкасцей, бо «dla ludzi, co z dusz№ swobodn№. stworzony ocean bez granic, Szalone wiry, groźne nawalnice…» Апаэты-

---

1 Цыт. па артыкуле А н т о н а Л у ц к е в і ч а «Жыцьцё і творчасьць» Фр. Багушэвіча ў успамінах ягоных сучасьнікаў // Запісы беларускага навуковага таварыства. Сшыток 1. Вільня 1938. — С. 23.

заваныя глыбіні гэтага бязмежнага жыццёвага акіяна служаць своеасаблівым экскурсам у далёкае мінулае, якое пададзена праз прызму рамантычнага светаўспрымання.

Нараўне з гіпербалізацыяй душэўнага стану гераіні, які надае розныя адценні яе настрою («А жана ж сядзіць, а жана ж сядзіць, Як і хмарны дзень. А ў яе слёзы, а ў яе слёзы, Як і сільны дробны дождж» «чавён» можа ўзбуйняцца да памераў карабля: «А караб бягіць, а караб бягіць, Як ясен сакол ляціць. А грабцы грабуць, а грабцы грабуць, Песенькі пяюць». Спадарожніца і карабель, які вядуць весляры — «белыя малайцы», набываюць праз успрыманне лірычнага героя новыя адзнакі рамантызацыі («Муж пазбаўляецца ад жонкі-няўдаліцы — І»).

Аналагічны мастацкі прыём мы назіраем у баладзе «Муж пазбаўляецца ад жонкі-няўдаліцы — II», якая зместам і займальнасцю сюжэта вельмі блізкая да папярэдняга твора. Яе герой вырашае нялюбую жонку ўсадзіць у «маляваненькі чаўнец», аднак выказвае пажаданне плысці ўжо не чоўну, а караблю. Уласцівая рамантызму ўзбуйненасць вобразаў набывае ў іншых варыянтах той жа балады новыя аспекты пры абмалёўцы постаці нялюбай жонкі, што адпраўлена ў чоўне ў свет: яна суадносіцца то з зоркаю («Ці высока, ці высока Ясна зорачка ўзышла?», то з сонцам («Ці высока, ці высока Ясна слоненька ўзышло?».

Іншыя навелістычныя балады з падобнай тэматыкаю своеасабліва раскрываюць сімваліка-алегарычныя рамантызаваныя вобразы не толькі чоўна ці лодкі, але і вясла: «І куплю я, маладзец, Маляваны чаланец, Маляваны чаланец, Пазлачонае вясло, Пазлачонае вясло, Штоб у мора ўнясло». У далейшым пастава вобраза жанчыны-няўдаліцы і выгнанніцы, якая плыве на караблі па сінім моры, набывае новыя якасці, ды і сама яна цяпер не адна, а са сваім незвычайным дзіцем: «Што жана сядзіць, як свяча гарыць, А дзяцінаечка, як жарыначка, Не яно плача, а воран крача». Раскрываючы пасля вобраз вымушанай марской падарожніцы праз маналог яе мужа, творца народнай балады ўдала выкарыстоўвае прыём кантрасту супрацьлеглых паняццяў, блізкага спалучэння прывабнага і непрывабнага, якое не адасоблена ад прысутнасці сусвету, ад велічнага жыццёвага «мора», што з'яўляецца адной з прыкмет рамантычнай паэтыкі.

Не менш важная і арыгінальная функцыя мастацкай вобразнасці назіраецца ў шматсюжэтнай баладзе «Чарнаморац патанае», дзе заўважаецца крыху іншая ідэйна-эстэтычная накіраванасць вобразаў плыўца і воднай стыхіі. Дзеянне тут адбываецца ў незвычайнай абстаноўцы, якая, як і ў рамантычнай паэзіі, нярэдка ствараецца, не толькі паставаю герояў, але і з дапамогаю цесна ўзаемазвязаных вобразаў акна і сонца. Пра гэта мы даведваемся з маналогаў самой дзяўчыны, якая жадае бачыць свайго любага хлопца, які часам выступае і ў асобе чарнаброўца. Човен і вясло, якія прагне займець маладая гераіня, каб ратаваць тапельца-чарнаморца, зразумела, ужываюцца і выкарыстоўваюцца тут у пераносным значэнні як праекцыя на рэальнае выражэнне інтымных пачуццяў дзяўчыны да каханага хлопца, які зведвае жыццёвыя беды і няшчасці, а магчыма, што і не адказвае ўзаемнасцю на любоўныя заляцанні.

Рамантычна ўзвышанае пачуццё любові ў беларускай фальклорнай баладзе не заўсёды паддаецца раскрыццю і вытлумачваецца як вынік магічнага ўздзеяння дзяўчыны на хлопца. «Усемагутная сіла кахання для творцаў народнай лірыкі, — слушна заўважае прафесар І. К. Цішчанка, — падчас станавілася неразгаданай таямніцаю, і можа таму так багата складзена твораў пра дзявочыя чары». У шматлікіх варыяцыях аднайменнай навелістычнай балады «Дзяўчына чаруе хлопца» прываражанымі аказваюцца вольны казак, пісар, пан, а то і проста малойчык. Цікава, што прычараваныя дзяўчынаю ге-

роі былі вольнымі людзьмі і звычайна знаходзіліся на моры (зразумела, у дадзеным выпадку жыццёвым), якое можа атаясамлівацца з возерам і праецыравацца на лясны ландшафт сушы: «А на моры, на моры, на цёмненькім азёры, // Дуброўка, ты дуброўка, зялёная мая!»

Паказальнай і ўдзячнай для пошукаў і вызначэння фальклорных вытокаў і генезісу беларускага рамантызму XIX стагоддзя з'яўляецца народная навелістычная балада «Рыцар і Лявутанька», якая даўно бытуе ў беларускай народнай паэзіі ў трох варыянтах і мае вельмі старажытнае паходжанне. Яе некаторыя эпізоды, запазычаныя яшчэ з антычнай літаратуры, часткова пераклікаюцца з міфам пра Геро і Леандра, які ў свой час апрацавалі старажытнарымскі паэт Авідзій і грэчаскі паэт V стагоддзя Мусей. Ад іх пераробак і ад прагрэчаскай першакрыніцы паходзіць пазнейшы еўрапейскі варыянт дадзенага народнага твора. Як заўважыла Л.М. Салавей у сваёй прадмове да першай часткі кнігі тэкстаў беларускіх народных балад, «прыгожы міф старажытных грэкаў пра Геро і Леандра (Леандр, кіруючыся на свет факела каханай, штоноч пераплываў праліў Гелеспонт і загінуў у хвалях, калі непагода пагасіла факел) на беларускай глебе ператварыўся ў прыгожую баладу пра каралеўну Лявутаньку і закаханага рыцара, якіх загубіла зайздрасць ключніцы (яна пагасіла свечку, што паказвала рыцару, дзе пераплываць раку). Гэтая старажытнагрэчаская міфалагічная тэма, рамантычная ў сваёй аснове, мае розныя адступленні ад першакрыніцы і варыянты яе інтэрпрэтацыі. Яна неаднаразова апрацоўвалася ў фальклоры многіх народаў свету і асабліва ў еўрапейскай літаратуры. Заўважым, што асобныя матывы фальклорна-рамантычнай балады «Рыцар і Лявутанька», у прыватнасці, здарэнне, якое звязваецца з воднаю перашкодаю, даволі часта сустракаецца ў беларускай вусна-паэтычнай творчасці. Рамантычнае каханне і зменлівасць лёсу, што лучацца з вадою, якая раздзяляе сушу і закаханых, паўтараюць шматлікія варыянты іншых балад, а таксама некаторыя казкі, паданні і песні многіх народаў свету.

Тэматыка беларускай народнай балады «Рыцар і Лявутанька» і пастаўленыя ў ёй праблемы часткова пераклікаюцца з праблемамі грэчаскага міфа. Апрацаваныя яго варыянты мы сустракаем у антычнай і еўрапейскай літаратуры. Тэма самаахвярнага кахання аказалася вельмі блізкаю духоўнаму свету паэтаў-рамантыкаў і стала асабліва прывабнаю для іх. Менавіта таму міф пра Геро і Леандра (нярэдка ў трансфармаваным выглядзе) аказваецца ў цэнтры ўвагі пісьменнікаў рамантычнага кірунку. У эпоху рамантызму па яго матывах Джордж Байран стварыў паэму «Абідоская нявестка», Ф.Шылер — баладу «Геро і Леандр», Грылькарцэр «Хва́лі мора і кахання».

Беларуская народная балада «Рыцар і Лявутанька» хоць і не паўтарае ўсіх дэталяў і сітуацый грэчаскага міфа пра Геро і Леандра, аднак у некаторай ступені сугучна яму. Яна мае некалькі сведчанняў прысутнасці міфа і адпаведна ўказвае на яго старажытнасць. Па звестках, якія захаваліся ў баладзе «Рыцар і Лявутанька», было б цяжка вызначыць прыроду і характар міфа, калі б не яго паралелі ў сусветным фальклоры і літаратуры. Дзякуючы гэтым паралелям становіцца магчымым растлумачыць ідэйна-эстэтычную і рамантычную сутнасць гэтага варыянта беларускай балады. Падобна грэчаскай дзяўчыне Геро, гераіня беларускай народнай балады Лявутанька запальвае свечкі, каб у апраметнай начной цемры ўказаць шлях, па якому будзе плысці да яе лю́бы рыцар.

Двайнік Леандра — рыцар у беларускай баладзе пры пераправе цераз рэчку таксама загінуў, але не па прычыне патушанага непагодаю агню-ўказальніка, а па віне зайздроснай ключніцы — вядомай «усяму свету разбойніцы», якая знарок пагасіла запаленыя дзяўчынаю свечкі, ад чаго малады рыцар, страціўшы ў начной цемры арыенцір на вадзе, утапіўся. Праўда, у трэцім варыянце гэтага беларускага твора прычына трагічнай смерці рыцара

(тут ахвіцэра) тая ж, што і каханага старажытнагрэчаскага міфа: героі гінуць толькі ад непагоды, а іншыя пабочныя фактары іх смерці, звязаныя з наўмысна патушаным святлом, у дадзеным выпадку адсутнічаюць. Між тым, калі Геро ў вялікай роспачы кідаецца ў мора і там гіне, то Лявутанька памірае на марскім беразе ад моцнага душэўнага ўзрушэння.

Беларуская народная балада «Рыцар і Лявутанька», а дакладней, яе першыя два варыянты заканчваюцца тым, што на магілах закаханых вырастаюць дрэвы (явар і бяроза, явар і вішанька), якія схіляюцца адно да аднаго і сімвалізуюць вечны саюз нябожчыкаў у замагільным свеце. Паводле сведчання Л. М. Салавей, гэты матыў вядомы ў фальклоры народаў ледзь не ўсяго еўраазіяцкага кантынента. У беларускай народнай баладзе «Рыцар і Лявутанька» адлюстравана вечнае яднанне і трагічнае супрацьпастаўленне стыхіі і духу чалавечага і ў той жа час апаэтызавана найвялікшая сіла і моц непагаснай чалавечай любові. Маладыя закаханыя пасля трагічнай смерці разам з прыродаю прылучаюцца да вечнага яднання. Трагічная любоўная гісторыя герояў старажытнагрэчаскага міфа «Геро і Леандр», што пранік у беларускі фальклор праз антычную літаратуру ў асобе Авідзія і Мусея, — гэта тэма, якая зацікавіла і натхніла многіх рамантыкаў свету. Існаванне беларускага варыянта балады, які мае агульначалавечае значэнне, сведчыць пра багацце рамантычных элементаў у беларускім паэтычным фальклоры.

У беларускай літаратуры XIX стагоддзя разгледжаны намі сюжэт выразна не праявіўся, але асобныя яго рэмінісцэнцыі заўважаюцца ў эпізодах, калі закаханых раздзяляе водная перашкода (як правіла, рака), і кавалер перапраўляецца цераз яе да любай дзяўчыны ў чоўне пад час буры (паэма «Мачыха» Адэлі з Устроні). Рамантызацыя кахання, звязанага з вадою, усталёўваецца і ў лірыцы некаторых польскамоўных паэтаў Беларусі эпохі рамантызму. Як можна здагадацца з сюжэтнай калізіі сялянкі «Ïal» («Смутак») Ігната Кулакоўскага, ахвяраю воднай стыхіі аказаўся дзяцюк-кавалер па імені Філон: ён утапіўся ў рацэ Буг, па ўсёй верагоднасці, з вялікай роспачы і душэўнага адчаю ў сувязі з гібеллю пры загадкавых акалічнасцях сваёй любай дзяўчыны.

Рамантычнае выражэнне знайшла аналагічная тэматыка і ў беларускай польскамоўнай паэзіі песеннага складу, пра што сведчыць элегічны верш-песня Валяр'яна Грымалоўскага «Dumka nade Dųwin№» («Роздум над Дзвіною»). У ім выразна праступае фальклорны сюжэт пра закаханага хлопца, які прагне перабрацца на супрацьлеглы бераг ракі да мілай дзяўчыны-пастушкі. Маналог лірычнага героя і яго зварот да воднай рачной перашкоды, што раздзяляе маладых людзей, складае аснову ўсяго твора.

У беларускай народнай баладзе, як і ў творах рамантыкаў таго ж жанру, нярэдка выкарыстоўваецца адзін з традыцыйных і даволі шырока распаўсюджаных матываў еўрапейскай і сусветнай балады — матыў віны і пакарання. Ён ахоплівае многія сферы антычалавечых учынкаў і згубнай маралі ў паводзінах людзей. У баладных вершах з любоўнай тэматыкай матыў віны і кары (расплаты) узнікае і адбываецца на глебе няшчырых адносін хлопца да дзяўчыны, якая помсціць свайму кавалеру за здрадлівае каханне («Дзяўчына загубіла зводніка-казака»). Разгульнае жыццё маладога кавалера, легкадумныя заляцанні да многіх дзяўчат робяць яго ахвяраю дзяўчыны-зводніцы, што валодае чарамі («Дзяўчына атручвае хлопца за нявернае каханне»). І тады зноў узнікаюць элементы цудадзейнага, сугучныя ці блізкія праявам рамантычнага стылю. Калі ж гаварыць пра шматлікія варыяцыі аднайменнай балады «Маці атручвае сына і нявестку», то ў ёй адсутнічае матыў кары, затое даволі выразна значыцца пакаянне віноўніцы жудаснага злачынства, якая сваім чарадзействам звяла са свету маладую сям'ю. Заўчасна загубленыя муж і жонка пераўвасабляюцца ў вобразы адухоўленых дрэў, што вырастаюць на магілах нябожчыкаў і размаўляюць паміж сабою.

Прааналізаваны намі матэрыял паказвае, што беларуская народная балада як жанр аказалася цалкам сугучнай ідэйна-эстэтычным прынцыпам рамантызму ў эпоху яго станаўлення і развіцця на Беларусі. Сказанае пацвярджаюць шматлікія пераўвасабленні вобразаў герояў, іх гіпербалізацыя і ідэалізацыя. Набліжанасцю да рамантычнага стылю вызначаецца ў беларускай фальклорнай баладзе тэма лёсу чалавека, аналогія яго жыццёвага шляху з падарожжам па воднай прасторы, матыў віны і пакарання, узаемасувязь чалавека і прыроды, паказ звышнатуральнага і фантастычнага. Тыпалагічна роднасныя рамантызму ў беларускай народнай баладзе некаторыя рысы барока з іх парадаксальнай несумяшчальнасцю пры паказе чалавечых узаемаадносін і з'яў.

Напрыканцы адзначым, што фальклорныя вытокі беларускага рамантызму XIX стагоддзя, яго глыбокія генетычныя карані не могуць быць належным чынам вызначаны без народнай лірыкі песеннага складу, і таму гэтая праблема патрабуе далейшага вырашэння і новага даследавання.



▸ АЛЕСЬ КАЎРУС

# КАЛІ ІСЦІ АД СВАЙГО

## ПРА ЎЖЫВАННЕ ДЗЕЕПРЫМЕТНІКАЎ

Назіраецца парадаксальная сітуацыя. З аднаго боку, стала амаль аксіёмай: дзеепрыметнікі з суфіксамі *-уч-, -юч-, -ач-, -яч-, -ўш-, -ем-, -ім-* беларускай мове не характэрныя. З другога боку, падручнікі і дапаможнікі, якія традыцыйна пішуцца паводле рускіх узораў, падаюць звесткі пра названыя формы дзеяслова і прадугледжваюць сістэму заданняў для іх засваення вучнямі і студэнтамі. Затрачваецца шмат намаганняў, каб вучыць таму, што ці не большай часткай беларускіх філолагаў і пісьменнікаў прызнаецца непажаданым.

Зразумець такое становішча павінен дапамагчы невялікі экскурс у гісторыю беларускай мовы.

Сучасная беларуская літаратурная мова пачала складвацца ў XIX стагоддзі. Асаблівасцю гэтага працэсу было тое, што «новая беларуская мова амаль не мела традыцый пераемнасці з пісьмовай старабеларускай мовай — мовай беларускай народнасці — і складвалася на народна-гутарковай аснове» (А. Лукашанец). Найбольш інтэнсіўна станаўленне адзінай беларускай літаратурнай мовы ішло на пачатку XX стагоддзя.

Як вядома, жывой народнай мове не ўласцівыя формы дзеепрыметнікаў, адзначаныя вышэй. Яны знайшлі пэўнае пашырэнне ў беларускіх літаратурных тэкстах пад уплывам рускай мовы, якая займала на Беларусі ў XIX—XX стагоддзях моцныя пазіцыі.

У XIX — пачатку XX стагоддзя будучыя беларускія пісьменнікі, вучоныя набывалі адукацыю галоўным чынам у рускіх школах і універсітэтах — адразу згадваюцца Янка Купала, Якуб Колас, Я. Лёсік, М. Грамыка, браты Гарэцкія. Як сведчыць В. Ластоўскі, «кожды наш інтэлігент вучыўся расійскай мовы ў школах, а сваю найчасцей знае толькі з наслыху».

Гэтая акалічнасць не магла не адбіцца на мастацкай, публіцыстычнай і навуковай мове беларускіх аўтараў і выданняў. Напрыклад, В. Ластоўскі пры ўсёй яго нацыянальнай арыентаванасці ў поглядах і творчай дзейнасці ўжываў у сваіх беларускіх тэкстах дзеепрыметнікі, што выходзяць за межы сучасных літаратурных нормаў: *...назбіралася нямала выпісак,* ***абвінавачваючых панаваўшы*** *стан;* ***усёабдымаючая, усёдаруючая*** *любоў; бачылі жыхароў Багоцка,* ***тоўпячыхся*** *перад цэрквамі; суняць* ***завязаўшуюся*** *бойку.*

Праблемы культуры мовы набылі асаблівую актуальнасць у 20-я гады XX стагоддзя, калі пачалося бурнае развіццё не толькі мастацкай літаратуры, але і нацыянальнай адукацыі, навукі, калі ўзнікла рэальная патрэба ў распрацоўцы тэрміналогіі з розных сфераў жыццядзейнасці грамадства.

Ужо тады некаторыя формы дзеепрыметнікаў (з суфіксамі *-уч-, -юч-, -ач-, -яч-, -ем-, -ім-*) асэнсоўваліся беларускімі навукоўцамі і пісьменнікамі як нехарактэрныя для беларускай мовы, што знайшло адлюстраванне ў рыхтаваных выпусках-слоўніках «Беларускае навуковае тэрміналогіі»: адзначаныя формы дзеяслова там пазбягаюцца, замест іх даюцца натуральныя беларускія адпаведнікі. Такі падыход — і ў перакладным «Расійска-беларускім слоўніку» (Мн., 1928) С. Некрашэвіча і М.Байкова. Прывядзем з яго некалькі артыкулаў.

**Предлагаемый** — прапанаваны. **Предполагаемый** — дапушчальны. **Презирающий** — пагарджальны, зьневажальны. **Преломляемость, -мый** — пераломлівасць, -вы. **Препровождаемый** — дасыланы, які дасылаецца. **Пресмыкающийся** — плазаваты; как сущ. — гад; **-щиеся** (зоол.) — гады (з.т.). **Проходящий** — мінучы, мімаходны. **Приводящий** (мускул) — прыводны. **Применяемый** — ужывальны, дапасавальны.

У розны час голас на абарону спецыфікі беларускай мовы, у прыватнасці ў абсягу дзеепрыметнікаў, падавалі пісьменнікі — Кузьма Чорны, М. Гарэцкі, Якуб Колас, П. Глебка, А. Клышка і іншыя.

Уяўляе навуковую і практычную цікавасць адлюстраванне праблемы дзеепрыметніка ў беларускім правапісе, рэфармаваным у 1933 годзе.

Безумоўна, «наркамаўка» ў сваёй сутнасці заслугоўвае тых негатыўных ацэнак, якіх шмат было, асабліва ў два апошнія дзесяцігоддзі. Прызнаюся, і ў маёй даўняй публікацыі (Звязда. 1.09.1965) адносна яе ўжыты выраз «гвалт над рэформай». Але ж адмоўнае не павінна засланяць нам вочы і на тое пазітыўнае, што прапаноўвалася зменемым правапісам. Так, кадыфікаваліся як асноўныя канчаткі назоўнікаў творнага склону адзіночнага ліку тыпу *гразёй (ю), сенажацяй(ю), плыняй(ю)* і канчаткі назоўнікаў роднага склону множнага ліку *ночаў, арцеляў, народнасцяў, дробязяў.* Чаму ўзаконеныя правілы паслядоўна не рэалізоўваліся ў моўнай практыцы — гэта ўжо іншае пытанне.

Дык вось пра дзеепрыметнікі. У Пастанове СНК БССР «Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу» (1933 г.) ім прысвечаны пункт 23: «Увесці ў беларускі правапіс дзеепрыметнікі незалежнага стану, асабліва калі яны абазначаюць сацыяльны сэнс, напрыклад: *пануючы клас,* а не *пануючая класа,* ці *класа, якая пануе».* У падрыхтаванае на гэтай аснове правіла 75 (гл. «Правапіс беларускай мовы», Мн., 1934) улучаліся і дзеепрыметнікі залежнага стану. Звернем увагу на заключную частку правіла: «Формы дзеепрыметнікаў (катэгорый а, б, в) ужываюцца ў тых выпадках, калі яны набылі сацыяльны сэнс, як азначэнні грамадска-палітычных з'яў (*існуючы парадак, пануючы клас, 3-ці рашаючы, 4-ты завяршаючы, меншавіцтвуючы ідэалізм, эксплуатуемы клас, авансуемы капітал*); ва ўсіх іншых выпадках ужываюцца апісальныя звароты: замест *чытаючы таварыш — таварыш, які чытае,* замест *стаячая дзяўчына — дзяўчына, якая стаіць».*

З прыведзеных у правіле прыкладаў відаць, што тут дзеепрыметнікі выступаюць у структуры тэрмінаў як прыметнікі. Што ж да ўласна дзеепрыметнікаў паказаных формаў, то іх ужыванне правапісам 1933 года фактычна не дапускалася.

Такім чынам, замена неўласцівых формаў дзеепрыметніка апісальнымі зваротамі, якая прапаноўваецца сучаснымі руска-беларускімі слоўнікамі і амаль паслядоўна выкарыстоўваецца ў літаратурнай моўнай практыцы, працягвае традыцыі, што склаліся ў XX стагоддзі.

А калі спусціцца глыбей у мінуўшчыну, то даведаемся, што ў перакладным тэксце XVI стагоддзя царкоўнаславянскія дзеепрыметнікі перадаюцца і апісальнымі зваротамі старой беларускай мовы, напрыклад: вси живȣщеи на неи — вси иже живȣть на неи.[1]

Часам выказваецца думка, што без дзеепрыметнікаў з суфіксамі *-уч-, -юч-, -ач-, -яч-, -ем-, -ім-* нельга абысціся. На процівагу такому сцверджанню згадваецца моўная пазіцыя Кузьмы Чорнага, які наконт дзеепрыметнікаў у словазлучэннях ***варкуючых** за вакном галубоў, весела **сінеючае** неба* пісаў: «А я вось са сваёй мовы выкараняю гэтакія формы і магу без іх выказаць беларускаю моваю, што хачу».

Прызнаныя майстры слова І. Мележ, В. Быкаў, В. Адамчык, І. Пташнікаў, Р. Барадулін ды іншыя не ўжываюць, як правіла, такіх формаў (апошнія не выяўлены, напрыклад, у аповесці «Сотнікаў», у рамане «Людзі на балоце»). Але ж ці дае гэта падставу засумнявацца хоць на момант у інфармацыйна-мастацкай дакладнасці і напоўненасці мовы названых пісьменнікаў?

Затое натуральна і дарэчы, у адпаведнасці з граматычным ладам беларускай мовы выкарыстоўваюцца ў тэкстах айчыннай літаратуры складаныя сказы з даданымі азначальнымі часткамі: *Глуха прайшлі год за годам, // Дні, **што ідуць,** не ўсміхаюцца...* (Я. Купала). *Свякруха і свёкар, **якія ўжо стаялі на ганку,** добра відныя ў святле, **што падала з хаты,** запелі* [загаварылі] *наперабой* (І. Мележ). *Гадоў, **што мінулі,** не скінуць з плячэй...* (С. Законнікаў).

Беларускай мове таксама здаўна вядомыя азначальныя сказы, якія знаходзяцца ў пазіцыі перад азначаным (паяснёным) словам. Напрыклад: [Марына Паўлаўна] *узялася за першы, **які трапіў пад руку,** клумак* (М. Зарэцкі).

Такія прэпазіцыйныя азначальныя сказы часта ўжываў В. Адамчык. Некалькі прыкладаў з рамана «Чужая бацькаўшчына».

*Дзяўчаты перабеглі глыбокі, **што ламаўся на крыгі,** снег; За Корсакавым гумном мужчыны прыпыніліся, узіраючыся ў шапаткую, **што ляжала яшчэ пры зямлі,** цемнату;* Недзе там, над нядужым, ***што напінаецца ў плузе,** канём, над босым аратым дрыжыць і нікне ў небе жаваранак.*

Параўноўваючы дзеепрыметнік з адпаведным апісальным зваротам, іншы раз выстаўляюць як перавагу першага яго здольнасць абазначаць працэсуальную прыкмету як зменную ў часе. Аднак ці не ў найбольшай меры гэтая ўласцівасць выяўляецца ў асабовых формах дзеяслова, якія ўваходзяць у склад апісальных зваротаў (даданых азначальных сказаў). Калі асабовая форма дзеяслова зусім пэўна, адназначна адносіць прыкмету прадмета паводле дзеяння да прошлага, цяперашняга ці будучага часу, то дзеепрыметнік у беларускай мове не мае такой сэнсава-граматычнай акрэсленасці сваёй формы.

Страчваючы дзеяслоўныя адзнакі (значэнне трывання, часу, дзеяслоўнае кіраванне), дзеепрыметнікі падпадаюць пад ад'ектывацыю (пераходзяць у прыметнікі) і субстантывуюцца (пераходзяць у назоўнікі). У такім выпадку рускім дзеепрыметнікам тыпу *образующий, склоняемый, употребляемый, устрашаю-*

---

[1] Мова беларускай пісьменнасці XIV—XVIII стст. Мн., 1988. С. 239.

*щий, выступающий, молящийся, расспрашивающий* у беларускай мове звычайна адпавядаюць «чыстыя» прыметнікі і назоўнікі: *утваральны, скланяльны, ужывальны, застрашлівы, выступоўца, малітоўца, распытвальнік.*

На сучасным этапе пазіцыю непрымання дзеепрыметнікавых формаў, неўласцівых беларускай мове, падтрымліваюць усё новыя аўтары — пісьменнікі, журналісты, вучоныя.

Аналізуючы беларускія пераклады вядомага верша А. Пушкіна «Я помню чудное мгновенье», паэт Яўген Міклашэўскі, у прыватнасці, зазначае: «Перакладчык перадае яго [слова *виденье*] сінонімам дыялектнага паходжання *сненне* з дзеепрыметнікам *пралятаючае* (мимолётное), гукапіс якога слаба стасуецца з гукапісам мяккага, пяшчотнага слова «сненне». Магчыма, 50 — 60 гадоў таму дзеепрыметнікі не выглядалі такімі штучнымі словаўтварэннямі ў нашай мове, але **сёння яны ўспрымаюцца як хібы** правапісу» (падкрэслена намі. — **А. К.**) (Роднае слова. 2002. № 4).

Дасціпна, у вобразна-мастацкай форме паказвае Зінаіда Дудзюк неправамернасць ужывання дзеепрыметніка з суфіксам *–ом-*, нехарактэрнага для беларускай мовы. Рускі дзеепрыметнік *ведомый* абазначае «які ідзе ўслед за вядучым», беларускі прыметнік *вядомы* — «такі, якога ведаюць». Гэты выпадак аманіміі пакладзены паэткай у аснову пародыі «Вядомы» паводле вершаваных радкоў Паўла Саковіча: *Нязгаснай памяццю* ***вядомы*** *// Да блізкіх крочу я ляскоў.*

З.Дудзюк пачынае так абыгрываць прыведзеныя радкі:

Ці я ў дарозе, ці мо дома,
Гляджу цікаўна па баках —
Ці я каму яшчэ **вядомы?**
Не згасне памяць у вяках?

(ЛіМ. 15.02.2002)

А вось меркаванне дацэнта кафедры беларускай мовы Інстытута мовазнаўства НАН Беларусі Галіны Вештарт: «Наша ленасць у пошуку адметных беларускіх адпаведнікаў рускім дзеепрыметнікам, неўласцівым беларускай мове, прыводзіць да ўжывання дзеепрыметнікаў на *–ся* і непажаданых формаў дзеепрыметнікаў з суфіксамі *–ем-, -уч-(-юч-), -ач-(-яч-):* «сабраўшыхся ў гэтай зале», «на пачаўшымся пад'ёме» і пад.» (ЛіМ. 23.11.2001).

І праўда, лянота звычайна не служыць павышэнню літаратурнага ўзроўню тэксту. Ды ці адно гэта прычына моўных заган? Як ні прыкра, але непажаданыя формы дзеяслова трапляюцца і ў аўтараў, якіх цяжка западозрыць у гультайстве пры моўным пошуку. Напрыклад, чытаем у вершы: *З болю сусвет не ўмірае. // Чаму быць — тое вып'ем да дна. // На мірыяды* ***распаўшыхся*** *пар // лішняя долька адна.* А так напісаў у літаратурназнаўчым артыкуле другі добры паэт: *...Нейкі спецыфічны, рэдка* ***скарыстоўваемы*** *ў сучаснай моўнай практыцы тэрмін (архаізм) і назва агульна- і шырокавядомая перадаюцца адной і той жа лексемай.*

Ужыванне падобных ненарматыўных дзеепрыметнікаў нярэдка выклікаецца не столькі рэальнай патрэбай выказаць думку, як перайманнем па інерцыі ўзораў рускай граматыкі. Вернемся да апошняга прыкладу-сказа: у ім словазлучэнне *рэдка скарыстоўваемы* можа быць лёгка, без прыкметных сэнсава-стылістычных страт заменена складаным словам *рэдкаўжывальны* або проста прыметнікам *рэдкі.* Можа быць, можна было... Толькі ж у аўтара цытаванага артыкула перад вачамі (ці ўвушшу) стаяла звыклае рускае «редко используемый» — і ён скарыўся!

І ўжо ніяк нельга апраўдаць ужывання дзеепрыметніка на *–ўшы* пры перакладзе з польскай мовы, у якой увогуле няма дзеепрыметнікаў незалежнага стану прошлага часу: ***Прыехаўшага*** *ў дом нявесты жаніха бацька ці маці сустракаюць на парозе з хлебам і півам, а ён ім нізка кланяецца* (Полымя. 2002. № 2, с. 242). Апрача ўсяго, тут і сэнсавая недакладнасць: як можна прыехаць у дом, не перайшоўшы парога?

Такім чынам, некаторыя аўтары або яшчэ не ўсвядомілі заганнасці разгляданых формаў дзеяслова, або маюць на гэты конт супрацьлеглую думку. А можа проста, адчуўшы цяжкасць выбару слова, пайшлі ў пазыкі да «вялікай і магутнай».

Значыць, мовазнаўцы павінны не толькі выяўляць недакладныя і памылковыя ўжыванні, паказваць непрымальныя формы слоў, але і збіраць, сістэматызаваць, папулярызаваць тое пазітыўнае, што выпрацоўваецца маўленчай практыкай. У прыватнасці неабходна весці далей вывучэнне дзеепрыметнікаў на аснове беларускай мовы, ідучы ад жывых яе фактаў і з'яў, а не ад граматычных сцверджанняў, сфармуляваных лінгвістамі адносна рускай мовы.

Трэба ўлічваць варункі, абставіны, у якіх функцыянуе беларуская мова і, такім чынам, стваараюцца тэксты. Калі мастацкія і ў пэўнай ступені публіцыстычныя творы часта адразу пішуцца на беларускай мове, то афіцыйна-справавыя і навуковыя тэксты — галоўным чынам перакладныя ці створаныя пад моцным уздзеяннем рускай мовы. У выніку — хоць вонкава тэкст выглядае як беларускі (найперш у лексіцы), па сутнасці ў ім шмат рысаў, асаблівасцяў (пераважна граматычных) рускай мовы. Гэта датычыць і ўжывання дзеепрыметнікаў.

Асноўная задача нашай публікацыі — выявіць як мага болей спецыфічных, нацыянальна адметных рэалізацый дзеепрыметніка ў беларускіх тэкстах, а таксама паказаць некаторыя сродкі замены нехарактэрных для беларускай мовы формаў дзеепрыметніка. Падаваць моўныя факты і весці іх інтэрпрэтацыю будзем пры мэтазгодным звароце да рускай мовы.

## ДЗЕЕПРЫМЕТНІКІ З СУФІКСАМ *-Л-*

У першым пасляваенным падручніку для студэнтаў філалагічных факультэтаў універсітэтаў і педагагічных інстытутаў «Курс сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Марфалогія» (Мн., 1957), які выйшаў пад грыфам Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР, адзначаецца: «Дзеепрыметнікі незалежнага стану цяперашняга і прошлага часу беларускай мове мала ўласцівы». І далей тлумачыцца: «Дзеепрыметнікі і дзеепрыметныя словазлучэнні рускай мовы перакладаюцца на беларускую мову, як правіла, адпаведнымі даданымі азначальнымі сказамі, напрыклад: *Уходящий год останется в истории как год определённого перелома в напряженной международной обстановке, сложившейся за последнее время* («Правда» ад 30 снежня 1955 г.). — *Год, які заканчваецца, застанецца ў гісторыі як год пэўнага пералому ў напружанай міжнароднай абстаноўцы, што склалася за апошні час* («Звязда» ад 30 снежня 1955 г.)».

У згаданай граматыцы зроблена спроба вызначыць прычыны, якія абумоўліваюць абмежаванае выкарыстанне дзеепрыметнікаў незалежнага стану: «Ужыванню дзеепрыметнікаў у беларускай мове перашкаджае, па-першае, не ўласцівая граматычнаму ладу беларускай мовы структурная складанасць іх, па-

другое, аманімія дзеепрыслоўяў з дзеепрыметнікамі ў форме назоўнага і вінавальнага склонаў адзіночнага ліку мужчынскага роду: *працуючы, працаваўшы* — па форме і дзеепрыметнікі і дзеепрыслоўі. Гэта часта прыводзіць да зблытвання дзеепрыметнікаў з дзеепрыслоўямі і тым самым да зацямнення сэнсу сказа».

Тады не была названа яшчэ адна важная прычына — тое, што ў беларускай мове сінонімамі дзеепрыметнікаў на *-ўшы, -шы* часта выступаюць іншыя аддзеяслоўныя вытворы, у прыватнасці дзеепрыметнікі з суфіксам *-л-: павесялеўшы, заціхшы — павесялелы, заціхлы*. Увогуле ў «Курсе» дзеепрыметнікі на *-лы* не адзначаюцца (яны разглядаюцца сярод прыметнікаў). Гэта, мабыць, вынік таго, што тэма «Дзеепрыметнік» (як і іншыя) распрацоўвалася без дастатковага ўліку і даследавання жывога матэрыялу мовы — пры вялікай залежнасці ад рускіх граматык. Апошняга не хаваюць аўтары «Курса сучаснай беларускай літаратурнай мовы». У «Прадмове» зазначана: «Па той прычыне, што асноўныя граматычныя катэгорыі ўсходнеславянскіх моў маюць вельмі блізкія, а часам і аднолькавыя рысы, у радзе выпадкаў аўтары «Курса» карыстаюцца агульнапрынятымі азначэннямі і фармуліроўкамі, выпрацаванымі ў навуцы аб рускай мове».

Акадэмічная «Граматыка беларускай мовы. Т.1. Марфалогія» (Мн., 1962), якая выйшла з друку ўсяго праз пяць гадоў пасля згадванага «Курса», прысвячае дзеепрыметнікам з суфіксам *-л-* асобны параграф. У ім, у прыватнасці, сцвярджаецца: «У сучаснай беларускай літаратурнай мове значна пашыраны дзеепрыметнікі незалежнага стану прошлага часу з суфіксам *-л-*... Гэтыя дзеепрыметнікі ўсё шырэй ужываюцца ў літаратурнай мове і ў радзе выпадкаў выцясняюць дзеепрыметнікі на *–ш-* і *–ўш-*».

Падрыхтаваная і выдадзеная ў 80-я гады мінулага стагоддзя «Беларуская граматыка. Частка 1» (Мн., 1985) канстатуе аналагічнае: «У сучаснай моўнай практыцы значна пашырылася ўжыванне дзеепрыметнікаў незалежнага стану прошлага часу з суфіксам *-л-*». Пры гэтым праводзіцца дыферэнцыяцыя: «Дзеепрыметнікі з суфіксам *–ўш-* больш характэрныя для пісьмовай мовы. Дзеепрыметнікі з суфіксам *-л-* ужываюцца шырока як прэдыкатыўныя азначэнні ў пісьмовай і ў вуснай мове».

На цяперашнім этапе дзеепрыметнікі з суфіксам *-л-* усведамляюцца як асноўныя. Так, у падручніку для ВНУ даецца практычная рэкамендацыя: «Пры магчымасці афармлення дзеяслоўнай асновы паралельнымі суфіксамі *-ш-, -ўш-, -л-* перавага павінна аддавацца формам з *-л-*: *паблеклы — паблекшы, пачырванелы — пачырванеўшы»*.[1]

Такая ацэнка дзеепрыметнікаў з суфіксамі *-ўш-, -ш-, -л-* адлюстроўвае жывую практыку функцыянавання гэтых формаў дзеяслова ў сучаснай беларускай мове. Многія дзеяслоўныя формы на *-лы* знаходзяцца ў выкарыстанні як дзеепрыметнікі і прыметнікі, фіксуюцца слоўнікамі літаратурнай мовы. Некаторыя ж існуюць у маўленні, сустракаюцца ў вусных і пісьмовых тэкстах, але яшчэ не сталі агульнаўжывальнымі (іх месца часцей займаюць вытворы з суфіксамі *-ўш-, -ш-*). Сярод іх і словы даўнія, але якія цяпер у пасіўнай лексіцы, і новыя, у тым ліку індывідуальныя наватворы, што з'явіліся ў сённяшняй моўнай практыцы. На некаторыя з такіх слоў (дзеепрыметнікі, прыметнікі, назоўнікі) лічым патрэбным звярнуць увагу чытачоў часопіса.

---

[1] Сямешка Л. І., Шкраба І. Р., Бадзевіч З. І. Курс беларускай мовы. Мн., 1996. С.419.

**Абнямоглы, адляцелы, ажывелы, асумелы.**

Сцепаніда сядзела на бервяне, **абнямоглая**, заплаканая, і думала: што рабіць? (В. Быкаў). І ім [маладым] усе гулагі і рэйхстагі — // як пошум лісця **адляцелых** дзён (М. Дукса). Апошняй ускочыла **ажывелая** Франя (В. Быкаў). Сыплецца лісцё у парках **асумелых** // і гарыць, як золата, быццам медзь ці жар (Л. Геніюш).

**Выстаялы, вытанулы, вытрывалы.**

[Бацька] прывозіў з поля воз яшчэ не **выстаялых** травяністых снапоў (У.Калеснік). ...Усё ў гэтым **вытанулым** з нічога, застыглым абшары было богам (Л. Вашко). Святарным месцам была для яе [Л. Геніюш] не толькі Траецкая царква, але і Белавежа з яе **вытрывалымі** праз усе чужацкія нашэсці зубрамі (М. Скобла).

**Заблукалы, загіблы, загінулы, заглядзелы, зазімавалы, запалы, запанавалы, запуставалы, зарупелы, заспакайнелы, заспалы, засумавалы, захмызелы, зацвіцелы, збанкрутавалы, звесялелы, звечарэлы, здаўнелы, здумелы, змаршчэлы, знежывелы, знясілы.**

Нанізваю парыжскую імжу // На пальцы **заблукалага** паэта (Т. Сівец). [У Іерусаліме] задакументаваны прозвішчы ўсіх **загіблых** (Полымя. 2002. № 3—4). Гэтая хата стаіць і цяпер — жыве ў ёй пляменніца пісьменніка, дачка яго **загінулага** на вайне старэйшага брата (Роднае слова. 2000. № 10). Двойчы сярод **загінулых** лічыцца А. Гарцуеў (Г. Юрчанка). Верш прысвячаецца памяці **загінулых** у вайну (Беларускае радыё. 30.06.2002). [Пімен] глядзіць на мяне ў нашым ужо, нарэшце, сур'ёзным, заслуханым, **заглядзелым** гурце, а мне відно, як яму цяжка стрымлівацца ад смеху (Я. Брыль). Дарога ішла дробным лесам і па шэрых, мокрых, **зазімавалых** палянах (М. Гарэцкі). Што яна такое для мяне, Швецыя? **Запалае** аднекуль у галаву пра шведскага караля — які ён дэмакратычны? (У. Мехаў). **Запанавалая** на заходнебеларускіх землях... польская ўлада не спяшалася на дапамогу рэпатрыянтам (А. Ліс). Аселі ў хатцы, **запуставалай** з вайны, жыхары яе загінулі без следу (Полымя. 1997. № 5). ...Нейкім нутраным адчуваннем ён западозрыў яшчэ невыразную, але адразу шчымліва **зарупелую** трывогу (В. Быкаў). ...Раптам аб адным дні загарацца жоўтым лісцем бярозы і так і стаяць і гараць ціхім залатым полымем, падкрэсліваючы **заспакайнелыя** сінія далі з пералескамі, узгоркамі і лагчынамі (Я. Скрыган). — Гэй, гэй! На бераг хутчэй! — // З прыстані нехта крычыць, // Быццам **заспалае** возера будзіць... (М. Танк). Нясцерпна **засумаваламу** па сям'і і гучанні роднай мовы нявольніку гонару айчыннага лічыльнага машынабудавання загадана было заставацца на пасту і тэрмін трэці (У. Мехаў). ...Дзесьці тут, у **захмызелым** вішняку, схавана бочка духмянага мёду (В. Гардзей). Сніцца мне: цецерукі такуюць, // пахне цветам **зацвіцелых** ліп (М. Сяднёў). Зноў загучала некалі папулярнае ў Маскве, але **збанкрутавалае** Радыё Рокс (Наша Ніва. 23.06.1997). Аж гудзіць ракотным рэхам **звесялелы** цёмны бор (К. Буйла). Рыба спрытная, маладая, // Дзе глыбей ідзе, // Пакідае // **Звечарэлага** рыбака (Р. Барадулін). Толькі продкаў **здаўнелых** на небе шукаць // Не хапае нам, сённяшнім, часу (М. Мятліцкі). Алеся, **здумелая,** ці не падалося ёй — бо хіба ж ёсць такія

пташкі? — ізноў прыкленчыла каля карча (В. Адамчык). Не, дарма ён тады не набіў **змаршчэлую** морду гэтаму Зудзіловічу (В. Быкаў). Тая жанчына, бледная, ляжала ціхутка, бы **знежывелая** (Л. Калодзежны). Адкажы мне, вербачка, // Адкажы мне, мілая, // Чаго зажурылася, // Смутная, **знясілая?** (Я. Колас).

**Леглы.**

...Расказваючы пра **леглае** ёй на той момант каменем на сэрца, заплакала (ЛіМ. 22.02.2002).

**Мужнелы.**

[Крыніца. 2002. № 2] пачынаецца з магутнага напору-гамонкі высакалобых. ...Сваіх. Гадаваных і **мужнелых** на беларускай глебе (А. Васілевіч).

**Набеглы, напаткалы, насталы, настаялы, насыцелы, неахаладалы, незаскарынелы, незляжалы, новаўзніклы, нязнёслы.**

Іскры белыя [у млыне] выкрасаюць // З зерня пад маразок **набеглы** (Р. Барадулін). Няма нічога даражэй за пацалунак, // успомнены ў нястачы, адзіноце. // З драпежнай багны знойдзены ратунак. // Збавенне ў **напаткалай** злой прыгодзе (С. Явар). У гарадской **насталай** цішы // раптоўна дождж сыпнуў з туману (А. Русецкі). Гэта ўжо становіцца міфалогіяй будучага. Яшчэ не **насталага,** але ўжо створанага намі (В. Коўтун). Спляліся, раскусціліся // Расліны выбуялыя. // Цалінныя раскрыліся // Ім сокі **настаялыя** (К. Буйла). Узняла ў славе родная ралля, // **Насыцелая** // Лёсу слаямі — // Пушчы Мележа, Янкі Брыля // З барадулінскімі салаўямі (А. Пысін). **Неахаладалая** хваля раз-поразу пагладжвала ўзбярэжны пясок... (М. Лужанін). Ваўчыны след. Шэры прайшоў над абрывам і, выбраўшы месца, спусціўся ў яр, грузнучы на глыбейшым **незаскарынелым** снезе (Я. Брыль). На брадах сняжынак **незляжалых** // Дровы сам сячы і сам цягні! (А. Пысін). Здавалася б, тут і павінны прыдацца-памагчы **новаўзніклыя** з пашырэннем і паскарэннем інфармацыйна-тэхналагічных працэсаў паслугі... (ЛіМ. 12.10.2001). Перад табой — няведамыя далі, // **нязнёслыя** дакучлівых нягод (А. Салавей).

**Падвесялелы, падвыпілы, падгулялы, падпалы, падпілы, пазарасталы, пазасталы, палеглы, пасуравелы, паўпадалы, паўсталы, пацярпелы, паразімавалы, прабеглы, прагрымелы, прагучалы, прамінулы, прапалы, праспалы, прыбылы, прыпазнелы, прыпалы.**

[Крывароты] спрабаваў моц яго, Глушаковай, гарэлкі, **падвесялелы,** ляпаў, як таварыша, Яўхіма па плячы (І. Мележ). Увечары Зайчык сядзеў упоцемку ў Глушаковай хаце **падвыпілы,** чвякаў салёнымі гуркамі (І. Мележ). [Заслужаная артыстка] расказвала, як пасля спектакля **падгулялыя** падлеткі збівалі яе з каляжанкамі (В. Іпатава). Абсалютна чысты пісьменнік Максім Гарэцкі, ніяк не **падпалы** ружоваму туману (ЛіМ. 9.12.1998). Але гэты, моцна **падпілы,** сам зараз жа стаў прыставаць да жандараў (Ядвігін Ш.). Абапал нізкага блакітнага помніка ціснуліся **пазарасталыя** канцы могілак (В. Адамчык). Тым часам старшыня калгаса меў свой асабісты клопат, якому аддаваў ён **пазасталыя** ад штодзённых турбот часіны (М. Зарэцкі). У мінулым годзе за горадам адкрывалі помнік **палеглым** воінам (В. Гігевіч). На беларускай зямлі стаяць тысячы помнікаў **палеглым** у другую сусветную вайну (ЛіМ. 3.05.1993). — Што нова-

га? — сказаў **пасуравелы** Вяршкоў (І. Чыгрынаў). А сын — худы, з **паўпадалымі** шчокамі Ладак — маўчаў (В. Адамчык). ...Гэй, пад сцягі, **паўсталы** народ! (Я. Купала). А поруч — **паўсталы** з руінаў // Дом Райніса (М. Скобла). **Паўсталы** з пачатку заняволення Заходняй Беларусі радыкальны друк стаў апорнай базай перадвыбарчай агітацыі (А. Ліс). Беларуская літаратура ці не самая **пацярпелая** ад сталінскага генацыду (ЛіМ. 15.11.1996). ...Сярод удзельнікаў мітынгу **пацярпелых** няма (ЛіМ. 13.12.1996). [Ранкам] пачынае ўжо крапаць з дахаў і радасна чырыкаюць **перазімавалыя** вераб'і (Б. Пятровіч). Ён азіраўся назад, на **прабеглыя** гады, што склаліся ў дзесяцігоддзі (Б. Пятровіч). Знакамітая, **прагрымелая** на ўсю Беларусь «Барысаўская справа»... займела свой працяг у Мінску (ЛіМ. 16.05.1997). [Выступленне В. Быкава] зрабіла ўражанне... ці не найбольш «храмавага» з **прагучалых** на працягу тых дзён у прасторы аднаго з самых велічных берлінскіх лютэранскіх храмаў (У. Мехаў). Моўчкі ў далеч гадоў **прамінулых** глядзім (М. Танк). Іх лёс асуджаны, **прапалы** (Я. Колас). Пацяплела і хочацца жыць, // Як **праспаламу** п'яніцу піць... (В. Шніп). — Добрае здароўе, — адказалі Мікалай з Петрусём, з цікаўнасцю спалоханымі вачыма ўставіліся на **прыбылых** (П. Пестрак). Хапаючыся, заходзілі **прыпазнелыя** дэлегаты, госці (І. Мележ). Маці спявала каля дзесяці песень з «Курганнай кветкі». Ну, вядома ж, і **прыпалую** да сэрца ўсім «Люблю наш край» (А. Ліс).

**Разбеглы, развесялелы, разляцелы, разрослы, раскрылы, распалы.**

Цераз канавы, ямы і равы // імчыцца жыта хваляю **разбеглай** (А. Русецкі). Спатажаныя нечаканым крыкам, а потым ужо **развесялелыя,** дружна зарагаталі сонныя пасажыры (В. Адамчык). Конь на арэне ні кроплі не баіцца **разляцелага** быка (В. Санько). Міця нагнуўся, каб падняць гэтыя **разляцелыя** ўроскід палавінкі сланечніку (В. Адамчык). За жытам у **разрослых** садках пад навіслымі бярэзінамі хаваліся хутары (В. Адамчык). І да гэтага дня стаяць некаторыя добра ацалелыя з васемнаццатага стагоддзя прыгарадныя маёнткі, якія загуслі ў целе **разрослай** Рыгі, нібы дагістарычныя кузуркі ў бурштыне (ЛіМ. 12.05.1972). А неба глядзіць з-пад зялёных стрэх, // І сосны ягоным даверам бадзёрыя. // Іглíца, // Сыплючыся на снег, // Праносіць раскрылае V — // VICTORIA! (Р. Барадулін). Верхавод адной з груповак **распалай** цяпер, здаецца, на варожыя між сабой хэўры нядобраслыннай чорнакашулечнай «Памяці» (У. Мехаў).

**Састаялы, спазнелы, спачылы, сталы, стаялы, супалы.**

У пакоі пахла **састаялаю** духатою... (Я. Скрыган). Але такая была яе неўсьвядомленая апошняя воля — кудысь караскацца. **Спазьнелая** марная воля. Як і ўсё **спазьнелае,** тое рэдка бывае ўдалым (В. Быкаў). Людзі ўзбоч магіл рассцілалі некалькі спецыяльна прынесеных абрусаў, даставалі з пакункаў бутэлькі з гарэлкай і яду — запрашалі да стала **спачылых** родзічаў... (А. Казлоў). Чалавек... быў асабістым лекарам у **сталага** найвялікім у стагоддзі — Карла IX (В. Санько). Гэтая хата, што даў ружэвіцкі цесць, не толькі малаватая, але і **стаялая** ўжо... (Г. Далідовіч). ...Гэта не столькі даніна заходнееўрапейскай паэтычнай мадэлі пісьма, колькі невыпадкова **супалы** з ёй творчы і жыццёвы стыль самой паэткі (Л. Галубовіч).

**Убуялы, увераселы, уздужалы, узелянелы, узляцелы, узнікалы, уляжалы, упалы, учыгунелы.**

**Убуялы,** гадоў каля трыццаці, дзяцюк... раптам кульнуўся за грэбень страхі і пакаціўся на другі бок хаты (В. Адамчык). Да Караліпічавіч адсюль // Як каралю да рызык. // Расці пад лік кіназязюль, // **Увераселы** рыжык (Р. Барадулін). Пэўна, так імчалі з далячынь // коннікі **ўздужалае** дзяржавы (С. Панізнік). Геаграфічна нібы нічога не змянілася, тое ж роўнае ці пагоркавае асенняе поле, тыя ж **узелянелыя** лугі, статкі кароў на іх (Г. Далідовіч). Перападаў такі шанец і не надта горна-вышынна **ўзляцелым** [людзям] (У. Мехаў). Цягам усяго XIX ст. наш **узнікалы** нацыянальны рух, грунтуючыся на народнай культуры, палітычна меў заходнюю арыентацыю (Наша слова. 25.11.1998). І **уляжалыя** лаўжы // Здзіўлёна раптам зварухнуцца (К.Камейша). **Упалага** не май за прапалага (Прыказка). ...Трэба даць уціхнуць зморы ў руках, у нагах, **учыгунелай** спіне, адпачыць целу ад едкага поту (І. Мележ).

Як відаць з прыкладаў, у пераважнай большасці формы на *–лы* ў сістэме дзеяслова з'яўляюцца дзеепрыметнікамі незалежнага стану прошлага часу. Аднак сустракаюцца і адметныя ўжыванні, якія не адзначаюцца граматыкамі.

Дзеепрыметнікі з суфіксам *-л-* могуць абазначаць прыкмету прадмета паводле дзеяння, якое адбываецца адначасова з дзеяннем, выражаным дзеясловам-выказнікам.

Між зёлак **пахлых** і пад ліпай // Ускоўдрыць нас з табой туман... (У. Дубоўка). Аблічам пад ветры і буры, // Туды — у разлогі палёў, // Дзе гоняў **рунелыя** суры, // Ўзіраешся [Вільня], поўная сноў (У. Жылка). **Сутунелым** крылом // Туліцца к вёсцы ціша // І пахціць скошаным сенам // І кароўім сырадоем (У. Жылка). Калышу, забыўшы стому, // У палоне **млелых** рук (В. Вярба). Перастаў быць [Віцька] зяцем, бо дужа **захаджалым** стаў у шалманы (У. Мехаў). Узбунтаваўся б, каб не твой наіў — // ужо ляжаў бы ў яме, **тлелай** грудзе (А. Русецкі). Простыя матывы, крыху **змякчалыя** адлегласцю, хвалявалі маладога настаўніка (Я. Колас). ...Дзе смех русалчын, лесуновы // Палошыць вечна **цяглы** сон (Я. Купала).

Значэнне вылучаных дзеяслоўных формаў у гэтых сказах акрэсліваецца: «які пахне, пахучы», «які рунее», «які сутунее», «які млее», «які заходзіць», «які тлее», «які змякчаецца чым-небудзь», «які цягнецца».

Да паказанай групы набліжаюцца дзеепрыметнікі на *-лы,* што ўтварыліся на базе спалучэння асобных дзеясловаў закончанага трывання з адмоўем *не* тыпу *не замоўкнуць, не згаснуць.*

[Чуе] дзіўнай скрыпкі Цішкавай ігру // І гул вясельных **незамоўклых** струн (М. Танк). Толькі неба ды курлыканне **нязмоўклае,** // Толькі вочы, толькі голас ды блакіт (П. Панчанка). Раптам паблізу заліўся брэхам нечы сабака, злы, **няўціхлы** вылузнуўся з-пад варот (І. Мележ). Шчаслівы ты ці не шчаслівы, // Будзі сыноў сваёй зямлі, // Над беларускай соннай нівай // **Нязгаслы** светач распалі (Я. Купала). Састарэлы колішні сырнік Кандрат Клаўсуць заставаўся **непамерклаю** зоркай на небе вясковых аўтарытэтаў (У. Калеснік).

Дзеепрыметнікамі незалежнага стану з суфіксам *-л-* часта выказваецца прыкмета як наяўны вынік дзеяння.

...Вокны знадворку напалавіну затулялі галіны старых **зазелянелых** дрэваў (В. Быкаў). Падковы коней, // бы пячаткі // на **заінелай** руні (Д. Бічэль). Дарога нарэшце выбегла з высокага, ужо **запалавелага** жыта на ветраны грудок

(В. Адамчык). Урываецца ў смех вясна // з белых дрэў, **зарунелых** баразнаў (Л. Геніюш). З Балтыйскага мора падзьмуў вільготны, **прапахлы** асеннім лесам вецер (А. Асіпенка). Па другі бок — далёкае, **патанулае** ў імгле, цеснае рабочае прадмесце (М. Арочка). Гэты яблыневы сад, **патанулы** ў квецені, намі адкрыты (Полымя. 1997. № 1). І зноў, які ўжо раз за век, **расквітнелы** сад (К. Камейша).

***Зазелянелыя дрэвы*** ўспрымаем (разумеем) так: дрэвы зазелянелі і працягваюць зелянець у час, калі адбываецца дзеянне, выражанае дзеясловам-выказнікам.

У прыведзеных вышэй прыкладах-сказах дзеепрыметнікавыя формы з суфіксам *-л-* блізкія паводле значэння да рускіх дзеепрыметнікаў (прыметнікаў) з суфіксамі *-ущ-, -ющ-, -ащ-, -ящ-, -ем-, -им-*. Параўнаем: *зазелянелыя дрэвы — зеленеющие деревья, непамерклая зорка — немеркнущая звезда, няўціхлы сабака — неумолкаемая собака, патанулы ў квецені — утопающий в цвету, нязгаслы светач — неугасимый светоч* і пад.

Паказальна, што ТСБМ тлумачыць дзеепрыметнік з суфіксам *-л- перaселы* з дапамогай дзеясловаў **цяперашняга** часу: «Які перасядае, перарываецца ў горле».

Адпаведнасць у пэўных выпадках дзеяслоўных формаў на *–лы* ўтварэннем з суфіксамі *-уч-, -юч-* пацвярджаецца і такім фактам. Ужо В. Цяпінскі (XVI ст.) ужывае зрэдку дзеепрыметнікі з суфіксам *-л-* пры перадачы значэння царкоўнаславянскіх дзеепрыметнікаў цяперашняга часу на *-щ-*: блажени **алчющеи** и жажъдѹщеи правды — бологие **зголоднелые** и прагнѹчие справедливости[1].

Іншым разам формы дзеяслова з суфіксам *-л-* выконваюць функцыю дзеепрыметнікаў залежнага стану прошлага часу з суфіксам *-н-*. Найчасцей гэта адбываецца з дзеепрыметнікам **занядбалы:** А дарога ваша — горы, перавалы, // Але ўсё здалелі раці **занядбалых** (Я. Колас). Народны элемент у Марцінкевічавай аповесці значны. Ён выяўлены... у паказе мужыка, прыгоннага, **занядбалага** раба як героя літаратуры (І. Навуменка). ...Не наканавана гэтай **занядбалай** зямлі забуяць жытнім або ячменным коласам (В. Гардзей). Нічога не пачуеш і ў шэпце напалову высечанага і цалкам **занядбалага** засульскага старадаўняга парку (С. Галоўка).

Прывядзем аналагічныя ўжыванні іншых дзеясловаў: [Вечар] цешыў душу чалавека **прыдбалым** за лета багаццем (І. Пташнікаў). **Упадабалыя** мультыкі малы можа праглядаць мільёны разоў (Наша Ніва. 17.05. 1999). Вялі [мінуты шчасця] па сцежках **нехаджалых**, // Арлом узносілі на скалах (Я. Купала). [Новы наведнік] моўчкі бярэ напоўнены нейкім каламутна-брунатным пітвом куфаль, прагна, не адрываючыся, п'е, ставіць **спаражнелы** куфаль на стол (А. Мінкін). Ачэрхне **адляжалы** мох, // І здрыганецца хіб [ласіхі] спрасонку (К. Камейша).

Няўстойлівасць, расхістанасць дзеяслоўных катэгорый у дзеепрыметніку характэрная не толькі для беларускай, але і для рускай мовы, дзе ступень усталявання ў літаратурным ужытку гэтай формы дзеяслова значна вышэйшая, яе нарматыўны статус замацаваны працяглай маўленчай практыкай.

Карыстальнікі рускай літаратурнай мовы, у якой дзеепрыметнікі з суфіксамі *-ущ-, -ющ-, -ащ-, -ящ-, -ем-* з'яўляюцца прадукцыйнымі, часта не адрозніваюць формаў незалежнага і залежнага стану, цяперашняга і прошлага часу. Напрыклад:

*Это всё, чем располагает быстро* ***реагируемая*** *служба спасения* (РТР.

[1] Мова беларускай пісьменнасці XIV — XVIII стст. С. 245.

23.03.1999). [Былы міністр МУС РФ:] *Я не входил в круг* ***принимаемых*** *решения* (ТБ-6. 26.04.1999). *Поступило сообщение,* ***касаемое*** *захваченного концертного зала* (НТБ. 23.10.2002). *Во рту акулы несколько рядов постоянно* ***обновляемых*** *зубов* (БТ. 5.01.2003).

Вылучаныя дзеепрыметнікі залежнага стану ўжыты замест формаў незалежнага стану *рэагирующая, принимающих, касающееся, обновляющихся.* Верагодна, на такую падмену схіляе большая структурная ўскладненасць формаў незалежнага стану.

У межах дзеяння адзначанай тэндэнцыі, мабыць, можна разглядаць і падобныя беларускія ўжыванні, напрыклад: *Трэба, каб на аднаго пенсіянера прыпадала* 2,7 **працуемых** (Беларускае радыё. 10.06.2002).

Назіраецца і адваротная з'ява — ужыванне дзеепрыметнікаў актыўных замест пасіўных: *В связи с* ***ожидающимся*** *похолоданием в Москве медики столицы готовятся...* (НТБ. 28.11.2002). Тут адбылася замена формы *ожидаемым.*

Прачытаем яшчэ сказ: *Это могут подтвердить ныне здравствующие лица,* ***занимающие*** *в то время* [должности] (Народная воля. 13.01.2002).

У гэтым кантэксце больш прыдатны дзеепрыметнік прошлага часу *занимавшие.*

Непаслядоўнасць рэалізацыі правілаў утварэння і ўжывання дзеепрыметнікаў незалежнага і залежнага стану пашырылася і на строга кніжную (навуковую) рускую мову. Як прыклад возьмем слова *значимый.* Яно ўжываецца са значэннем «які абазначае» (такое значэнне ўласцівае дзеепрыметніку незалежнага стану), паводле ж марфемнай будовы гэта дзеепрыметнік залежнага стану. Параўнаем: *носимый, гонимый, любимый.* Выходзіць, заканамерная форма лінгвістычнага тэрміна — *значащий.* Яе і змяшчае «Словарь русского языка» ў 4 т. (т.1, М., 1957, II выд., 1981). Аднак з нейкіх прычын (мо адыграла ролю структурная складанасць слова, ягонае гучанне, вымаўленне?) маўленчая практыка ў навуковай (лінгвістычнай) сферы аддала перавагу «адхіленню» *значимый: значимая часть слова.* «Руска-беларускі слоўнік» (1982) перакладае лінгвістычныя тэрміны *значащий* і *значимый* аднолькава — прыметнікам *значны*: *значащие элементы речи — значныя элементы мовы, значимые слова — значныя словы.*

## ДЗЕЕПРЫМЕТНІКІ З СУФІКСАМІ *-Н-, -Т-*

Сярод такіх формаў дзеяслова найбольшую колькасць складаюць дзеепрыметнікі залежнага стану прошлага часу, утвораныя ад асноў інфінітыва пераходных дзеясловаў закончанага і незакончанага трывання: *адбудаваны горад, выяўленыя факты, збіты самалёт, зроблены даклад, прааналізаваны матэрыял, прыгатаваная вячэра, спяваная песня, чытаная кніга* і г.д.

Як адзначаў акад. В. Вінаградаў, у сучаснай рускай мове дзеепрыметнікі на *-нный, -тый* ад асноў незакончанага трывання непрадукцыйныя. Жывыя формы такіх дзеепрыметнікаў нешматлікія: *читанный, писанный, надеванный, несенный, тертый* і пад. Паводле меркавання другога вядомага мовазнаўцы А. Гваздзева, звычайна не маюць залежных дзеепрыметнікаў прошлага часу прыставачныя дзеясловы незакончанага трывання.

У значнай колькасці выпадкаў адсутнасць дзеепрыметнікаў залежнага стану ад дзеясловаў незакончанага трывання ў рускай мове кампенсуецца дзеепрыметнікамі незалежнага стану цяперашняга і прошлага часу ці залежнага стану цяперашняга часу. Напрыклад: *снесли строящийся (строившийся)* дом (не

ўжываецца дзеепрыметнік прошлага часу накшталт *строенный*; параўн. беларускае: *будаваць — будаваны*); *упоминавшиеся ранее строчки, упоминаемые ранее строчки* (параўн.: *упамінаныя раней радкі).*

У беларускай мове дзеепрыметнікі залежнага стану прошлага часу ад дзеясловаў незакончанага трывання маюць большую пашыранасць. Іншая рэч, што беларускія лінгвісты пры асвятленні тэмы «Дзеепрыметнік» звужаюць формаўтваральныя магчымасці дзеяслова, механічна пераносячы некаторыя характарыстыкі з рускай мовы на беларускую.

Так, «Беларуская граматыка» (Мн., 1985) сцвярджае, што дзеепрыметнікі залежнага стану прошлага часу не ўтвараюцца ад дзеясловаў *перапісваць, вазіць, вадзіць* (і адпаведных прэфіксальных дзеясловаў *прывозіць, заводзіць*), *даваць, раздаваць.*

А між тым дзеепрыметнікі (са значэннем прошлага або цяперашняга часу) ад такіх дзеясловаў у беларускай мове ўжываюцца. Прыводзім некалькі прыкладаў: *Спакоем **воджаны** век здрадным, // Сную, і нейкі са мной шорах* (Я. Купала). ***Вядзёны** пражэктарамі, да яго ішоў міністр з даволі таўставатым канвертам у руках* (В. Казько). *Троху падкапілі* [грошай] *і малацілку набылі, **ведзеную** маторам* (ЛіМ. 1.07.1992). *І ў мур **выводжаных** палацаў // Сваю ўлажы цагліну...* (Я. Колас). *Ён друкаваўся на старонках часопіса «Калосьсе», **выдаванага** спачатку Беларускім інстытутам гаспадаркі і культуры* (У. Калеснік). ***Раздаваныя** дарма... кніжкі сяляне палілі* (В. Ластоўскі).

Гэтаксама ў згаданай акадэмічнай граматыцы беспадстаўна гаворыцца, што дзеепрыметнікі залежнага стану прошлага часу не ўтвараюцца ад некаторых пераходных дзеясловаў, напрыклад, *паскідаць, паздымаць.* У сапраўднасці такія дзеепрыметнікі ў беларускай мове ўтвораны і актыўна функцыянуюць: *паздыманы* (і *пазніманы*), *паскіданы.* Іх змяшчаюць слоўнікі літаратурнай мовы, у прыватнасці ТСБМ. Параўнаем дзеепрыметнік *уздыманы: Ужо самі назвы артыкулаў ...сведчылі пра сур'ёзнасць **уздыманых** іх аўтарам пытанняў* (А. Ліс).

Такім чынам, у беларускай мове, параўнальна з рускай, нашмат шырэй утвараюцца дзеепрыметнікі з суфіксам *-н-* ад дзеясловаў незакончанага трывання. Тут як звычайныя і натуральныя ўспрымаюцца сказы тыпу: *Вякамі **збіраная і тоеная** крыўда, несправядлівасць і прыніжэнне цяпер усплываюць са дна сялянскай душы* (Я. Колас). *Цяпер, калі думаю пра нашу родную мову, то дзіва бярэ: на працягу вякоў **забараняная, гнаная, зневажаная** даўно павінна знікнуць, а яна па сёння жыве* (Полымя. 1997. № 3).

У рускай мове адпаведныя дзеепрыметнікі незакончанага трывання з суфіксам *-н-* не ўжываюцца. На іх месцы — дзеепрыметнікі з суфіксамі *-ем-, -им-* або суфіксам *-вш-*. Так, словазлучэнні *вякамі збіраная і тоеная крыўда, на працягу вякоў забараняная, гнаная, зневажаная мова* можна перакласці: *веками накапливаемая и скрываемая обида, веками накапливавшаяся и утаивавшаяся обида, на протяжении веков запрещаемый, гонимый, унижаемый язык.*

Ніжэй падаём спісы аналагічных слоў, каб абгрунтаваць наша нетрадыцыйнае меркаванне наконт дзеепрыметнікаў залежнага стану прошлага часу, а таксама паказаць (даць) патрэбны моўны матэрыял тым, хто працуе з родным словам.

**Аднаўляны, адніманы, адрываны, адчуваны, апавяданы, апыляны, апяваны, ашчаджаны.**

Наганялі нуду даўно не **аднаўляныя** і спрадвеку не **апыляныя** сцены (В. Ластоўскі). Сцяміўшы гэта, Ляўчук апусціў увесь дзень не **адніманы** ад пляча прыклад свайго «дзегцяра» і дастаў з кішэні ўсохлы і абкрышаны кавалак

хлеба (В. Быкаў). ...Больш тыдня, як каляндар не **адрываны** (Л. Калюга). Пакуль яна рыхтавала сэндвічы — намазвала на хлеб тлушч з бляшанкі, я тайком, з даўно не **адчуванай** любасьцю назіраў за хуткімі рухамі яе спрытных пальчыкаў... (В. Быкаў). **Апавяданае** здарэнне // На ўсіх наводзіць засмучэнне (Я. Колас). Гэта быў жывы вобраз так даўно **апяванай** рознымі адраджэнскімі прарокамі і піітамі кансалідацыі (М.Танк). Гэтыя статуі прывезены ў свой час з Чанстахова, калі на **ашчаджаныя** грошы некалькі сем'яў адважваліся ехаць у «пілігрымку» (П. Пестрак).

**Бачаны, браны.**

...Я зь любасьцю назіраў за даўно не **бачаным** жаночым клопатам (В. Быкаў). ...Не марнае (колькі трэба: калі — жменю, калі — прыгаршчы, але ўсякі раз папоўніцы **бранае**) цягнулася жыццё (Л. Калюга). Хлеб не **браны** ў запас: // Бацька — вечны гаротнік (Ю. Голуб).

**Варожаны, выбіраны, вывожаны, вызываны, выкіданы, выліваны, вытыканы.**

І адпала прыкрасць чакання нечага няяснага (як воўк доўбні) і надвае **варожанага:** добра будзе ці блага? (Л. Калюга). ...Ролю гаспадароў выпаўнялі **выбіраныя** штогоду тры асобы (В. Ластоўскі). Яшчэ на Беларусі чуліся крыкі раскулачаных на смерць і **вывожаных** з хатаў у пустэчы (Л. Геніюш). **Вызываная** праўдай, таптанай, жывой, // Я [Беларусь маладая] узышла, расцвіла непагаслай зарой (Я. Купала). Вышуквалі ...адпадкі, **выкіданыя** тымі, хто атрымліваў ежу ад сваіх (Ф. Аляхновіч). Хоць нуды ў табе шмат **вылівана** слязьмі, // Дума-песня не хітра складаная, // Але нашая ты... (Я. Купала). У скрыні ж зберагалася ...абрусы, ручнікі ды коўдры, **вытыканыя** доўгімі зімовымі вечарамі (Я. Скрыган).

**Гартаваны, глушаны.**

**Гартаваны** працоўнымі днямі, // дух ад ветру ўзмацнеў, акрэп (Л. Геніюш). На зале пачуўся, сілай **глушаны,** смех... (Ядвігін Ш.).

**Дагляданы, дастасоўваны, душаны.**

А дзе ж твае думы, ружовыя кветкі? // Гэтак **дагляданы,** выкаханы дзеткі (Я. Купала. — Пераклад з украінскай). Паслядоўна **дастасоўваны** Я. Станкевічам... прынцып міжмоўнае дыферэнцыяцыі ...паступова забяспечылі разгляданай моўнай школе статус асобнае (Спадчына. 1999. № 5—6). Гэта быў малюнак пакуты й цярпенняў усяго роднага, **душанага** і бэшчанага чужынцам (К. Акула).

**Збіраны, згадваны, здыманы, знаходжаны, значаны, з'яданы.**

Ды цяжка адкінуць, пакінуць // усё, што ў стагоддзях **збірана** (У. Дубоўка). ...Не грэх было б аддаць яму не адну скрынку сваіх, уласных выпісак-картачак, **збіраных** доўга і пераборліва, сабраных даўно і нядаўна (Ф. Янкоўскі). **Згадваныя** раней глыбокія пакуты Кузьмы... складаюць у гэтым сэнсе прыемнае вы-

ключэнне (Д. Бугаёў). Яна ўжо не падобна да сябе на картачках, **здыманых** у №-скай фатаграфіі, у тую вясну (М. Гарэцкі). Гэта словы вечныя, спакон вякоў **знаходжаныя** тымі, што шукалі праўды паміж нядолі (М. Грамыка). Ад самагубнасцей дзікіх, // Ад трупам **значаных** дарог // Не пастрымалі сэрц людскіх // Ні права іхняе, ні бог (Я. Купала). ...Штодня, **з'яданы** печаў пеплам, // Крывёй заліты вочы блекнуць (Я. Купала).

### Казаны, карыстаны, кліканы, купаны.

Эх, што можа быць дарожай // Вольнай волечкі палёў?.. // Думак светлых, мар нязнаных // І нікому **не казаных** // Казак лесу і дарог? (Я. Колас). Купім кузаў бартавой машыны МАЗ новы ці **карыстаны** ў добрым стане (Звязда. 14.07.1992). Пачаліся спатканні і канферэнцыі. І я магу з гонарам сказаць, што заўсёды быў **кліканы** на іх (Б. Кіт, В. Быкаў). Летняй улевай **купаная** [Беларусь], — // Першага снегу бялей (Я. Золак).

### Недагляданы, непамінаны, несены, няволены, няспеваны.

Быў я тады і ў іншай трывозе: ані недагледжаныя лясы і пералескі, паляны і палянкі, дарогі і дарожкі; **недагляданыя** і недагледжаныя яны былі і ўчора (Ф. Янкоўскі). Ды і на свае памінкі мала ён меў надзеі. Боязна яму было, што так **непамінаны** і астанецца... (Л. Калюга). Ён, Сымон, быў **несены** ёю [хваляю жыцця] міма сваёй волі, кіданы з аднаго канца Еўропы ў другі (К. Акула). **Няволеная** сотню год Польшча адважна ўзялася за дзяржаўнае незалежнае жыццё (Я. Купала). Слухаў хлопчык спеў нязнаны // І **няспеваны** нікім (Я. Колас).

### Падаваны, падстрыганы, падчышчаны, паказваны, перавожаны, перакладаны, перарабляны, пераследаваны, пешчаны, плакатаваны, праклінаны, прыгадваны, публікаваны.

Як прыкметна мізэрнее лісце яе [галінкі] // У такім адхіленні — // У шуканні ранейшага сонца свайго, // **Падаванага** ёй... (Н. Мацяш). Калі Рускі падбег і нахіліўся над яго чубатаю шапачкаю і даўна **падстрыганымі** вусамі, дык у цямноце мала чаго ўбачыў (М. Гарэцкі). ...Дзічынай узняўся даўней **падчышчаны** лясок (Ядвігін Ш.). ...Штукі тры [п'есы] ужо недзе сушацца ў папках, яшчэ нікому не **паказваныя** (Я. Скрыган). Багаж ваенных здабычаў, **перавожаных** з месца на месца... уключаў такія рэчы, як дарагія хатнія дываны, сталовае серабро (К. Акула). [Асоба] у аўтару абеларушанай Бібліі выдае рэфарматара не толькі з боку нацыянальна-моўнай формы перакладу, але і з боку сацыяльна-ідэйнага зместу **перакладанага** ім твора (А. Каўка). Колас скончыў чытаць уголас апошні не раз **перарабляны** і нарэшце канчаткова перабелены раздзел паэмы (М. Лужанін). Гэты шматспадзеўны для **пераследаваных** беларусаў акт адбыўся 27 ліпеня 1947 году (М. Скобла). Пяшчотная і няшчасная на ўсё жыццё сястрычка Ніна, здаровы, **пешчаны** маткаю Барыс (І. Мележ). [Уцёсам сацыялізму], паводле паўсюль **плакатаванага** ... вызначэння, узвышаўся СССР у сусвеце (Полымя. 1997. № 5). Генерал Шаптыцкі — // **Праклінанай** славы, — // Ужо не справіш болей // Свой банкет крывавы (Я. Купала). ...Зноў успомніўся не раз **прыгадваны** тут [у кнізе] апошні Коласаў ліст (М. Лужанін). Прымаюцца да разгляду творы, раней не **публікаваныя** (Беларускае радыё. 13.04.2002).

**Разыгрываны, раскладваны, рыхтаваны, рэалізоўваны.**

Найбольш падабаліся нам **разыгрываныя** падзеі з Язэпам... (В. Ластоўскі). Тут гіганцкі дуб увесь сапсаваны ад **раскладванага** ля яго каранёў вогнішча (Хроніка Убарцкага Палесся. 2001). Найбольш іх [моўных памылак] на інфармацыйных палосах, **рыхтаваных** літаральна за пару гадзін (Наша Ніва. 14.02.2000). Выступіўшы, такім чынам, супраць **рэалізоўванай** савецкай акадэмічнай навукаю лініі моўнага разьвіцьця, вучоны змог распрацаваць комплексную нармалізацыйную альтэрнатыву (Ю. Бушлякоў).

**Святкаваны, складаны, спамінаны, спатыканы, спытваны, спяваны, стаўляны, стварaны, суджаны, сустраканы.**

Найбольш чаканым, найгучней **святкаваным** гадавым святам быў Вялікдзень, святое Вялічка (В. Ластоўскі). Шчырым сэрцам, душой // **Складана** [дабро, набытак] няхітра... (Я. Купала). Лятаў той самы, у пачатку **спамінаны**, рэдкі снег (Л. Калюга). ...Я ўбачыў перад сабой жанчыну не часта **спатыканага** характва (М. Лужанін). Я разгубіўся: аплеценая саломкай бутэлька ніколі не **спытванага** шато-ікему, вінаград, ружовая паляндвіца... (М. Лужанін). Адна японская дзяўчына // пра нешчаслівую любоў // ... пакінула такую ж песню, // як і **спяваную** ў Палессі... (У. Дубоўка). Ці помніш прызбу, плот з праслaмі, // Сваю хацінку, свой тачок, // Тваймі **стаўляныя** бацькамі, // Адвекам крыўлены набок? (Я. Купала). Песні там, духамі зораў **створаныя**, // Будуць душу весяліці тваю... (Я. Купала). Кожнай драбнічкай ты [родная мова] варта пашаны, // кожнае слова вякамі **стварана** (У. Дубоўка). Затрыманы тры [чалавекі]. Два з іх раней **суджаныя** (Беларускае радыё. 15.11.1999). [Радкі] рыфмуюцца ў не **сустраканым** мною спалучэнні рыфмаў (М. Танк).

**Твораны.**

Мяне злуе заўсёды, калі падцэньваюць славян. Калі не бяруць **творанага** і вышэйшымі класамі народу, якім толькі была даступная асвета... (Л. Геніюш).

**Ужываны, успамінаны, уціскaны, ушчуваны.**

Ва ўзятых... радках, абзацах адчуваеш, чуеш, бачыш вядомае. **Ужыванае** і ўжывальнае. Яно — Калюгава, належыць яму (Ф. Янкоўскі). Трохі вуліца падсохла: каторы ўжо год, як той **успамінаны** дождж прайшоў (Л. Калюга). Для народа гэта быў час вялікіх спадзяванняў: курды, дагэтуль **уціскaныя** рэжымам Садама Хусейна, атрымалі свабоду слова (Наша слова. 19.09.1996). **Ушчуваны** ідэйнымі праціўнікамі, ён [М. Танк] знаходзіў патрэбу пісаць не толькі барыкадныя гімны і гнеўныя памфлеты... (У. Калеснік).

**Хаваны.**

Потым і Пётра сваю, патаемна ад мацеры **хаваную**, бібліятэку здаў на чужыя рукі (Л. Калюга).

**Шанаваны, шліфаваны, шуканы.**

А ў мяне ж і адна кашуля не мая — // Мамай шытая, вышываная, // Прасаваная, **шанаваная** // Ды з арнаментам па краях... (Р. Тармола-Мірскі). Яны [бе-

ларуская мова, звычкі] не хамскія! Яны тонкія, вякамі **шліфаваныя** (Л. Геніюш). Цюхае на малой кабылцы той **шуканы** батальённы... (М. Гарэцкі). Магчыма, ён не запытаўся лёсу // і не знайшоў **шуканага** нідзе (У. Дубоўка).

Назіранні над прыведзенай групай дзеяслоўных формаў дазваляюць зрабіць некаторыя вывады практычнага плана.

Немагчымасць (або цяжкасць) утварэння дзеепрыметнікаў залежнага стану прошлага часу ад многіх дзеясловаў незакончанага трывання ў рускай мове вымушае выкарыстоўваць формы з суфіксамі *-ем-*, *-им-* пры абазначэнні прыкметы паводле дзеяння, што адбывалася ў мінулым. Напрыклад: *Вчера подписано так долго **подготавливаемое** соглашение* (Тэлеканал «Расія». 16.01.1997).

У беларускай мове для абазначэння прыкметы прадмета паводле дзеяння, што было ў мінулым, ужываюцца формы дзеяслова з суфіксам *-н-*. Таму няма патрэбы «выраўноўваць», скіроўваць ужыванне дзеепрыметнікаў на рускія ўзоры — утвараць неўласцівыя беларускай мове формы на *-емы, -імы.* А прыведзены рускі сказ перакладаецца: *Учора падпісана так доўга **рыхтаванае** пагадненне.*

Сярод выпадкаў ужывання ў беларускіх тэкстах формаў дзеяслова з суфіксамі *-ем-, -ім-* пераважаюць такія, што не выклікаюцца канкрэтнымі ўмовамі выказвання думкі. Прывядзем прыклады.

*Абедзве пабудовы* [вежы], *калісьці любоўна **называемыя** гараджанамі Басяй і Касяй, з'яўляюцца помнікамі архітэктуры канца XIX — пачатку XX стагоддзя* (ЛіМ. 17.09.1999). *Да народа вяртаюцца доўга **замоўчваемыя** сапраўдныя старонкі айчыннай гісторыі* (Звязда. 23.03.1993).

Вылучаныя дзеепрыметнікі абазначаюць адзнакі прадметаў паводле дзеянняў, што адбываліся ў мінулым. Зусім праваменра замест іх ужыць формы *называныя, замоўчваныя.*

* * *

Тое, што дзеепрыметнікі залежнага стану ўтвараюцца з дапамогай суфіксаў *-н-, -т-* ад дзеясловаў незакончанага трывання, дазваляе ім абазначаць прыкмету прадмета паводле дзеяння, якое, пачаўшыся ў мінулым, працягваецца адначасова з дзеяннем дзеяслова-выказніка — выконваць функцыю калькаваных (з рускай мовы) вытвораў на *-емы, -імы.*

Пятро Глебка, вывучаючы мову Янкі Купалы, прыйшоў да высновы, што народны паэт «ужывае формы дзеепрыметнікаў залежнага стану мінулага часу [на *-аны, -яны, -ены*], адэкватна рускім дзеепрыметнікам залежнага стану цяперашняга часу».[1] З'ява гэтая, на думку даследчыка, «вельмі цікавая і павучальная. Як вядома, дзеепрыметнікаў залежнага стану цяперашняга часу (накшталт рускіх: *видимый, судимый, несомый*) у беларускай мове няма». Прывёўшы прыклады з твораў Янкі Купалы (*пагарджаны, неўніманы, неспыняная, крыўлены, гадаваны, гнаная, паганяны* ды інш.), П. Глебка ўгрунтоўвае сваё сцверджанне: «Што гэтыя дзеепрыметнікі выступаюць у ролі адэкватнай замены залежных дзеепрыметнікаў цяперашняга часу, відаць з кантэкстаў, у якіх яны стаяць: *плыве голас **неўніманы**, як бы хвалі мора... а там гэт, у вёсцы і стогне, і плача ваш брат, **пагарджаны**, гаротны мужык... каб ішоў гоман **неспыняны*** і г.д.».

[1] Глебка П. Аб мове Янкі Купалы // Літаратура і мастацтва. 1946. 10 жніўня.

На гэтую асаблівасць дзеепрыметнікаў звернута ўвага ў акадэмічнай «Граматыцы беларускай мовы»: «Часам дзеепрыметнікі з суфіксам *-н-* набываюць значэнне ўтварэнняў з суфіксамі *-ім-*, *-ем-*. У многіх выпадках гэтыя словы маюць значэнне прыметнікаў». Некаторыя з такіх дзеепрыметнікаў змешчаны ў перакладных слоўніках: *гнаны — гонимый, меркаваны — предполагаемый, паважаны — уважаемый, чаканы — ожидаемый, шуканы — искомый* ды інш.

Аднак моўная практыка сведчыць, што падобныя дзеепрыметнікавыя формы (асобныя з іх утвораны ад дзеясловаў закончанага трывання) ужываюцца шырэй. Пераканацца ў гэтым дапаможа ілюстрацыйны матэрыял.

**Абліваны, аналізаваны, апісваны.**

Злітае потам, слязьмі **абліванае**, // Дзікае зелле прыносіш ты [поле] нам (Я. Колас). Аднак у **аналізаваным** вершы выкарыстаны прынцып пераважна рамантычнага адлюстравання рэчаіснасці (Роднае слова. 2002. № 6). У сувязі з **апісванымі** падзеямі ўяўляе цікавасць наступны факт... (М. Скобла).

**Беражоны, біты.**

У асобнай ячэйцы, як рэч каштоўная, **беражоная** — цэйсаўскі бінокль, ляжыць на анучцы (А. Федарэнка). Па загаду вучыцеля сек Мікола вінаватых, расцягнутых на школьнай лаўцы, прычым **бітага** трымалі, трэба прызнаць, з немалым здавольненнем, яго ж уласныя калегі (В. Ластоўскі).

**Выкарыстоўваны, вымаўляны, выпусканы, выпушчаны.**

Не буду забараняць бесперашкоднага найму не **выкарыстоўваных** сялянамі зямель... (Хроніка Убарцкага Палесся. 2001). Больш дастасоўнай да семантыкі [слова] трэба лічыць форму хуткавымаўлянка ‘хутка **вымаўляны** тэкст’ (П. Сцяцко). Кніжная прадукцыя, **выпусканая** нашым выдавецтвам, мае такую нізкую якасць, што замоўчваць гэта ніяк нельга (Я. Колас). **Выпушчаная** прадукцыя пачала каштаваць танней... (Я. Колас).

**Гнаны, гноблены.**

...Аднекуль **гнаныя** ім [ветрам] па шарпаку танюткія, палахлівыя блікі парошы самога мяне высільвалі і збівалі з арыенціру (Я. Скрыган). Вось гадамі, з калітамі // да яе [крыніцы] й брыдуць лагамі // горам **гнобленыя** людзі (Н. Арсеннева).

**Займаны, заліваны, засяваны, здабываны.**

Чырвонаармейцы і так знаходзяцца праз суткі ў нарадзе, апрача таго заняткі па **займанай** пасадзе (М. Гарэцкі). Выганы гэтыя займаюць найбольш нізкія, з вясны **залівáныя** вадой тарфяныя месцы (Ядвігін Ш.). Чужая старана тугою арана, слёзамі **засявана** (Прыказка). ...І хто мог з пэўнасцю сказаць, калі будзе прыдатны да ўжытку **здабываны** цяпер запас ваенных ведаў (К. Акула).

**Ігнараваны, імітаваны.**

Ёсць яшчэ традыцыйна **ігнараваная** група (5—6 % ад насельніцтва) жыхароў Берасцейшчыны і Піншчыны, якія карыстаюцца ўкраінскай мовай або ра-

сейска-ўкраінскім суржыкам (Наша Ніва. 1.06.1998). Ды яшчэ цяжэй было яму датрымаць на твары так натуральна **імітаваную** бацькоўскую ветлівасць (Л. Калюга).

**Каардынаваны, калыханы, канверсаваны, кантраляваны, караны, катаваны, кіданы, кіраваны, крываўлены.**

[Кабыла] здзіўлена пазірала на слаба **каардынаваныя** рухі свайго гаспадара (А. Мрый). Глуха шумяць **калыханыя** ветрам елкі і сосны... (Я. Купала). Лісце кружыцца, лісце асенняе, // А паветра ўсцяж поўніцца ценямі // Ночкі змрочнай асенняй туманнае, // Лістападавым сном **калыханае** (А. Шарэпа-Лапіцкая). Уладальнікі (карыстальнікі) транспартных сродкаў краін СНД аплачваюць іх праезд у свабодна **канверсаванай** валюце (Звязда. 10.07.1993). [Ёсць] свае звычкі, свае правілы паводзінаў — акрэсленыя інструкцыямі і **кантраляваныя** дазорнымі маралі (ЛіМ. 23.11.1973). Пайшоў на мукі, цемраю **караны**, // за словы праўды — покліч неўстрыманы (А. Салавей). [Ватыкан] пачаў тварыць з Польшчай угоду, заткнуўшы вушы на стогны **катаваных** у польскай турме каталікоў (В. Ластоўскі). «Нева», **кіданая** хвалямі, панесла нас да аднязнаных, а гэтак пажаданых Саловак (Ф. Аляхновіч). Чым больш удасца адваяваць у народа супольнасці, тым больш **кіраваная** і заможная будзе краіна (С. Дубавец). [Сымон Спарыш] як мага ўзмацняў веру ў першапачатковыя ідэалы, вынесеныя з далёкай, цяпер ужо нанава чужнікамі **крываўленай** Бацькаўшчыны (К. Акула).

**Ламаны, любёны, люблены.**

Хапаецца [Мікіта] зноў за бутэлькі. Трэск **ламаных** дзвярэй (Я. Купала). Балюча было і нам — менчукам: са жменькі нашага зямлячаства вырвалі вельмі сімпатычнага, **любёнага** ўсімі жыдка Х... (Ядвігін Ш.). Сытуацыя з чытачамі ў Беларусі асаблівая. Кожны на пералік — дарагі і **люблены** (Наша Ніва. 17.04.2000).

**Мераны, моўлены, маўляны, мяняны.**

Мой дом — прыволле зёзднай далі, // Арламі **мераны** абшар (Я. Купала). Хай бы часам **моўленаму** слову // гэткай дзейснай моцы хоць палову! (А. Русецкі). Мастацкае слова, // **Маўлянае** міла — // Ад ліха замова, // Чароўная сіла (Р. Крушына). Мяркуючы па... **мяняных** [жонкаю] штодня крымпленавых сукенках, партовы дзеяч паспеў да адсідкі сёе-тое прыхаваць (У. Арлоў).

**Назіраны, напаўняны, неапальваны, неапісаны, незабываны, незгінаны, незмаўканы, непадрабляны, неперасцераганы, нераскладаны, нестрываны, несціраны, нехаваны, нішчаны.**

Змены, якія адбыліся ва узусе матэматычнай тэрміналогіі на працягу 1927—1929 гг., **назіраныя** на прыкладзе розных выданняў падручніка А. Астраба, пацвярджаюць абагульняльнае меркаванне П. Вэкслера... (С. Запрудскі). Сапраўдны мастак той, хто рашуча пераадольвае жанравыя бар'еры і, калі гэтага вымагае **назіраны** матэрыял, можа ўзняцца значна вышэй, каб штурмаваць бастыёны філасофскага асэнсавання рэчаіснасці (У. Юрэвіч). Мяшку, набітаму

рублямі, // Б'е кожны нізенькі паклон, // Хоць бы зладзейскімі рукамі // Быў **напаўняны** з крыўдай ён (Я. Купала). ...Адчуваю холад і сырасць **неапальваных** камераў старыннага муру (Л. Генюш). ...Тысячы чужынцаў слухалі і дзіву даваліся тэй **неапісанай** красе — музыцы, зачараванай у зычнай мове нашых прадзедаў (Я. Купала). Перамаглі яго [ветру] песню і збочылі // **незабываныя** песні дзявочыя (У. Дубоўка). Я вырасла бярэзінкай лясной, // А гэта значыць — гордай, **незгінанай** (Е. Лось). ...Жыццё пульсуе рытмам **незмаўканым** (А. Салавей). Падабаўся дужа панам дзяціны падзякуй, у ім яны бачылі шчырую, **непадрабляную** праўду (У. Галубок). [У карчме] мужык п'е і напіваецца, ужо нічым **неперасцераганы** гаспадаром і тым болей яшчэ схілены ім да п'янства (Хроніка Убарцкага Палесся. 2001). **Нераскладаныя** гукі ёсць элементы людской мовы, з якіх і ствараюцца ўсе склады і словы (Я. Колас). Затое ў грудзях у яго ўвесь час пякло і паліла, усё там ператварылася ў клубок **нестрыванага** разбухлага болю (В. Быкаў). Гэты перыяд пакінуў **несціраны** след у біяграфіі нашага народа (Наша слова. 17.03.1999). І па кроплі, па маленькай частцы // Мне ў душу збалелую ідзе // **Нехаванае** людское шчасце // Толькі што спатканых мной людзей (Г. Бураўкін). — А вы даўно з сынам і нявесткай жывеце? — з **нехаванай** падазронасцю спытаў [доктар] Хрысціну (А. Асіпенка). [Голас] падымаўся, рассяваўся, удзірваньваўся ў глебу і, **нішчаны** ганьбавіннем, не знікаў... (Л. Вашко).

**Паганяны, паганяты, падбіваны, падганяны, падняволіваны, падпіханы, падтрымованы, пазычаны, пакіданы, паліваны, папіканы, параўнаны, параўноўваны, парушаны, пасыланы, паўтараны, паяснёны, перажываны, пераказваны, перарываны, праводжаны, прапанаваны, прыхаваны, публікаваны.**

Раўлі каровы, ідучы з поля на панадворак, **паганяныя** Даротаю, дзяўчынай-падлеткам (А. Васілеўскі). А ён [святы], **паганяты,** няўзнаны, // Душой шчэ згарае між нас (У. Жылка). А тым часам электрыфікатар, **падбіваны** жонкаю, замысляў супраць санітара нядобрую справу (Я. Колас). **Падганяны** абставінамі з двух бакоў, я пайшоў па сініцу, якую можна было патрымаць у руцэ (У. Калеснік) [Расійскія бальшавікі] змушаны былі хоць афіцыйна ствараць ілюзіі, што яны таксама спачуваюць нацыянальным традыцыям **падняволіваных** імі народаў (Я. Купала). Крыж ужо цалавалі, і Базыль, **падпіханы** ззаду Кацярынай, упёрся некаму ў патыліцу (М. Нікановіч). Свет перавярнуўся дагары нагамі, усё засланіў сабою, **падтрымованы** сто мільёнамі штыкоў і аўтаматаў — грузін (Л. Генюш). На **пазычаным** хлебе касіць — што на лечаным кані ў дарогу ехаць (Прыказка). Вецер б'ецца у краты мядзяныя, // Ды часамі скрозь рык // Ліры просіцца зык, // Са старым, са сляпым **пакіданае** (М. Грамыка). Непрытульна, сіратліва // Каласіць было на ніве, // Навальніцамі ўзаранай // І слязамі **паліванай** (М. Танк). **Папіканы** хлеб горкі (Прыказка). А якая радасць для сапраўднага грыбніка, калі насунешся на мнагалікую сям'ю ладных, ні з чым не **параўнаных** баравікоў (Я. Колас). Даклад... быў прысвечаны разгляду сувязі паміж фразеалагічнай адзінкай, канцэптуальнай структурай і народнай культурай **параўноўваных** моваў (А. Аксамітаў). Пасля няспыннае дзённае калатнечы прыемна ўражвала начная, амаль мірная ціша, далікатна **парушаная** адно ціхманым стракатаннем цыкадаў (В. Быкаў). Думаю, што **пасыланае** пападае ў Вашы рукі (Я. Колас). Спарыш поўнасцю згаджаўся з трапнай,

агульна ведамай і ўсюды ў Шатландыі **паўтаранай** ацэнкаю... (К. Акула). Калі паміж паясняльным і **паяснёным** словам стаіць шмат слоў, думка [у сказе] бывае незразумелая (Звязда. 4.12.1969). [Боль] з жаласцю да ўсяго старога, якое само не зможа спіхнуць з сябе цяжар несправядліва **перажыванага** жыцця (М. Нікановіч). Раманоўскую і ў **переказваных** казках дзеці ведзьмай (празывалі ЛіМ. 17.11.1995). — За што ж забіваць, Наташа? — апаўшым **перарываным** голасам, калоцячыся ад страху, прамовіў ён (Я. Колас). [Ліст] накіраваны супраць русыфікацыі беларускай мовы **праводжанай** палітыкай (Наша слова. 25.11. 1998). **Прапанаваная** чытачам «Полымя» паэма «Восень» складае другі раздзел кнігі «Поры года» (Н. Мацяш). Даследчыкі сцвярджаюць, што ў 40-я гады Шапэн ставіўся да Ліста з дрэнна **прыхаванай** іроніяй, нават антыпатыяй (ЛіМ. 22.02.2002). Культурна-гістарычная скіраванасць нашага выдання абавязвае нас зберагаць графічныя, правапісныя і лексіка-граматычныя нормы **публікаваных** матэрыялаў (Спадчына. 2002. № 1-2).

### Раены, разгляданы, разглядваны, роблены, рэдагаваны, рэкамендаваны, рэцэнзаваны.

Кіруецца дарадчык згледжаным за шмат гадоў педагагічнай працы ў гэтых маскоўскіх профільных вучэльнях. Але **раенае** ім каштоўнае, вядома, і для канкурсантаў тэатральнага факультэта Беларускай акадэміі мастацтваў (У. Мехаў). Беларусь, як вядома, не была адгароджана сцяной ад сваёй крэўнай суседкі, а ў **разгляданы** час [XV—XVII стст.] ніколькі не саступала ёй ні граматнасцю, ні агульным станам культуры (А. Каўка). Забыўшыся пра дзелавітасць свайго артыкула, раптам ён пусціцца ў такое лірычнае падарожжа, што вы губляецеся: ці то вы чытаеце артыкул, ці то гэта выпіска з **разглядванага** твора (Я. Скрыган). На базе БТ можна і трэба было б рабіць, ствараць сацыяльную рэкламу. Яна, **робленая** ў Беларусі, знайшла б спажыўцоў і за межамі (ЛіМ. 14.02.1997). Выходзіць друкаваная газета «Трудовой путь», **рэдагаваная** і складаная вязьнямі (Ф. Аляхновіч). Такім чынам, той, каму канкрэтныя ўмовы дазваляюць, можа напрытрымлівацца **рэкамендаванага** часопісам тэматычнага планавання (Настаўніцкая газета. 9.02.1974). Нарэшце спроба ліквідаваць гэты прагал была зроблена ў **рэцэнзаванай** працы (Роднае слова. 2000. № 3).

### Свячоны, спадзяваны, спансараваны, стрымліваны.

Нябёсамі змалку **свячоны**, // Жыву на грахоўнай зямлі... (А. Салтук). ...Да яго прынеслі ад немцаў паперу аб **спадзяваным** у найбліжэйшыя дні прыездзе цэлай масы ўцекачоў (Полымя. 1991. № 5). ...Нас ігнаруюць і душаць традыцыяналісты, добраахвотныя цэнзары ў **спансараваных**... урадам псэўдабеларускіх выданьнях (Наша Ніва. 14.02.2000). А Панас і Тарас аж жываты падціснулі паясамі, каб не трэснуць ад **стрымліванага** смеху (В. Ластоўскі).

### Твораны.

Кожная думка — гэта цэгла ў **твораным** лёсе — злым ці добрым (Ф. Аляхновіч). ...Таксама пачынаецца Веснавы рух, і ім [А. Лявіцкім] пачаты, і ім **твораны** (У. Жылка).

**Ужываны, упіканы.**

Але навучанне вымагае, каб кожнае слова, **ужыванае** вучнямі, злучалася з прадстаўленнем яго значэння (Я. Колас). К. Вашчына піша аб тым, што шырока **ўжываны** ў перыядычным друку выраз *звярнуць увагу* як адпаведнік рускага *обратить внимание* чужы для беларускай мовы (Веснік БДУ. Серыя 4. 1997. № 2). Ідзі, мой твор, ідзі, камбайн, у людзі, // ізноў не здронці розум крытыканам. // Яшчэ гаручку з іх які набудзе, — // а ты за гэта будзеш **упіканы** (У. Дубоўка).

**Хаваны, халоджаны, хвалены, хрышчаны.**

На веры людской і павазе, // **Хаваны** між яраў і лоз, // У кожны надворак [ваўкалак] залазе // І водзіць труслівасць за нос (Я. Купала). І ў гэту пару прыйшоў нарэшце ліст ад бацькоў, якога чакаў Карызна з таемным, старанна **хаваным** нават ад самога сябе страхам (М. Зарэцкі). Магчыма, што якраз адгэтуль заікаўся **халоджаны** вадою стары... «максім» (К. Акула). Сцёпка Жук, па бацьку Ёсцы, // Гаспадар усім на дзіва, // Усімі **хвалены** на вёсцы, // Жыве згодна і пачціва (Я. Купала). Йшлі байцы і, **хрышчаныя** боем, // ворага спынялі, як маглі (Л. Геніюш).

**Цешаны, цытаваны.**

...Прыгноблены і стомай, і змяркannем, // не **цешаны** дабром, хвалёнай воляй, // сядаў тварыць, іграць (А. Салавей). Калісьці хтосьці з настаўнікаў не сказаў яму, што **цытаваны** матэрыял трэба браць у двукоссе (ЛіМ. 12.07.1991).

**Чаканы, чытаны.**

Пашлі, Каляда, Беларусі **чаканага** сонца, // пустэльную цішу мяцеліцай раскалышы (А. Хатэнка). Для поўнага і яснага ўсвойвання **чытанага** яшчэ мала зразумець асобныя словы, — трэба, каб вучні разумелі і самыя адносіны паміж мыслямі (Я. Колас).

**Шанаваны, шкадаваны, шчэмлены.**

Сабковіч ... дзеля збольшання свайго багацця хоча жаніцца з Адэляй, дачкой **шанаванага** ў павеце суддзі (Я. Купала). Наста ўбачыла, што Боганчык звярнуў свайго жарабка з дарогі. Крычыць, не злазячы з воза... Відаць, паганяў свайго **шкадаванага,** не глядзеў, калі пачалі страляць (І. Пташнікаў). Але ні злосць твая, ні слёзы, // Ні моцна **шчэмлены** кулак // Не зменяць справы аніяк — // Цярпі! чаму? дакуль цярпенне? (Я. Колас).

Як паказвае прыведзены матэрыял, у беларускай мове значна шырэй, чым у рускай, утвараюцца дзеепрыметнікі прошлага часу ад дзеясловаў незакончанага трывання з дапамогай суфіксаў *-н-, -т-*. Такія дзеепрыметнікі, абазначаючы прыкмету прадмета паводле дзеяння ў яго незавершанасці, працягласці, нярэдка выступаюць адпаведнікамі калькаваных з рускай мовы дзеепрыметнікавых формаў з суфіксамі *-ем-, -ім-*. Іх часавае значэнне акрэсліваецца, канкрэтызуецца ў кантэксце.

Пры гэтым назіраецца заканамернасць: калі ў рускай мове дзеяслоўныя формы з суфіксамі *-ем-, им-* могуць ужывацца пры дзеясловах-выказніках не толькі цяперашняга, а і прошлага і будучага часу, то ў беларускай мове такое ўжыванне характэрнае для формаў дзеяслова з суфіксам *-н-*.

Здольнасць дзеепрыметнікаў з суфіксамі *-н-, -т-* выказваць прыкмету паводле дзеяння, адначасовага з дзеяннем, выражаным дзеясловам-выказнікам, давала падставу ўжо нашым далёкім продкам разумець такія дзеяслоўныя формы як адпаведнікі кніжных утварэнняў з суфіксамі *-ем-, -им-*. Як адзначаюць даследчыкі гісторыі беларускай мовы, «у большасці выпадкаў царкоўнаславянскія дзеепрыметнікі на *-м-* Цяпінскі перакладае формамі дзеепрыметнікаў залежнага стану прошлага часу з суфіксамі *-н-* або *-т-*: *беснуемый — бешоный, видимый — виденый, вметаемый — вкидываный, глаголемый — мовеный, искушаемый — кушоный, ненавидимый — ненавиденый...*»[1].

Увогуле ў беларускай мове граматычныя значэнні стану і часу, іншым разам і трывання не з'яўляюцца строга замацаванымі за пэўнымі формамі дзеепрыметнікаў.

Так, у асобных выпадках дзеепрыметнікі закончанага трывання з суфіксамі *-н-, -т-* могуць адпавядаць рускім дзеепрыметнікам з суфіксамі *-ем-, -им-: Начамі мерзнем у* ***неацепленай*** (параўн. *неотапливаемой) казарме* (М. Танк). [Імпарт друкаванай прадукцыі] *пастулова запаўняе,* ***падагрэты*** (параўн. *подогреваемый) хціўым камерцыйным разлікам, нашу інфармацыйную прастору* (М. Мятліцкі). *Ударная групоўка павінна была даць бой ля Ельні, выбіць праціўніка з* ***занятых*** (параўн. *занимаемых) ім рубяжоў* (Звязда. 3.09.1971). *Павольна бераг мерзлы асядае, //* ***Падмыты*** (параўн. *подмываемый) ашалелаю ракой* (А. Пысін).

* * *

У межах дзеяслоўных формаў з суфіксамі *-н-, -т-* вылучаецца група дзеепрыметнікаў, якія значэннем адпавядаюць дзеепрыметнікам незалежнага стану. Ці не ўпершыню ў беларускім мовазнаўстве на гэта была звернута ўвага трыццаць гадоў таму:

«Слова *захаваны* ўтворана ад дзеяслова *захавацца* (зберагчыся), выказвае значэнне «які захаваўся». Яно ўжываецца ў розных стылях сучаснай беларускай мовы. *Вучоныя наткнуліся на добра* ***захаваны*** *адбітак яшчара* (Звязда. 24.09. 1969). ...Слова *захаваны* тоеснае значэннем рускаму дзеепрыметніку *сохранившийся.* ...Слова *захаваны* ўваходзіць у шэраг дзеепрыметнікавых форм з суфіксам *-н-*, якія абазначаюць прыкмету прадмета паводле дзеяння, што ўтвараецца самім прадметам: *збанкрутаваны* (рус. обанкротившийся) *разбушаваны* (рус. разбушевавшийся), *рассмяяны* (рус. рассмеявшийся)»[2].

Зробленае назіранне было развіта намі ў артыкуле «Словы з дзеяслова» і падмацавана значнай колькасцю прыкладаў (выяўлены аналагічныя дзеепрыметнікі і з суфіксам *-т-*)[3]. Вельмі важна, што такі погляд на згаданыя формы дзеепрыметніка падзяляецца іншымі мовазнаўцамі[4].

---

1 Мова беларускай пісьменнасці XIV—XVIII стст. С. 246—247.

2 Сучасная беларуская мова (Пытанні культуры мовы). Мн., 1973. С. 164—165.

3 Маладосць. 1997. № 7. С. 223—238.

4 Гл.: Сямешка Л. І., Шкраба І. Р., Бадзевіч З. І. Курс беларускай мовы. С. 420; Вештарт Г. «Аліхесава пята» беларускага друку // ЛіМ. 23.11.2001; Сцяцко П. Культура мовы // Наша слова. 30.01.2002.

Зважаючы на тое, што закрануты аспект выкарыстання дзеепрыметнікаў толькі пачынае ўкараняцца ў навучальны працэс, і беручы на ўвагу значную ролю гэтых формаў дзеяслова для моўнай практыкі, для выяўлення і захавання самабытнасці і жыццядзейнасці беларускай мовы, мэтазгодна шырэй паказаць гэтыя дзеепрыметнікі, каб яны былі навідавоку, пад рукой у тых, хто піша (гаворыць) па-беларуску. Некаторыя з прыводжаных ніжэй слоў падаюцца ў ТСБМ, але з паметаю «дзеепрым. зал. пр.», гэта значыць, што яны кваліфікуюцца як дзеепрыметнікі залежнага стану прошлага часу, утвораныя ад дзеясловаў пераходных; частка падобных дзеяслоўных формаў вызначаецца як прыметнікі. Мы ж выяўляем тыя дзеепрыметнікі (некаторыя з іх перайшлі ў прыметнікі), якія ўтварыліся ад дзеясловаў непераходных, пераважна зваротных.

### Абвалены, аб'еханы, абнадзеены, абноўлены, абязгрошаны, адбіты, адбыты, адлежаны, акрыяны, апанураны, аперaны, асвойтаны, асунуты, ачнуты, ачулены.

Гарэла **абваленая** столь (В. Адамчык). У лёгкім каптаніку, з **аб'еханай** на плечы суконнай хусткай, сюды ўжо ...спяшалася Мацюшкава Сабіна (В. Адамчык). Раптоўна **абнадзеены**, Рыбак лёгка збег з пагорка (В. Быкаў). [Шэмет:] Бабы бачылі? А іконы **абноўленай** яны яшчэ не бачылі? (М. Лобан). **Абязгрошаныя,** але не засмучаныя, мы апынуліся невялікай кампаніяй у рэстаране «Беларусь» (І. Шамякін). Ідзе ён адзін без дарогі, // **Адбіты** ад стада баран... (Я. Колас). Гэта злучэнне падзей толькі што **адбытай** у глухім лесе драмы... у момант выклікала ў ім думку, ці не глядзяць і за ім чые-небудзь ліхія вочы (Я. Колас). Усе са свежымі навінамі прыходзілі, **адлежаныя** творы прыносілі (М. Калачынскі). Перш чым ён, ашаломлены і **акрыяны** аднача́сна, паспеў зразумець, што будзе далей, дзверы расчыніліся... (В. Быкаў). І яны, яшчэ больш **апануранья** і ўстрывожаныя, маркотна пастыргікалі да вёскі (В. Быкаў). ...Яна ўзяла ў руку гэтае шчупленькае, з **аперанымі** трохі крыльцамі кураня (В. Адамчык). ...Словы цяклі па небе маленькімі **аперанымі** душамі (Л. Вашко). **Асвойтаныя** з паўзмрокам вочы заўважылі каштанавыя валасы (М. Лынькоў). Веснавою парою — // перад ворывам — // спальвалі стажкі саломы. // **Асунутыя,** распоў- злыя... (В. Рагаўцоў). На імёны, на музыку — мода, — // Не пазнаць мне тутэйшых мясцін. // Да **ачнутага** духу народа // Нам з табой яшчэ доўга ісці (Я. Янішчыц). Гэта не былі згрызоты раптам **ачуленага** сумлення, гэта не было позняе каянне (М. Зарэцкі).

### Выбеганы, вывалены, выгаладаны, выгараны, выгуляны, вызараны, вылежаны, выпадзены, выпіты, выплюхнуты, выспаны, выхаджаны, выцягнуты, выяўлены.

**Выбеганы** за дзень, цяпер ён [Ганчак] не грэўся, а проста адпачываў, дрымотна пазіраючы праз шкліны вачэй на мігатлівыя жарынкі вогнішча (М. Ракіцкі). У яго ад жарту зусім хаваюцца вочы і тырчыць дзіркаю **вывалены** зуб (Я. Скрыган). За доўгія... сталы **выгаладаныя** госці лезлі ўжо без прынукі (В. Адамчык). Саламяны **выгараны** капялюш, дагледжаная барoдка... сведчылі пра тое, што перад намі быў даволі самавіты, калі не сказаць інтэлігентны чалавек (В. Адамчык). Адразу за канцавымі дварамі **выгуляныя** коні заварушыліся і самі пабеглі шпарка (І. Чыгрынаў). І Януку здалося, што ў траве // І ў небе **вы-**

**заранымі** чуе ён // ...дзіўнай скрыпкі Цішкавай ігру... (М. Танк). Мокрая ралля-зябліва — чорная-чорная, бы палатно, вываранае ў траве-мачанічніку і **вылежанае** ў рудзе-гразі (І. Пташнікаў). [У хвойніку] ліпкаю павучынаю бэрсаўся рэдкі поцемак і цілікала невядомая позняя птушачка ці мо **выпадзенае** з гнязда пташаня (В. Адамчык). ...Нехта ў фае натрапіцца знаёмы, убачыць, што я добра **выпіты** (Я. Скрыган). ...Так, ён збочваў, каб падвязаць зламаную галіну і кінуць у ваду **выплюхнутую** рыбіну (Б. Пятровіч). Адкрываўся свет — белаватае, выпаласканае дажджамі ржышча за вёскаю, зялёная рунь на грудку, рудая і пухкая, як **выхаджанае** цеста, ралля... (В. Адамчык). Лячу начамі я сінімі, // **Выцягнуты** на ўвесь рост (Р. Тармола-Мірскі). Найбольш нельга даравацъ гэтага [абыякавасці да мовы] пісьменнікам **выяўленым**... (Я. Колас). Цішка Гартны справядліва адносіў А. Гурло да «здольных, яскрава **выяўленых** паэтаў і празаікаў» (Роднае слова. 2002. № 1).

## Грознарасперазаны.

...Годам пазней ён, яшчэ юнак, прыбудзе ў сталіцу на творчы семінар маладых літаратараў і апынецца ў гурце дзядзькоў-франтавікоў, а заадно трапіць пад позірк-прыцэл **грознарасперазанага** крытыка-тэрарыста Л. Бэндэ (Г. Далідовіч).

**Заблуканы, заваляны, завершаны, загарунены, загінуты, загледжаны, заглыблены, задоўжаны, задыханы, зажурбёны, зазябнуты, ззябнуты, закончаны, закочаны, запараны, запенены, заплыты, зарадаваны, зароджаны, заседжаны, заслезены, заслуханы, засохнуты, заспакоены, застоены, затайнены, затонуты, захмелены, зацяганы, зацягнуты, збеганы, зблуканы, збыты, звешаны, згаладаны, згараваны, згінуты, згорнуты, згушчаны, здоўжаны, з'еханы, зжабрачаны, зжыты, злеплены, зложаны, змаркочаны, зменены, знікнёны, знікнуты, знябожаны, знябыты, знядолены, зрошчаны, з'юджаны, з'яўлены, з'яўнены.**

Адно, часам птах **заблуканы** // залыпае крыллем... (Я. Купала). ...Мужчыны бралі што падхватнае ў руку: лапаты, калы ды якія дзе **заваляныя** жэрдкі (В. Адамчык). Памаладзелай уступіла краіна ў трэцюю вясну паскарэння. Прыліў маладой энергіі выклікаў і **завершаны** нядаўна ...з'езд (Звязда. 2.05.1987). Ішлі [развітваючыся з Якубам Коласам] старыя і маладыя, ішлі розныя, па-рознаму **загаруненыя** (А. Лойка). **Загінутая** грамата знайшлася (Хв. Шынклер). Схіляем галовы перад нявінна **загінутымі** людзьмі (Р. Гарэцкі). Хворы, ужо незадоўга да смерці, выходзіў на аселіцу і, абапёршыся на веснікі, прастойваў цэлыя дні, **загледжаны** ўдалеч (У. Калеснік). Гэта на іх [буслоў] глядзеў размораны спёкай, **заглыблены** ў свае мары хлапчук (Я. Брыль). Усе ведаюць, што **задоўжанае** калектыўнае самаашуканства непазбежна вядзе да катастрофы (ЛіМ. 22.12.1989). Да Гуры падбег **задыханы** шафёр (В. Адамчык). **Зажурбёны,** змаркочаны, апанаваны роем нахлынуўшых думак, сядзеў папугай... (Я. Лёсік). У **зазябнутых** руках [пастушок] трымае бяроставую трубу (Я. Купала). Так цяпліў сваім сэрцам ёй грудзі, — // Як маці не песціць дзіцё — як спаўе, // Як вогнішча **ззябнутых** грэці не будзе (Я. Купала). Наогул класавыя меркі да асобы, якая дзейнічала ва ўмовах яшчэ не **закончанай** класавай дыферэнцыяцыі, патрабуюць ...асабліва ўважлівага карыстання (А. Каўка). І раптам

прыгадалася сённяшняя дарога, лес. Мацюшка Бортнік, яго **закочаныя** пад лоб з сіняватымі бялкамі вочы (В. Адамчык). Саскочыўшы з саняў, падпіхалі іх, памагаючы **запараным**, змучаным коням (В. Адамчык). А месяц прыходзіць к табе, маладзік, // купацца ў **запененых** хвалях (Л. Геніюш). Тут жа было некалькі сажалак, **заплытых** і зарослых гуткім пакрывалам з моху, асакі і карэння (М. Гарэцкі). Побач, за елкамі — нацэленыя на акружаных, **зарадаваныя** сатанінскаю радасцю, яны [карнікі] заселі забіваць (Ф. Янкоўскі). **Зароджаная** пяцьдзесят гадоў назад новая галіна ведаў — хімічная фізіка... стала самастойнай навукай (Звязда. 3.04.1982). **Заседжаныя** ў акопах на ўсходзе Беларусі, яны зрушылі з месца... (К. Акула). Мужчыны выціралі **заслезеныя** вочы (В. Адамчык). [У маленстве] я менш за ўсё думаў пра асэнсаванне прыгажосці, а проста браў яе — **заслуханы**, загледжаны, зачараваны (Я. Брыль). Дрэва **засохнутае** ля тваёй будыніны — хаўтуры каго-небудзь з родных або якая непрыемнасць (Беларускі народны соннік. Мн., 1996). Над **заспакоенаю** зямлёю звісала цёмная глыба неба (Я. Колас). Каб не адстаць ад Корсака, [Імполь] падварушваў **застоенага** соннага каня (В. Адамчык). [Паэт] расхінае перад намі цэлы свет, **затайнены** ў жолудзе альбо пні, веніку альбо купіне, іголцы альбо стале... (Н. Мацяш). Багаты і раздзел перакладу, дзе змешчаны «**Затонуты** звон» Г. Гаўптмана... (ЛіМ. 10.10.1991). Паэт **захмелены** // Дзяўчат // Прыводзіў вечарамі ў госці (Г. Бураўкін). Ад зары да зары па радзімай зямлі // **Зацяганыя** людзі снуюцца (Я. Купала). Першым парушыў **зацягненую** паўзу прафесар (В. Санько). [Дачаснікі] губляюць апошні розум у **зацягнутай** па тэрмінах агоніі (С. Законнікаў). ...Яго, маладога, поўнага сіл здараўца, сёння хацеў пачаставаць хлебам нямоглы, **збеганы** жабрак (В. Гардзей). Між рэкамі і пушчамі стаю. // **Зблуканых** запрашаю на вячэру (Д. Бічэль). Я буду маліцца да нівы ўсёй сілаю, // Каб лепшаю ўродай плаціла за труд, // Збагаціла сельскую хату пахілую, // Надзеі **збытымі** убачыў наш люд (Я. Купала). Белая, густая імгла ўстае з сенажаці, спавівае Эроса і **звешаную** ў яго абняцці Псіху (Я. Купала). [Змітрок:] Як ваўкі **згаладаныя** кідаецеся на падаль! (М. Грамыка). Хадзіла мая бабка // Па святых мясцінах, // Прасіла ў бога хлеба, // Прыплоду скаціне, // Шчасця і здароўя // Неразумным дзецям, // **Згараваным** людцам // На ўсім белым свеце (М. Танк). Вохкалі-божкалі над пераможаным нахабнікам [ястрабам] суседкі... прыпамінамі сваіх **згінутых** курак і куранят (Л. Раманенка). Высокія, да калень, сцяблiны тугімі бутонамі **згорнутых** кветак білі па ягоных галёнках (В. Быкаў). Другая вестка ў доме старой пані згусціла яшчэ больш і без таго **згушчаны** страх (Я. Колас). Здаецца, ніколі ў жыцці не было гэтакае доўгае зімы, зацяжное вясны, гэтакіх **здоўжаных** дзён і начэй (А. Жук). На паўдарозе да вёскі сустрэлі [жанчыну]... у чорным пpыталеным паўсачку і **з'еханай** ледзь не на патыліцу хустцы (Г. Далідовіч). На зямлі **зжабрачанай** // я жыву падкідышам (Ф. Баторын). Усё гэта, кожны кавалачак кругавога пано, арганічна **зжытае** з дрэвам, яго духмянасцю, прыгажосцю, сілай (В. Карамазаў). Лёг на небе шлях млечны, шлях **злепленых** зорак... (Я. Купала). Хіба ж зразу адмовішся ад гэтых, вякамі **зложаных,** крыклівых сямейных традыцый-звычаяў? (Я. Колас). І дні, што ў бяссонных чаўнах // Санетамі ранішнімі плылі, // Вечарэюць у ссохлым быллі // **Змаркочанымі** навеламі (Р. Барадулін). Аднак у аб'ектыўна **змененым** свеце змяніўся і змест паняцця «дзяржаўны нейтралітэт» (Звязда. 7.04.1995). Знікаю ў натоўпе — чужая. // А ты мяне знойдзеш — **зніknёны** (Д. Бічэль). А можа ўсе вобразы... былі як адбіткі // тых **зніkнутых** жыццяў, // што тут пражылі // мае тысячы продкаў (Полымя. 1967. № 2). Адтуль з суровага цёмнага асенняга неба на **знябожаную** зямлю ападае запаветжальба... (А. Жук). Грымоты над Белай Руссю — // гэта мае трывогі // па песнях **знябытых** гусляў // каля твайго парога (А. Сыс). Чуваць былі стрэлы, і праз ма-

лы час некалькі «хуткіх дапамог» [забіралі] раненых дэманстрантаў — галодных, **знядоленых** людзей (К. Чорны). І бровы [у дзеда] былі, як на тых іконах, **зрошчаныя** на пераноссі (А. Асіпенка). Скідалі цара, зразу нясмела, але «ўзялася вёска, узяліся вёскі» за тых даносчыкаў — «за тых набродных». «Тыя **з'юджаныя** зьехалі дзесьці за Менск» (Ф. Янкоўскі). Як хулігана супыняе **з'яўленая** ў ахвяры кроў, так на Мікалая Прышчэпу дзейнічалі толькі слёзы настаўніцы (В. Санько). І дыхаецца лёгка-лёгка: ну вось я // і ўдома, // Дзе ўсё навакола мяне і ўва мне прайнялося // Нарэшце-ткі сонцам, так **з'яўненым,** а невідомым... (Н. Мацяш).

**Лопнуты.**

У глыбіні [зямлянкі], укрытая змрокам, стаяла **лопнутая,** пачарнелая бочка (Я. Скрыган).

**Мінёны.**

Расцець дубочак тут, — які зялёны! // Другі, стары, калодаю палёг; // І сын ідзець у гару, як бацька ў час **мінёны,** // Што даў жыццё яму, а сам зваліўся ў мох (А. Гарун).

**Набеганы, набліжаны, нагасцяваны, нагулены, надараны, наеты, нажураны, напіты, напрацаваны, народжаны, нарыхтаваны, насеяны, наслуханы, насунуты, натраплены, натужаны, нахлынуты, начуты, неадбыты, неаперааны, недагараны, незажыты, непадгніты, неразарваны, неразвеяны, нераскаяны, нераскрыты, нераспісаны, нераспраменены, неўкарэнены, новаз'яўлены, новастораны, нябыты, нявыхаджаны, нязбыты, няздзейснены, няспраўджаны.**

Ёй [ігрушы] малако даваў пастух, // Дарылі хусткі маладзіцы... // **Набеганую** — ледзьве дух — // Пускалі ў тамбур правадніцы (Л. Дранько-Майсюк). ...Дом гэты стаяў пусты, як і ўсе іншыя дамы адпачынку, санаторыі, вілы багатых, з палавіны жніўня апусцелыя ў змрочным чаканні боскае літасці перад зусім-зусім **набліжанай** вайной... (Я. Брыль). З усяго гэтага сумачнага натоўпу, **нагасцяванага,** расчырванелага, найбольш кідалася ў вока ўгледжаная таўсматая дзяўчына ў джынсавых штанах (А. Жук). **Нагуленыя,** натомленыя дзеці, Дзяніс з Лізкаю, прытуліўшыся адно да аднаго ... соладка спалі (А. Федарэнка). Перад намі, хвілінай **надаранай**, // Кіпарысы згінаюць камлі (У. Хадыка). Мажны, **наеты** паставы забірае пропуск (ЛіМ. 30.08.1996). Як пяшчоціцца ўсмешкі пудлівы матыль // У **нажураных** куціках вуснаў... (Н. Мацяш). Я таксама памру. І хачу, каб над галавою самотнай дачкі шумелі, **напітыя** маёй зялёнай крывёю, гэтыя ж веснавыя дубы-волаты (Л. Галубовіч). Мужчыны сядзелі ўнурыўшыся, **напрацаваныя** за дзень на малацьбе, драмалі пры стале, падпёршы рукою шчаку (В. Адамчык). А то ішлі [паўстанцы] з пачуцця абавязку, раптоўна **народжанага** гонару і таму не маглі не пайсьці (В. Быкаў). Толік Скуратовіч, **нарыхтаваны** да ўсяго, не зводзіў вачэй з Міхала Тварыцкага (К. Чорны). Сонца грэла слаба, **насеяны** за ноч снег пад ім не раставаў (К. Чорны). [Аўтар «Слова»] як бы чуе здалёку шум бітвы, але ў моцным хваляванні душы не хоча і не можа ўсвядоміць раптоўна **насунутага** паражэння, нягледзячы на яго відавочнасць (ЛіМ. 11.03.1994). Ён не зводзіў прагнага позірку з кожнага, **натрапленага** на вочы, афіцэра (К. Чорны). ...Мужчыны нокалі і падганялі **натужаных** коней (В. Адамчык). ...І неяк зусім развітаўся з маркотай // Ад раптам

**нахлынутых** радасных мар (А. Сорын). А для гэтага [каб гаварыць правільна, выразна, прыгожа] трэба быць не толькі начытаным, а і **наслуханым** народнай гаворкі (У. Юрэвіч). Непісьменная [бабуля], але **начутая.** Слухае радыёкропку, каб не так адзінока пачувацца ў пустой хаце (Л. Галубовіч). ...Намаганне мусіць адбывацца спаўна. Няспоўненае — яно паслабляецца, **неадбытае** — марнуецца (А. Разанаў). У такім складзе Броўка і сабраў нас: вядомыя паэты і я, адзіны, **неаперaны** яшчэ празаік, амаль галыш (І. Шамякін). На шашы чарнелі **недагараныя** драўляныя пярылы, а з вады тырчалі іклы круглых паляў (В. Адамчык). І ўсё ж гэты «сыр-бор» знарок гаворыць аб ёй [дзяўчыне], каб разварушыць яшчэ **незажытыя** раны паэта (А. Кучар). Той [Мароз] стаяў у садзе і выбіраў мацнейшыя, **непадгнітыя** падпоркі ў сад пад галіны (А. Жук). **Неразарваны** нямецкі артылерыйскі снарад часоў другой сусветнай вайны абясшкодзілі ... байцы спецыялізаванага пошукавага ўзвода (Народная воля. 22.01.1998). Ён падышоў да крыжа, дзе яшчэ вісеў **неразвеяны** пыл, што паднялі клышаногія авечкі (В. Адамчык). Людзі позна зразумелі, што гэта нябесная кара **нераскаяным** грэшнікам... (В. Гардзей). Я вырастаю у зацішшы, // Дзе шызы мох, дзе верасок. // Як **нераскрытая** пупышка, // Душа ўбірае хмельны сок (Я. Янішчыц). ... Нягожа былым вайскоўцам туляцца па сялянскіх закутках, ля добрасардэчных маладзіц, **нераспісаных,** нявенчаных ваенных жонак (В. Быкаў). Ратуючы свой ветразь ад мялін, // Ад зноў **нераспрамененага** неба, // Мы пішам, як будуем караблі, // Як руні даглядаем дзеля хлеба (Я. Пфляўмбаўм). У людзей з **неўкарэненым** пачуццём годнасці і волі гэтая фізічная, маральная высмактанасць адымае ўжо і жаданне актыўнага пратэсту (Н. Мацяш). Я не зайздрошчу рыначным абновам // І розным **новаз'яўленым** панам (Э. Агняцвет). [Падпалкоўнік] неадкладна выкарыстаў **новастворaную** сітуацыю (К. Акула). [Натхненне] выхапіла з рэальнага існавання, з шумнай бяседы, дзесяткі розных інтарэсаў і характараў, прыхільнікаў і непрыхільнікаў, зрабіла іх суадчувальнікамі і перанесла няма знаць куды, не скажу ў зусім **нябытае**, у бытае... (М. Лужанін). Але што ён мог прынесці з дваццатага веку ў дзевятнаццаты? Пэўна, якой-небудзь **нявыхаджанай** медавухі... (В. Адамчык). І чамусьці ў сэрцы, як рану, // Я нясу твой [нявесты Каліноўскага] **нязбыты** лёс, // Не даруючы ўсім тыранам // Непралітых табою слёз (У. Караткевіч). Гэта была плата за змардаваную маладосць, за **нязздзейсненае** шчасце і іх горкі лёс (М. Даніленка). А хочацца пісаць. Накідаў многа, а да друку — амаль нічога. Так і жыццё пройдзе, і застануся я такім жа **няспраўджаным,** як і іншыя (П. Панчанка).

**Паабрастаны, паападаны, пабеганая, пабольшаны, пабратаны, павіснуты, павыпаданы, павысыханы, паглыбшаны, падвяселены, падгараны, падгуляны, пад'еты, падпісаны, падпіты, падтопаны, падтупаны, пазарастаны, паменшаны, памкнуты, папрарастаны, параздзяваны, параспусканы, парассыханы, пасвараны, патонуты, паўпаданы, паўрастаны, паўсяданы, паўяданы, пахілены, пахмелены, пачаты, перабыты, перагараны, пералетаваны, пераплецены, перасвараны, перастоены, прагараны, пралуплены, праспаны, пройдзены, прыпознены, прысуседжаны.**

Вячыстыя, у тры-чатыры абхваты дубы, **паабрастаныя** аж да самага суччa сівым мохам, вясёлы беластволы бярэзнік, змрочны, пагоністы сасняк... (Б. Сачанка). Ранні верасень, калі на тратуары канае тонкае **паападанае** лісце (В. Адамчык). Выбраліся немцы неяк перад Калядамі, забраўшы ў Корсака **пабеганую** ўжо цялушачку... (В. Адамчык). Немцы адступалі. Праўдзівей — нем-

цаў гналі. Аскірзаліся азвярэлыя. Разведка наша мела **пабольшаны** клопат (Ф. Янкоўскі). Пасля раённага свята працы і песні ў гарадскім парку — пяцігадзіннае сядзенне за багатым сталом, дзе і госці з суседніх раёнаў, і з **«пабратанага»** раёна падмаскоўнага... (Я. Брыль). У падзей ракавых не наўзбоч // Перад новым якім ліхалеццем // Ты, бяроза, // У страшную ноч // Зашумела **павіснутым** веццем? (В. Гардзей). Хоць і нядзеля... але ён збіраўся забіць у баране **павыпаданыя** зубы, мяркуючы, што такая малаважная работа не можа лічыцца за грэх (Я. Скрыган). [Вёска] ляжала на трох узгорках, аперазаных **павысыханымі** рэчышчамі (І. Чыгрынаў). Нат забыўшыся на абед, збегаў [Міця] да рудаватай, **паглыбшанай** пасля начнога шчодрага дажджу рэчкі ў зацішнае месца ... скупануўся (В. Адамчык). — Ну, ну дык куды вы далей свае гастролі накіруеце? — пытаецца **падвяселены** дзядзька Міканор (П. Місько). А гэта быў проста змелен у ручным млынку **падгараны** авёс, і брагі з яго не выйшла (Я. Колас). ... Усе гэтыя **падгуляныя** яму ж [карчмару] карысць прыносяць (Хроніка Убарцкага Палесся. 2001). У паваеннай мамінай хаце // Сяк-так надзеты // І неяк **пад'еты** // *Я* гадаваўся пры матрыярхаце... (Р. Барадулін). Я, ніжэй **падпісаны,** прылюдна на ўвесь край крычу... (В. Ластоўскі). [ Сталоўка] пустая. **Падпіты** мужчына сварыцца з касірам (Звязда. 7.06.1991). Я напісаў за гэты час даволі многа для такога **падтоптанага** чалавека, як я (Я. Колас). Ачуняўшы да полудню ад хвароб ды расхадзіўшыся, выбіраліся ў гэтую пару лета на старыя межы, у ровішчы ... каб назбіраць зёлкаў, старыя, **падтупаныя** ўжо бабы (В. Адамчык). І не пазнаў роднага кутка — голыя, **пазарастаныя** палыном папялішчы ды чырвоныя, як жар, абгарэлыя печышчы (Б. Сачанка). На тым сходзе я ўбачыў Чырняева не за шырокім сталом і не пры двух тэлефонах. Не такога мажнога, а прыкметна **паменшанага** (Ф. Янкоўскі). Адзінокая постаць чалавека то зьяўлялася, то зьнікала ў негустым бярозавым падлеску, сярод высока **памкнутых** да неба хвояў (В. Быкаў). Маці сядзела ў кухні на нізенькім услончыку і перабірала **папрарастаную** бульбу — рыхтавала насенне (П. Пестрак). Іржалі коні; рагаталі на ўсё горла на лагу, бліжэй да жыта, салдаты, **параздзяваныя** да пояса, лілі з кацялкоў адзін аднаму на рукі ваду... (І. Пташнікаў). [Бярэзнік] паказваў свае ўборы — белыя ў карунках сукенкі і **параспусканыя** каснікі тонкага веццяя (Я. Скрыган). Гарасім шлёгнуў кабылу, і калёсы рвануліся, затарабаніўшы **парассыханымі** лёсткамі (Я. Скрыган). [У прадстаўленні] высмейваюцца разбэшчаны манах, дурнаваты арыстакрат, **пасвараны** муж з жонкаю і г.д. (ЛіМ. 7.12.2001). Да Еўкі хочацца [Антолі] — пагаварыць, распытаць, — а нельга. **Пасвараныя** сяброўкі (А. Федарэнка). Хто гэта зіхоткая, як дзянніца, / Праўкрасная, як паўната, // Што ў нябёсы пяшчотай **патонута**, // Светлая, як сонца... (Р. Барадулін). ...Яму здалося, што гэтыя **паўпаданыя** і пустыя, як у старых, вочы, мусіць, бачаць усё (В. Адамчык). Пасярод балота — выспачка-астравок. На ёй дзве нізкія, **паўрастаныя** па самыя вокны ў зямлю хаткі (Б. Сачанка). У нізкіх, **паўсяданых** у чарнату хатах моргаў палахлівы агонь (В. Адамчык). Па жалезных, **паўяданых** у зямлю шпалах беглі тонкія ржавыя рэйкі (В. Адамчык). Песню дзіўную я чую смутнай душой // І к старонцы праношуся роднай. // Да папарных тых ніў, да **пахіленых** хат... (Я. Купала). **Пахмелены** трункам юналетка ... глынуў сліну пажадлівасці (В. Чаропка). Гэта — першы крок у **пачатым** тут працэсе паступовай замены ўжо даўно непрыгодных грошай (Звязда. 17.01.1991). Як нейкія цені, у галаве прасунуліся ўспаміны, вобра-

зы даўно **перабытых** часоў (Я. Колас). Парывісты вецер, сыплючы драбнюткім **перагараным** вугалем, зноў завіхурыў у акно — поезд рушыў далей (В. Адамчык). Збоч асобна стаяла талерка з нарэзанымі тоўстымі скрылямі **пералетаванай** паляндвіцай (І. Кананові́ч). Востраў з трох бакоў быў абгароджаны такімі густымі **пераплеценымі** лозамі, што праз іх нельга было гусям працiснуць дзябёлае цела (Я. Колас). За апошнія гады ніхто з канкурэнтаў не набраў вагі. Усе або слабыя, або лянівыя, або **перасвараныя** міжсобку (Наша Ніва. 11.01.1999). Памятаю, як я, калі першы раз ішоў з Жыцькава, дзівіўся гэтым алехавым лясам і **перастоеным** лугам (Я. Сіпакоў). Да месцаў **прагараных** [у пажоўклых граматах] вусны прыкладваю (А. Жамойцін). А колькі зялёных **пралупленых** вочак // зірнула з пупышак... (М. Арочка). Не гасіце агнёў! Хай прамені ясней // Асвятляюць **праспаныя** вочы (А. Гурло). Напластаванне **пройдзеных** гадоў — // ужо амаль курганне нарастае (Л. Геніюш). Наша вяртанне ў **пройдзены** час не выпадковае (Беларускае радыё. 12.09.1999). А на абед, які для шмат каго з **прыпозьненых** быў і вячэрай, міску боршчу ці нейкае зупы з кусочкам вываранага соленага мяса (Ф. Аляхновіч). Ловяць [рыбу], зразумела, больш пасяляне ці **прысуседжаныя** гарадскія мяшчане (Хроніка Убарцкага Палесся. 2001).

**Разаспаны, разварушаны, развяселены, разгуляны, раз'еханы, раззяханы, раз'іскраны, разліты, раз'яснены, расквечаны, раскінуты, раскрычаны, расплаканы, распушчаны, рассеяны, рассмяяны, расспяваны, рассумнены, рассыпаны.**

Мяне шкадаваў у паўсне ты, // мяне пасылаў за паўсветы, // пакуль **разаспаныя** вочы суседак — // хапала зорачак-сведак (Д. Бічэль). [Толя] міжволі прыпыніў **разварушанага** каня, што быў ужо разагнаўся (В. Адамчык). І, бывала, // Ў цёплы летні вечарок // Сядзе важна каля хаты // **Развяселены** жабрак (Я. Колас). Потым, седзячы ў чужой, сяброўскай кватэры ... можна пачуць ад малой, **разгулянай** дзяўчынкі ... (Я. Брыль). У кошыку на зямлі круціўся высушаны ў печы і **раз'еханы** пачынак. Старая намотвала арэхавым юрком на клубок пражу (В. Адамчык). ...На сваім бліскучым валуне пахкае люлькай Сцяпан Аліфер, бяжыць да калодзежа **раззяханая** Тафіля (В. Гардзей). Ўся вартасць людскога жыцця у стварэнні, // калі застаецца **раз'іскраны** след (Л. Геніюш). Мост над **разлітым** Дняпром (Я. Брыль). Твар яго [сябра] **раз'яснены**, зорны, // маладыя маршчынкі, бровы // хай узніме сон цудатворны // да Тваё [Божай Маці] аховы (Д. Бічэль). ...І хочацца жыць і тварыць // Для новых **расквечаных** дзён (Я. Купала). Пакуль праменням грэць // **раскінуты** палетак, // такая праўда кветак — // квітнець і не старэць (Д. Бічэль). Над гасцінцам, над самымі прысадамі, былі відаць **раскінутыя** кучкамі чорныя самалёты (І. Пташнікаў). ...Увесь гэты **раскрычаны** натоўп выкаціўся ў агарод і наблізіўся недалёка-такі да вогнішча (В. Стома-Сініца). Быў гэта толькі сумны сон // Душы **расплаканай** маёй... (Я. Купала). [Тафіля] убачыла за сцяной хаты **распушчаную** бярозу, гатовую вось-вось аддаць салодкі сок каму папала... (В. Гардзей). Прыўзняўшы галаву, Палазок убачыў яшчэ не **рассеяны** пыл ад узрываў гранат (Я. Колас). Каб вярнуць табе самой // Існую цябе, такую — // **Рассмяяную,** слабую... (Н. Мацяш). Ашмянку // папракаю крышку, // што, // **расспяваная** ў прасторы, // здаецца // дзікаю, пустою (Д. Бічэль). Гэта не «абразкі», пісаныя звычайнай

прозай, а гэта нейкая дзіўная «песня песняў» беларускай **рассумненай** душы (Я. Купала). Алеся прысела на ложку, зграбла ... **рассыпаныя** на плячах валасы (В. Адамчык).

**Сабраны, самавызначаны, скалануты, скіраваны, спазнёны, спаняверааны, спеты, спынены, ссамочаны, створаны, стоптаны, стоўплены, схаваны.**

Адам Важнік выйшаў да яго цалкам **сабраны**, нарыхтаваны ў госці (Б. Сачанка). Адна хвіліна, і Сцяпан Аліфер **сабраны,** гатовы ў паход (В. Гардзей). Але ярка **самавызначаная** ў прадмовах і пасляслоўях да абеларушанай Бібліі асабовасць перакладчыка азначала з'яўленне ...новага літаратурнага героя ў асобе аўтарскага «я» (А. Каўка). **Скаланутых** сямейнікаў, як вядома, выратуе ласка драматурга... (ЛіМ. 20.02.1998). [Тое] азначала дужа шмат у рухах маёй, ужо **скіраванай** да яе душы (В. Быкаў). Прыходжу ў школу Гарановіча // Я першакласнікам **спазнёным** (М. Мят- ліцкі). Каму жыццё — атруты келіх, // Хто **спаняверааны,** як я... (У. Жылка). Калі чую словы нашага неафіцыйнага гімна ...хочацца, каб іх раптам заспявалі — адным хорам, **спетым** і дружным... (Я. Сіпакоў). Яго вочы былі абмярцвелыя, **спыненыя,** і наўрад ці ён бачыў што перад сабою (М. Лобан). Вятроў атрутных дзеянка, // Наўкруг быльнёг, палын. // Над Прыпяццю Гардзеенка, // **Ссамочаны,** адзін (М. Мятліцкі). Словам, у нас няма іншага выйсця, акрамя як рэальна ацаніць **створаную** сітуацыю, якую неабходна тэрмінова выпраўляць (Звязда. 14.02.1995). Мала народу. Некалькі **стоптаных** бабулек ды мужчын прыйшло сюды (Я. Колас). Сваіх няўцямна **стоўпленых** // у браму гоніць ... авечак (А. Русецкі). Калі іх [фашыстаў] яшчэ не так многа, то **схаваныя** чырвонаармейцы справяцца з імі (Я. Маўр).

**Угледжаны, уеханы, узнікнёны, укаранёны, улежаны, унураны, усміхнуты, усміхнёны, утвораны.**

Племя тут жыве адно, адзінакавы скрозь народ беларускі, па пояс уросшы ў зямлю, **угледжаны** ў сінюю даль лясную (В. Ластоўскі). Адна [вуліца] ішла проста, другая каля густа выплеценага яловага частаколу і старога, **уеханага** ў зямлю гумна (В. Адамчык). Неўпрыкмет **узнікнёнае** — // поле белае ...белы свет, // на якія глядзець нанова, // на якія праклацці след (А. Разанаў). Глядач то захапляўся, то крытыкаваў, а потым, па **ўкаранёнай** журналісцкай звычцы, пачаў задаваць пытанні (Г. Каржанеўская). [Чайка] падчас гэтага маналогу ні разу не зірнуў на Лебедзева, сядзеў, **унураны** ў сябе (А. Федарэнка). ...Я не, не ды перастраваў Яўгена Іванавіча — нешматслоўнага ў тыя хвіліны, не, як звычайна, радаснага табе, гучнагалосага ў вітанні, **усміхнутага** ўсёй душой (А. Лойка). І хоць вочы ў час расстання плачуць — // Слёзы з губ сплываюць **усміхнёных** (К. Буйла). Пры **ўтвораным** палажэнні, народ моўчкі і пакорна ... стрэў акупацыю роднага краю (Я. Лёсік).

Мы падалі толькі частку жывых у беларускай мове формаў дзеяслова з суфіксамі *-н-, -т-*, якія паводле значэння адпавядаюць рускім дзеепрыметнікам незалежнага стану з суфіксамі *-вш-, -ш-*. Адны з гэтых формаў утвораны ад дзеясловаў непераходных незваротных: *выпадзены (выпасці), загінуты*

*(загінуць), зазябнуты (зазябнуць), заплыты (заплысці), згінуты (згінуць), паабрастаны (паабрастаць), пабольшаны (пабольшаць), падпіты (падпіць), прагараны (прагарэць).* Іншыя — ад зваротных дзеясловаў: *адбыты (адбыцца), ачнуты (ачнуцца), выгуляны (выгуляцца), выплюхнуты (выплюхнуцца), збеганы (збегацца), зжыты (зжыцца), зрошчаны (зрасціся), набліжаны (наблізіцца), нагулены (нагуляцца), насунуты (насунуцца), расспяваны (расспявацца), усміхнёны (усміхнуцца)* і пад.

Формы тыпу *загінуты, зазябнуты, паабрастаны, падпіты* выступаюць паралельна з іх варыянтамі і сінонімамі *загінулы, зазяблы, аброслы, падпілы,* а таксама з вытворамі на *-ўшы, -шы*: *загінуўшы, падпіўшы.*

Дзеяслоўныя формы з суфіксамі *-н-, -т-,* якія аналізуюцца намі, часткова фіксуюць слоўнікі беларускай літаратурнай мовы. Так, у ТСБМ змешчана слова *аджыты* і адно з яго значэнняў раскрываецца: «які аджыў сваё; не адпавядае сучаснасці; аджылы». Звернем увагу яшчэ на два аналагічныя ўтварэнні: *аперaны* — «які пакрыўся пер'ем; увабраўся ў пер'е»; *задыханы* — «які задыхаўся, пачаў цяжка і часта дыхаць».

Разгледжаныя ў артыкуле вытворы з суфіксамі *-н-, -т-* не штучныя, прыдуманыя пісьменнікамі, ці запазычаныя, а ідуць з жывой народнай мовы. Такія формы дзеяслова адзначае, напрыклад, слоўнік Г. Юрчанкі «Сучасная народная лексіка. З гаворак Мсціслаўшчыны»: *зачаўраный, паднаведзеный, падтоптаный, пазанурываный, пазастуджаный, панаяданый, папанаеханый, праеханый, разгарцаваный, разгультаеный, распітый, расп'янчаный, распяразаный, спанаджаный, уеханый, уразумленый, уступленый, учалёный.*

У слоўніках гаворак Гродзеншчыны Т. Сцяшковіч сустракаем аналагічныя дзеепрыметнікі (паводле паходжання): *аб'еханы, выезджаны, завяты, зболены, надарваны, наеты, напіты, наплаканы, находжаны, пад'еты, паджыты, папрэлены, прынядзелены, разбадзяны, расплыты, рассмяяны, удаўнены, сцукраваны.*

Такім чынам, дзеяслоўныя формы з суфіксамі *-н-, -т-* у значэнні дзеепрыметнікаў незалежнага стану (часта — прыметнікаў) ужываюцца ў народнадыялектнай мове на значнай тэрыторыі Беларусі.

Усё вышэй адзначанае ставіць перад мовазнаўцамі актуальную задачу: як мага паўней выявіць паданалізную групу дзеяслоўных формаў, пацвердзіць і кадыфікаваць іх літаратурны статус, а таксама належным чынам падаць адпаведны тэарэтычны і практычны матэрыял пры распрацоўцы тэмы «Дзеепрыметнік» у навуковых і навучальных граматыках.

Коратка падагульняючы зробленыя ў нашым артыкуле назіранні, адзначым.

Трэба мець на ўвазе і ўлічваць у моўнай практыцы неаднолькавую функцыянальную нагрузку суадносных рускіх і беларускіх дзеепрыметнікаў. Нехарактэрнасць формаў з суфіксамі *-уч-, -юч-, -ач-, -яч-, -ем-, -ім-* актывізуе ў беларускай мове ўжыванне вытвораў з суфіксамі *-н-, -т-, -л-.*

Межы паміж дзеепрыметнікамі незалежнага і залежнага стану, а таксама паміж формамі цяперашняга і прошлага часу размытыя, невыяўныя. У сувязі з гэтым не з'яўляюцца адназначнымі і формаўтваральныя элементы іх — суфіксы. Так, з суфіксам *-л-* утвараюцца дзеепрыметнікі незалежнага стану прошлага часу (пераважна), залежнага стану прошлага часу (зрэдку), залежнага стану цяперашняга часу (зрэдку). Аналагічныя функцыі выконвае і суфікс *-н-.*

Пры большым яго (а таксама суфікса *-т-*) пашырэнні ў дзеепрыметніках залежнага стану — прошлага і цяперашняга часу, ён нярэдка выкарыстоўваецца і ў дзеепрыметніках незалежнага стану. Фактычна асноўная роля, якая аб'ядноўвае дзеепрыметнікавыя суфіксы, — выводзіць дзеяслоўныя формы за межы ўласна дзеяслова, быць паказчыкам разраду слоў, што абазначаюць прыкмету прадмета паводле дзеяння.

Вузейшае ўжыванне ў беларускай мове, параўнальна з рускай, некаторых формаў дзеепрыметніка тлумачыцца і тым, што іх функцыі выконваюць у пэўных кантэкстах прыметнікі, назоўнікі, дзеепрыслоўі, а таксама разнастайныя сінтаксічныя канструкцыі. Аднак паказ гэтых моўных сродкаў — тэма асобнай публікацыі.



*ДЗЯДОЎНІК НА ПАРНАСЕ*

*Георгій* ЮРЧАНКА

## НА КАСМІЧНЫМ СПАТКАННІ

*Анатоль БАРОЎСКІ*

Тым ранкам несуцішна пачала расці энергетыка маёй душы. Я падсілкаваўся дабратворнай рунай і, атрымаўшы жыццядатны зарад, палез на дуб Вялікай Мары дзеля дасягнення Дабра і Справядлівасці. Лез па стромкай дзеравячыне, хапаючыся за галіны Нестамлення. Раптам адчуваю: за плячыма з'яўляюцца нябачныя крылы. Яны ўзносяць мяне на таўстую галіну. Я перажываю найвышэйшы ўзлёт душы, займаюся ўдасканаленнем самога сябе. Прыходзіць пераканане, што я суперсенс, чалавек пятай расы. Прыемным цяжарам наліваюцца рукі і ногі, увушшу гучыць незямная музыка. Адбываецца пераход з зямнога жыцця ў энергетычнае. Выдоўжваю ногі на сухую галіну і падключаю энергаінфармацыйнае поле Зямлі і Сусвету. Перада мной чысцюткая прастора без адзінай плямачкі прасцірадла ночы. Адключаю паралельныя думкі і пачынаю чытаць Кнігу Жыцця, паглядаючы наўкруг трэцім вокам, прыслухоўваючыся да наваколля пятым слыхам і выкарыстоўваючы адначасова думкафільмы і думкавобразы.

Вунь ідзе дзяўчына. Між сакаўных вуснаў белізной высвечваюцца зубы. У зрэнках адлюстроўваецца сум. Падключаю паралельнае поле Пазнання, услед — разведачны полюс-лакатар і чытаю яе думкі. Яна марыць пра хлопца з незямным каханнем. Грымліва стукае ў грудзях сэрца. Неўзабаве пазнаю яе: гэта Мальгрэтавана, з якою некалі вучыўся ў першым класе двухкамплектнай пачатковай школы.

Уключаюся да прыёмніка Прасторы і Часу. Адчуваю вібрацыю між энергіяй і жыццём. Пры пераходзе ў іншае вымярэнне пазнаю свае стасункі ў сферы пазазямной пачуццёвасці. Наступае імгненне вышэйшага ўспрыняцця рэчаіснасці і адчування поўнай бязважкасці.

Скіроўваю энергію на мозг Мальгрэтаваны. Адзенне на ёй пачынае раставаць, як прырэчны туман. У мяне па венах расцякаецца порсткая кроў. Пульсацыя энергіі ўзрастае ў геаметрычнай прагрэсіі і падпітвае мяне жыватворнай крыніцай. Хочацца злавіць Мальгрэтавану, прытуліць да грудзей і ніколі не выпускаць са сваіх рук.

Мой магутны касмічны акумулятар нябачна падымае дзяўчыну да вяршыні дуба і саджае побач са мной. Пах маладога дзявочага цела перабівае пахі наваколля. Яна апякае мяне гарачым полымем аксамітавых вачэй. Вусны, бы магніт, клічуць да сябе, прыспешваюць. Я наліваюся лёгкасцю, раблюся прыцягальнавоблачным. Ахоплівае пяшчота, нібы на гары Натхнення ці на беразе Задавальнення. Гатовы згарэць на кастры Апантанасці, прыпадаю да яе вуснаў, па-веснавому пульхных і сакаўных. Нас атуляе крыло кахання, і Мальгрэтавана, перапоўненая дзявоцкасцю і асалодай, зліваецца са мною, выпраменьваючы неспаляршаванасць пачуццяў.

Вялікая энергетыка Наталення нячутна прыўзняла нас і панесла між зорак у Замак Кахання на ложак Шчасця. Водар неба і космасу настройваў на лад нестам-

лення патаемныя струны душы. З салодка-шчымлівай радасцю я ўвайшоў у Мальгрэтавану, а яна з кранутым пяшчотаю болем нячутна выйшла з мяне і ўзяла накірунак у малінавае Мроіва.

Без дзяўчыны пачувалася пустэльна. Не парушаючы законаў Суладнасці часу і касмічнай прасторы і разам з тым не могучы трываць нясцерпак адзіноты, я праз сумны позірк свайго другога «я» падключыў да біярытму самахоці былую жонку. Яна, як быццам, не стала асуджаць мяне, успомніўшы, як мілавалася з суседам.

Але раптам зрэнкі яе расшырыліся, яна выдаўжыла левую руку і... мяне раптам пакінуў закон раўнавагі і суладнасці быцця. Перарвалася сувязь з касмічнай прасторай. Знікла тэлепартацыя. Ахоплены жахам сумневу, спрабую працерці вочы. Знікае ложак Шчасця. Нада мной узвышаецца паўзасохлая груша. Побач стаіць дзевяностагадовая скурчаная Агатавана і штосьці плямкае бяззубым ротам...

## АПОШНЯЕ КАЗЛЯЧАЕ КАХАННЕ

*Анатоль КІРВЕЛЬ*

**П**а вяршынях асін скакалі козы. Калі б яны не былі козамі, то ніхто б — ні яны самі, ні ваўкі — не ведаў, кім бы яны былі. А так — з вышыні — яны зазірнулі ў невядомасць, якая не паддавалася разуменню. Што адбудзецца, калі яны — раптам — перастануць скакаць па асінах? Адказу — не знаходзілася!

Стары казёл — барада лапатай! — пільна сачыў, каб кожная з коз прыгала акуратна. Яго ўвагу — асабліва — прыцягвала маладая козачка — бяскрыўдна-мілае стварэнне. Як спрытна яна скакала — пастукваючы капыткамі па галінках! Столькі пытанняў хацелася задаць козачцы, якая — не задумваючыся — трэсла хвосцікам — з бударажлівым пахам! — каля самай барады казла. І стары — вопытны! — казёл ператвараўся ў галантнага рыцара і тактоўнага кавалера. Ён пачынаў бачыць тое, чаго раней не бачыў, адчуваць тое, чаго раней не адчуваў, разумець тое, чаго раней не разумеў. Пысу вопытнага — трохі ленаватага — старога халасцяка асвятляла штосьці — падобнае да ўсмешкі. І — яшчэ! выдавалі вочы — яны ўмелі быць невінаватымі і кахаць. Ён сачыў, каб козачка не страціла асцярожлівасці.Ківач пачуцця падказваў, што яго ўлюбёнка — стварэнне безабароннае. Пад крутымі рагамі пачаў — сам сабою — складацца верш-прызнанне:

Калі трасе нясцішная дрыготка,
Ніяк не сесці ў зваблівае крэсла.
І ты — міжвольна — хвосцікам кароткім
Казлячы лёс — да трэсак! — ператрэсла.

Козачка разумела, што падабалася барадатаму важаку — гэта ёй імпанавала, але — па нявопытнасці — не здагадвалася, колькі ў таго было каханняў. Лёс распарадзіўся, каб менавіта гэты казёл сустрэўся ёй на вясновай — першай! — дарозе. Ёй — па няведанні — мроілася, што з такім спадарожнікам можна прабегчы — без перашкод — па вяршынях усіх навакольных лясоў і стацца ўзорам злучэння казлячых душ. Таму яна прагла еднасці — сапраўднай, непадманлівай — з гэтым мужным — як ёй здавалася — сумленным важаком.

Як памылялася бедная козачка! У яе аніякага жыццёвага вопыту — ні вопыту душы, ні вопыту цела. Марыла занадта шчыра і наіўна — не здагадваючыся, што пракозы — і нават прапракозы — з незапомных часоў думалі гэтак. Не ведала, што не будзе ні еднасці, ні разумення, што душа ў старога казла далёка не чыстая і не адданая. Не разумела, што наіўная бязгрэшная козачка і стары валацуга — не пара.

А казёл ніяк не мог даўмецца, што ён гэтак прагна жадаў наіўнай козачкі. Яго грэшная — зямная — плоць сцверазела ў важкім весіве жыццёвых прыгод. Ён прагнуў разумення сябе і — нарэшце! — датумкаў: не будзь гэтай прагі да казліх — даўно б звёўся казлячы род. Так паклапацілася маці-прырода.

Але ён баяўся, каб козачка не паглядзела на яго з пагардаю ды насміхам. Яе маладзенькія — неразумныя — вочкі зараз адданыя і даверлівыя. А заўтра? У яе каханне — першае. А ў мяне? У яе гонкая — маладая! — сіла. А ў мяне? Каб не пайшло наперакасяк. Птушка-трывога распасцёрла свае крылы ў яго свядомасці.

Турботы змусілі казла паглядзець на сябе — на што яшчэ прыгодны? Па ствалу падсохлай асіны спусціўся на зямлю і падбег да люстэрка. Зірнуў і не паверыў вачам: на яго пазіраў стары казёл — брыдкі і нягеглы. Лапата барады — зашмальцаваная. З бакоў звісае клочча поўсці. Агідна! Адступіў колькі крокаў назад — не заўважаючы, што за ім сочаць прагныя вочы другога стварэння — разагнаўся і бухнуў рагамі ў люстэрка. Пасыпаліся аскабалкі шкла.

Амаль імгненна на яго накінуўся Цагляны Воўк і моцна ўшчарэпіўся ў горла. Казлу адразу перахапіла дыханне...



## *ДА ВЕДАМА ЧЫТАЧОЎ І ПАДПІСЧЫКАЎ:*

***на II паўгоддзе 2003 года адкрыта льготная падпіска для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.***

***Ведамасны льготны індэкс — 00727;***
***падпісная цана на 6 месяцаў 2003 г. — 16 800 руб.***



Рэдакцыя часопіса «Полымя», 220005, Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 284-80-12;
намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў літаратуры, грамадскага жыцця і культуры — 284-66-71.

Стыльрэдактар М. І. Гусева. Камп'ютэрная вёрстка С. І. Стараверава.

Падпісана ў друк з гатовых дыяпазітываў 11.07.2003 г. Фармат 70х108 $^{1}/_{16}$. Папера газетная.
Друк. арк. 19,60. Ул.-выд арк. 18,31. Тыраж 1592 экз. Зак. 1365.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.

